# БРАНІСЛАЎ ТАРАШКЕВІЧ

# ВЫБРАНАЕ

КРЫТЫКА,
ПУБЛІЦЫСТЫКА,
ПЕРАКЛАДЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1991

ББК 83.3Бел7
Т19

Укладанне, уступ і каментарыі
АРСЕНЯ ЛІСА

Пераклад асобных прамоў у Сойме
А. Р. ШЫРМА

Бронислав Тарашкевич известен сегодня как автор первой грамматики белорусского литературного языка, а также своими переводами бессмертных произведений Адама Мицкевича и Гомера. Довоенная Западная Белоруссия и шире — мир — знали его как лидера национально-освободительного движения, основателя и руководителя стотысячной Белорусской крестьянско-рабочей Громады. В творческом наследии Б. Тарашкевича большое место занимает публицистика. Она несет в себе неповторимый образ эпохи поисков и борьбы за свершение высоких идеалов народа. «Избранное» включает публицистические выступления Тарашкевича в Сейме Речи Посполитой Польши, также языковедческие и литературоведческие этюды ранних и последних лет его жизни, фрагменты из «Илиады» Гомера.

Т $\frac{4603020102-086}{М 302(03)-91}$ 92—91

ISBN 5-340-00498-8



## СЛОВА, СКАЗАНАЕ Ў АБАРОНУ СЕЙБІТА

Шмат што ўражвае ў жыцці і лёсе гэтага пакалення. Ранняя беспамылковая зарыентаванасць на непрамінальныя духоўныя вартасці. Цэльнасць натуры і высокі інтэлект. Трагічная незавершанасць пачатага. Але, мабыць, найбольш, асабліва з адлегласці часу, здзіўляе адно — як многа паспелі зрабіць, здзейсніць. За лічаныя гады, так скупа адмераныя ім суровым стагоддзем.

З дзейнасцю, жыццём якраз гэтага пакалення звязаны ці не самы плённы перыяд навейшай беларускай гісторыі. Руплівасці, настойлівасці, ахвярнасці яго прадстаўнікоў народ наш абавязаны многімі сваімі здабыткамі, заваёвамі. І сярод іх — заваяванне суверэнных правоў. Няхай потым амаль страчаных, але аднойчы ўжо здабытых.

Была гэта цэлая плеяда, яркая, незраўнаная. Шмат супольнага лучыла іх. Наканавана ім было нарадзіцца напярэдадні XX стагоддзя. Тры рэвалюцыі прадвызначылі іх жыццёвыя мэты, шляхі. Яны будзілі народ і самі ўздымаліся разам з ім насустрач новаму жыццю. Не ад розуму — ад сэрца ішла іх вера ў народ, яго вялізныя творчыя сілы. Ім, дзецям падняволеных і прыніжаных, распрыгоненым духоўна, будучыня яго бачылася прыгожай, светлай, можа, вялікай.

«Багаты слаўнай культурнай мінуўшчынай, поўны маладых творчых сіл... беларускі народ у хуткім часе дасць славянству і ўсяму свету яркія доказы свайго ўваскрэшання і прынясе на раскошны алтар чалавечай цывілізацыі плён свайго нацыянальнага генія, лепшыя кветы свайго вызваленага духу»,— пісаў у гады рэвалюцыі малады асветнік, будучы гісторык грамадскай думкі Беларусі.

З думкай аб духоўным адраджэнні народа, далучэнні

яго да актыўнага палітычнага жыцця пачынаў сваю навуковую, асветную працу і прадстаўнік гэтага пакалення Браніслаў Тарашкевіч, пазней выдатны вучоны, палітычны дзеяч, літаратар.

Так здарылася, што з самага пачатку жыццёвыя пуцявіны Тарашкевіча нечакана перакрыжаваліся са шляхамі-дарогамі Максіма Багдановіча, іншымі лёсамі, значнымі ў духоўнай гісторыі беларусаў. Тарашкевічу давялося замяніць паэта на адным полі дзейнасці, якое рыхтавалі яму грамадскія абставіны пачатку стагоддзя — стаць стваральнікам першай граматыкі сучаснай беларускай мовы, упарадкавальнікам нацыянальнага правапісу.

Няпростую гэту працу-місію меркавалі напачатку даручыць Максіму Багдановічу. Кіраўніцтва рэдакцыі «Нашай нівы» дамовілася з акадэмікам Шахматавым падрыхтаваць на кафедры рускай мовы і славеснасці Пецярбургскага універсітэта філолага-беларусазнаўца. Але жыць у паўночнай сталіцы паэту не дазволіла здароўе. Тады выбралі выпускніка 2-й Віленскай гімназіі, сына селяніна з-пад віленскіх ваколіц Браніслава Тарашкевіча. К гэтаму часу дзевятнаццацігадовы Тарас (так звалі Браніслава Тарашкевіча родныя і знаёмыя) паспеў прайсці не толькі першыя ўрокі палітграматы ў нелегальных гуртках віленскай прагрэсіўнай моладзі, але і засвоіць асновы «беларушчыны», заходзячы ў рэдакцыю «Нашай нівы». Спадзяванні на будучага філолага ўскладаліся немалыя. Тарашкевіч яшчэ толькі пачаў трэці курс гісторыка-філалагічнага факультэта, а Янка Купала, які знаў яго асабіста, пісаў у Пецярбург ад імя Беларускага выдавецкага таварыства:

«Дзядзька * Тарас! Што чуваць у Вас з беларускай граматыкай? Ці што-небудзь зрабілі ў гэтым напрамку? Калі маеце ўжо яе нарыс, то будзьце ласкавы прыслаць нам яго, калі не, то будзьце такімі добранькімі і спрытнымі ды як хутчэй гэта зрабіце... Граматыку Вашу хоча Таварыства выдаць і пусціць у свет у «назіданіе» маладому беларускаму пакаленню. Дык варушыцеся, дзядзька, і ў шапку не спіце. Чакаем хуткага ад Вас адказу. Шчыра Вам адданы сакратар выдавецтва І. Луцэвіч».

* У гэтым выражаным у народным духу беларускім звароце былі і пачцівасць, і пачуццё блізкасці, роднасці.



Купала яўна прыспешваў падзеі: маладому філолагу яшчэ належала як мінімум да канца засвоіць універсітэцкі курс навук перад тым, як стварыць нешта такое, што б заслугоўвала ўвагі цэлага пакалення. Але адчуванне не падманула паэта: яго малодшаму сабрату такі ўдалося стварыць штось такое, да чаго звярталася не адно пакаленне ўдзячных суайчыннікаў.

Дваццаціпяцігадовы беларускі філолаг зрабіў тое, што было пад сілу спрактыкаванаму, самавітаму вучонаму. Праўда, Тарашкевіч як мовазнавец пачынаў не на голым месцы. Сістэма беларускай мовы была ўжо апісана акадэмікам Я. Ф. Карскім. І цяпер, працуючы над практычнай граматыкай мовы свайго народа, Тарашкевіч адчуваў дзейсную заклапочанасць у рэалізацыі сваёй працы з боку двух вучоных — непасрэднага кіраўніка яе на кафедры акадэміка А. А. Шахматава і прызнанага беларусазнаўца, земляка Я. Ф. Карскага.

Работу маладога даследчыка прыспешвалі самі падзеі. Будучы вясной 1917 г. у Мінску на з'ездзе беларускіх грамадска-палітычных арганізацыяў выбраны ў яго культурна-асветную камісію, выпускнік цяпер ужо Петраградскага універсітэта, пакінуты пры ім для падрыхтоўкі да прафесарскага звання, сам востра мог адчуць, як патрэбна цяпер беларуская граматыка не толькі для пашырэння пісьменнасці, асветы (тады востра, актуальна стаяла пытанне аб беларускай школе), але і для росту нацыянальнай самасвядомасці народа.

К восені 1917 г. работа над «Беларускай граматыкай» была закончана. Факт гэты быў належна ацэнены перыёдыкай, і ў першую чаргу газетай «Вольная Беларусь». Купалавы словы ў канцы рукапісу: «А хто там ідзе, а хто там ідзе, у агромністай такой грамадзе? — Беларусы. А чаго ж, чаго ж захацелася ім, пагарджаным вякі, ім, сляпым і глухім? — Людзьмі звацца»,— выпісаныя выразным роўным почыркам, маглі пасведчыць, над чым думаў аўтар «Беларускай граматыкі», што стымулявала яго духоўна ў час працы. Праз нейкія дзесяць год Тарашкевіч зноў звернецца да праграмнага Купалавага твора. На гэты раз ужо публічна. Зга-

дае прарочыя словы паэта ў сваім апошнім слове, калі польскі буржуазны суд будзе судзіць яго як лідэра Беларускай сялянска-рабочай грамады.

* * *

Рэвалюцыйныя падзеі ўладна ўцягваюць пакінутага пры універсітэце для ўдасканалення ў навуковых ведах Тарашкевіча ў бурлівы вір гісторыі. З моманту ўзнікнення Белнацкома, заснаванага пры Народным камісарыяце па справах нацыянальнасцяў Расійскай Савецкай Федэратыўнай Сацыялістычнай Рэспублікі, Тарашкевіч — адзін з дзейсных яго членаў, загадчык культурна-асветнага аддзела. Трэба сказаць, што беларуская інтэлігенцыя, якой нямала знаходзілася тады ў Петраградзе і Маскве, вельмі актыўна супрацоўнічала з Белнацкомам, бачачы ў ім своеасаблівы правобраз беларускай дзяржаўнасці, пакуль што не здзейсненай на Бацькаўшчыне. Белнацком гуртаваў раскіданых імперыялістычнай вайной па шырокіх абшарах Расіі беларусаў, праводзіў сярод іх палітычную, арганізацыйную, асветную працу. Заснаваў народны універсітэт, у якім быў прачытаны вядомымі айчыннымі вучонымі на той час вельмі грунтоўны курс беларусазнаўства. Стараннем Белнацкома пабачылі свет зборнік мастацкіх твораў, публіцыстыкі «Зажынкі», «Курс беларусазнаўства». І ўсё ж паставіць выдавецкую працу на шырэйшую аснову не ўдавалася. Не заўсёды было адзінства ў поглядах на тое, што перш-наперш рабіць, што выдаваць. Не хапала элементарнага — адпаведных шрыфтоў, паперы.

Каб хутчэй убачыць свайго першынца надрукаваным, Тарашкевіч у чэрвені 1918 г. праз Фінляндыю выбіраецца ў Вільню. Тут заставалася грамадка выпрабаваных часам, супольнай працай культурнікаў, быў Марцін Кухта, друкам якога ўжо не адна беларуская кніжка пайшла ў свет.

Хадайнічанне перад акупацыйнай адміністрацыяй аб дазволе на друк узяў на сябе Беларускі камітэт. Аляксандр Уласаў, насмешлівы дзядзька Уласаў, паклапаціўся, настаяў на тым, каб аўтар «Беларускай граматыкі для школ» не застаўся на вокладцы свайго першынца без належнага тытулу. Пры прозвішчы Б. Тарашкевіча быў адціснуты раз-



горнуты дадатак — «кандыдат філалогіі Петраградскага універсітэту». Усё гэта, зразумела, рэчы прыватныя ў параўнанні з самім фактам выхаду «Беларускай граматыкі». Ды яшчэ напярэдадні навучальнага года.

Што і казаць, граматыка Тарашкевіча падаспела ў пару: рэвалюцыя ўзмацніла ў народзе цягу да самапазнання. А гэта апошняе было цаглінкай да светлай будучыні, якая ўжо мроілася не аднаму сыну гэтай зямлі праз аб'яўленае рэвалюцыяй самавызначэнне, самаакрэсленне народаў.

Тарашкевічу ўдалося тэарэтычна глыбока асэнсаваць практыку існуючай пісьмовай традыцыі сучаснай яму беларускай мовы, трапна ахарактарызаваць яе тыповыя рысы, асаблівасці, стварыць арганічны яе духу правапіс, выпрацаваць адметную лінгвістычную тэрміналогію. Наколькі грунтоўна ўсё гэта было зроблена, можа, пэўна, пасведчыць той факт, што і праз гады ў аснове сучасных граматык беларускай мовы застаўся ляжаць абгрунтаваны Тарашкевічам погляд на фанетычную і марфалагічную яе сістэму, захоўваецца прапанаваны ім правапіс і тэрміналогія. Першая «Беларуская граматыка» сучаснай літаратурнай мовы была, такім чынам, этапнай з'явай у шэрагу аналагічных прац. Гэта не раз адзначалі, пацвярджалі мованазнаўчыя аўтарытэты. Адзін з іх, акадэмік С. Некрашэвіч, здаецца, дакладна акрэсліў навуковае значэнне здзейсненага Тарашкевічам, сказаўшы, што праца вучонага «заснавала цэлую эру ў гісторыі нашай граматыкі і правапісу».

Тарашкевічу, які добра засвоіў вопыт рускіх лінгвістаў, вывучаў прынцыпы фармавання польскай, чэшскай граматык, удалося арганічна спалучыць народную моўную аснову (філолаг быў вельмі ўважлівы да дыялектаў) з шматвяковай пісьмовай традыцыяй. У гэтым была таксама адна з прычын «даўгавечнасці» яго «Беларускай граматыкі». Асветна-грамадскую ролю «Беларускай граматыкі» Тарашкевіча, якая з'явілася ў свет на піку грамадскіх зрухаў, хуткіх зменаў розных палітычных падзей на Беларусі, абуджэння народа,— цяжка пераацаніць. Тонкая кніжка гэтая была своеасаблівым рычагом уздыму беларускай нацыянальнай свядомасці. Асабліва ў Заходняй Беларусі, дзе яна за непрацяглы час 5 разоў выдавалася і перавыдавалася. І, бясспрэчна, стала неад'емным элементам таго духоўнага шчыта,

які народ і яго інтэлігенцыя ўзнялі супраць паланізацыі і русіфікацыі краю. Такім чынам, факт навуковы, асветны рабіўся актам палітычным. Зрэшты так складаўся лёс маладога вучонага, так дыктавалі гістарычныя ўмовы жыцця яго народа, што ў ягонай дзейнасці навука, літаратура, палітыка незвычайна цесна перапляліся, пазначаныя адной вялікай, неадступнай думай аб будучыні. Кожная з гэтых фундаментальных сфер, галін ведаў, якая патрабавала чалавека цалкам, забірала дні Тарашкевіча найчасцей у залежнасці ад жорсткіх абставін, патрабаванняў моманту. Не будзе перабольшаннем сказаць: гістарычных абставін, гістарычнага моманту.

* * *

Тарашкевіч не вярнуўся на кафедру рускай мовы і славеснасці універсітэта, дзе аж да 1920 г., да канца жыцця, акадэмік Шахматаў некалькі год запар дабіваўся працягу тэрміну навучання свайго таленавітага выхаванца з Беларусі. Увесь 1919 год Тарашкевіч заставаўся ў Менску (хваля рэвалюцыйнага абнаўлення вярнула гораду яго старажытную назву). Нягледзячы на змены ўлады, яго тут трымаў адзін грамадскі клопат. Яшчэ ў цяжкім, праведзеным пад акупацыяй германскіх войск, 18-м з эвакуацыі з Яраслаўля праз дэмаркацыйную лінію вярнуўся ў Менск настаўніцкі інстытут. Вярнуўся ўсім сваім складам, з выкладчыкамі і студэнтамі. Трэба было аднавіць, разгарнуць яго працу. Гэта зараз была вельмі пільна патрэбная навучальная ўстанова. Сейбіты разумнага, добрага, вечнага, свядомыя гістарычных задач моманту, калі народ уставаў да новага жыцця, каваў сваю будучыню, гатовыя пайсці ў народныя гушчы, да таго ж са светачам роднага слова, хто іх мог замяніць цяпер? Можа, больш чым каго, іх чакае зраненая, спакутаваная, стомленая войнамі зямля? Прасвятліць яе дух,— ці не найвялікшая гэта з задач моманту. Адбываліся падзеі, якія самі сабой прымушалі рупіцца пра будучыню. Гарант яе бачыўся ў дзяржаўнасці. Стаць гаспадаром у сваім доме,— натуральнае права чалавека, народа. Аб'яўленае Кастрычніцкай рэвалюцыяй права народаў на самавызначэнне, суверэннасць на Беларусі здзяйсняліся цяжка. У некаторых акцыях на шляху да іх рэалізацыі Тарашкевіч удзельнічаў непасрэдна. У апошнім жа акце браць удзел непасрэдна не ўдалося. Ажыццяўляўся ён неймавернымі намаганнямі беларускіх камуністычных секцый РКП(б) па-за межамі Беларусі. Самымі дзейнымі асобамі ў рэалізацыі беларускай савецкай дзяржаўнасці былі Зм. Жылуновіч, А. Чарвякоў, Я. Дыла. Абставіны самога нараджэння Рэспублікі і першых месяцаў яе існавання былі занадта складаныя, празбыць суровыя. Як бы нечая злая воля завісла над краем. Не паспелі нарадавацца самому факту абвяшчэння Рэспублікі, не паспеў Савет народных камісараў новастворанай Савецкай рэспублікі на чале з З. Ф. Жылуновічам разгарнуць такую неадкладную цяпер працу па арганізацыі дзяржаўных органаў, наладжвання гаспадаркі, як наркомы-беларусы апынуліся ў турме. Сам старшыня ўрада, ратуючыся ад горшай долі, апынуўся аж на Украіне. Тарашкевіч, можа, палічыў бы гэта здарэнне за благі сон, злосныя чуткі, калі б сам разам з наркомамі не быў прыхоплены «чрэзвычайкай».

Нельга было сказаць, можна было толькі здагадвацца, у чым абвінавачвалі наркомаў беларускага савецкага ўрада, а яго, Тарашкевіча, то адмыслова, па-дурному. Ні сам бы, ні хто іншы не дадумаліся б да такога: спрабавалі аб'явіць арганізатарам пагромаў. Праўда, праз два дні выпусцілі: вельмі абсурдна, недарэчна выглядала прэтэнзія да вучонага, які ніякага палітычнага становішча не займаў, хоць і блізкі быў да арыштаваных членаў урада — Дылы, Шантыра, Фальскага, Чарнушэвіча — людзей, звязаных з літаратурай, тэатрам — духоўнай культурай свайго народа. Усё ж не камісар, не настыра Жылуновіч, якому, насуперак волі Мяснікова, Калмановіча, Ландэра, настроеных на сусветную рэвалюцыю і злом усіх граніц, трэба было, здавалася, адно — Беларуская Рэспубліка.

Тым часам і далей тварылася нешта незразумелае, крыўднае для беларусаў, хто марыў пра свой народны дом. Абрысы яго ўжо, здавалася, не прывідам, а рэальна ўзніка-лі перад вачыма. Але дарма.

Праз месяц пасля таго, як урачыста, спецыяльным маніфестам была абвешчана Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, Усебеларускі з'езд Саветаў раптам па-

станаўляе аб выхадзе са складу яе Віцебскай, Магілёўскай і Смаленскай губерняў. Юрысдыкцыя ўрада БССР цяпер пашыраецца толькі на шэсць паветаў Меншчыны. Ізноў нечаканасць, прадыктаваная знешняй ці ўнутранай кан'юнктурай, не разбярэш, не толькі на мужыцкі розум. З рэшты Беларусі і Літвы творыцца Літоўска-Беларуская рэспубліка, у якой толькі адна ўрадавая пасада наркома асветы, ды і то не без мітрэнгі, аддаецца беларускаму прадстаўніку. Больш-менш рэальныя кіраўнікі краю А. Мяснікоў і В. Кнорын ніколі не хавалі, што не бачаць ні гістарычнага, ні нацыянальнага аблічча яго і невыпадкова «разразіліся» ў «Звезде» даволі панурай філіпікай-папярэджаннем інтэлігенцыі, асабліва пісьменнікам, каб кінулі «потуги»... к созданию «своего» белорусского языка, «своей» национальной культуры». Абсурдная гэта прэтэнзія заканчвалася нехаванай пагрозай: «Пусть примут это к сведению белорусские писатели».

Пройдзе час, гістарычныя ўмовы зменяцца. Праз год будзе зноў нанава абвешчана БССР і беларуская савецкая дзяржаўнасць ужо ў 1921—1923 гг. набудзе рэальныя рысы і адпаведныя ёй не толькі форму, а і змест. Але пакуль што была такая атмасфера, у якой беларускаму творчаму інтэлігенту было дай бог змагчы недавер да сябе з боку ўладаючых. Сітуацыя парадаксальная, жорсткая. І рабілася яна ўжо для Беларусі, прынамсі, на нейкі час даволі тыповай.

Тым часам на Захадзе рэальна замаячыла новая пагроза экспансіі. Кіраўнікі адроджанай Польшчы, асабліва яе вайсковы шэф маршалак Пілсудскі, марылі пра аднаўленне сваёй дзяржавы ў межах 1772 года. Мары гэтыя мелі пад сабой не толькі гістарычны грунт, але і такія рэальнасці, як патрыятычны парыў палякаў і матэрыяльная (зброяй) і палітычная падтрымка буйнейшых еўрапейскіх дзяржаў — Францыі і Англіі. На захоп беларуска-літоўска-ўкраінскіх зямель Пілсудскі выправіўся не толькі пры вялікай збройнай сіле, добрай экіпіроўцы, але і з прадуманымі прапагандысцкімі лозунгамі. На баявых штандарах яго легіёнаў былі выпісаны дэвізы старых польскіх рэвалюцыянераў «За нашу і вашу свабоду». Адозва Пілсудскага да жыхароў былога Вялікага княства Літоўскага была



вытрымана ў духу старашляхецкага лібералізму. Маршалак абяцаў не навязваць сваёй волі народам «гэтай пакутнай зямелькі» і на словах, праўда, гарантаваў ім права самім вырашаць свой лёс.

Новых гаспадароў народ сустрэў стрымана. Хутка адчуў, скарэй, чым сёй-той з інтэлігенцыі, што легіёны прыйшлі перш-наперш для таго, каб сваімі штыхамі засланіць вялізныя зямельныя надзелы польскіх і спаланізаваных абшарнікаў ад тых, хто спрадвеку на іх праліваў крывавы пот. Тарашкевіч усвядоміць гэта, здаецца, не адразу, але зразумее і адным з першых кіне ў вочы панам горкую праўду становішча з трыбуны Сойма, куды прыйдзе воляю народа як яго абраннік, заступнік. А пакуль што летам 1919 года ён у Менску, сярод тых, хто стараўся скарыстаць са змены палітычнай сітуацыі ў краі, каб замацаваць падваліны пад будучы свой Дом. Вобраз гэты ўсё часцей снуецца ў ягонай галаве, слова пра яго гучыць з вуснаў. Практычна ж Тарашкевіч больш рупіцца пра асвету, вышэйшую школу і перш-наперш гадавальнік настаўнікаў — інстытут. Практычна на гэтым напрамку яму з групай асветнікаў-энтузіястаў удаецца дасягнуць нечага рэальнага. Менскі настаўніцкі інстытут з восені 1919-га пачаў працаваць нанава як педінстытут, Тарашкевіч узначаліў у ім філалагічны факультэт і пачаў чытаць курс беларускай мовы, першы такі курс у вышэйшай школе. Лекцыі па гісторыі Беларусі чытаў дырэктар інстытута Усевалад Ігнатоўскі. Знайшліся беларускамоўныя спецыялісты і па прыродазнаўчых навуках.

З агульнаадукацыйнай школай было цяжэй. Мала дапамагла і Беларуская школьная рада, у якую згуртавалася настаўніцтва пераважна Меншчыны. Яна, праўда, узялася за апрацоўку падручнікаў, выпусціла прыстойную «Праграму для пачатковых школ». Рабіла канкрэтныя захады па адкрыцці беларускіх школ. Але супраціўленне адміністрацыі, што складалася з мясцовых і наезжых паноў, было вялікае. Становішча крыху выручала тое, што ў магістраце, у асветным аддзеле яго, працаваў Чэслаў Родзевіч. У Менску ўдалося адкрыць беларускую гімназію, некалькі пачатковых школ. На правінцыі ж справы ішлі яшчэ цяжэй, і паасобныя энтузіясты беларускай асветы мусілі вытрымаць

там сапраўдную вайну за натуральнае права вучыць дзяцей на матчынай мове. Зразумела, што беларуская школа ў руках мясцовых настаўнікаў, якая магла ўсвядоміць маладое пакаленне палітычна, не была ў інтарэсах прыхадняў. «Цывільнае ўпраўленне ўсходніх зямель», узначаленае Асмалоўскім, дый іншыя акупацыйныя ўстановы, якімі нярэдка кіравалі выхадцы з тутэйшых абшарнікаў, як Рачкевіч, Івашкевіч, дбалі аб адным: як замацаваць заваяванае штыхамі легіянераў, сцвердзіць тут польскую дзяржаўнасць. Яна абяцала забяспечыць ім сацыяльную стабільнасць іх становішча, парушанага рэвалюцыяй. І для гэтага рабіліся канкрэтныя захады.

Аднаго дня варшаўскія ды менскія польскія газеты («Goniec Poranny», «Zorza Mińska») пачалі друкаваць нештодзённыя паведамленні. Звесткі іх паходзілі пераважна з мясцін, бліжэйшых да лініі польска-савецкага фронту. З Меншчыны, розных яе паветаў. Гутарка ішла пра пастановы агульных сходаў жыхароў паасобных гмін (валасцей) аб далучэнні іхніх лакальных тэрыторый да... Польшчы. Беларускі перыядычны друк, здаецца, аднагалосна, уключаючы схільнае да кампрамісу «Беларускае жыццё», расцаніў такія публікацыі як спробу ўвесці ў зман грамадскую думку дома і за мяжой. Назваў аўтараў і выканаўцаў непрыкрытай анексіі. Друк, які здолеў узнікнуць у міжбур'і вайны, натуральна, быў неаднародны. Падцэнзурны стан яго, а першыя яго ластаўкі, як газеты «Беларуская думка», «Звон», «Беларускае жыццё», пачыналі існаваць пад вайсковай цэнзурай, не дазваляў гаварыць усё, што было на душы. Тым не менш адны ў большай меры, паўней, другія асцярожней, умеркавана прамаўлялі аб грамадскіх, культурных праблемах беларускага народа. У канчатковым выніку даволі добра выявілі шырокі спектр беларускай грамадскай думкі. Можа, найбольш рашуча настроі, памкненні народа, яго рэвалюцыйна-дэмакратычна настроенай інтэлігенцыі адбіваліся спачатку на старонках газеты «Звон», дзе па зразумелай прычыне пад псеўданімам у форме крыптаніма Я. К. выступаў Янка Купала з публіцыстычнымі эсэ. Даволі радыкальна па шырокаму колу пытанняў беларускага жыцця, сучаснасці і будучыні выказвалася газета «Беларусь», выдаваная двума былымі паліткатаржанамі царскіх астрогаў Язэпам Лёсікам і Кузьмом Цярэшчанкам. Газеты «Незалежная думка» і «Незалежная Беларусь» былі недаўгавечныя: ваенная цэнзура іх заціснула яшчэ да таго, як паспелі паўней выявіць свае ідэйнае і творчае аблічча. Газету хрысціянскіх дэмакратаў «Крыніцу» польскія ўлады прыгняталі за супраціўленне паланізацыі беларускага насельніцтва каталіцкага веравызнання. Рэдагаваны Купалам сумесна з Іваноўскім часопіс «Рунь» стараўся адвесці свае старонкі перш-наперш творам прыгожага пісьменства і мастацтва, здабыткам навуковай думкі. Хоць, папраўдзе, паэзія ды малыя жанры прозы, драматычныя абразкі, рэцэнзіі, культуралагічныя эцюды знайшлі шырокую дарогу тады і ў грамадска-палітычныя выданні, якія фактычна былі напалову, калі не больш, заняты літаратурнымі творамі.

На правінцыі перыядычнаму друку было цяжэй. Гродзенскі «Родны край» польскія ўлады закрылі на 6-м нумары. Слуцкую «Нашу каляіну» — на трэцім. Даўжэй пратрымалася ў Горадні «Беларускае слова», цікавае сваёй публіцыстыкай, асабліва артыкуламі Л. Будзіловіча — Аркадзя Смоліча.

Тарашкевіч у перыядычным друку ў 1919—1920 гады быў мала актыўны. Ці асноўны час забірала асветная, палітычная праца? Гэтай, апошняй, ён таксама не цураўся. Узначаліў дэлегацыю ў Варшаву ад Рады Віленшчыны і Гродзеншчыны. У 20-м доўга затрымліваўся там з К. Цярэшчанкам. З публікацый 1919—1920 гг. вядомы толькі адзін літаратуразнаўчага характару накід на п'есу Ф. Аляховіча, пастаўленую Менскім беларускім тэатрам, і разгорнутае выступленне ў газеце польскіх дэмакратычна настроеных інтэлектуалаў «Przymierze» («Саюз»). «Беларускія палітычныя пастулаты» Тарашкевіча мелі на мэце пазнаёміць польскую грамадскасць з беларускімі праблемамі. Публікацыя дае добрае ўяўленне аб палітычнай пазіцыі Тарашкевіча на пачатак 1920 г., можа праліць святло на яго канкрэтныя захады і само абяртанне ў польскіх палітычных колах. Будучыню свайго народа малады беларускі працаўнік бачыць толькі на трывалых падвалінах незалежнасці. Пры выкладзе гісторыі беларускага грамадскага руху падкрэслівае ў ім трывалыя сацыяльныя і дэмакратычныя асновы. Спадзя-

ецца знайсці ў польскіх інтэлігентаў разуменне, спагаду палітычным памкненням беларусаў. Азіраўся на суровую гісторыю польскага народа апошняга стагоддзя. Спадзяваўся, што ўрокі яе даюць падставу для разумення суседзямі і беларускіх грамадскіх інтарэсаў. Сярод пастулатаў, патрабаванняў, якія ад імя беларускага народа Тарашкевіч выстаўляў у канцы свайго разгорнутага (у двух нумарах часопіса) рэферата, былі і такія:

«Ад польскага ўрада і асабліва грамадства патрабуем, каб аграрную рэформу лічылі за ўнутраную справу Беларусі; павінен быць аб'яўлены поўны «дэзінтэрэсман» у справе маёмаснага стану земскіх грамадзян палякаў, уласнасць якіх павінна падпарадкоўвацца тым самым правам, што і ўласнасць усіх іншых грамадзян Беларусі. Акрамя таго, ад польскай нацыянальнай дэмакратыі патрабуем вырачыся ўсялякіх адпаведных каланізацыйных дзяржаўных планаў у Заходняй Беларусі».

Выказаўшы шэраг патрабаванняў, у тым ліку патрабаванне непадзельнасці і суверэннасці Беларусі ў яе этнічных межах, заключыў свой выступ такім лагічным вывадам:

«Толькі такая пастаноўка справы можа да канца выпалаць усё пустазелле недаверу ўзаемных векавых крыўдаў, якімі так буйна парасло поле польска-беларускіх адносін».

Ці вырашалі не тыя, на каго спадзяваўся? Ці проста памыліўся, думаючы, што некаму рупіць чужая бяда? Скарэй — абмануўся. Надзеі на суверэнную непадзельную Беларусь не спраўджваліся. Ішло да падзелу яе. Савецка-польскае мірнае пагадненне ў Рызе ў сакавіку 1921 года не пакідала месца для ілюзій.

— Мы вас падзялілі, бо мелі сілу, як вы будзеце мець сілу, дык нас раздзеліце,— скажа Тарашкевічу ў прысутнасці сведкаў Цярэшчанкі, Дубейкаўскага адзін з творцаў тагачаснай польскай палітыкі сацыяліст Дашыньскі. Словы гэтыя пазней горкай ironіяй адгукнуцца ў гісторыі народаў-суседзяў. Але тады ішоў яшчэ 1920-ты. Тухачэўскі рухаўся на Варшаву. А што да сітуацыі на Беларусі, то яна была абсалютна не на карысць палякаў, якія больш года чуліся тут гаспадарамі.

Пэўна першае, прынамсі, у масе сваёй, непрыязнь да новых прэтэндэнтаў на Беларусь адчула сялянства. Няпрошаныя госці са сваімі легіёнамі гвалтоўна ўзніклі на ягоным шляху па зямлю, аддадзеную яму Рэвалюцыяй. Яно спачатку стыхійна, навобмацак, а потым і арганізуючыся ў партызанскія дружыны пачало супрацiўляцца панам. І як знак народнай вайны — чырвоны певень пачаў гуляць па маёнтках. Газета «Беларусь» даводзіла да публічнасці назвы спаленых панскіх сядзіб. Рэестр іх набіраўся даволі доўгі. Варварства? Сацыяльная крыўда? Помста? Усё было тут. Моладзь бралася за зброю, адстойвала зямлю і годнасць. Інтэлігенцыя пераконвалася, што права, аб'яўленае ўладай публічна, заставалася на паперы. Зрэалізаваць нейкую культурную, не кажучы ўжо пра палітычную праграму, не ўдавалася. Сёй-той з беларускіх палітычных працаўнікоў апынуўся за кратамі. Нават тыя з іх, хто спадзяваўся на талерантнасць, дэмакратычныя традыцыі Польшчы (а як жа, ледзь не стагоддзе дзяды-прадзеды разам, рука аб руку, ішлі на паўстанні, у Сібір), хутка пераканаліся, што беларускай зямлі пагражае анексія і няпэўны сацыяльны статус: вельмі ж ужо клапацілася прышлая ўлада аб цэласнасці і недатыкальнасці маёмасці, зямельных латыфундый вяльможных. Нарэшце, кожны па-свойму акрэсліў адносіны да рэжыму, усталяванаму польскай спачатку вайсковай, а затым і цывільнай адміністрацыяй на чале з генеральным камісарам цывільнага ўпраўлення Усходніх зямель Ю. Асмалоўскім. Пазней высветліцца, што старшыня Беларускага нацыянальнага камітэта, які афіцыйна прадстаўляў інтарэсы насельніцтва перад уладай, Аляксандр Прушынскі (Алесь Гарун) меў укрытыя кантакты з беларускім савецкім цэнтрам у Смаленску. На Смаленск арыентаваўся і атрымліваў адтуль рэальную матэрыяльную падтрымку ў сваёй тэатральнай дзейнасці рэжысёр Беларускага тэатра Фларыян Ждановіч. Нават старшыня Вышэйшай рады з яе рэальнай ці ўяўнай апорай на польскія дзяржаўныя чыннікі Антон Луцкевіч напісаў брашуру, ужо сама назва якой «Польская акупацыя Беларусі» і асабліва змест яе не пакідалі сумненняў у пазіцыі аўтара, былога паланафіла. Што казаць пра прадстаўнікоў больш рашучых і неаглядных, асабліва моладзі! На хвалі народнага супраціўлення ў Менску ўзнікае Беларускі паўстанчы камітэт. У ім аб'ядналіся прадстаўнікі розных партый: сацыялісты-рэвалюцыяне-

ры, камуністы, члены Беларускай камуністычнай арганізацыі, ідэйна-арганізацыйнае ядро якой складалі студэнты і некаторыя выкладчыкі Менскага педагагічнага інстытута. БПК рыхтаваў узброенае паўстанне ў Менску і на правінцыі. Польскай контрразведцы, аднак, удалося апярэдзіць планаваны паўстанцамі-падпольшчыкамі ход падзей. Шмат хто з членаў БПК трапіў у рукі дэфензівы (яна тады мела сядзібу ў Траецкім прадмесці). З набліжэннем да Менску Чырвонай Арміі ў ліпені 1920-га, таго, каму не пашанцавала ўцячы на хаду з цягніка, завезлі ў турмы Кракава і Пазнані... Пра іх успомніць з часам народная песня з нечаканым для драматычнага роздуму пачаткам «Пад гоман вясёлы...».

Тарашкевіча не было ні сярод тых, каго няўдалыя заваёўнікі везлі, уцякаючы з Беларусі, у закратаваных вагонах (а траплялiся сярод іх і яго былыя студэнты з пединстытута), ні сярод тых, хто ехаў у абозе акупантаў. Быў на той востры, пераломны час у Варшаве. Ці як палітык не ўсе яшчэ ілюзіі паспеў растраціць — цяжка сказаць. Прынамсі, да новых было далекавата.

У Вільню вярнуўся яшчэ да захопу яе «ўзбунтаваным супраць галоўнакамандуючага Польскага войска» генералам Жалігоўскім. Інсцэніроўка «бунту» была зроблена па ўсіх правілах палітычнай гульні. Услед за заявай Жалігоўскага аб тым, што ён не аддасць Вільні і Віленшчыны літоўцам (Ковенскай Літве), Віленскі калідор быў аб'яўлены Сярэдняй Літвой, самастойнай палітычна-адміністратыўнай адзінкай.

Да «Літвы сьрудковай» штыхамі гэтак званай літоўска-беларускай дывізіі Жалігоўскага быў прыкроены добры кавалак заходнебеларускіх зямель: трэба ж было набраць абшару, каб было падабенства дзяржаўнага ўтварэння. Праўда, генерал не стаў доўга трымаць уладу ў адных руках. Была створана Часовая ўрадуючая камісія, розныя, адпаведныя аўтаномнай ці напаўаўтаномнай адзінцы, адміністрацыйныя ўстановы. Некаторыя, як дэпартамент асветы,— з улікам шматнацыянальнага складу насельніцтва. Тарашкевіч заняў у ім пасаду кіраўніка беларускага школьнага аддзела. Цяпер мог рабіць нешта рэальнае. Пачынаючы са снежня 1920 г. на Віленшчыне, Браслаўшчыне, Валожыншчыне, Смаргоншчыне, абапіраючыся на мясцовае насельніцтва і бацькоў, здолеў адкрыць каля двухсот беларускіх школ. Не так шмат. Але на той час, калі ў іншых кутках Заходняй Беларусі прысланыя школьныя інспектары зводзілі на нішто намаганні ініцыятараў беларускай школьнай асветы, дык гэта было штосьці. Цяпер, калі школкі ўдалося адкрыць, дзе як бы афіцыйна, з дазволу ўлады, а дзе і саматугам, насуперак перашкодам і кручкатворству інспектарата, трэба было дбаць аб забеспячэнні іх падручнікамі. У нарысе «Беларуская школа і беларуская кніжка», апублікаваным у 1-м нумары газеты «Беларускі звон» (ад 22 сакавіка 1921 г.) бачны гэты клопат Тарашкевіча. Заканчвае сваё фактычна публіцыстычнае выступленне ён словамі пра настаўнікаў былых дарэвалюцыйных рускіх школ: «Няўжо ж у ім не можа адклікнуцца беларускае сэрца ў той час, калі наша бацькаўшчына разбудзілася ад векавога сну і кліча ўсіх сыноў сваіх будаваць свой Дом». Ідэя, якая мільганула ў гады Рэвалюцыі і вайны зманлівай знічкай, свеціць яму і далей. Толькі цяпер ён, здаецца, ведае цану, якой мару можна ператварыць у рэальнасць. Мазольнай працай, вялікай талакой, народнай грамадой можна збудаваць лепшую будучыню. Але перш-наперш трэба думаць аб трывалых падвалінах гэтага пакуль што ў марах узведзенага дому. Выснаванае Купалам у паэтычных вобразах пераконанне «К свабодзе, роўнасці і знанню мы працярэбім сабе след і будзе ўнукаў панаванне там, дзе сягоння плача дзед» было і яго і тых, хто поплеч, жыццёвым пераканаем. Нельга было марнаваць часу.

Праз нумар у «Беларускім звоне» — ажно два яго матэрыялы. Адзін — падпісаны ўласным імем, прозвішчам: эцюд пра паэта-рэвалюцыянера Адама Гурыновіча, задушанага царызмам у маладых гадах. Тарашкевіч першым паўней сабраў і апублікаваў паэтычную спадчыну Гурыновіча, даў з першых рук біяграфічныя звесткі пра яго. Тарашкевічаў эцюд друкаваўся запар у некалькіх нумарах газеты: значнае месца заняла ў ім публікацыя твораў Гурыновіча. Другі артыкул, падпісаны псеўданімам Тарас Навіна (гэты псеўданім, дарэчы, можна было б лічыць нечым выпадковым, нават газетнай апіскай, каб ён не паўтарыўся тройчы), быў выкліканы заключэннем польска-савецкай

умовы ў Рызе ў сакавіку 1921 года. Яна, умова, не была нечаканасцю, болем і смуткам адгукнулася ў сэрцы не аднаго беларускага інтэлігента. Усталяваная на перагаворах у Рызе мяжа праходзіла па жывым целе народа, разразаючы Беларусь на дзве часткі.

У артыкуле «Рыжскі трактат і беларускае пытанне» Тарашкевіч — тонкі аналітык, дасціпны, саркастычны, той, якім яго пазнаюць праз два гады ў Сойме Рэчы Паспалітай Польшчы, куды ён прыйдзе як паўнапраўны прадстаўнік заходніх беларусаў. Палітычны аналіз здзейсненага, хочаш не хочаш, гістарычнага акта быў у Тарашкевіча, зразумела, небесстаронні, але пранікнёны, з тых, якім не адмовіш у глыбіні. Прааналізаваны пазіцыі абодвух бакоў-дамаўленцаў. Асабліва аднаго з членаў польскай дэлегацыі, Грабскага, якога, адчуваецца, аўтар артыкула ведаў, што называецца, зблізку. Тарашкевіч ацэньваў трактат і з пазіцыі будучыні. Даў выхад сваёй іроніі, гаворачы пра «ўсходнія апетыты» польскіх дыпламатаў. «Шукаючы палякаў, можна было б працягнуць дзяржаўныя межы аж... да Табольска. Але ж Польска да Табольска — гэта толькі жарт». Закончыў катэгарычнай інвектывай ад імя свайго народа: «Няма што казаць, што беларускі народ ніколі не прызнае Рыжскага трактату, які яго разрывае на часткі і па часцёх прадае».

Нейкі час Тарашкевіч не заглыбляўся ў праблемы «вялікай палітыкі», прынамсі, калі меркаваць па старонках абжытага ім «Беларускага звону». Засяродзіўся на асветнай, сейбіцкай працы, якая цяпер тут, у Заходняй Беларусі, патрабавала шчырых, заўзятых рук. Шмат пра што даводзілася рупіцца ў Цэнтральнай радзе Таварыства беларускай школы, якое пазней, у часы Грамады, з надзеяй, а мо і з гордасцю будзе называць «другой лініяй акопаў», маючы на ўвазе фронт вызваленчага руху. Подпіс Тарашкевіча значыцца сярод укладальнікаў статута гэтай асветна-грамадскай арганізацыі Заходняй Беларусі, якая высакароднай ідэяй барацьбы за беларускую асвету, школу пазней злучыць у сваіх радах дваццаць тысяч рупліўцаў і барацьбітоў. А 16 верасня 1921 года, калі «Беларускі звон» пачаў публікаваць спіс членаў ТБШ, налічвала яно 63 чалавекі. Спіс уключаў шэраг імён людзей ужо заслужаных на ніве



беларускай культуры, асветы. Пачынаўся ён імем Браніслава Тарашкевіча.

Цяпер, на пачатку дзейнасці, у кіраўніцтва ТБШ быў клопат, як утрымаць некалькі адкрытых беларускіх гімназій, адвесці зламысную руку павятовых інспектараў і розных мясцовых «князькоў» ад беларускага школьніцтва, прабіць яму шырэйшую дарогу. Спрабуюць апеляваць да міністра асветы. У мемарыяле Цэнтральнай беларускай школьнай рады на яго імя даецца ўражлівая карціна праследу буржуазнай уладай беларускай асветы. З пачатку 1922 г. Тарашкевіч зноў становіцца педагогам-практыкам. Выбіраецца дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі, вядзе ў ёй курс літаратуры.

Не сказаць, каб ля беларускага культурна-асветнага вогнішча ў Вільні на той час было мала людзей. Яшчэ былі тут, не падаліся ў Савецкую Беларусь, як гэта будзе крыху пазней, ні Аркадзь Смоліч, ні Максім Гарэцкі, ні Міхал Кахановіч, ні Леапольд Родзевіч, ні Генадзь Багдановіч, ні Антон Грыневіч (усіх не пералічыць), але патрэба ў людзях, адданых ідэі, грамадскай, асветнай працы народа, была вялікая. Хто здольнейшы ды руплівейшы — паспяваў усюды. На пачатку 20-х, да абрання дэпутатам у Сойм, Тарашкевічаў голас, рупнасць чутны, бачны на ўсіх дзялянках беларускага духоўнага жыцця. Дзейсны ён і ў Беларускім выдавецкім таварыстве і ў Беларускім навуковым таварыстве ў Вільні. Гэта апошняе заснавана было па ініцыятыве незабыўнага ў беларускім інтэлігенцкім асяроддзі Івана Луцкевіча незадоўга да яго смерці. Заснавальнікі БНТ азіраліся на вопыт Украінскага навуковага таврыства імя Шаўчэнкі ў Львове, якое мела ўжо немалыя здабыткі на шляху навуковага пазнання гісторыі і культуры свайго народа.

«Беларускаму навуковаму таварыству ў Вільні» з першых год яго існавання давялося займацца рэчамі не столькі тэарэтычнага, колькі прыкладнога, практычнага характару. Дбаць пра нацыянальны музей, бібліятэку беларусазнаўчай літаратуры, адбівацца ад дэмагагічных, робленых пад прыкрыццём вучонасці, наскокаў на Беларускую гімназію. Разам з Выдавецкім таварыствам даводзілася ўзяць на сябе клопат аб падручніках для пачатковай і асабліва сярэд-

няй школы. Самі члены БНТ перакладалі кнігі па фізіцы, алгебры, прыродзе, сусветнай гісторыі. Асобныя з іх (Смоліч, Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Трэпка, Гарэцкі) пісалі самастойныя беларускія падручнікі. І тым і другім была патрэбна беларуская тэрміналогія, што арганічна б вынікала з культурных традыцый народа, адпавядала духу яго мовы. Вядома, без кампетэнцыі, супольных намаганняў членаў БНТ і БВТ было б вельмі цяжка, немагчыма ўсё як трэба зрабіць. «Беларускі каляндар на 1922 год» (а такія кніжкі-календары станавіліся штораз лепшымі дарадчыкамі чытачу, інфарматарамі з розных сфер жыцця) асобна адзначаў ролю Тарашкевіча ў выпрацоўцы навуковай тэрміналогіі. «Без удзелу Б. Тарашкевіча,— пісаў аглядальнік культурнай працы за 1921 г.,— пэўнае (належнае.— *А. Л.*) апрацаванне тэрміналогіі было б проста немагчымым». Яго грунтоўная філалагічная адукацыя, веданне моў, густ, адчуванне лексікатворных магчымасцяў беларускага слова былі ў тых абставінах незаменныя. Згадаем, што ў Менску Інбелкульт, яго тэрміналагічныя камісіі тады яшчэ толькі-толькі пачыналі брацца за велізарную работу апрацоўкі беларускамоўнай тэрміналогіі.

Палемічнасць была ў натуры Тарашкевіча. Нягледзячы на сталую занятасць у БНТ, дзе быў сакратаром, і ў Выдавецкім таварыстве, дзе дзейсна дбаў аб мастацкім і навуковым выглядзе беларускай кніжкі, на працягу 1921—1922 гадоў ён не пакідае вастрыць сваё сатырычнае пяро. Прычын для публічных выступленняў у друку хапала. Даволі шчодрай на іх была супярэчлівая рэчаіснасць Сярэдняй Літвы, духоўная атмасфера гэтай, з ласкі Жалігоўскага, «дзяржавы». Гарадскі архіварыус Студніцкі пачынаў уводзіць у зман грамадскую думку наконт таго, дзе была «цэля Конрада», нехта пан Дмуха рабіў з найвучонейшым выглядам фельдфебельскі выпад супраць беларускай асветы, мовы, рэптыльны тып з беларускіх прыслужнікаў рэжыму Павел Аляксюк даваў інтэрв'ю аб Пражскай нацыянальна-палітычнай нарадзе, дзе нахабна выстаўляў усё ў крывым люстэрку...

Тарашкевіч браў голас на грамадскай трыбуне. У тым жа «Беларускім звоне» пад псеўданімам «Тарас Н.», «П-ц», «Плюха» з'яўляліся яго поўныя сарказму, дасціпу, бляску



артыкулы ці артыкулы-скетчы «Праўда і палітыка», «Дмух-Обст-Мураўёвы», «Аб Пражскім беларускім з'ездзе» (№ 9, 18). Апанентаў сваіх літаральна забіваў логікай доказаў, аргументацыяў, дасціпнымі, з'едлівымі параўнаннямі. Эрудыцыя, палемічны талент, прыроджаны гумар, адшліфаваны ў інтэлігентным, сапраўды інтэлектуальным асяроддзі, вылучалі яго паслядоўна, ва ўсіх сітуацыях.

Зрэшты не толькі правінцыяльных зласліўцаў, ганіцеляў «беларушчыны» даставаў вастрыём свайго пяра Тарашкевіч. Патрапіў дацягнуцца і да сапраўдных палітычных зуброў, як шэф дзяржавы Пілсудскі. Асаблівага сентыменту да свайго цяпер знакамітага земляка, які здолеў з малавядомага функцыянера ППС за нейкіх пару год сягнуць да еўрапейскіх палітычных вяршыняў, у Тарашкевіча ўжо не было. Інакш як бы ён дазволіў сабе ў артыкуле «Неразгаданая загадка», змешчаным 18 лістапада 1921 года ў «Беларускім звоне», так скептычна адзывацца аб заяве маршалка, назваць яе бурай у шклянцы вады. Уласна, заява датычыла Вільні і Віленшчыны, пытанне з якой не было вырашана: далучаць ці даць нейкія аўтаномныя правы — галасы ў Сойме раздзяляліся. «Папраўдзе,— гаворыць Тарашкевіч,— усе былі за анексію, далучэнне, толькі з некаторымі гарантыямі тутэйшасці». Пілсудскі ў сваёй заяве з гэтай нагоды выглядаў крыху дэмакратычней, радыкальней большасці, схіляўся да плебісцыту. Увогуле заява яго была вытрымана ў тонкіх дыпламатычных танах. Беларускі крытык пазіцыі шэфа дзяржавы перакладае высокую дыпламатыю на мову рэальнасці. Дазваляе сабе сказаць папросту: «Начальнік Польскай Дзяржавы калісьці гаварыў аб вольных і роўных». Нагледзеліся мы на гэтыя роўнасці і вольнасці. Не чакаем мы нічога і ад «свабоднага выказвання волі насельніцтва» пры выбарах у Віленскі сойм». Гучыць, як бачым, даволі тыповая ў вуснах Тарашкевіча інтанацыя першых гадоў яго выступленняў у парламенце даваеннай Польшчы. І на гэты раз падпісаўся псеўданімам «П-ц» (ад «парнасец»; Тарасам на Парнасе звалі яго сябрыстудэнты). Падпісаўся старой мянушкай дзеля засцярогі? Пэўна, не. Заўсёды прывык выступаць з адкрытым забралам. Гэта было ў яго натуры. Сведчанне таму — усё будучае, дзень за днём, жыццё гэтага чалавека, аж да трагіч-

най яго мяжы 29 лістапада 1938 года. Жыццё, пражытае навідавоку ў людзей, усяго народа. Ды ўсё зведанае, зробленае ім на пачатку 20-х з гадамі магло здацца яму, пэўна, здавалася толькі пачаткам. Усё, што патрабавала найвышэйшай маральнай і духоўнай аддачы, было наперадзе. Наперадзе была парламенцкая барацьба, сапраўдная палітычная сутычка з самім рэжымам даваеннай Польшчы, напаўтаталітарным у сутнасці. А пакуль што жыццё Тарашкевіча, добра-блага, працякала ў Вільні, у асноўным на Вастрабрамскай, 9 ды Віленскай, 12, дзе мелі сядзібы асноўныя беларускія грамадскія і культурныя ўстановы, і на Бакшце, дзе кватараваў у доме Мэнке. Не толькі «Беларускі звон», на старонках якога ён часта выступае, а і іншыя перыядычныя выданні могуць расказаць, расказваюць пра тое, чым былі напоўнены яго дні. Кожнае з выданняў пасвойму, але заўсёды даволі пачціва інфармавала пра нешта зробленае Тарашкевічам. Часопіс «Маладое жыццё» (сакавік 1922 г.) паведамляў, напрыклад, што праф. Тарашкевіч выступіў з публічнай лекцыяй на тэму «Аб пачатку беларускага народа і мовы». Газета «Родная страха» за 7 сакавіка 1922 г. у рубрыцы «Беларускае жыццё» інфармавала: «У суботу, 4 сакавіка г. г., у салі Беларускага драматычнага гуртка ў Вільні п. Б. Тарашкевіч прачытаў лекцыю на тэму «Пытанне аб пачатку беларускай народнасці ў сучаснай навуцы». У сваёй лекцыі п. Б. Тарашкевіч выказаў новыя погляды сучаснай навукі на першапачатковае рассяленне індаеўрапейскіх народаў наогул, а славянскіх у асобнасці». Тут жа публікавалася і інфармацыя такога зместу: «Прафесар Б. Тарашкевіч пераклаў з грэцкай на беларускую мову першую песню старажытнай грэцкай паэмы «Іліяда» Гамера». Тым часам «Беларускі звон» у двух нумарах (за 11 і 25 сакавіка 1922 г.) друкаваў ужо Гамераву «Іліяду» ў беларускім перакладзе.

Сярод радасці здабыткаў і горычы страт штодзённага жыцця — праца над пераўвасабленнем вобразаў антычнага эпасу ў беларускім слове. Яна была як судакрананне з вечнасцю. Самі сабой успомніліся лекцыі прафесара Зялінскага, цэлы курс-семінар, прысвечаны асобна «Іліядзе». Ужо тады мільганула думка: «Вось бы гэтую глыбу культуры перанесці на родную глебу...» Цяпер мэта канкрэтызавала-



ся: на пасяджэнні БНТ ішла спецыяльна гаворка пра тое, што ў першую чаргу з сусветнай літаратурнай класікі трэба перакладаць. Дзяліліся думкамі Ігнат Канчэўскі, Антон Луцкевіч, Уладзімір Самойла, Язэп Лагіновіч, Макар Косцевіч... Гэтаму апошняму ў справе перакладу ўдасца зрабіць найбольш: цэлую бібліятэку рускіх пісьменнікаў-класікаў падорыць ён беларускаму чытачу на яго роднай мове. З Максімам Гарэцкім абгаворвалі выданне хрэстаматыі, дзе б лепшыя здабыткі беларускага прыгожага пісьменства межаваліся з узорамі сусветнай літаратуры. Пра гэта казаў у артыкуле «Беларуская школа і беларуская кніжка».

Тым часам надыходзілі падзеі, якія праз нейкі час крута зменяць жыццё Тарашкевіча і шмат каго з тых беларускіх дзеячоў, хто жыў ідэяй духоўнага і палітычнага адраджэння свайго народа. Былі аб'яўлены выбары ў вышэйшы заканадаўчы орган Польскай Рэспублікі — Сойм. Гэта былі другія выбары ў адроджанай Польшчы. Першы Сойм быў устаноўчы. На гэты раз беларусы вырашылі скарыстаць з бягучага палітычнага моманту. Стварылі Беларускі выбарчы камітэт у Вільні, устанавілі даволі шырокія кантакты са зваротнай сувяззю на правінцыі. Сягоння цяжкавата сказаць, каму канкрэтна ўдалося наладзіць перамовы з прадстаўнікамі іншых народаў у межах Польшчы. Відаць, у тых умовах ідэя стварэння выбарчага блоку нацыянальных меншасцяў, што называецца, вісела ў паветры. Ініцыятыва магла зыходзіць ад любой з нацыянальных груп. Так ці інакш, «шаснаццатка», нумар, пад якім у выбарчай барацьбе супольна выступалі прадстаўнікі беларусаў, украінцаў, яўрэяў і немцаў, блок нацыянальных меншасцяў Польшчы, а яны складалі да 40 працэнтаў насельніцтва краіны, стаў рэальным фактам. Палітычным фактам, які адыграў немалую ролю ў ходзе выбараў. Прынамсі, у наступныя выбары, хоць яны праходзілі пры непамерна ўзрослай палітычнай свядомасці заходніх беларусаў, такой колькасці дэпутатаў у Сойме, як першы раз, ім не ўдавалася правесці ні разу. Чатырнаццаць беларускіх паслоў (дэпутатаў) у Сойм і Сенат ад трох з лішкам мільёнаў насельніцтва, вядома, незашмат, але ўсё ж дастаткова для таго, каб стварыць самастойную соймавую фракцыю — Беларускі пасольскі клуб. Дастаткова для таго, каб мець высокую дзяржаў-

ную трыбуну, з якой заўсёды можна сказаць шырокай грамадскасці, а мо і свету ўсяму аб інтарэсах і правах цэлага народа, які воляю гістарычнага лёсу трапіў пад чужую ўладу.

23 студзеня 1923 г. старшыня БПК, дарэчы, наймаладзейшы сярод беларускіх парламентарыяў, Браніслаў Тарашкевіч выступіў з вялікай прамовай, у канцы якой зачытаў праграму беларускай дэпутацкай фракцыі.

Соймавай правацэнтрысцкай большасцю, якая і чуць не хацела аб нейкіх абавязках дзяржавы перад нацыянальнымі меншасцямі, хоць яны, гэтыя абавязацельствы, былі агаворана ў Версальскім і Рыжскім трактатах, выступленне Тарашкевіча было сустрэта непрыязна. Прамоўца гэта прадбачыў і трымаўся з годнасцю, нават выклікам.

« — Высокая, але пустая палата,— адразу абыгрываў той факт, што соймавыя лавы былі слаба запоўнены дэпутатамі: заканатворцы павольна пакідалі буфет пасля абедзеннага перапынку.— Насуперак зводных разлікаў нашых ворагаў, супраць іхніх усякіх, часам дужа вучоных аблічэнняў, і над усякае спадзяванне нашых нешматлікіх прыяцеляў,— мы пераступілі парог Сойма Польскай Рэчы Паспалітай. Пераступілі гэты парог у колькасці, папраўдзе, неадпаведнай да масы беларускага народа, які мы маем права прадстаўляць, але дастаткова для таго, каб не толькі перад Польшчай, але перад усім светам даць доказ таго, што жыве беларускі народ».

Выступленне Тарашкевіча было грунтоўна аргументавана (для гэтага заходнебеларуская рэчаіснасць, сацыяльны, палітычны стан краю давалі незамала ўражлівых фактаў), вылучалася аналітычнасцю і іроніяй. На прамоўцу зараз жа пасыпаліся рэплікі з правага боку залы, і былі яны часам даволі злосныя. Беларускі пасол адбіваў іх сходу. Дасціпнасць, сарказм Тарашкевіча выклікалі жывую рэакцыю, энтузіязм на лавах левых дэпутатаў. Апошнія былі прадстаўлены радыкаламі нацыянальных меншасцяў і польскімі камуністамі.

Асноўныя свае задачы ў Сойме прадстаўнікі Беларускага пасольскага клуба бачылі ў здабыцці аўтаноміі, у правядзенні радыкальнай зямельнай рэформы, у барацьбе за права на сваю асвету і культуру. Вялікую ўвагу ў сваіх



выступленнях надавалі палітычным правам народа, стала выяўлялі факты злоўжывання ўладай, парушэння канстытуцыі і міжнародных трактатаў: беспадстаўныя арышты сялян, абвінавачаных у камуністычнай дзейнасці, здушэнне радыкальнага перыядычнага друку, праследаванне беларускай школы, інтэлігенцыі. Шматлікія факты грубага парушэння асноўнага закона дзяржавы, самаўпраўства адміністрацыі, мясцовых князькоў беларускія дэпутаты афармлялі як інтэрпеляцыі (запытанні) у Сойме, звернутыя да адказных асоб, міністраў, галавы ўрада. Пазней, выдадзеныя асобнай кніжкай, гэтыя факты-дакументы далі рэальную, жорсткую, паводле зместу, карціну жыцця насельніцтва Заходняй Беларусі пад польскай адміністрацыяй і выклікалі шырокі грамадскі рэзананс. У тым ліку за мяжой, дзе, як у Чэхаславакіі, газета «Рудэ право» прысвяціла «інтэрпеляцыям беларускіх паслоў у польскі сойм» спецыяльную разгорнутую публікацыю, назваўшы іх «крывавай кнігай». Звесткі, факты, сабраныя дэпутатамі на справаздачных мітынгах-вечах, якія яны практыкавалі не толькі ў гарадах і мястэчках, а нават у вялікіх вёсках, народныя крыўдызаявы, прысланыя ў сядзібу БПК у Вільні, шырока выкарыстоўваліся падчас выступленняў, абагульняліся пры крытычным аналізе палітыкі ўрада, высвечвалі яе класавую скіраванасць.

Усю вялікую работу па абароне інтарэсаў заходнебеларускага рабача́я, што паслаў іх у вышэйшы орган Польскай дзяржавы, беларускія дэпутаты ў Сойме падымалі супольна, абапіраючыся на польскіх, яўрэйскіх і асабліва ўкраінскіх (Тарашкевіч называў іх братамі па няволі) радыкалаў, левых. Акрамя Тарашкевіча, у беларускай парламенцкай фракцыі 1923—1927 гадоў было яшчэ некалькі дзейсных актыўных прамоўцаў — Васіль Рагуля, Адам Станкевіч, Фабіян Ярэміч, якія пазней, пасля расколу ў БПК, шукалі, як тады казалі, трэці шлях у вызваленчым змаганні. Былі таксама такія баявітыя і ўмелыя абаронцы народных інтарэсаў, як С. Рак-Міхайлоўскі, П. Мятла, П. Валошын, найбольш блізкія Тарашкевічу па ідэйных і тактычных пошуках. З гэтымі апошнімі ў далейшым і ўзначаліў Тарашкевіч левае крыло нацыянальна-вызваленчага руху...

Калі ішло абмеркаванне праекта бюджэту або са спра-

вздачай аб дзейнасці ўрада выступаў прэм'ер-міністр, на арэне Сойма разгортваліся гарачыя дыскусіі. Сапраўдныя баталіі закіпалі наўкол законапраекта аб зямельнай рэформе. Прадстаўнікі маёмасных класаў, абшарнікі, зямельныя надзелы якіх у даваеннай Польшчы складалі палову ўсіх прыватнаўласніцкіх угоддзяў, не жадалі ніякай аграрнай рэформы, тым больш — радыкальнай. У Сойме ў іх было нямала прадстаўнікоў. Для вялізнай жа сялянскай масы, што пакутавала ад малазямелля, пытанне аб рэформе было жыццёва важным, можа, нават вызначальным. Для прадстаўнікоў нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі і на Украіне яно таксама набывала прынцыповае значэнне: шмат у чым прадвызначала яго рухаючыя сілы і поспех.

Пакуль былі ў адным дэпутацкім клубе прадстаўнікі беларусаў у Сойме, нягледзячы на розную партыйную прыналежнасць, выступалі ўзгоднена, па кожнай праблеме падтрымлівалі, дапаўнялі асноўнага свайго прамоўцу, развівалі асобныя аспекты аднаго нейкага пытання. Выступалі актыўна. Найчасцей, аднак, ад імя БПК слова браў Тарашкевіч. Аналіз знешняй і ўнутранай палітыкі ўрада, які ён рабіў, вылучаўся акрэсленымі сацыяльнымі крытэрыямі, аргументаванасцю, быў вобразны, яскравы. Прамоўца красамоўна сведчыў аб глыбокім, пранікнёным веданні палітычнага і эканамічнага становішча краіны, так сказаць, унутраных спружын развіцця ў ёй розных працэсаў. Адчувалася свабоднае валоданне ім лепшымі дасягненнямі філасофскай і палітычнай думкі. Усё часцей пры разглядзе палітычнага жыцця Польшчы Тарашкевіч стаў абапірацца на марксісцкую тэорыю. Аўтарытэт беларускага пасла ў Сойме быў высокі. Летам 1925 года пры чарговай, адной з самых рашучых схватак па аграрнай рэформе, Тарашкевіч ад імя трох левых дэпутацкіх фракцый выносіць на абмеркаванне законапраект яе, горача прамаўляе, высвятляючы ў сваім выступленні і гісторыю аграрнага пытання ў Польшчы — і асабліва шырока сацыяльны і маральны яе аспекты. Адчувае выразна, што левыя дэпутаты дарма літаральна б'юцца галавой аб мур. Правацэнтрысцкая большасць Сойма зацікаўлена ў захаванні буйной абшарніцкай гаспадаркі. Яна даць селяніну зямлі не хоча і не дасць.



К лету 1925 года Тарашкевіч да канца пераконваецца, што парламенцкім шляхам нельга дамагчыся нават мінімальнага: даць сялянам зямлю, забяспечыць сацыяльныя правы рабочых, гарантаваць развіццё культуры, мовы прадстаўнікам няпольскай нацыянальнасці. Пра ўсё гэта гаворыць у сваіх соймавых прамовах і ў чэрвені 1925 года разам з іншымі беларускімі дэпутатамі выходзіць са складу БПК і арганізуе новы пасольскі клуб Беларускай сялянска-рабочай грамады, які паклаў пачатак самай буйной рэвалюцыйна-дэмакратычнай партыі на заходнебеларускіх землях. Ад пачатку заснавання Грамады была зроблена стаўка на шырокае аб'яднанне працоўнага люду, каб арганізаванай сілай — грамадой — дабівацца, вырваць у кіруючых вярхоў належныя народу сацыяльныя і палітычныя правы. У свае напружаныя месяцы і дні 1925 года Тарашкевіч яшчэ патрапляе неяк не зусім закідаць свае навуковыя, дакладней, асветныя заняткі. Да 400-гадовага юбілею беларускага друку, які даволі шырока адзначаўся ў Вільні і асабліва ў Менску, ён рыхтуе даклад «Век Скарыны». Часопіс «Студэнцкая думка» (сакавіцкі нумар 1925 г.) паведамляў, што мае адбыцца выступленне прафесара Тарашкевіча на тэму «Мова і народ».

Расколу ў беларускай парламенцкай фракцыі асабіста ў Тарашкевіча папярэднічаў год жыццёвых дасведчанняў, роздуму. Не спыняючы актыўнай дзейнасці ў Сойме, ён многа ездзіць па Беларусі пад Польшчай, пільна прыглядаецца да жыцця ў розных яе кутках, вывучае настрой людзей. Пабываў на Піншчыне, у ваколіцах Лунінца пасля таго, як карнікі, помсцячы за напад партызан Арлоўскага на цягнік ваяводы Даўнаровіча, наладзілі там масавую экзекуцыю сялян. Тарашкевіч бачыў прыгнечаных гэтай дзікай выхадкай улады пажылых мужчын. Аднак дэпутату больш запомнілася, як успыхнулі крыўдай і гневам вочы маладых хлопцаў. Гэтым жа часам Тарашкевіч наведваецца (права недатыкальнасці асобы дэпутата дазваляла яму гэта рабіць) у Брэсцкую турму, каб асабіста даведацца аб становішчы там палітзняволеных. (Яны пераслалі калектыўную скаргу ў Беларускі соймавы клуб аб нялюдскім абыходжанні астрожнай адміністрацыі са зняволенымі.) З абурэннем кіне з соймавай трыбуны ў твар панам стано-

вішча факты злачыннага патаптання чалавечых правоў, пацвердзіць іх уражлівымі рэчавымі доказамі.

Звярнуцца да народа, працоўных з выразна сфармуляванай праграмай дзеянняў, такой праграмай, якая б выказвала надзённыя жыццёвыя інтарэсы тысяч і тысяч людзей, арганічна спалучала іх з перспектывамі вызваленчага руху ў цэлым, паставіць ясныя і рэальныя задачы, мэту, аб'яднаць людзей у адзіным імкненні жыць лепш, дастойна. Для гэтага ўжо былі рэальныя перадумовы. Першнаперш відавочным стаў рост палітычнай свядомасці заходніх беларусаў, гэтаму садзейнічала некалькі прычын. Рэвалюцыя ў Расіі, у якой удзельнічала нямала выхадцаў з Заходняй Беларусі, што былі ў арміі і ў бежанстве, а пасля Рыжскай умовы вярнуліся ў родныя мясціны. Адчувальна ўплывала на грамадскі тонус у краі і дзейнасць радыкальнага друку вызваленчага накірунку. Росту самасвядомасці жыхароў Заходняй Беларусі нямала садзейнічала і каланізацыйная палітыка розных урадаў Польшчы, якія паслядоўна насаджалі асаднікаў, праследавалі нацыянальныя арганізацыі, школу, кааператывы... Гэта і самым цёмным адкрывала вочы калі не на сутнасць рэжыму, то, прынамсі, на яго неразуменне, нежаданне разумець жыццёва важныя для цэлага краю праблемы.

Падтрымка польскіх радыкальных элементаў мела пакуль што значэнне больш маральнае. Праўда, барацьба і вызваленчыя памкненні заходніх беларусаў знаходзілі жывы водгук у Савецкай Беларусі, асабліва яе інтэлігенцыі: па абодва бакі польска-савецкай граніцы ішоў працэс кансалідацыі беларусаў як нацыі, раздзелены на дзве часткі народ усё вастрэй адчуваў сваё адзінства. Рэальны клопат пра лёс суродзічаў, што жылі на захад ад Рыжскай мяжы, праяўлялі кіраўніцтва Беларускай Савецкай Рэспублікі, яе кампартыі. Такія аўтарытэтныя прадстаўнікі Савецкай Беларусі, як А. Чарвякоў, Я. Адамовіч, У. Ігнатоўскі. Прафесар Ігнатоўскі ў жніўні 1925 г. удзельнічаў у нарадзе прадстаўнікоў ЦК КПП, КПЗБ і КП(б) Беларусі ў Гданьску, дзе супольна з лідэрамі нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі абмяркоўваліся актуальныя яго праблемы. Размова ішла аб легальнай арганізацыі, партыі, якая ахапіла б, згуртавала ў сваіх шэрагах шырокія народныя



гушчы, аб рэальнай падтрымцы новастворанага палітычнага аб'яднання, што ўзнікла ў Сойме — пра Беларускую сялянска-рабочую грамаду.

Ацэнка палітычнай сітуацыі ў Польшчы і настрояў працоўных Заходняй Беларусі была зроблена вельмі дакладна. Край сапраўды знаходзіўся перад пачаткам вялікага палітычнага ўздыму. Заснавальнік БСР Грамады, выхадзец з яе папярэдніцы — Беларускай сацыялістычнай грамады (быў членам яе з 1911 г.), Тарашкевіч становіцца камуністам. Гэта адбылося ў снежні 1925 года. Такі рашучы крок прызнанага дзеяча беларускага нацыянальна-вызваленчага руху не быў нечым нечаканым, справай тактыкі. Да гэтага вяла яго логіка барацьбы ў буржуазнай Польшчы, асабісты вопыт удзелу ў ёй, поспехі дзяржаўнага і культурнага будаўніцтва на Усходзе. У той час Сталін яшчэ не паспеў усталяваць свой нечуваны абсалютызм, сацыялізм разгортваў закладзеныя ў ім патэнцыяльныя магчымасці, у тым ліку ў сферы духоўнай. Прыцягальная сіла яго расла.

Асабістая палітычная практыка Тарашкевіча, у тым ліку парламенцкая барацьба, пераконвалі, што паўсталая на руінах трох імперый пасляверсальская Польшча па прычыне сацыяльнай структуры запанавалага ў ёй рэжыму не стане на шлях сапраўды дэмакратычнага развіцця. Кіруючыя колы яе не маглі забяспечыць народу сацыяльнай справядлівасці і шэраг іншых фундаментальных правоў. Тарашкевічу зразуменне гэтых ісцін далося, можа, крыху лягчэй, чым каму-небудзь, яшчэ таму, што ён быў сынам прыгнечанага народа, селяніна-рабачая. Ён, папраўдзе, рана ўсвядоміў, што праз Сойм, шляхам рэформаў радыкальныя сілы ў Польшчы не здолеюць дамагчыся зямлі, а нацыянальныя меншасці — атрымаць гарантыю не толькі на палітычнае, але і на элементарнае культурнае развіццё, захаваць сваю этнічную індывідуальнасць. І, бясспрэчна, адным з пераканаўчых, калі не самым пераканаўчым аргументам у вачах Тарашкевіча на карысць Савецкай улады, Савецкай Беларусі, было адданне зямлі сялянам, адкрыццё тысяч школ з беларускай мовай выкладання, Беларускі універсітэт, прызнанне мовы народа дзяржаўнай...

Ужо к канцу 1924 года ў соймавых выступленнях Тарашкевіча гучыць пераканание, што палітычныя і сацыяль-

ныя правы народу можа забяспечыць толькі рабоча-сялянскі ўрад, змена палітычнай структуры ў Польшчы. Ён выказвае яго адкрыта, публічна, найчасцей у канцы выступлення, тым самым акцэнтуючы ўвагу на сваім вывадзе.

Уступленне ў шэрагі камуністаў неадступны барацьбіт за ідэю суверэннай Беларусі, дома, маладой жонцы патлумачыць проста і красамоўна: «Не адна Беларусь у свеце...» На заўвагу аднаго з апанентаў, былога свайго намесніка па Беларускім пасольскім клубе «Украдуць яны ў цябе бацькаўшчыну» адкажа: «Бацькаўшчыны нікому не аддамо, ойча».

Быў пярэдадзень 1926 года, вельмі цяжкага і, можа, самага шчаслівага ў жыцці Тарашкевіча. Ён з галавой акунаецца ў вір змагання, якое закіпела на заходнебеларускай зямлі ад Стоўбцаў — Негарэлага да Беластока, ад Пінска да Дзісны. Арганізуе актыў БСР Грамады. Для гэтага яшчэ да ўступлення ў КПП ездзіў у Прагу, дзе займалася шмат беларускіх студэнтаў, быў актыўны палітычна-культурны беларускі асяродак. Летам у Радашковічах (там жыла сям'я) на базе тутэйшай гімназіі арганізуе курсы педагогаў сярэдніх школ, выступае на іх. І многія з настаўнікаў сталі актывістамі Грамады. Напісаў і апублікаваў у Бюлетэні пасольскага клуба «Беларуская сялянска-рабочая грамада» праграму новапаўсталай партыі. Выступаў на пявятовых з'ездах грамадоўцаў, дзе складвалася, мацавался сярэдняе звяно яе. Быў актыўны на пасяджэннях Сойма і ў рэдакцыі звяно яе. Друку грамадоўцы надавалі асаблівае перыядычным друку. Друку грамадоўцы надавалі асаблівае значэнне. За яго адказваў, быў рэдактарам паасобных выданняў член ЦК БСР Грамады Пётра Мятла. Грамадоўская перыёдыка пераняла ў спадчыну нямала ад газет-папярэдніц, якія прычыніліся да станаўлення грамадскай свядомасці беларускага народа.

Развіваючы ідэі, што ў нейкай меры ўжо знайшлі адлюстраванне на старонках «Вольнай Беларусі», «Дзянніцы», «Беларускай думкі», «Нашай будучыні», «Беларускіх ведамасцяў», «Змагання», у «Вольным сцягу», «Беларускай долі», «Голасе беларуса», «Сялянскай праўдзе», друк БСР Грамады надаваў ім, усяму беларускаму друкаванаму слову завершаную рэвалюцыйна-дэмакратычную скіраванасць. Жорстка праследаваны буржуазным дзяржаўным апаратам,



грамадоўскі друк настойліва нёс у народ вызваленчыя ідэі. Забароненую газету «Жыццё беларуса» змяніла «Беларуская ніва», яе, у сваю чаргу,— «Беларуская справа» і, нарэшце,— «Народная справа». Каб ахапіць уплывам розныя пласты і групы заходнебеларускага жыхарства, Грамада выдавала, акрамя таго, газету «Народны звон» (лацінкай, для беларусаў каталіцкага веравызнання), часопіс «Праваслаўны беларус». Грамадоўскі накірунак меў асветна-культурны месячнік постграмадоўскага часу «Родныя гоні», які і праз гады можа пасведчыць аб духоўным уздыме беларускіх мястэчак і вёсак часоў Грамады.

...З лета 1926 года, ужо пасля ваеннага перавароту Пілсудскага з яго праграмай «санацыі», пачаўся асабліва імклівы рост шэрагаў Беларускай сялянска-рабочай грамады. У новапаўсталую партыю, якая ставіла за мэту злучэнне ўсіх беларускіх зямель у адной рэспубліцы, перадачу зямлі сялянству, рабочы кантроль на заводах, 8-гадзінны рабочы дзень, беларускую мову ў школе, судзе і цэлы шэраг надзённых і фундаментальных правоў і патрабаванняў працоўнага народа, пайшлі цэлымі вёскамі. Сапраўды, грамадой — у Грамаду. У цэнтральным сакратарыяце ў Вільні (яго ўзначальваў настаўнік і журналіст родам са Слонімшчыны Максім Бурсевіч) нейкіх дваццаць пяць чалавек, успамінае Р. Р. Шырма, былі заняты зранку да цямна: выпісвалі новыя членскія білеты, рассылалі літаратуру, прымалі хадакоў з месцаў. Асабліва актыўна пайшлі за Грамадой Навагрудчына і Дзісеншчына. У гэтых паветах БСР Грамада налічвала больш дзвюх тысяч членаў у кожным. К восені 1926 г. у гарадах, мястэчках і вёсках дзейнічала дзве тысячы гурткоў (нізавое звяно) БСР Грамады, у якіх аб'ядналася каля ста тысяч членаў. Гэта быў фенаменальны рост палітычнага згуртавання: за нейкія паўгода ўзнікла адна з буйнейшых сялянскіх (менавіта сельскія працаўнікі складалі асноўную масу яе) партый Еўропы. З радыкальнай, фактычна рэвалюцыйна-дэмакратычнай праграмай дзеяння. КПЗБ падтрымлівала Грамаду арганізацыйна. КПП стала глядзець на грамадоўскі рух як на сур'ёзнага саюзніка вызваленчага руху ў агульнапольскім маштабе.

Нябачаны рост і папулярнасць Беларускай Грамады ў народзе моцна напалохалі намешчыкаў і асаднікаў, якіх

польскі ўрад паспеў даволі густа насадзіць на заходнебеларускіх землях дзеля каланізацыйных мэт. Позняй восенню 1926 года ў рэзідэнцыі Радзівіла сабраліся мясцовыя памешчыкі на нараду з удзелам Пілсудскага. Раіліся, што рабіць з Грамадой, як спыніць народны рух, які набыў востры сацыяльны і нацыянальны змест і напрамак, пагражае іх прывілеям, панаванню. Дэлегацыі розных правых груповак і аб'яднанняў стукалі ў дзверы Бельведэра ў Варшаве з патрабаваннем забараніць Грамаду. Віленская і варшаўская прэса правых пачала дружна травіць партыю беларускіх сялян і рабочых, абвінавачваць у падрыхтоўцы да паўстання, у тэрорах; лямантавалі, што Грамада пагражае існаванню Польскай Дзяржавы...

Адразу пасля з'езда ваяводаў у Вільні, які праводзіў сам Пілсудскі, пачаліся рэпрэсіі супраць БСР Грамады. Спачатку ў форме забарон і разгонаў рэгіянальных з'ездаў грамадоўцаў, потым — нападак асаднікаў і тайнай паліцыі на паслоў, лідэраў руху. Заставаліся лічаныя тыдні да масавых арыштаў.

Звяртаючыся да шырокай грамадскасці Польшчы з трыбуны Сойма, Тарашкевіч выступае з высвятленнем праўды аб беларускім нацыянальна-вызваленчым руху, аб праграме, тактыцы і мэтах БСР Грамады. Выступаў апошні раз з высокай трыбуны, каб пачуў увесь польскі і свой народ, можа, шырэйшы свет. У трыццаць чацвёрты раз падымаўся на соймавую трыбуну, каб абараніць кроўныя інтарэсы сейбіта і работніка, права свайго народа на развіццё культуры, сваёй нацыянальнай індывідуальнасці. Слова яго, пазначанае высокім душэўным гарэннем, сапраўдным узлётам думкі, не пакідала абыякавым ні сяброў, ні ворагаў. Праз гады, ужо ў новай Польшчы, былы маршалак Сойма Ратай у мемуарах назаве Тарашкевіча сярод трох дэпутатаў, што стваралі настрой, усю атмасферу польскага парламента 1923—1927 гадоў. Другім стары польскі палітык згадае земляка Тарашкевіча — Сільвестра Ваявудскага, заснавальніка Незалежнай сялянскай партыі, саюзніцы Грамады, постаці складанай, яркай, якая заслугоўвае адказнага і сумленнага даследавання.

Тарашкевіча дэфензіва арыштавала 14 студзеня 1927 года. З гэтага часу без малага шэсць год, з невялікім перапынкам, правеў ён у розных астрогах Польшчы. Пазбаўлены магчымасці легальнай палітычнай дзейнасці ў астрожных мурах, вярнуўся да літаратурнай, асветнай працы. Перапрацаваў з улікам пашырэння сферы ўжытку беларускай мовы, з патрэбамі навучання ў хатніх умовах (беларускія школы ўрадам былі пазачыняны) граматыку. Падрыхтаваў новае яе выданне. У чаканні суда (а рыхтаваўся ён год з лішкам) вярнуўся да перакладу «Іліяды». Аб тым, што ўжо к маю 1928 года Тарашкевічам, які знаходзіўся пераважна ў турме горада Грудзёндза, была перакладзена на беларускую мову ўся «Іліяда», упершыню публічна засведчыў вядомы польскі адвакат дэмакратычных перекананняў Эўгеніюш Смяроўскі. Палемізуючы з пракурорам, гаворачы пра тое, што на судовым працэсе над Грамадой верх узяў не пошук ісціны, уменне аб'ектыўна глянуць на з'яву адраджэння беларусаў як нацыі, а небесстаронні пагляд, шавіністычны ў аснове, ён заўважыў: «Чаму быў названы (Тарашкевіч.— *А. Л.*) пракурорам паўночным варварам? Ці не таму, што ў зняволенні пераклаў да апошняга верша «Іліяду», а цяпер перакладае на беларускую мову «Пана Тадэвуша»? Дзеля чаго называць «варварам» чалавека, які прышчапляе беларускай культуры шэдэўр польскай паэзіі, ці варта было супраць гэтага чалавека арганізоўваць судовы працэс, які цягнецца некалькі месяцаў?..» І ў заключэнне: «Тарашкевіч — гэта каштоўнасць, якую можна было здабыць для Польшчы. У Тарашкевічу збіраліся промні, што ішлі ад беларускай вёскі. Тарашкевіч быў агнішчам вялікіх сілаў, і ён гэтыя скарбы мог прынесці Польшчы не ў ахвяру, не ў выглядзе даніны, прыніжальнага дару падданага, а на аснове роўнавартаснага абмену». Падобным чынам ацэньвалі асобу Тарашкевіча, сам вызваленчы рух заходніх беларусаў і іншыя прадстаўнікі дэмакратычнай польскай інтэлігенцыі. І гэта пераканаўча выявілася на судовым працэсе над грамадоўцамі ў Вільні вясной 1928 года. У судовай зале прысутнічалі вядомыя дзеячы польскага рабочага руху, дэпутаты камуністычнай фракцыі Сойма Адольф Варскі, Генрых Бітнер і іншыя. На карысць Тарашкевіча як ідэйнага, высокамаральнага кіраўніка беларускага вызваленчага руху сведчылі дэпутат Людвік Хамінскі, былы віцэ-прэм'ер Станіслаў Тугут, прагрэ-

сіўная палітычная дзяячка Ірэна Касмоўска. Абарону актыву Грамады (56 чалавек) узялі на сябе мо самыя славутыя адвакаты даваеннай Польшчы Казімеж Петрусевіч, Аляксандр Бабяньскі, Мечыслаў Этынгер, Вітальд Абрамовіч, Тэадор Дурач... За плячыма ў некаторых з іх былі судовыя працэсы ў Вене, Берліне. Абарона пераканаўча паказала неабгрунтаванасць асноўных пунктаў абвінавачання, выстаўленага пракуратурай, а ўласна: наяўнасць у Грамадзе змовы, арганізаванай дзеля адарвання ад Польшчы і далучэння да суседняй (чытай СССР.— *А. Л.*) дзяржавы паўночна-ўсходніх ваяводстваў, шпіянаж на карысць замежнай дзяржавы, падрыхтоўка паўстання... Адвакаты заклікалі суддзяў глянуць у вочы гістарычнай праўдзе: убачыць у грамадоўскім руху не падкопы Камінтэрна, бальшавікоў, а выраз росту нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, натуральнага імкнення іх жыць паводле ўласных традыцый і ідэалаў. Якраз гэтага не магла даравацъ, не даравала Тарашкевічу і ўсім грамадоўцам польская буржуазная феміда. Не даруюць і потым. Віленскі акруговы суд прысудзіў кіраўнікоў БСР Грамады, паслоў на Сойм Тарашкевіча, Рака-Міхайлоўскага, Мятлу, Валошына да дванаццаці гадоў цяжкага зняволення. Немалыя астрожныя тэрміны атрымалі і іншыя члены грамадоўскага актыву. Падсудныя сустрэлі судовы прысуд спяваннем гімна БСР Грамады «Адвеку мы спалі». Працэс грамадоўцаў выклікаў ажыўленыя дыскусіі ў друку. Перш-наперш у Польшчы, у Вільні. Шырока асвятляла яго і каментавала савецкая прэса. Газеты «Правда» і «Известия» падавалі ўвесь яго ход, аддалі належнае дзеячам беларускага вызваленчага руху ў Польшчы. Спецкарэспандэнт з Менска Я. Паўлоўскі праз год пасля працэсу над Грамадой выдасць кнігу «Заходняя Беларусь на лаве падсудных». Аб палітычным працэсе ў Вільні над прадстаўнікамі беларускага нацыянальна-вызваленчага руху пісалі французская «Юманітэ», друк галандскіх камуністаў. Словы «Беларуская Грамада», «гурткі», «беларусы» замільгалі нават у друку Англіі і ЗША. Пасля падачы ў адстаўку міністра ўнутраных спраў Мейштовіча, які непасрэдна кіраваў акцыяй разгрому БСР Грамады, у 1929 годзе Віленскі апеляцыйны суд зменшыў турэмныя тэрміны грамадоўцам напалавіну: мусілі ўлічыць грамадскую думку



дома і за мяжой. Бо сапраўды небеспадстаўна чуліся галасы (у друку), што падобныя працэсы толькі кампраметуюць Польшчу перад светам. «Грамада прарабіла работу за цэлае стагоддзе, і след яе не затруць паны»,— папулярна пададагульніў грамадоўскі рух яго лідэр Браніслаў Тарашкевіч у размове з братамі па барацьбе і няволі ў Грудзёндзы, дзе правёў больш двух гадоў з невялікімі перапынкамі, калі вывозілі судзіць і дасуджваць. Адзін раз у Беласток, дзе іх разам з П. Валошыным судзілі за знявагу ўлад у час з'езда Грамады ў Саколцы, і другі раз у Вільню, па абвінавачанні за арганізацыю там у кінатэатры «Геліёс», супольна з дзеячамі Незалежнай сялянскай партыі, мітынгу, які перарос у сапраўдную маніфестацыю супраць рэжыму санацыі. Вясной 1930-га асуджаных грамадоўцаў чакаў сюрпрыз: іх датэрмінова вызвалілі з турмы. Гэты акт міласэрнасці ўрада меў свой палітычны разлік. Грамадоўскія лідэры, будучы ў турме, у арэоле пакутнікаў працягвалі захоўваць у свядомасці народа прыцягальную сілу, высокі аўтарытэт змагароў за народную справу. Вызваленыя, пакінутыя без магчымасці зноў увайсці ў дзейснае палітычнае жыццё, а ўрад Пілсудскага паклапаціўся пра тое, каб падобныя масавыя партыі, рухі больш не ўзніклі («Змаганне», якое падняло сцяг Грамады, затаймавалі, блакіравалі ад пачатку), былыя лідэры не ўяўлялі ўжо пагрозы ўладзе. Акрамя таго, у Савецкай Беларусі, куды скіраваны былі погляды заходнебеларускай інтэлігенцыі і сялянства, ужо пачаліся рэпрэсіі, арышты вучоных, пісьменнікаў. Можна было спадзявацца, што пры такіх абставінах грамадоўцы «адумаюцца». Некаторыя зоймуцца чыста культурнай працай, пойдуць на кампраміс з санацыяй, будуць сядзець ціха.

Тарашкевіч пакідаў астрог пратэстуючы. Выйшаўшы з Грудзёндзскай турмы, ён адразу звязаўся з бюро ЦК КПЗБ, дзе ўжо думалі, як быць з вызваленым барацьбітом, паўней скарыстаць яго магчымасці. Былі дзве думкі: пакінуць у краі, у кіраўніцтве Таварыства беларускай школы, якое такі набывала рэальнае значэнне другой лініі акопаў вызваленчага фронту, канцэнтравала ў сабе і вакол сябе рэвалюцыйна-дэмакратычна настроеную моладзь. Паводле другога меркавання, Тарашкевіча хацелі бачыць за мяжой. Была, напрыклад, ідэя даручыць яму рэдагаванне органа нацыя-

нальна-вызваленчага руху левага напрамку, які праз нейкі час КПЗБ пачне выдаваць у Берліне: да фашызацыі Германіі там, дарэчы, знаходзіўся адзін з замежных цэнтраў кампартыі Заходняй Беларусі. Былі, трэба думаць, і яшчэ нейкія варыянты, што датычылі лёсу Тарашкевіча, постаці, якіх няшмат было ў шэрагах КПЗБ.

А пакуль што лета 1930 года Тарашкевіч праводзіць з сям'ёю ў Радашковічах. Тут жыве яго жонка Вера, дачка беларускага культурна-асветнага працаўніка А. К. Сніткі, пляменніца былога рэдактара «Нашай нівы» Аляксандра Уласава, і сын, якому было два гады, калі за бацькам замкнуліся дзверы астрога. Фотаздымак, якіх не так шмат засталося ад гэтага нядоўгага, драматычнага жыцця, адлюструе ўсмешлівага Тарашкевіча, шчаслівага мужа і бацьку, побач з пяцігадовым сынам Радаславам і жонкай на фоне абвітай дзікім вінаградам альтанкі. Ні на момант яго не пакідала ў спакоі тое, што робіцца ў краі, у свеце, сведчаннем чаму можа быць адозва былога дэпутата на Сойм Тарашкевіча, звернутая да народа. Ён вяртаецца да літаратурнай працы. Передрукоўвае на машынцы пераклад «Іліяды», думае аб выданні. Думка пра публікацыю гэтага вялікага помніка антычнай літаратуры па-беларуску глыбока імпануе яму і як пісьменніку, і як вучонаму, і як палітыку. Перанясенне на беларускую культурную ніву такой мастацкай глыбы, як «Іліяда»,— хіба не падмога духоўнай сіле яго народа?

«Літаратурная перадышка» была кароткая. Увосень таго ж трыццатага ў Вільні, якая была тады цэнтрам беларускага культурнага і грамадскага жыцця, узнік Беларускі цэнтральны сялянска-рабочы выбарчы камітэт «Змаганне». Б. А. Тарашкевіч абіраецца старшынёй яго, за сакратара — адзін ацалелы ад арыштаў, выбраны ў 1928 годзе ад клуба «Змаганне» дэпутат на Сойм Іван Грэцкі і казначэем Міхал Верамей, які толькі што скончыў Пражскі універсітэт. Выбарчая кампанія ў новы, пасля распушчанага Пілсудскім, Сойм была выключна цяжкая для ўдзельнікаў вызваленчага руху Заходняй Беларусі. Улада зрабіла ўсё, каб паралізаваць передвыбарчую акцыю камуністаў і саюзных ім рэвалюцыйных прадстаўнікоў нацыянальна-вызваленчага руху. Агенты дэфензівы хадзілі літаральна па пятах. Былыя



дэпутаты-грамадоўцы і сакратар БСР Грамады М. Бурсевіч, уцягнутыя ў передвыбарчую барацьбу, змушаны былі перабрацца на нейтральную тэрыторыю, у Гданьск, каб пазбегнуць арышту і па магчымасці адтуль кіраваць агітацыйнай работай. У Гданьск перабраўся і Тарашкевіч. Але амаль адразу давялося выехаць у Берлін, у бюро ЦК КПЗБ. Дарэчы, пасля прыходу да ўлады Гітлера, яно перабралася ў Прагу, адкуль было лягчэй ажыццяўляць сувязь з краявым сакратарыятам, які ў сувязі з рэпрэсіямі пілсудчыкаў супраць кампартыі знаходзіўся ў глыбокім падполлі. У Берліне Тарашкевіч удзельнічаў у пасяджэннях бюро ЦК КПЗБ, рэпрэзентаваў беларускі сялянскі рух на Еўрапейскім сялянскім кангрэсе.

Знаходзячыся на нелегальным становішчы, Тарашкевіч нядоўга заставаўся на волі. У лютым 1931 года ён быў арыштаваны ў Тчэве ў транзітным цягніку Гданьск — Берлін, практычна на нейтральнай тэрыторыі, што пераканала яго ў супрацоўніцтве польскай дэфензівы з нямецкай палітычнай паліцыяй. Пры Тарашкевічы былі звесткі, сабраныя КПЗБ, што датычылі выбарчай кампаніі ў Сойм, а таксама аналітычны матэрыял аб беларускім нацыянальна-вызваленчым руху з прозвішчамі паасобных яго ўдзельнікаў. Цяпер следства, абвінаваўчыя органы польскага правасуддзя мелі ў сваіх руках канкрэтныя факты сувязі Тарашкевіча з кампартыяй.

У лістападзе 1932 года Віленскі акруговы суд зноў, ужо каторы раз, судзіў Тарашкевіча. Гэтым разам не як ідэолага і кіраўніка беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, а як камуністычнага дзеяча. Прысуд быў жорсткі, як звычайна пры працэсах над камуністамі-падпольшчыкамі,— восем год турмы і на дзесяць гадоў паражэнне ў правах. На судзе Тарашкевіч, як заўсёды, трымаўся з годнасцю і, паводле сцвярджэння нават тых журналістаў, якія не падзялялі яго поглядаў, суд ён выйграў палітычна. Публічна адмежаваўся ад тых беларускіх дзеячаў, што, няхай сабе і з тактычных меркаванняў, пайшлі на кампраміс з рэжымам санацыі. Абараняў пастулаты самавызначэння беларускага народа. Хоць у прыналежнасці да кампартыі не прызнаваўся, сваё палітычнае крэда выказаў адкрыта, палітычных сімпатый не хаваў: «Можаце мяне за гэта судзіць на

смерць, але капіталізм — фармацыя мінулага, на змену яму прыйдзе новая сацыяльная сістэма». Паўтарыў не раз выказанае сваё перакананне: «У Саветах будуецца беларускі Дом», г. зн. ажыццяўляюцца суверэнныя правы беларускага народа.

Апошні арышт, следства, астрожнае ўтрыманне Тарашкевіча ў Польшчы былі асабліва суровыя. З цэнтральнай варшаўскай турмы яго хутка перавялі ў турму ў Гродне, трымалі ў халоднай і сырой камеры. Тут, у горадзе «старажытным і прыгожым», як пісаў пра яго адвакату Тэадору Дурачу, правёў Тарашкевіч больш за два гады. Вера ў справядлівасць ідэі, за якую змагаўся, увага таварышаў па барацьбе, родных, перш-наперш жонкі, ды лапінка блакіту праз закратаванае акно падтрымлівалі ў ім сілу духу. І яшчэ праца. Хоць з пачатку 30-х астрожны рэжым у даваеннай Польшчы зрабіўся больш жорсткі, а ў Тарашкевічы ўлады бачылі паслядоўнага і моцнага праціўніка рэжыму і таму імкнуліся трымаць ізалявана, мінімум правоў, якія належалі палітзняволеным, ён меў. Абмяжоўваўся спіс выданняў, якімі мог карыстацца. Асабліва перыёдыкі. Дый кніг. Выручалі турэмны камітэт, жонка, якая здолела перадаць мужу нават пільна патрэбную яму на той час «Дзяржаву і рэвалюцыю» Леніна. Дзякуючы Веры Андрэеўне, меў у камеры «Очерк сравнительной грамматики индоевропейских языков», «Рытм» Андрэя Белага, «Северобелорусские говоры» прафесара Растаргуева, стос слоўнікаў. Тое-сёе далі ў турэмнай бібліятэцы, напрыклад «Кнігу песень» Г. Гейнэ ў арыгінале, вельмі дарэчную ў астрозе «Гімнастыку» Мюлера і інш. Большасць кніг з гэтага спісу патрэбна была канкрэтна для працы. Пачаты ў Грудзёндзскай турме пераклад «Пана Тадэвуша» пасля вялікага перапынку пайшоў добра. Можа, таму, што побач, непадалёк ад турэмных муроў, ляжала Навагрудчына, зямля, што сваімі легендамі, паданнямі, краявідамі напаіла гэты шэдэўр сусветнай літаратуры, нарадзіла геніяльнага яго творцу.

Даводзілася эканоміць паперу, улічваць кожны аркуш. Добра: вершы можна было трымаць у памяці, на чарнавік накідваць найбольш цяжка пераадольнае. Часам працаваў апантана. Пад крокі ў рытм строф радкі з мовы арыгінала набывалі новы слоўна-вобразны каларыт, сэнс іх яснеў новым адценнем. Тлумачэнне, пераклад — цуд перамовы, паразову слоў, моў. Пераўтварэнне — і ў колеры, і ў пластыцы, і ў музыцы гукаў. Дзякуй Міцкевічу. Каля года яго суайчыннік жыў у свеце вобразаў паэмы: вясной 1931 года Тарашкевіч засеў тут над ёй, у студзені трыццаць другога некалькі брульёнаў з поўным перакладам на мову беларускую, завізіраваных турэмнай адміністрацыяй, пераслаў на дэпазіт у Вільню. Цяпер марыць аб пераводзе ў віленскую турму Лукішкі. Пасля зацвярджэння ў сакавіку 1933 года апеляцыйным судом прысуду акруговага суда спецыяльнай заявай просіць пракурора перавесці ў Лукішкі. Просьбу матывуе дзвюма прычынамі: хацеў бы ўбачыць старэнькую маці, якой у Гродна не дабрацца, другая — абумоўлена характарам занятку. Спадзяецца, што пракурор урэшце ўважыць яго «філалагічнае рамяство»: працуючы над гістарычнай граматыкай беларускай мовы, меў патрэбу ў першакрыніцах, выпісках з старалітаратурных помнікаў, якія былі ў Вільні. У гэтым звароце Тарашкевіча да судовай улады сапраўды не было ўкрытага сэнсу. У Гродзенскай турме, закончыўшы пераклад «Пана Тадэвуша», Тарашкевіч засеў за вывучэнне спецыяльнай літаратуры па лінгвістыцы. Напісаннем гістарычнай граматыкі беларускай мовы хацеў заявяршыць фундамент пад шырокае навуковае яе пазнанне. Як філолаг і палітык, глыбока разумеў значэнне мовы для жыцця народа, гістарычнага лёсу яго.

Просячы пра аблягчэнне сустрэчы з маці, прадчуваў, што бачыцца з ёй апошні раз. З падпольных каналаў КПЗБ даведаўся: адпаведныя савецкія ведамствы прадпрымаюць крокі для яго вызвалення.

Тым часам абмен зацягваўся, і толькі ў верасні 1933 года Тарашкевіч здолеў перaступіць польска-савецкую граніцу ў Коласаве, каля Негарэлага. З савецкага боку ў Польшчу ішоў яму насустрач Францішак Аляхновіч. Драматург быў старэйшы за Тарашкевіча гадоў на дзесяць. У студэнцкія гады, прыязджаючы ў Мацюлішкі, Браніслаў удзельнічаў у пастаноўцы яго п'есы «Птушка шчасця». Пазней у «Руні» рэцэнзаваў спектакль па ёй. Папраўдзе, не так спектакль, як саму п'есу. Лічыў талент аўтара перспектыўным. Цяпер, праз гады, бачыў, што значных ідэйна-мастацкіх вышынь пісьменнік не дасягнуў. Забаўляўся сюжэтам, часам

грашыў мяшчанскай тэматыкай. Хіба што яго «Нясконченая драма»?.. Драма не скончана. Даўно разышліся іх дарогі. На розных шляхах шукалі яны ісціну. Па-рознаму ўяўляюць будучыню свайго народа. Памыляецца нехта адзін ці абодва? Пазней у сваіх лагерных мемуарах Аляхновіч апіша іх кароткую, пры ўзброеных сведках, сустрэчу на граніцы. Папракне Тарашкевіча за тое, што захапіў моладзь сваімі словамі, неапрабаванымі жыццём ідэямі, уцягнуў у Грамаду і тым самым асудзіў на незаслужаныя пакуты: драматург ужо сустракаў іх на Салаўках сярод сасланых былых грамадоўцаў.

У Менску Тарашкевіча сустрэлі як пакутніка і героя — аўтарытэтнага, на той час аўтарытэтнейшага не было — прадстаўніка няскоранай, змагарнай Заходняй Беларусі. Але сустрэч было мала, зусім мала. Наведацца б у Акадэмію навук, сапраўдным членам якой ён быў абраны яшчэ пры яе заснаванні, увосень 1928 года. Тады гэту радасную вестку яму выстукалі марзянкай у Грудзёндзскай турме. Не прыйшлі ні Сымон Рак-Міхайлоўскі, ні Пётра Мятла, ні Павел Валошын, ні Максім Бурсевіч, з кім дзялілі радасці і горыч у часы грамадоўскай «паводкі». Ведаў, што даўно ў Менску. Працавалі хто ў камісіі па вывучэнню Заходняй Беларусі пры Акадэміі, хто стаў членам ЦВК... На сустрэчы не прыйшлі ні знаёмы з часоў Менскага педінстытута Усевалад Ігнатоўскі, ні акадэмікі У. І. Пічэта і Аркадзь Смоліч, якім належала б сказаць слова ўдзячнасці за актыўную дзейнасць у Камітэце ў абарону Грамады. Не ўдалося ўбачыць і Янкі Купалы, а так трэба, так важна было б пачуць цяпер яго слова...

Апякалі яго новыя людзі. Прыспешвалі ехаць у Маскву. Месца яго працы было вызначана загадзя. У Камінтэрне Тарашкевіча ацэньвалі перш-наперш як кіраўніка дэмакратычнага сялянскага руху. На сам сялянскі рух тады, згодна з тэорыяй, глядзелі як на рух, які падрывае асновы капіталізму, а значыць — саюзны рабочаму класу ў яго вызваленчай барацьбе. Цяпер ад практычнай работы па рэвалюцыйнай арганізацыі сялян ён мог перайсці да тэарэтычнага асэнсавання ўцягвання сялянства ў барацьбу не толькі за рэвалюцыйна-дэмакратычныя, але і сацыялістычныя ідэалы.



З канца 1933 года Тарашкевіч — навуковы супрацоўнік Міжнароднага аграрнага інстытута ў Маскве, які ўзначальваў балгарскі камуніст Васіл Калараў. Адзін час Тарашкевіч загадвае аддзелам Польшчы і Прыбалтыкі гэтага інстытута. Жыве спачатку ў Мопраўскай гасцініцы, што ля Кузнецкага моста. Пазней, ажаніўшыся з Палянскай Нінай Аляксандраўнай, атрымаў пакой у кватэры венгерскага палітычнага эмігранта Хевешы, які ў 1937 годзе паехаў у Іспанію.

Ніна Аляксандраўна ўспамінала, што Тарашкевіч прытрымліваўся даволі строгага рэжыму. Працаваў многа. Гэта пацвярджаюць публікацыі. Вывучаў сутнасць аграрных адносін у Польшчы, Японіі, Кітаі, гітлераўскай Германіі. Ацэньваў тэндэнцыі ў гаспадарчым становішчы гэтых краін. Друкаваўся ў часопісе МАІ «Аграрные проблемы», у зб. «Польская вёска ў час крызісу». Ужо ў 1935 годзе асобнай брашурай выходзіць яго праца «Як жывуць сяляне за мяжой». Пры ўсёй занятасці навукова-даследчай працай, літаратурных клопатаў не пакідаў. У сакавіку 1935 года ў часопісе «Полымя рэвалюцыі» знаёміць савецкага чытача з беларускім тэкстам «Іліяды», грунтоўным артыкулам уводзіць яго (чытача) у праблемы, звязаныя з вывучэннем гамераўскага эпасу, раскрывае яго ідэйна-вобразную адметнасць.

Удзельнічаў у дыскусіі, якая распачалася ў газеце польскіх палітычных эмігрантаў «Трыбуна радзецка» з нагоды стагоддзя выхаду ў свет паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш». Асэнсоўваў гэты вяршынны твор польскай паэзіі з сучасных пазіцый. Прызнаваўся жонцы, што рад бы пакінуць навуковую працу дзеля адной літаратурнай. Можа, бачыў большую перспектыўнасць у ёй для сябе, народа свайго — цяжка сказаць. Ад Беларусі цяпер быў недалёка і няблізка. Зрэдзь часу яго адведвалі землякі, якія вярталі да ўспамінаў пра Вільню, Менск. Верыў у тое, што даводзілася чуць пра ўсё новых выкрытых ворагаў народа? У тым ліку сваіх паплечнікаў Рака-Міхайлоўскага, Мятлу, Валошына, іншых, якіх цяпер абвінавачвалі ў адваротным — спробе далучыць не Заходнюю Беларусь да Савецкай, як было ў польскім судзе, а Савецкую да Польшчы. Мог паверыць у такую злосную інсінуацыю? Пэўна, не.

Мусіў лічыцца з рэальнасцю жорсткіх (неўзабаве ён перараканаецца на ўласным лёсе), найпадлейшых абставін.

6 мая 1937 года наступіў і яго, Тарашкевічаў, чарод. Не было суджана збыцца самай бліжэйшай мары — трапіць у інтэрбрыгаду ў Іспаніі, дзеля чаго апошнім часам браў у рукі іспанска-рускі слоўнік. Былі з Нінай у таварыша па рабоце, польскага камуніста Міхальчука, калі прыйшлі арыштоўваць. Вярнуліся ў свой пакой ужо ў суправаджэнні двух вайсковых і цывільнага. Гэты апошні яшчэ днём было замаячыў на парозе кватэры Тарашкевічаў. Цяпер, пасадзіўшы сядзець яе гаспадароў, рабілі вобыск — звычайную працэдуру, знаёмую Тарашкевічу з часоў дачынення з польскай дэфензівай. Праўда, былі новыя нюансы. «Зглядзеўшы ў руках Браніслава Адамавіча ручку,— успамінала жонка,— яхідна заўважыў: «Яна Вам болей не спатрэбіцца». Ніне Аляксандраўне, якая збірала мужу сякія-такія рэчы ў невядомую дарогу, са злосцю кінуў: «Канчайце! Не на курорт збіраеце...»

Праз месяц арыштавалі і Ніну Аляксандраўну. Дзякаваць богу, паспела перадаць малодшай сястры Галі на захаванне сем сшыткаў з перакладам «Пана Тадэвуша». Была б у хаце карэктура «Іліяды», можа б, патрапіла прыхінуць і яе...

Ніну Аляксандраўну, якая сядзела дзевяць месяцаў у Бутырскай турме, на допыты не выклікалі. Неяк раз адна жанчына, вяртаючыся з допыту, кінула ей: «Ваш муж Тарашкевіч — шпіён сапраўдны і Вам лепш расказаць следчаму ўсё, што ведаеце». Але выкліку да следчага так і не было. Відаць, не трэба было ніякіх сведчанняў. Усё вызначалася зверху. Было прадвызначана. Злачынная рука, якая ўзурпіравала ўладу ў народа, здабытую ў Рэвалюцыі, знішчала ўсё жывое ў краіне, лёгка дацягнулася і да сусветнага камуністычнага руху, балазе Камінтэрн знаходзіўся ў Маскве.

Пра некаторыя жыццёвыя сітуацыі, перажыванні кажуць: «Можна ўявіць... Не цяжка ўявіць...» Цяжка ўявіць, нельга ўявіць усё, што давялося перажыць Тарашкевічу ў руках людзей, якія не ведалі права і закона, бясспрэчна падпарадкаваныя машыне тыраніі. А на Кузнечным мосце, 25 і ў Пішчалаўскім замку ў Менску ён правёў больш чым



паўтара года. Гэта было змаганне, цяжэйшае за ўсе ранейшыя яго змаганні, хоць і там хапала подласці, зла, супраць якіх даводзілася стаяць і выстаяць.

Былы падпольшчык, адзін з сакратароў ЦК КПЗБ Іван Фёдаравіч Сяменікаў, цудам ацалелы ў кашмары рэпрэсій трыццатых, бачыў Браніслава Тарашкевіча позняй восенню 1938 года, паводле яго слоў, за дзень да смерці вучонага-рэвалюцыянера. Аднойчы Сяменікава, які быў дапытваны самім наркомам Берманам і ўжо другі год сядзеў у камеры смяротнікаў, раптам кінулі ў агульную цэлю. Тут убачыў Тарашкевіча, былога старшыню БСР Грамады, прызнанага вучонага. Пазнаў толькі дзякуючы яго характэрнай знешнасці. Тарашкевіч у размове прызнаўся, што ён ужо падпісаў усё, што ад яго патрабавалі следчыя. «Што Вы нарабілі?!» — закрычаў на яго сабрат па вызваленчай барацьбе і няволі. «Ужо ўсё роўна. Заўтра мяне расстраляюць»,— сказаў Тарашкевіч спакойна, як аб нечым староннім.

І, як пацверджанне сказанага асуджаным, яму прынеслі сапраўдны, не турэмны сняданак.

У даведцы аб рэабілітацыі вучонага, выдадзенай жонцы, як звычайна ў такім дакуменце (хто палічыць, колькі іх выдадзена і не выдадзена) сказана, што «справа па абвінавачанню Б. А. Тарашкевіча перагледжана Ваеннай Калегіяй Вярхоўнага суда СССР 26 студзеня 1957 года і з-за адсутнасці саставу злачынства спынена». Пазначаны час смерці рэабілітаванага — 1941 год і дата. Супрацоўнік КДБ пры гэтым (а спецслужба ў той час, пасля авантурнай спробы Берыі «змяніць каравул», абнавілася за кошт партыйных і камсамольскіх работнікаў) сказаў Ніне Аляксандраўне, што ўказаныя ў даведцы дата і прычына смерці — ліпа.

Цяпер мы ведаем, што гэта была хлусня не толькі ў дачыненні да памяці Тарашкевіча. Польская даследчыца, аўтар манаграфіі пра Тарашкевіча Аляксандра Бергман называе не фальсіфікаваную дату знішчэння вучонага і рэвалюцыянера — 29 лістапада 1938 года. Яна супадае і са сведчаннем былога падпольшчыка Сяменікава. Трагічны лёс бацькі падзяліў і сын Тарашкевіча і Веры Андрэеўны

дзевятнаццацігадовы Радаслаў. Праўда, у іншых умовах. Загінуў як партызанскі разведчык на возеры Палік за некалькі дзён да вызвалення ад гітлераўцаў роднай зямлі летам 1944 года.

* * *

Літаратурная спадчына Браніслава Тарашкевіча, хоць жыццё таленавітага пісьменніка і вучонага было рана абарвана,— даволі багатая і разнастайная. Яе складаюць публіцыстыка, літаратуразнаўства і пераклады. Калі крытычныя і літаратуразнаўчыя нататкі Тарашкевіча могуць толькі засведчыць аб нерэалізаваных магчымасцях яго ў гэтым жанры, то мастацкая публіцыстыка і пераклады — бясспрэчны здабытак усёй беларускай літаратуры і культуры ў цэлым.

Публіцыстычная творчасць Тарашкевіча ўзыходзіць да лепшых нацыянальных традыцый у гэтым жанры — рэвалюцыйна-дэмакратычнай грамадскай думкі К. Каліноўскага, яго «Мужыцкай праўды». Яна ўключае пытанні асветы, мовы. Аднак карэнныя праблемы публіцыстычных выступленняў Тарашкевіча — гэта сацыяльныя і палітычныя правы беларусаў як народа. Па глыбіні і сіле думкі, грамадзянскай скіраванасці, інтэлектуальнай напоўненасці яна, безумоўна, належыць да вяршынных з'яў беларускай публіцыстыкі першай чвэрці XX стагоддзя. Увабраўшы ў сябе надзённыя сацыяльныя і нацыянальныя праблемы свайго часу, яна захоўвае не толькі гісторыка-культурную цікавасць, а даносіць да нашага часу, які дапытліва глядзіць у будучыню, атмасферу і практыку перыяду актыўнага палітычнага жыцця народа. Яна тычыцца многіх фундаментальных праблем, якія маюць непрамінальнае значэнне для жыцця нацыі. Нарэшце, праніклёнае, мужнае, палымянае слова Тарашкевіча даносіць да сучаснага пакалення, што заступае на новы грамадскі рубеж, непаўторны вобраз эпохі барацьбы і надзей.

Укладальнік усведамляе, што ўступнае слова да «Выбранага» Браніслава Тарашкевіча, складзенага ў асноўным з публіцыстыкі, не дае поўнага, тым больш дэталізаванага вобраза спадчыны чалавека, які так арганічна спалучаў у



сваёй асобе вучонага, палітыка і пісьменніка. Няма ў ім і вельмі нялішняга ў такім разе накіду гісторыі вывучэння і публікацыі напісанага Тарашкевічам. А між тым гэта апошняе не толькі і, мабыць, не столькі пытанне даследчыцкай і эдытарскай этыкі. Такое высвятленне — у пэўнай меры і перадумова далейшага паспяховага збору і асэнсавання спадчыны аднаго са славутых прадстаўнікоў духоўнасці Беларусі, яе апосталаў.

Згадаем, што вывучэнне і публікацыя твораў Б. Тарашкевіча і яго перакладаў сусветнай класікі пачаліся неўзабаве пасля пасмяротнай рэабілітацыі аўтара — у канцы 50-х — пачатку 60-х гадоў.

Першымі вызначылі ўклад Тарашкевіча філолага, лінгвіста ў беларускае мовазнаўства і практычную асвету народа даследчыкі А. Яновіч, А. Шакун, Ф. Янкоўскі, І. Крамко. На жаль, да гэтага часу застаецца неперавыдадзенай фундаментальная праца Тарашкевіча ў гэтай галіне, яго «Беларуская граматыка».

Толькі праз дваццаць з лішнім год пасля публікацыі першых фрагментаў Тарашкевічавага перакладу «Пана Тадэвуша», дарэчы, адразу аўтарытэтна ацэненага Яраславам Івашкевічам, у Мінску і ў Ольштыне амаль у адначассі выйшаў асобным выданнем гэты шэдэўр польскай літаратуры ў беларускім перакладзе. Зроблена нямала і па вывучэнні грамадска-палітычнай дзейнасці Б. А. Тарашкевіча, напісана яго палітычная біяграфія (А. Бергман).

Аднак і надалей застаецца несабраная ўся публіцыстычная і асабліва перакладчыцкая спадчына вучонага і пісьменніка. Перш-наперш з-за таго, што не франтальна прасочаны польскі і ўвесь заходнебеларускі перыядычны друк 20—30-х гадоў, а па-другое, не ўсе псеўданімы Тарашкевіча расшыфраваны.

Асабліва вялікую культурна-грамадскую каштоўнасць прадстаўляе зроблены Тарашкевічам пераклад «Іліяды» Гамера, да сягоняшняга дня яшчэ не знойдзены. Настойлівы і шчаслівы даследчык архіваў і спецсховаў мог бы падзяліць з аўтарам перакладу глыбокую ўдзячнасць нашчадкаў. Будзем жа верыць, што лёс на гэты раз будзе спагадны да нас і такое адкрыццё здарыцца.

АРСЕНЬ ЛІС

## НЕ ПАКІДАЙЦЕ СВАЁЙ МОВЫ

...каб не памерлі — гэта праўдзівая перасцярога павінна пастаянным рэхам адбівацца ў душы кожнага беларуса і зрабіць яго слугой хараства слова. Так, хараства праўдзівага слова! Не пужайцеся толькі ж, не заву я да якога там «букваедства» — не, крый мяне божа,— хай сабе розныя вучоныя, калі ім ахвота, разбіраюць усё па рэбрах, скуль што і якое — яны анатомы, у трупах шукаюць загадку жыцця, і добра, калі што знаходзяць. А я вось што хачу сказаць.

Зык, літара — гэта толькі цень, а слова — кроў і косць, жывое цела ў нашых душах, дарагое, майстэрнае начынне — у ім наш духовы набытак.

Кожны народ мае сваю асобную мову, і асобнасць яе ні ў самых зыках — тое самае здаецца, а не — от, бач, не тое, нейкі асобы змест, што і аб'ясніць не ўмееш, хоць і добра чуеш. Вот гэтае «нешта неякае», звязанае неразрыўна з душой народа, прыдае кожнай мове той асобны цэмент, што звязвае ў адно народнае, «нацыянальнае» ўсе яго думкі і перажыцця. Праўдзівей было б гаварыць «перавярнуць» з адной мовы на другую, чым «пералажыць». Дарагое, але крохкае, кволае начынне гэта мова, дык глядзіце сцеражыце, стройце яго квяцістымі аздобамі, бо змест нашых думак, нашае «я» можа разліцца і паплыць у прочкі... Скажыце, ці ж харашэйшая была бы зямля, каб гэдак усе што ні ёсць рэкі і азёры — шусь і пераліліся ў акіяны!.. Усё абярнулася б у нейкую Сахару.



Але не ўсе ж мы такія ўжо майстры, можа, хто скажа, каб добра знацца на слове.

Праўда, мала ў нас майстроў прыгожага слова, ці ў пісанні, ці проста сабе ў звычайнай гутарцы. Але ёсць на гэта адна і, мусіць, адзіная рада: уважна прыслухайцеся да таго, як гамоніць сабе «просты» наш народ. Толькі ж умець прыслухацца — колькі ў гэтай прастаце хараства, сілы і багацця тонаў! Дый што тут лішне распісваць — хто мае вушы, каб чуць — хай слухае. Кіньце ўсе там розныя граматыкі ў кут, калі шкода ў печ, і самыя вучыцеся гаварыць ад народа. Затое вазьмéце ў рукі аловак і кусок паперы і пастарайцеся запісаць казку, легенду, песню, прыказку, загадку, цікавае слова зусім так, як гаворыцца, без усякіх «правільнасцяў» і граматычнасці. Усё гэта можа даць вельмі шмат цікавага, этнаграфічнага матэрыялу, збагаціць мову. Запісваючы ўсё гэта, трэба падробна сказаць, дзе запісана, ад каго (баба, дзед, хлапец, дзяўчына, век, граматны ці не). Часта бывае, што цікавей і патрэбней запісваць ад старых, бо гэта можа з імі ўцячы на той свет, але ведама, і маладыя часта расказываць гàды. Толькі яшчэ раз кажу — **нічога не выкідаць і нічога не дадаваць ад сябе.** Добра было б запісаваць песні, хто можа, з нотамі — але што зробіш, як хто не ўмее; трэба толькі напісаць, калі песня пяецца, значыцца, пры якім здарэнні. Цікавыя словы трэба запісаваць ці адным, асобна, а з цэлым зваротам мовы, каб лепш можна было зразумець, што яно азначае; не забывацца паставіць націск. Такія словы з іх цікавейшымі адменамі можна перапісаваць на картачкі ў алфавітным парадку — бач, і ўжо месны слоўнік, вельмі важны і патрэбны матэрыял да агульнага вялікага беларускага слоўніка. Хай кожны збірае тое, што яму па душы — хто што любіць: хто песню, хто казкі і легенды,

а хто кароткія рэчы — прыказкі, загадкі... ці мала што каму да ўпадобы.

Шмат эстэтычнага і маральнага задавальнення даець такая работа, шмат навукі дайжа, толькі трэба ўчуцца, услухацца і любіць харاство прастаты...

Сабраныя матэрыялы, калі хто не можа сам выкарыстаць, прысылаць можна хоць у Вільню: Беларуская кнігарня, Завальная 7, хоць у якое-колечы навуковае таварыства, калі б такое знайшлося.

Тарас Язычнік

## АД РЭДАКЦЫІ

Вось выпускаем на свет першы номер «Сябры». Мо з першага разу не зусім будзе ясна, аб чым у гэтым месячніку мае ісці гутарка, якія сабе мэты паставіла рэдакцыя. Дык просім крыху ўвагі.

Цяпер ідзець вялікая барацьба народаў, а пасля вайны наступіць вялікі пералом у жыцці. На гэта ўсе гатуюцца. Не можна ж і нам сядзець завязаўшы вочы, трэба кратацца і думаць, каб сёння не быць сляпым — і на заўтра мець гатовую думку. Вось на страніцах «Сябры» і хацелася б бачыць усё тое, што звязана з жыццём Беларусі — ці з сучасным яе палажэннем, ці з мінуўшчынай.

Гэта значыць, беларускі народ і яго суседскія справы, эканамічнае жыццё — гаспадарка Беларусі, яе гісторыя і ўсё тое, што належыць да беларускай мовы і пазнання народу ў яго творах, жыцці, звычаях — усё гэта можа знайсці сабе месца ў «Сябры». «Сябра» будзе таксама старацца не абмінуць таго,



што звязана з сучасным жыццём на Беларусі. Але рэдакцыя хацела б даць яму больш трывалае значэнне — каб гэта быў месячнік беларускай справы, дзе б з разных, часам супярэчлівых, поглядаў магла б тварыцца адзіная і згодная беларуская думка. Патрэба такой працы канешная і хіба што ўсім відомая. Дзеля таго кожан, хто хоць крыху што можыць, хай тое прыложа да гэтай будоўлі. Добра часам хоць падаць якую думку, задаць якое пытанне. Думка дарма не згініць, мо другі хто калі на яе адкажа. Рэдакцыя «Сябры» хоча даць месца для ўсіх і для рожных думак.

Ад рэдакцыі Б. Тарашкевіч

## ЗА НАШУ І ВАШУ СВАБОДУ

Перад намі во другі ўжо номер «Głosu Młodych» (Голас маладых). Гэта орган паступовай польскай моладзі выдаецца ў Пецярбурзе пры газеце «Dziennik Petérsburski». У гэтым нумары звяртае нашу ўвагу стацця пад загалоўкам «W kwestyi narodowościowej». Зачынаецца яна словамі «за нашу і вашу свабоду». І сапраўды, добра так пачаў аўтар, бо відаць, што ён так і чуе і думае. Ён патрыёт, але не з тых, што крычаць на ўвесь свет толькі тады, як іх саміх б'юць, а самі маўчком рады паласаваць на чужы шчот. Шырокія масы, просты народ у яго на першым плане, і ён добра разумее, што справа дэмакратычная дужа цесна звязана з нацыянальнай свядомасцю шырокіх масаў простага народу — «бо для працуючага народу, а не для ўпрывілеяваных станаў нацыянальная справа — справа жыцця і смерці». Прыпомнім тут ад сябе сло-

вы нашага песняра: «Не забывайце мовы вашай, каб не памерлі».

Родная мова ў урадзе, у школе найпатрэбней якраз для простага народу, каб зразумела йшлі ў галаву патрэбныя рэчы. Дзеля гэтага канешнай патрэбай дэмакратызацыі ёсць дэмакратызацыя культуры — без гэтага свабоды палітычныя — адна мёртвая літара. Так аўтар глядзіць на справу роднага народу і гэтага самага жадае ён і другім, а найбольш маладым народам, сваім суседам. З імі ён хоча жыць у прыязні і братэрскай згодзе. А што гэта шчыра, відаць хоць бы з такіх словаў: «Мы павінны зусім шчыра прызнаць нацыянальныя правы гаспадароў даўнага краю, падтрымліваць іх думкі нацыянальныя, прызнаць ім права гаспадараваць на сваёй этнаграфічнай тэрыторыі і нягледзячы на тое, што яны развіваюцца коштам польскага стану ўласнасці (stanu posiadania). Гэту дужа сімпатычную праяву думак польскай моладзі павінны міла прывітаць і мы, беларусы, маючы надзею, што з такімі людзьмі можна ў згодзе і папраўдзе йсці к «нашай і вашай свабодзе».

Тарас на Парнасе

## АДАМ ГУРЫНОВІЧ

Шчаслівым здарэннем захавалася і цяпер можа паказацца на свет у друкаванай вопратцы невядомая дагэтуль літаратурная спадчына Адама Гурыновіча, беларускага паэта канца 80-х і пачатку 90-х гадоў. Не кажучы ўжо аб тым, што, як пабачым ніжэй, Адам Гурыновіч з'яўляецца аўтарам аднаго з найбольш папулярных беларускіх «вандроўных» вершаў, г. ё. «Панскае ігрышча»,— яго літаратурная творчасць,



змяшчаючая ў сабе столькі грамадскага і свядома нацыянальнага элементу, выклікае ў нас глыбокае зацікаўленне і вялікі жаль у беларускім сэрцы да тагачасных варункаў жыцця і бязлітаснага лёсу, які ў маладых гадах зламаў кволае жыццё песняра, не пазволіўшы дайсці яму да магчымага развітку і велічыні.

Адам Гурыновіч, сын Каліста і Элеаноры з Сяняўскіх Гурыновічаў, радзіўся ў двары сваёй маці Кавалёх Віленскай губерні Вілейскага павету ў 1869 годзе. Скончыўшы Віленскую рэальную школу, паехаў у тэхналагічны інстытут у Пецярбурзе, дзе спецыяльна займаўся паляпшэннем паравозаў і ў гэтым пытанні меў быць, як кажуць, на дарозе да важных і цікавых вынаходніцтваў (навуковыя рукапісы разам з часткай літаратурных знішчаны перад адным з вобыскаў).

У 1893 годзе за прыналежнасць да рэвалюцыйнага руху Гурыновіча арыштавалі. Справа яшчэ пагоршылася, калі сярод яго папераў знайшлі напісаны ім беларускі верш, у якім ён заве беларускі народ прачнуцца і скінуць з сябе царскае ярмо. Прабыўшы блізка году ў Петрапаўлаўскай крэпасці, Гурыновіч моцна занядаў на здароўе і быў зволены пад нагляд паліцыі ў двор бацькі свайго Крыстынопаль, Свянцянскага павету, дзе пасля колькі дзён захварэў на чорную воспу, прывезеную з паўночнай сталіцы, і памёр 14 студзеня 1894 г.

Пахаваны ў Крыстынопалі ў фамільных грабніцах. Яшчэ ў апошнія хвіліны свайго жыцця, маючы надзею перамагчы страшэнную хваробу, снаваў планы будучае працы на ніве роднага краю з думкай будзіць і клікаць да жыцця мову і літаратуру беларускага народа...

Вось што пачуў я ад найбліжэйшай радні паэта сястры п. Канстанцыі з Гурыновічаў Стрэнкоўскай,

у якой і прахавалася тая часць спадчыны паэта, што цяпер друкуем, брата п. Яна Гурыновіча і братаніцы панны Яніны Гурыновіч, якой выражаю асаблівую падзяку за біяграфію стрыя і спагаданне яе публікацыі ягоных твораў.

Тое, што знаходзіцца ў нашых руках, гэта толькі невялічкая часціна творчасці Гурыновіча, і магчыма знойдуцца яшчэ творы яго. Тым часам вось што мы маем: вершы: 1. Да Мацея Бурачка, 2. Што ты спіш, мужычок? 3. Бор, 4. Вясна, 5. Вечны рэвалюцыянер — дух, 6. Што за звук ды так громка раздаўся, 7. Перш марылі паны, што шляхтай зваліся, 8. Думкі, 9. Вялля (пераклад з Міцкевіча), 10. Рэха (пераклад з Пушкіна), 11. Мароз (пераклад з Някрасава), 12. Восень (пераклад з Аляксея Талстога), 13. Вясна (пераклад з Каспровіча), 14. Гібнець зарання столькі цвяткоў (пераклад з Каспровіча), 15. Звярынец, 16. Весяльчак, 17. Паслухайце дзеўкі (няскончана), 18. Калі ж у нас так было, 19. Раз у Зольках, у дзярэўні, 20. Месца нячыстае, 21. А пайду ж я, маці, у поле жыта жаці, 22. Каток, 23. Рыбак, 24. Казельчык і Мурашка; прозай — 25. З гадоў голаду (пераклад з Ажэшка), 26. Недакончанае апавяданне без назову. Апрача гэтага мы маем багаты этнаграфічны матэрыял, сабраны Гурыновічам у Свянцянскім павеце, які таксама чакае свайго выдання.

У нашых матэрыялах цэлая маса недакончаных вершаў, паміж іншымі, як мы думаем, першы пачатак «Панскага ігрышча» — «Ох-ох-ох умру ад смеху»...

Аўтарства «Панскага ігрышча» даказуецца:

1. Сямейнай традыцыяй Гурыновічаў,

2. Псеўданімам А. Гурыновіча, які ў сваёй перапісцы падпісваўся Jerzy або Jurka, з вершам «Ох-ох-ох умру ад смеху».

Гэты верш дзеля свайго зместу, размеру і мовы не можа быць палічоны нічым іншым, як пачаткам



«Панскага ігрышча». Дзеля вялікай пластычнасці самога ігрышча аўтар адкідае папярэднія моманты і пачынае адразу ад лірыкі і скокаў.

Б. Тарашкевіч

## БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА І БЕЛАРУСКАЯ КНІЖКА

Справа беларускае школы скрапулася з мёртвага пункту, на якім яна затрымалася пры ўрадзе Усходніх зямель. У той час, калі пры пане Асмалоўскім сотні сялянскіх просьбаў і пастановаў заставаліся без разгляду, калі руйнавалася нават існуючая беларуская школа( цэлы рад пачатковых і гімназія ў Будславе), цяпер у Сярэдняй Літве, дзякуючы даволі талеранцыйным адносінам у нацыянальных справах Першай урадуючай камісіі, паспела стварыцца нават пры больш цяжкіх абставінах грамадскага жыцця даволі густая сетка беларускіх школ. Гэтак у Ашмянскім павеце знаходзіцца каля 130 беларускіх школ, каля 30 у Свянцянскім, у Вільні 7 беларускіх пачатковых школ, найменш у Віленскім павеце (2 школы). У гэтых школах вучыцца да 10 000 беларускіх дзяцей. Апрача таго ёсць беларуская гімназія ў Вільні і нядаўна закладзена ў Барунах вучыцельская семінарыя.

Ужо сам лік школ паказвае даспеўшую патрэбу навукі нашага народу ў роднай мове. Яшчэ больш гэта відаць з вялікага ажыўлення праз усю сёлетнюю зіму ў беларускай кнігарні ў Вільні і пашырэння выдавецтва, дзе, нягледзячы на цяжкія выдавецкія варункі, з'явілася ўжо прыватная ініцыятыва. Жыццё вымагае школы, і народ чытае кніжку і не толькі яе

чытае, але купляе. Выдавецтва не можа ніяк задаволіць вымаганні патрэб кніжнага рынку. Патрэбны ўсё новыя выданні.

Разумеючы, што без беларускіх кніжак не можа быць сапраўды беларускай школы, а толькі яе нейкі фальсіфікат, Беларуская школьная рада ў Вільні нарыхтоўвае вялікае выдавецтва школьных падручнікаў. Мабілізаваны ўсе літаратурна-навуковыя сілы і магчымыя грашовыя спосабы. Ужо знаходзяцца ў друку найпатрэбнейшыя падручнікі для пачатковых школ для першых чатырох класаў гімназіі. Апрацаваны падручнікі матэматыкі ў аб'ёме гімназіяльнага курсу, гатовіцца гістарычна-літаратурная хрэстаматыя з вялікім і багатым зместам твораў народнай і новай беларускай літаратуры, нашага старога пісьменства і прымернікамі з літаратуры сусветнай.

Вялікія тэхнічныя труднасці, недахват грошай, але можам мець пэўнасць, што ад новага вучэбнага году беларуская школа стане на мацнейшы грунт: будзе мець больш нацыянальную вопратку.

Беларуская школьная справа скранулася з месца не толькі ў Віленшчыне, дзе яна мае ўрадавае падтрыманне, але нават там, дзе не толькі гэтага падтрымання няма, а нават ставяцца ўсялякія перашкоды, каторыя даходзяць да простага загону беларускай школы, дзе вучыцелі галадаюць, калі толькі не сядзяць у вастрогах і нават там беларуская школа заспускае глыбокае карэнне ў народзе. Прыкладам можа служыць Горадзеншчына, паветы: Лідскі, Вілейскі, Дзісненскі, дзе вучыцелі, вытрымаўшы вострае змаганне з рознымі выступленнямі мясцовых урадоўцаў і жандараў, здабываюць для сваіх школ дзяржаўнае палажэнне.

Нялёгка жыць беларускаму народу на Усходзе. Але і зтуль даходзяць да нас радасныя весткі, якія перш за ўсё выясняюць дзяржаўныя адносіны савецкага ураду да нацыянальных патрэб беларускага народу. Бальшавіцкая ўлада нядаўна выдала загад, каб навучэнне ў пачатковых школах Савецкай Беларусі вялося па-беларуску. У працягу трох месяцаў у кожным павятовым месце павінны быць зарганізаваны курсы для вучыцеляў. Выдаюцца патрэбныя падручнікі, хаця з прычыны недахвату паперы гэта работа пасоўваецца вельмі марудна. Толькі што выйшла з друку тэорыя арыфметыкі ў поўным ёме. Дзяржаўнае выдавецтва, аднак, рупіцца аб шырэйшай выдавецкай рабоце і звярнулася да ўсіх беларускіх пісьменнікаў, якія былі на тэрыторыі Савецкай Беларусі, з прапазіцыяй выдаць поўныя зборнікі іх твораў. Гэта работа дзеля недахвату паперы і іншых тэхнічных труднасцяў будзе весціся заграніцай. Менск розным спосабам стараецца дастаць беларускія кніжкі з Вільні. Сучасныя палітычныя варункі не пазваляюць наладзіць гэтага транспарту бліжэйшай дарогай, і кніжныя транспарты часта ідуць праз Коўна і Рыгу, а радзей проста праз лінію фронту... Гэтак замацоўваецца аснова нацыянальнага адраджэння кожнага народу — яго родная школа. Умацоўваецца з усіх бакоў, незалежна ад падзелу Беларусі, незалежна ад розных урадаў, кіруючых намі. Вяртаючыся да беларускае школы ў Віленшчыне, мусім адказаць на розныя закіды, якія робяцца ў яе адрас з боку польскага грамадзянства. Кажуць нам, што беларуская школа служыць толькі прыкрыццём для расейшчыны, якую быццам падтрымліваюць беларускія дзеячы. Найчасцей гэта ёсць свядомая брахня, бо найгоршым ворагам беларускага адраджэння якраз ёсць расейшчына і ніводзін беларускі дзеяч не будзе яе бараніць. Аб тым, што расійскія школы сапраўды існуюць, гэта нам вядома, і мы маем пэўныя весткі, што Расейскі камітэт у Варшаве пачаў імі апякацца, але яны нічога супольнага з беларускай школай не маюць, і, як нас

заверылі ў беларускім аддзеле дэпартаменту асветы, яны там не зарэгістраваны. Нягледзячы на гэта, мы згаджаемся, што можа знайсціся колечкі вучыцеляў-русіфікатараў, якія вядуць работу шкодную, але дзе гэтага — запытаемся — не можа быць? Вялікшасць вучыцеляў, праўда, быўшыя вучыцялі расейскіх школ, але яны — людзі тутэйшыя, прайшоўшыя праз беларускія курсы, якія ажно тры разы ўстраіваліся для іх у Вільні, блізка ўсе вядомыя асабіста беларускім школьным дзеячам і шмат хто з іх вёў беларускую работу ў школах у тыя часы, калі гэта не толькі не давала ніякае матэрыяльнае карысці, але пахнула моцна вастрогам.

Гэтае самае вучыцельства гуртуецца ў вучыцельскія саюзы і робіцца асновай грамадзянскага жыцця ў закінутых вясковых кутках. Трэба быць толькі справядлівым, калі на Верхнім Слезку знямечаны паляк, які два гады таму назад праліваў кроў für Kaiser und Vaterland, а цяпер, пачуўшы ў сваіх грудзях польскае сэрца, аддасць свой голас за забытую праз доўгія гады бацькаўшчыну, а калі трэба будзе, аддасць ёй сваё жыццё, дык — мілыя паночкі! — чым горшы беларускі вучыцель? Няўжо ж у ім не можа адклікнуцца беларускае сэрца ў той час, калі наша бацькаўшчына разбудзілася ад векавога сну і кліча ўсіх сыноў сваіх будаваць свой дом.

Бр.

## ПРАДМОВА ДА «БЕЛАРУСКАЙ ГРАМАТЫКІ ДЛЯ ШКОЛ»

Мінула роўна дзесяць год, як выйшла ў свет «Беларуская граматыка для школ». За гэты час беларуская мова сталася не толькі мовай прыгожага пісьмен-



ства ды рознароднай публіцыстыкі, але і мовай дзяржаўнаю або прызнанаю дзяржавай у публічным жыцці. «Народнае нарэчча» сілаю сталася «літаратурным языком». Гэта бессумліўны факт незалежна ад тае ці іншае ступені зродненасці беларускае мовы з іншымі славянскімі.

Вялікае грамадскае значэнне беларускае мовы вымагае ад культурных работнікаў асабліва ўважлівага апрацавання яе як з боку навуковага, так і для школьнага ўжытку.

«Беларуская граматыка для школ», выдадзеная першы раз у 1918 годзе, мела сваім заданнем замацаваць і ўпарадкаваць выясніўшыяся ўжо тады граматычныя асновы беларускай літаратурнай мовы ды ўстанавіць сталы правапіс.

Практыка жыцця і прысвечаная [кніжцы] крытыка за дзесяць гадоў прызналі, што «ўсё найважнейшае зроблена добра». Правапіс усталіўся і мае за сабою некаторую традыцыю.

Але тая самая практыка і крытыка паказалі на некаторыя пахібы, а нават, хоць толькі часткова, і паправілі іх.

Аўтар «Бел. грам. для школ» сам цяпер бачыць дужа выразную цэлую чараду яшчэ сур'ёзных пытанняў (у аканні, у правапісе чужаземных слоў і інш. ...), бачыць патрэбу і магчымасць спрашчэння правапісу, але не бярэцца праводзіць якія-колечы паважнейшыя змены такім індывідуальна-партызанскім спосабам, накідаючы свой праект праз школьны падручнік. Гэта павяло б толькі да шкоднага хаосу.

Рэформа правапісу, калі мае быць праведзена, мусіць быць праведзена ў цэласці ды ў сувязі з рэформай пісьма і пераглядам граматычных формаў (марфалогія). Адпаведныя праекты павінны быць апрацаванымі паасобнымі адзінкамі, але прайсці праз публічнае сіта грамадскай і навуковай крытыкі перш,

чым маюць быць уведзенымі ў жыццё аўтарытэтам культурных устаноў. Бо тутака паспех, сапраўды, можа быць людзям на смех.

Горш за тое: ненавязаныя паасобныя змены «на лепшае» могуць заграмаздзіць і загарадзіць дарогу да сапраўды добрай рэформы. Дзеля гэтага аўтар устрымаўся ад увядзення і тых змен, якія прыняла «Акадэмічная канферэнцыя па рэформе правапісу і азбукі», скліканая інстытутам беларускае культуры 14 лістапада 1926 г. у Менску.

Ёсць над чым падумаць і папрацаваць, дык можна і трэба пачаць, высцерагаючыся, каб лепшыя новыя дэталі не псавалі больш-менш неблагога цэлага, якое ўжо існуе.

Цяперашняе выданне «Беларускай граматыкі для школ» мае на ўвазе неабходныя патрэбы беларускай школы і ўсіх тых многіх, што жадаюць вывучыць беларускую мову шляхам саманавучання.

Гэтае выданне спаўна перароблена і значна пашырана ў параўнанні да ўсіх папярэдніх выданняў...

Грудзёндз 13.8.1928.

## ДМУХ-ОБСТ-МУРАЎЁВЫ

Віленскай вокладцы «Жэчыпаспалітай» што далей, то болей не спіцца ад беларушчыны, бо рэдка калі бывае дзень, каб беларускім справам не прысвяціў артыкульчыка які-небудзь І. Обст, або Павал Дмуха et tutti quanti *. Відаць, дадзелі мы моцна гэтым тыповым прадстаўнікам сярэдніх вякоў заходнееўрапейскай культуры. Што ж паробіш? Не падабаемся мы, мусіць, адным нават тым, што жывём, што мы ёсць

* І да іх падобныя *(італ.)*.



і будзем жыць, хоць бы, можа, і хацелася розным там... выбачайце, Дмух-Обст нас з'есці, як хацеў з'есці ягня воўк за тое, што яно жыве.

Найбольш непакоіць гэтую сярэднявечную дзіч шпаркае развіццё беларускай свядомасці, як палітычнай, так і культурнай, асабліва ж — развіццё беларускай школы. І вось паны Дмух-Обсты давай крычэць, на ўсю моц і лаяцца на ўсю сілу.

Паслухайце толькі, што піша П. Дмуха аб беларускай школьнай справе (RzP, № 185). Ці каму патрэбна ў нас (у Сярэдняй Літве ці ў Польшчы.— *Рэд.*) беларуская школа?

«Беларускае школьніцтва ў даны момант ёсць нонсэнс, а сваёю мэтаю мае прапаганду русіцызму і г. д.»

«У школах нават элементарна беларускіх не могуць абысціся без чужой помачы».

«Аб сярэдняй школе мовы быць не можа».

«Школ беларускіх у сучасны момант маем столькі, што на кожнае беларускае дзіця прыходзіцца адна школа».

«На самай справе школы гэныя налічваюць больш вучняў, але там ёсць жыды, рускія і нават значная частка польскіх дзяцей».

Такога здання Дмуха аб беларускай школе. Ну а раз школа дрэнь, то дрэнь і падручнікі школьныя.

«Школьных беларускіх падручнікаў, па-першае, не хапае, а потым з пункту погляду педагагічна-дыдактычнага яны не адпавядаюць свайму прызначэнню».

«Даказаўшы», што ні школы, ні падручнікаў беларусы не маюць, п. Дмуха «сцвярджае», што лічба «ўсвядомленых» беларусаў «не перавышае некалькіх сот і ў адносінах да агульнай лічбы народу нашага краю складае нязначную меншасць».

А калі так, то трэба запытацца ў спецыялістаў, ці беларуская мова можа быць моваю выкладовую, ці

існуючыя падручнікі падходзяць для школ і агулам ці беларускае школьніцтва ёсць магчымым і карысным для краю, а пакуль гэтага не будзе зроблена, то грамадзянства (паны І. Обст і Дмуха? — *Рэд.*) будзе глядзець на ўсю работу беларускую як на палітычнае крутельства».

І Дмуха мае надзею, што спецыялісты ўстановяць тое, што ўстанавіў ужо п. Дмуха і, знача, школы беларускай не будзе. Тады толькі паны Дмухі заспакояцца. Замест беларускіх яны адчыняць школы... якія? Не расейскія ж, не літоўскія, не жыдоўскія, не нямецкія, а разумеецца — польскія. Аб гэтым толькі і карціць Дмух-Обстам цяпер. Але калі б, скажам, у нас панаваў цяпер Мураўёў, родны брат іх не па нацыянальнасці, а па культурна-палітычных перакананнях, ці напісалі б яны тое, што мы прывялі вышэй? Думаецца, што не, бо немагчыма, каб знайшоўся цяпер не толькі сярод палякаў, а і наогул сярод людзей такі, хто б стаў падтрымліваць мураўёўшчыну, хто б апрача пануючай палітыкі і культуры нічога «інародчаскага» не прызнаваў. Уся розніца паміж палітыкай Мураўёва і палітыкай Дмух-Обстаў толькі ў тым, што першы вешаў і душыў звычайнай грубай вяроўкай, тады ж як другія «мякка душаць», вяроўкаю з ватняю падсцілкаю, прыгаворваючы прыгожыя слоўцы аб культуры, у імя якой усё павінна згінуць, апрача святой інквізіцыі Дмух-Обстаў.

Нас проста бярэ абрыда, выпадае пяро з рук, пішучы ў адказ на свядомую фальш, якую сістэматычна аб нас разносяць паны І. О. Дмухі. Мы б не хацелі з імі мець ніякага дачынення. Але ад сістэматычнага лгарства, усім яснага, калі перастаць на яго рэагаваць, нешта застаецца, як мута. Толькі таму мы і рэагуем на пісаніну Дмух-Обстаў. Так вось, хай будзе ведама ўсякаму, што школа беларуская мо толькі гадоў чатыры таму назад, як з'явілася на свет божы.



Раней гэтага, пры царскім рэжыме, беларускай школы па розных матывах, узноўленых цяпер Дмух-Обстамі, не дапушчалі зусім. Якім жа цудам можа яна быць з усіх бакоў добраю. Ясна, што ў ёй тое-сёе не ў парадку, але гэта з часам знікае. А дзе гэтага няма? Можа, у польскай школе? Пачытайце хоць бы тую самую «Жэчпаспалітую» варшаўскага выдання. Або спаткайцеся з граматным селянінам, дзе ёсць польская школка. Спытайцеся, як, хто і што вучыць у польскіх вясковых школках. І ў варшаўскай «Жэчы» і ў селяніна вы знойдзеце адзін адказ, які не задаволіць Дмух-Обстаў. Дык што ж? Можа, спыніць і польскую школу і адчыніць іншую, можа, расейскую, можа, яна пойдзе лепей, як польская? Як вы думаеце, паны Дмуха і Обст?

Усю сваю нягодную пісаніну аб нас п. Дмуха прыкрывае гэткімі агульнафіласофскімі аксіёмамі: «Здавалася б натуральнай рэччу, каб кожны народ меў школу на роднай мове. Да таго, аднак, патрэбна быць народам, а потым уладаць моваю, здольнаю быць арудзцем асветы. У Рымскай імперыі аж да часоў Цыцэрона вышэйшыя школы карысталіся грэцкаю моваю, а цэлыя сярэднія вякі не даліся адлацініцца».

Што больш як дванаццацімільённы для пана Дмухі не ёсць народ і што на сваёй роднай мове ён не можа вучыцца, мы ўжо ведаем. Што п. Дмуха і нябожчык Мураўёў сышліся ў гэтым пункце аб нас — нядзіва. Нам гэта вельмі падабаецца. «Истинно-русский» і «zupełnie polski» погляды на нас,— без нас. Але што кажам мы, што кажа наш народ? Што сказаў бы ён пры варунках права і справядлівасці, не гаворачы аб варунках незалежнасці ад каго б там ні было.

Нам здаецца, што ён «здзьмухнуў» бы пана Дмуху і на тым быў бы канец усім гэтым нічога не доказ-

ваючым экскурсам у сярэдневяковую лацiншчыну i ў рымскую грэччыну.

Як асляпляльна нi свяцiла культура грэцкая, а потым лацiнская сярод дзiкiх народаў даўнасцi, але нi элiнiзм, нi раманiзм, у самым шырокiм значэннi гэтых слоў, не змаглi задушыць нi сваёю духоўнаю сiлаю, нi фiзiчнаю гэтых дзiкiх народаў з iх слабымi ў той час культурамi i мовамi. А вам хiба не ведама, п. Дмуха, што сярэднявечная лацiна, апрануўшыся ў схаластычна-касцельную вопратку, выклiкала ўзрыў гуманiзму, адраджэння i потым нават рэлiгiйных рэвалюцыяў? Ну дык душэце нас, зачыняйце нашыя школы, каб нiводнай не засталося. Вымятайце чысценька беларушчыну, i калi не вы, дык вашыя i нашыя дзеткi ўвiдзяць, якiя з усяго гэтага будуць вынiкi. Iх вам не ўдасца «задмухаць».

Плюха

## МIЦКЕВIЧ БЕЗ ПАЗАЛОТЫ

Дыскусiя на старонках «Trybuny Radzieckiej» у сувязi са стагоддзем «Пана Тадэвуша» не пустая юбiлейная гутарка. Яна паставiла цэлы шэраг праблем, звязаных з гэтым творам Мiцкевiча, нанова закранула справу нашых адносiн да польскай лiтаратурнай спадчыны.

Якiм павiнна быць наша стаўленне да «Пана Тадэвуша»?

Тут недастаткова ацанiць толькi вялiкiя мастацкiя вартасцi гэтага твора — гучанне верша, цудоўныя апiсаннi прыроды, звычаяў, блiскучыя масавыя сцэны,— мы павiнны перш за ўсё ўзважыць сапраўднай марксiсцкай вагой яго сацыяльны змест, як ён бачыцца нам сёння ў гiстарычнай перспектыве.



Нiхто не адмаўляе велiзарнай мастацкай каштоўнасцi гэтага твора. Прафесар Зялiньскi — некалi ў Расii царскi падхалiм, сёння гiтлераўскi маклер у Польшчы, аднак пры ўсiм тым выдатны знаўца старажытнай лiтаратуры — сцвярджае, што «Пан Тадэвуш» — гэта адзiны твор сусветнай эпiчнай лiтаратуры, якi можна паставiць побач з «Iлiядай» i «Адысеяй». Памылковасць гэтага сцвярджэння толькi ў тым, што — як падкрэслiвае Маркс — гамераўскi эпас не толькi недасяжны ў сваёй дасканаласцi, але i непаўторны, як непаўторная тая даўно адгучаўшая эпоха. Аднак калi б нам неабходна было знайсцi ў навейшай лiтаратуры адпаведнiк «Iлiяды» цi «Адысеi», дык сапраўды можам выбраць хiба толькi «Пана Тадэвуша».

Дзiўным здаецца, што «Пан Тадэвуш» не атрымаў сусветнага розгаласу, як гэта, напрыклад, здарылася з «Quo vadis», хаця сваiм рэалiзмам, сваiм артыстычным напружаннем значна перавышае аповесць Сянкевiча. На гэта зложылася шмат прычын i галоўным чынам тое, што змест паэмы Мiцкевiча — барацьба з царызмам на фоне правiнцыяльнага жыцця шляхты — зусiм не адпавядаў зацiкаўленням ужо рэакцыйнай, прымiрыўшайся з царызмам i падзеламi Польшчы, буржуазii вядучых капiталiстычных краiн. Да i ў самой Польшчы не зазнаў Мiцкевiч той уцехi, каб кнiгi «Пана Тадэвуша» трапiлi пад стрэхi. Больш таго, спатрэбiлася некалькi дзесяткаў год, каб кнiгi гэтыя трапiлi ў мiзэрныя хатнiя бiблiятэчкi багатых шляхецкiх i буржуазных дамоў.

Як слушна адзначае тав. Вiсляк, кананiзацыя Мiцкевiча на нацыянальнага святога i наданне яго творам годнасцi нацыянальнай бiблii наступiлi тады, калi прымiрыўшаяся з захопнiкамi польская буржуазiя i наскрозь рэакцыйнае абшарнiцтва з рэвалюцыйнага ў свой час патрыятызму Мiцкевiча сталi каваць аружжа для барацьбы з пралетарскiм рэвалюцыйным

рухам. Тады Міцкевічу — пасля адпаведнай цэнзуры — з «велікадушнай» згоды цара Мікалая ўзводзіцца помнік у Варшаве. Міцкевіча, кожны верш якога палаў страснай нянавісцю да царызму, страснай любоўю да свабоды, гэтага Міцкевіча польская буржуазія ўжывае як сімвал пагаднення з царызмам і ў «пазалоце» паляка-католіка выстаўляе на пярэднія пазіцыі ў барацьбе з надыходзячай рэвалюцыяй, выкарыстоўвае як сродак прапаганды нацыянальнага адзінства: «Кахаймася».

А калі пад ударамі Кастрычніцкай рэвалюцыі лёг у руінах царызм, калі на месцы турмы народаў, Расійскай імперыі, падняўся і будуе сацыялізм саюз вольных народаў, калі на змену таму «гераізму няволі» («Дзяды» ч. III, «Дарога ў Расію») прыйшоў бальшавіцкі подзвіг герояў, штурмуючых неба, гераізм, перад якім «скалануліся і схіліліся землі» капіталістычнага ўціску — тады польская буржуазія ўсю моц Міцкевічавай нянавісці да царызму, да царскай Расіі спрабуе накіраваць на Савецкую Расію, на Кастрычніцкую рэвалюцыю, якая звергнула гэты царызм. Гэта атручанае аружжа мы павінны выбіць з рук фашызму. Каб паказаць усю крывадушнасць буржуазіі ў адносінах да Міцкевіча, асаблівых намаганняў не патрабуецца. Мы павінны зусім выразна падкрэсліць, што накіраваная супраць царызму, галоўнай апоры еўрапейскай рэакцыі, творчасць Міцкевіча была рэвалюцыйнай для таго перыяду. Мы павінны падкрэсліць, што, змагаючыся з царызмам, Міцкевіч быў вельмі і вельмі далёкі ад сучаснай заалагічнай фашысцкай нянавісці, ён, як казаў тав. Луначарскі, «умеў адрозніваць» і рускіх, якія змагаліся з царызмам, лічыў «прыяцелямі маскалямі».

[...] Задача нашай крытыкі — канчаткова, па-рэвалюцыйнаму зняць з Міцкевіча ўсю «мішуру і пазалоту», незалежна ад таго, ці будзе гэта «пазалота» пад паляка-католіка ці пад сацыяліста. Давайце ж пакажам жывога Міцкевіча, якім ён быў у рэчаіснасці! Пры гэтым нас менш за ўсё будуць цікавіць падрабязнасці спальні і кухні паэта [...]

Дык як жа выглядаюць нашы адносіны да «Пана Тадэвуша»? — Дыскусія паказала, што дагэтуль няма якой-небудзь яснай, адзінай пазіцыі, і адначасова накіравала нас на адпаведны шлях у пошуках такой пазіцыі.

Тав. Вісляк сцвярджае, што Міцкевіч у «Пане Тадэвушу» даў свядома скажаючую рэчаіснасць, апалогію польскай шляхты, крыху прыправіўшы яе, каб пусціць пыл у вочы буржуазнай дэмакратыі, мяккай ироніяй да сваіх шляхецкіх герояў. Такое сцвярджэнне трэба лічыць памылковым і шкодным, бо яно трактуе Міцкевіча як вялікага рэаліста і поўнасцю выдае яго на ўжытак фашызму. Тав. Вісляк зусім слушна хацеў паказаць усё тое, што ў «Пану Тадэвушу» з'яўляецца рэакцыйным, усё тое, што сёння пры адпаведнай негістарычнай, фашыстоўскай інтэрпрэтацыі лёгка можа быць выкарыстана для атручвання мас клерыкалізмам, патрыятызмам і г. д. На жаль, аднак, і сам тав. Вісляк патрактаваў гэтыя справы негістарычна і перагнуў кій улева, хаця многія яго заўвагі слушныя і актуальныя.

Паводле тав. Малэцкага, «Пан Тадэвуш» не з'яўляецца ні апалогіяй клерыкальнай шляхты, ні антышляхецкай сатырай на шляхту, як таго быццам бы хоча тав. Каменскі. «Міцкевіч зусім свядома малюе польскую шляхту рэалістычна, не шкадуе чорных фарбаў таму, што ён быў выразнікам той часткі польскай шляхты, якая бачыла неабходнасць рэформы шляхецкага ладу, бачыла неабходнасць узброенай барацьбы з царызмам». Тут трэба было б прымяніць больш гнуткі, больш дыялектычны падыход. Можна ўпасці ў аднабаковасць, сцвярджаючы толькі тое, што

рэалізм Міцкевіча не шкадуе чорных фарбаў. У сапраўднасці «Пан Тадэвуш» з'яўляецца адначасова і сатырай на шляхту і яе апалогіяй. І калі ў гэтым ёсць супярэчнасць, то супярэчнасць не эклектычная, а дыялектычная, фактычная. Вынікае яна як з гісторыі ўзнікнення самой паэмы, на што справядліва звярнуў увагу тав. Каменскі, так і з класавых супярэчнасцей у гістарычным асяроддзі тагачаснай польскай шляхты.

Першапачаткова Міцкевіч хацеў стварыць ідылію на ўзор «Германа і Даратэі» Гётэ, але калі ў яго ўяўленні ўзнік вобраз шляхецкага асяроддзя, дык аказалася, што цяжка было не напісаць на гэтых людзей сатыру, а, прынамсі, больш або менш дабрадушна пакпіць з іх. Зразумела, гістарычная перспектыва падкрэслівае сатырычныя акцэнты. У гэтых адносінах у паэме Міцкевіча мы знаходзім цэлую гаму градацый, пачынаючы ад ледзь адчувальнай нават для аўтара сатыры, ад дабрадушнай і паблажлівай іроніі да праднамернай сатыры (Тэлімэна і Граф) і гнеўнага бічавання такіх агідных рэнегатаў, як маёр Плут. У «Пану Тадэвушу» я бачу дзве тэндэнцыі: тэндэнцыю трактаваць шляхту ў гумарыстычным і сатырычным плане і тэндэнцыю да яе ідэалізацыі, да апалогіі. На маю думку, промахам было б прызнаць агулам перамогу адной з гэтых тэндэнцый у адносінах да ўсёй паэмы. Думаю, што Міцкевіч рэалістычна, з глыбокай праўдзівасцю малюе такіх сваіх герояў, як Чарвяк, Розачка і «герояў», як Войскі, Рэент ці Асэсар; з такой самай глыбінёй і праўдзівасцю ён малюе масавыя сцэны і звычаі, але ў агульнай плыні паэмы, асабліва ў XI (1812 год) і XII («Кахаймася») у раздзелах бачым яшчэ і выразную палітычную тэндэнцыю. Будучы не толькі вялікім паэтам, але і выдатным палітычным дзеячом, Міцкевіч не мог утрымацца на першапачаткова задуманай лініі шляхецкай



ідыліі і даў нам паўны грамадскі і палітычны сінтэз, гэта значыць сінтэз, ідэалізуючы шляхту, даў апалогію змагаўшайся з царызмам шляхты.

Грамадска-палітычная тэндэнцыя неабавязкова павінна знаходзіцца ў супярэчнасці з рэалізмам, з гістарычнай праўдай. Наадварот, яна можа падняць твор на вышэйшы мастацкі ўзровень, надаючы яму вялікую грамадскую значымасць. Прыкладам гэтага — сацыялістычны рэалізм. Мы павінны сканцэнтраваць сваю ўвагу не на абвінавачваннях Міцкевіча ў палітычнай тэндэнцыйнасці, а на ўменні распазнаваць у гэтай тэндэнцыі прагрэсіўныя і рэакцыйныя элементы, няўмольна канфрантуючы адно і другое з гістарычнай рэчаіснасцю.

Тав. Малэцкі слушна спасылаецца на выказванні Леніна аб велізарным значэнні шляхецкага вызваленчага руху таго перыяду з пункту гледжання агульнаеўрапейскай дэмакратыі. Таму з гэтага боку апафеоз шляхецкага вызваленчага руху не будзе рэакцыйным. Але трэба адначасова бачыць і паказваць усю рэвалюцыйную адноснасць шляхецкай вызваленчай барацьбы.

Польская шляхта ў сваёй барацьбе з царызмам, аб'ектыўна выконваючы гістарычна прагрэсіўную, рэвалюцыйную ролю, адначасова як клас паразітычны і гістарычна асуджаны на знішчэнне, як клас прыгняцальнікаў, няздольны павесці за сабой у бок шырокія сялянскія масы, аказалася здольнай толькі на «гераічныя глупствы». «Пан Тадэвуш», дзякуючы сваёй праўдзівасці, якраз і ёсць геніяльнай ілюстрацыяй справядлівасці гэтага выслоўя. «Гераічныя глупствы» — гэта так дакладна, так трапна, што проста напрашваецца ў загаловак паэмы. Такі загаловак, у адпаведнасці з гістарычнай праўдай, перамяніў бы яе ў панурую трагедыю. Трэба было б толькі дапісаць XIII кнігу, у якой Суддзя пад гукі Янкелевых цымбалаў

частуе пераможных рускіх генералаў, пан Тадэвуш адбірае назад так легкадумна «дараваную» сялянам зямлю і волю, а шляхта дзякуе цару за ўціхаміранне ўзбунтаванага сялянства і г. д. Гэта былі б цудоўныя папраўкі.

«Пан Тадэвуш» — гэты мікракосмас шляхецкага грамадства,— дае аказію закрануць цэлы шэраг пытанняў. Спынюся толькі на пытанні «расслаення» шляхты.

Слушна падкрэсліваецца неаднароднасць шляхты. Сапраўды — розніца паміж маёмасным становішчам магнатэрыі і дробнай шляхты кідаецца ў вочы. Аднак з гэтага не вынікае класавае расслаенне шляхты. Тэрмін гэты тав. Малэцкі механічна перанёс з расслаення сялянства. Аднак пры расслаіванні сялянства з больш-менш аднароднай масы на супрацьлеглых полюсах узнікаюць дзве зусім розныя групы: сельская буржуазія і сельскі пралетарыят. Класавае расслаенне азначае эксплуатацыю адной праслойкі другой. Памылкай было б сцвярджаць, што магнатэрыя або прыгонніцкая шляхта жыла з эксплуатацыі дробнай шляхты. А паміж дробнай шляхтай і прыгонным сялянствам ляжыць цэлая прорва саслоўных прывілеяў і прыгоннай няволі. Дзякуючы гэтым прывілеям дробная шляхта прымала ўдзел у эксплуатацыі сялянства і была, калі можна так выказацца, «масавай базай» прыгонніцкай шляхты і магнатэрыі. Адсюль тая нечуваная пагарда дробнай шляхты да мужыка, іх узаемная нянавісць. Дакладнае, рэалістычнае адлюстраванне гэтых адносін мы знаходзім у паэме «Пан Тадэвуш». Дробная шляхта знаходзіцца ў рамках шляхецкага саслоўя і ў цэлым процістаўляецца прыгоннаму сялянству.

Безумоўна, розніца ў маёмасным становішчы прыводзіла да антаганізмаў унутры шляхты. Дробная шляхта, і асабліва шляхецкага паходжання інтэлігенцыя, лягчэй паддавалася буржуазна-дэмакратычным уплывам і была больш рэвалюцыйна настроена супраць захопнікаў. Затое магнаты вылучаліся пераважна сваім рабалепствам перад царызмам. Таму Міцкевіч у «Пане Тадэвушу» дае волю сваёй антыпатыі да іх. Сам Міцкевіч, сын адваката, гаспадара Завосся, хаця і не паходзіў з той найбяднейшай засцянковай шляхты, што змушана была працаваць на сябе, як «наёмнае сялянства», выразна сімпатызаваў дробнай шляхце. Мацей Розга, герой вызваленчай барацьбы, просты засцянковы шляхціц — гэта персанаж, які цешыцца найбольшай сімпатыяй аўтара. Гэта адзіны чалавек, які бачыць усю бязглуздзіцу шляхецкіх набегаў, які крытычна адносіцца да пранапалеонаўскіх захапленняў, які захоўвае высакародную, гордую паставу перад панамі: «Хай мае Пацей лепш Мацея, чымся Пацея Мацей, за свайго дабрадзея».

Сімпатызуючы дробнай шляхце, Міцкевіч, аднак, не робіць з яе гегемона шляхецкага вызваленчага руху, як зрабіў гэта тав. Малэцкі, сцвярджаючы, што ў касцюшкаўскім паўстанні 1794 г., у польскіх легіёнах і ў паўстанні 1830 г. «дамінавала дробная шляхта». У Міцкевіча дамінуючую ролю іграе двор Сапліцаў, і гэта згодна з гістарычнай праўдай.

Не закранаючы, з-за адсутнасці месца, астатнія пытанні, хачу закончыць словамі перакanання, што польскія таварышы не пакінуць справу польскай літаратурнай спадчыны, якая мае больш актуальнае рэвалюцыйнае значэнне, чым гэта многім можа здавацца. Прыгожы прыклад для пераймання дае пераможны рускі пралетарыят, які ўмее — гаворачы словамі Міцкевіча — правым крылом па мінулым, левым па будучым ўдарыць.

Браніслаў Тарашкевіч

## ПЕРШЫ БЛІН КОМАМ

Выхад у свет новае беларускае газеты ідэйнага характару — заўсёды з'явішча дадатнае: яно сведчыць аб росце беларускае палітычнае мыслі, паказвае, што сярод беларускага ідэйнага грамадзянства нарастаюць новыя сілы, якія шукаюць новых дарог дзеля выхаду з сучаснага трагічнага палажэння Заходняе Беларусі.

І мы сустрэлі выхад у свет першага нумару «Сялянскае нівы» з асаблівым зацікаўленнем: новы орган мае выяўляць думкі і погляды новае беларускае групы — «Беларускага сялянскага саюза», на чале якога стаяць дэпутаты Рагуля і Ярэміч.

Аднак бліжэйшае знаёмства са зместам першага нумару газеты выклікала ў нас глыбокае расчараванне. Справа ў тым, што творцы «Беларускага сялянскага саюза» ў аснову сваёй ідэалогіі паклалі зусім фальшывы погляд на істоту сацыяльных адносінаў, прыняўшы бескрытычна за факт існаванне супярэчнасці інтарэсаў вёскі — сялянства і мястовых работнікаў.

Там, дзе паміж працоўнымі масамі вёскі і места не стаяць пасрэднікі ў постаці непрацоўных класаў (фабрыканты, абшарнікі, гандляры),— там, дзе няма над імі тэй сацыяльнай надбудоўкі, якая забірае і ў селяніна і ў работніка львіную долю прадуктаў іх працы,— там, дзе гаспадарчым жыццём кіруе супольная воля сялян і работнікаў,— там ніякае супярэчнасці паміж інтарэсамі апошніх няма і быць не можа: працоўная вёска і працоўнае места ўзаемна дапаўняюць сябе, узаемна сабе неабходны, узаемна зацікаўлены ў росквіце і вёскі і места. Доказ гэтага дало само жыццё там, дзе на дзеле ўстанавілася ўлада гэнае адзінае волі працоўных вёскі і места. І толькі там, дзе селянін і работнік ішлі рука ў руку,— толькі там яны дасягалі сваёй мэты, перамагалі свайго супольнага ворага. Дый гісторыя пацвердзіла гэта ўжо даўно: даволі прыпомніць, што ўсе сялянскія рухі, якія не мелі саюзніка ў месце, заўсёды і ўсюды канчаліся паражэннем сялян,— што і ў беларускім адраджэнні найвялікшай нястачай з'яўлялася — дый у Заходняй Беларусі з'яўляецца і цяпер! — акурат тое, што беларускія сілы ў месце слабыя, і голас вёскі прападае і заглушаецца шумам небеларускага места.

І «заваяванне места» для беларускае справы — настолькі важнае, што аб гэтым не могуць не ведаць тыя, хто маніцца быць павадыром нашага сялянства!

Мы паўтараем тутака даўно ўжо ўсім вядомыя рэчы затым, што орган БСС, зусім справядліва гаворачы аб патрэбе сялянскае арганізацыі, хоча гэту арганізацыю павесці не адзіным правільным шляхам — шляхам супрацоўніцтва з мястовым пралетарыятам, а шляхам раздзелу і мо нават змагання двух родных братоў: селяніна і мястовага работніка. Зусім справядліва, што дзеля працы сярод сялянства прыходзіцца тварыць асобны арганізацыйны апарат, як у сваім часе Беларуская Сацыялістычная Грамада была стварыла свой «Беларускі мужыцкі саюз». Але якраз БСГ злучала гэную сваю сялянскую арганізацыю з агульнапралетарскім рухам на грунце адзінае ідэалогіі,— пад той час, як орган паслоў Рагулі і Ярэміча маніцца «выпрацоўваць беларускую сялянскую ідэалогію», стаўляючы яе супраць ідэалогіі працоўных места.

Вось першая абмылка ў пастаноўцы сялянскага

пытання «Беларускім сялянскім саюзам» і ягонай газетай. Але гэта не адзіны грэх новае газеты!

У стацці пасла Ярэміча пад вельмі красамоўным загалоўкам «Патрэба спадзявацца прад усім на свае ўласныя сілы» мы сустракаем ужо несвядомую, мо' прынцыповую абмылку, а яўнае баламуцтва.

Так, усім вядома, што ў Усходняй Беларусі, дзе прыватны гандаль зусім зліквідаваўся, цэлая маса дробных местачковых гандляроў-жыдоў апынулася ў безвыходным палажэнні. Ім няма за што зачапіць рукі. Але ведама таксама, што гэтыя самыя дробныя гандляры ў значнай меры звязаны і з зямлёй: адной з падстаў іх існавання бадай усюды з'яўляліся гароды, утрыманне каровы, каня і т. п. Вось радавая ўлада і надумала гэных безработных людзей, адвечных жыхароў беларускае зямлі, надзяліць зямлёй і адсадзіць на гаспадарках — нароўні з сялянамі, стараючыся з гэтай мэтай асушыць каля мястэчак балоты, папраўляць няўжыткі і г. д., каб зямля была недалёка ад месца, дзе гэткі былы гандляр паставіў сабе хату. Вось жа «Сялянская ніва» з зусім непрыстойнай дэмагогіяй стараецца гэту справу прадставіць у зусім фальшывым святле, стаўляючы справу надзялення зямлёй адвечных жыхароў Беларусі — жыдоў нароўні з справай польскага асадніцтва ў Заходняй Беларусі, дзе зямля даецца не грамадзянам гэтага краю — хоць бы і польскае нацыянальнасці, а пасыланым з мэтаю апалячвання краю былым вайсковым і сялянам з этнаграфічнае Польшчы, ды гэтак нацыянальнае дабро беларускага народа аддаецца выхадженцам з чужыны! Калі павадыры «Беларускага сялянскага саюза» не бачаць тут сапраўды ніякае розніцы, дык вельмі сумна, што яны не здольны як след ацаніць польскую асадніцкую палітыку і з практычнага і з маральнага боку. Але яшчэ больш сумна, што яны сваімі заявамі аслабляюць вострасць пратэсту сялянства Заходняе Беларусі проці польскага асадніцтва: дзе ж паказванне на тое, быццам «тое ж самае», што ў нас палякі, робяць з зямлёй беларускія ўлады ў Радавай Беларусі (хоць гэта ў дадатку не згодна з праўдай),— гэта можа мець зусім ясныя вынікі...



Верачы ў ідэйныя імкненні «Сялянскае нівы», мы, аднак, гэтак неміласэрна вытыкаем новай газеце і творцам яе тыя ідэйныя і тактычныя абмылкі, якія зроблены пры першым жа публічным выступленні «Беларускага сялянскага саюза»,— з адзінай мэтай: каб новая арганізацыя іх папраўіла і... не паўтарала! Рэдакцыі «Сялянскае нівы» напомнім старую лацінскую прыказку: «Cuiusvis hominis est errare, nullius, nisi insipientis, in errare perseverare», што па-беларуску знача: кожны можа памыляцца, але толькі дурны будзе ўпірацца пры сваёй абмылцы.

Бр. Тарашкевіч, дэпутат **Сойма.**

## ПРАМОВА НА 10-м ПАСЯДЖЭННІ СОЙМА 23 СТУДЗЕНЯ 1923 ГОДА ПАДЧАС РАЗВАЖАННЯ НАД ЭКСПАЗЭ СТАРШЫНІ САВЕТА МІНІСТРАЎ

**Маршалак:** Слова мае пасол Тарашкевіч. *(Каля палавіны паслоў пасля перарыву йшчэ не вярнулася з буфета.)*

**П. Тарашкевіч:** Высокая, але... пустая Палата! (*Голас з цэнтру:* «Запоўніцца!»)

Супроць зводных рахункаў нашых ворагаў, супроць іхных усялякіх аблічэнняў, часамі дужа вучоных, і над усякае спадзяванне нават нашых нямногіх прыяцеляў,— мы пераступілі парогі Сойма Польскай Рэчы Паспалітай.

Перaступілі мы гэтыя парогі ў колькасці папраўдзе неадпаведнай да масы беларускага народа, які мы маем права прадстаўляць, але ў колькасці дастатачнай на тое, каб не толькі перад Польшчай, але перад цэлым светам даць доказ таму, што жыве беларускі народ *(воплескі на беларускіх лавах)*.

Пытаўся нас пасол Карфанты аб нашым гістарычным пашпарце: ці мы маем права на жыццё, ці мы народ? Калі пан Карфанты ў Прускім Сойме змагаўся за свабоду польскага народу, уся наша сімпатыя была на ягонай старане. Калі пан Карфанты на Горным Шлёнску быў правадыром вызвалення польскага народу, які да Польшчы блізка што ніколі не належаў, які затраціўшы быў блізка зусім сваю нацыянальнасць і сваю свядомасць, але адрадзіўся і пачуў еднасць з усім польскім народам,— сімпатыі нашыя былі мо не на старане метадаў пана Карфантага, але ж на старане польскага народу. І сёння гэты самы Карфанты, ад якога можна было б спадзявацца, што ён, так доўга змагаўшыся за свабоду свайго народу, ушануе такое ж імкненне другога народу да свабоды, гэты самы Карфанты хоча нас выразна паланізаваць. Пан Карфанты — каталік, пан Карфанты — хрысціянін! Добрае каталіцтва, добрае хрысціянства... Вось запраўдная этыка гіены * *(крыкі:* «Готэнтоты»): «блага, калі мяне мой сусед цісне, але добра, калі я цісну суседа». *(Голас:* «Карфанты гэта не казаў».) Але ў сваёй палітыцы гэта праводзіць. Толькі ж, перафразуючы беларускую пагаворку, скажу: Калі бог не пазволіць, то... гіена не з'есць. *(Воплескі на левых лаўках.)* А не з'есць гіена затым, што гіена корміцца трупамі. *(Воплескі на левых лаўках.)* Народ жа наш — жывы арганізм і, як жывы арганізм, як зборны чалавек, здолее перамагчы хоць

* Гульня слоў: Х'ена — гіена.



бы сабе найдзічэйшую бестыю. *(На левай:* «Брава!») Вы пытаецеся нас аб пашпартах, але лепш было б, каб такое пытанне задаў бы нехта, хто больш знаецца на гэтай справе, як пан Карфанты. Не крытыкуючы яго павагі ў другіх пытаннях, скажу, што ў даным разе ён бярэцца за дзела, аб якім не мае ніякага паняцця.

Беларускі народ не цяпер толькі нанова творыцца. Беларускі народ — народ стары, але разам з тым і малады, малады таму, што адраджаецца і ўступае ў сям'ю жывых, змагаючыхся за сваё жыццё народаў. Гэта народ, які меў вялікую культуру, народ, якога мова была мовай гаспадарсцвенай, які меў сваю гаспадарсцвенасць. Гэта ёсць народ, у мове якога былі пісаны законы. Так, Статут Літоўскі хоць называўся «літоўскім», але быў напісаны па-беларуску,— і ў гэтым Статуце права мовы беларускай было забяспечана: «а пісар земскі мае ўсе выпісы і позвы языком і літары рускімі, а не іншымі пісаці». *(Галасы:* «Рускі, а не беларускі!») І не белапольскі, але мова ёсць тая самая. Гэта ёсць народ, які пераскыў вялікі век адраджэння, які толькі дзеля таго, што ў барацьбе з захватамі з усходу і захаду стаў разам з Польшчаю,— страціў сваё прывілегіраванае становішча, становішча асаблівае і ў той час высока культурнае. Шляхта наша, у пагоні за шляхоцкімі свабодамі і гербамі, здрадзіла свой народ, а затым прыняла польскую культуру. Але, пад уплывам барацьбы Расеі з Польшчай аб душу беларускага народу, зніклі, памёрлі толькі вышэйшыя класы, народ жа беларускі, як праваслаўны, так і каталіцкі, жыў і жыве сваім жыццём. І калі настаў XIX век, век дэмакратычны, век нацыянальнага адраджэння, стаў прабуджацца і свядомы беларускі рух. Адрадзілася Чэхія, і гэта ёсць яркім прыкладам таго, што народ, які часова заснуў, не памёр і можа прабудзіцца да новага жыцця і ча-

ста можа быць прыкладам для другіх народаў.

Нарэшце прыйшла рэвалюцыя 1905 г. у Расеі, прыйшла наастатак рэвалюцыя 1917 г., і беларускі народ, пад уплывам змагання народаў, сусветнай вайны і адгалоскаў польскай барацьбы за незалежнасць, збудзіўся і ўстаў да нацыянальнага жыцця, устаў, хоць з кайданамі на руках, хоць на яго целе сочацца яшчэ раны ад розных граніц і розных кардонаў.

На Усебеларускім з'ездзе 1917 г. (*пас. Солтык:* «У Менску?») так, у Менску, пане пасол,— прадстаўнікі Беларускага народа абвясцілі тагды перад цэлай Расеяй і перад цэлым светам, што хочуць жыць жыццём вольным, жыццём уласным нацыянальным. Абвясцілі і незалежнасць Беларусі. («Хай Жыве!» *Воплескі.*)

А калі пасля пагрому немцаў паўстала незалежная Польшча, дык з боку Польшчы мы пачулі лозунгі так папулярныя і так знаныя, так выслаўляныя ў польскай гісторыі: «Вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі». Бадай нідзе гэтыя лозунгі не былі так проста, так шчыра зразумелыя, як у нас на Беларусі. Верылі ў гэтыя лозунгі, думалі, што запраўды Польская Дзяржава, польскі народ, які так доўга цярпеў у няволі, зразумее другі народ і дасць яму дапамогу. І вось пасля аказалася, што паміж жыццём і лозунгамі была надта вялікая супярэчнасць. Адно казала адозва тагачаснага начальніка дзяржавы, Язэпа Пілсудскага, выданая ў Вільні, у якой даваў абяцанкі пастанаўляць аб сваім лёсе, самаазначэнні,— а другое няслі польскія войскі. Польскія войскі няслі за сабою... *(галасы на беларускіх лавах:* «Ярмо!») не нацыянальнае вызваленне, але вызваленне для латыфундый вялікіх абшарнікаў *(воплескі на беларускіх лавах)*.

Быў створаны «Zarząd cywilny Ziem Wschodnich», урад, у якім не было ні аднаго ўрадоўца беларуса, урад выключна польскі, і не толькі польскі, але, я сказаў бы, панскі. І гэтыя віцэ-каралі Беларускай Індыі, паны Асмалоўскія і Івашкевічы, якія бралі ў Менску ўдзел у абвяшчэнні незалежнасці Беларусі, пачалі гаварыць, że to jest Białopolska *(іранічны смех на беларускіх лавах)*. Дык вось, калі Беларусь змагалася з Расеяй, тады была Беларусь, але калі Беларусь дасталася пад уладу Польшчы, дык ужо не было Беларусі, толькі Białopolska. Тады адкрыліся цынічныя планы ніштажэння беларускасці і каланізацыі, тыя самыя планы, з якімі п. Карфанты з так вялікім талентам змагаўся ў Пазнані.

Польскія войскі пайшлі далей на ўсход, пайшлі, каб абхапіць большасць беларускіх абшараў, ствараць, як гаварылася, незалежную Украіну. Але як можна было гэтае рабіць, калі, маючы Беларусь, Польшча не патрафіла даць вольнасці гэтаму народу, а, наадварот, зусім выразна паказала свае захватныя дэнацыяналізуючыя мэты. Паход польскіх войскаў наперад не дапяў мэты не дзеля таго, што Украіна не хацела гэтай вольнасці, але што народ украінскі добра разумеў, што войскі польскія нясуць з сабою. Нарэшце, якія былі адносіны польскага войска да беларусаў, можа паказаць прыклад, калі гэтыя войскі адступалі з Беларусі. Карная экспедыцыя за экспедыцыяй (*голас:* «Дзе»?). Там, дзе пан не ведае! (*Голас:* «А расейскае войска што рабіла?») Зусім не хвалю і расейскае войска. Калі беларуская дэлегацыя пайшла да генерала Шэптыцкага аб адмене гэтага тэрору, ён сказаў, што камень на камені не застанецца, усю Беларусь спаліць, каб толькі польскі жаўнер мог выйсці з гонарам з Беларусі. *(Пас. Солтык:* «Відаць, былі іншыя прычыны. Быў загавор у Менску».) Ніякага загавору не было. *(Голас з украінскіх лаваў:* «Фантазія!»)

Урэшце прыйшоў Рыжскі мір, і тут з поўным цынізмам паказана перад цэлым светам, як Польшчы залежала на Беларусі. Падзелены жывы народ на часткі, утвораны розныя калідоры, у якіх ёсць такі скразняк, што не аднаму можа скруціць галаву. І вось адзін з цяперашніх нашых левіцовых сябраў, які тады займаў высокае становішча, сказаў: «Мы мелі сілу, дык падзялілі вас; як вы будзеце мець сілу, то падзеліце нас». (*Галасы на лявіцы*: «Хто такі?») Дашыньскі. (*Голас*: «Як завецца?») Дашыньскі. (*Голас:* «Ганьба!» *Пас. Дашыньскі:* «Я сказаў гэта?») Так. (*Дашыньскі:* «Цяпер проста скажу пану, што пан кажа абсалютную няпраўду; уважаю за нечуваную непашану да трыбуны, каб гаварыць хвальшы».)

**Маршалак:** Дам пану пазней слова для папраўкі, цяпер жа прашу не перашкаджаць прамоўцу.

**Тарашкевіч:** Адкажу вам з доказамі ў руках! А далей урадавы праект каланізацыі. Ужо з вобласці даўнейшых планаў і гутарак урад пераходзіць да рэалізацыі. Пан міністр Скульскі сказаў, што за 50 гадоў не знойдзе нідзе ніводнага беларуса нават са свечкай. *(Крыкі.)*

Далей, панове, пераходжу да фактаў і рэчаў, з якімі ніхто не будзе спрачацца. Створана сістэма ўрадавання, якая мае на мэце поўнае знішчэнне фізічнага тыпу беларуса: да паланізацыі. Перадусім праект каланізацыі і вайсковага асадніцтва. Увесь Сойм: і правіца, і лявіца — галасавалі за гэты закон аб так званых пакінутых землях. Гэты закон пастанаўляе, што тыя землеўласнікі, якія не вярнуліся да 1 красавіка 1921 г., прымусова пазбаўляюцца сваіх земляў на карысць Дзяржавы. Мірны трактат быў падпісаны 18 сакавіка і ратыфікаваны, колькі прыпамінаю, у траўні, дык як жа маглі гэтыя людзі вярнуцца да 1 красавіка? Панове, гэта ж ёсць гвалт, гвалт нечуваны, гэта такі гвалт, які за прыклад браў сабе гакату, які нават гакату апярэдзіў, бо там за зямлю плацілі, а тут уласнікам гэтай зямлі нават не плацяць. (*Голас:* «Гэта таксама скіравана проціў палякоў».) А чаму ж гэты закон расцягнуты толькі на паветы так званых «kresów», на 22 крэсовыя паветы? Цярпіць ад гэтага насяленне выключна беларускае і ўкраінскае праваслаўнае. А далей вайсковая каланізацыя, з якой, думаю, нават і паны з правіцы не здаволены, дзеля таго, што перадусім зямлю атрымалі галоўным чынам толькі афіцэры, нават тыя, якія маюць уласныя маёнткі. Мог бы прывесці цэлы рад прыкладаў, што, урэшце, мы зрабілі ў сваім запытанні ў гэтай Высокай Палаце.

Прынята аграрная рэформа, але дзе гэтая рэформа праведзена на карысць беларускага селяніна, які ў канцы канцоў мае найбольшае права да гэтай зямлі, на якой ён працаваў, на якой працавалі яго бацькі, на якой працавалі прадзеды. (*Голас:* «Ніхто ў іх гэтага не адбірае».). Другім разам на гэта адкажу.

Далей, што ж робіцца з усёй гаспадаркай краю? Гаспадарка такая, што край нішчыцца дашчэнту. Найвялікшае багацце нашага краю — лес — рабункова ніштожыцца і ніштожыцца ўласнікамі ў хаўрусе з тымі, каторых так не любіце: пан і жыд-спекулянт працуюць там у хэўры і нішчаць наш дабрабыт і нашае найбольшае багацце. Калі так пойдзе далей, то за колькі гадоў гэткай гаспадаркі заместа ворнай зямлі будзем мець толькі пяскі. Калі так будзе, то будзем ведаць, каму за гэта павінны быць удзячны (*Пас. Солтык:* «Цяпер будзе лепей, бо вы стварылі блок»). Падзякуйце кс. Лютаслаўскаму за гэта.

Цяпер, як стаіць справа з тымі падставамі, якія ўрачыста абвешчаны ў Канстытуцыі, якія гарантуюць кожнаму народу свабоду развіцця культуры? У якім палажэнні знаходзіцца справа школьная?

І вось жа перадусім школы зачыняюць. Зачынены дзве вучыцельскія семінарыі, а замест іх ніводнай не адчынена. (*Голас:* «Дзе?») У Барунах і Свіслачы. Зачынена гімназія ў Будславе, зачынена каля 100 пачатковых школ. (*Галасы:* «Расейскіх».) Не расейскіх. (*Пас. Солтык:* «Калі я быў у Вільні на адкрыцці універсітэту, то бачыў, што вы сабралі людзей, якія не ўмелі гаварыць па-беларуску».) Аб гэтым пагаворым у іншым месцы. (*Голас:* «Няма беларускага народу».) Пан не хоча бачыць, хай пан надзене акуляры.

Маем далей масавыя праследаванні пад лозунгам — «бальшавік». Усюды бальшавік. А якія гэта былі праследаванні, якую яны мелі пад сабою падставу, можа паказаць вам прыклад 33 грамадзян Польскай Рэспублікі, высланых за граніцу без суда і следства 5 лютага 1922 г. Гэта ёсць так званая Віленская справа, аб якой, бадай, ведае Міністр Заграпічных Спраў. З гэтага поваду хачу сказаць колькі слоў і аб справе Вільні наогул.

Вынікам аперэтачнага бунту генерала Жалігоўскага ўтварылася Тымчасовая Урадуючая Камісія. Можна было думаць, што Польшча захоча стварыць урад, зложаны з розных нацыянальнасцей (*голас:* «Ого, і жыдоўскай»), так, бо ў Вільні жывуць і жыды,— і падгатаваць край да самаазначэння. Тым часам аказалася, што гэта ўрадаванне было аднабокім і проці грамадзян няпольскай нацыянальнасці. Быў скліканы Сойм. Сойм ухваліў далучэнне да Польскай Рэспублікі (*голас:* «Да якога беларусы не маглі правясці ні аднаго пасла»), бо мы да гэтага Сойма не пайшлі. Але мы маем той пагляд, што гэтая пастанова Сойма вялікага аўтарытэту мець не можа. Выбачайце, панове, вось жа мы, калі хацелі правесці паслоў да Сойма Польскай Рэспублікі, то і правялі, а калі да Віленскага Сойма не хацелі, то і не правялі (*голас:* «Бо грошай не было!»). Грошай не было? Вы давалі! Вы давалі нам, але мы не ўзялі. Наступіла помста ўлады за тое, што мы не пайшлі тады да выбараў, як і цяпер спатыкае нас помста за тое, што мы пайшлі і прайшлі. У Вільні чуў рэч нечуваную ў судзе. Судзілі аднаго рэдактара літоўскай газеты. Слухаючы прамову пракурора, чуў такія словы: Я дамагаюся помсты закону. Гэта можна спраўдзіць у пратаколе. (*Пас. Солтык:* «Хто гэта сказаў?») Пракуратар Акружнога Суда ў Вільні. Дык вось, панове, помста, урадаванне пад знакам помсты! (*Голас:* «Помста права!») Чуў тут аб помсце права, а не аб вымеру справядлівасці. І дзіва, што праўнік можа гаварыць аб помсце права. Можа быць вымер справядлівасці.

І вось у гэтай Віленскай справе выслалі грамадзян за граніцу. Суду не распачалі, абвінавачання нікага не прад'явілі, без дазнання выкінулі людзей, якія проста не падабаліся.

Мы з гэтай трыбуны вымагаем ад п. Міністра Унутраных Спраў і п. Міністра Справядлівасці распачаць следства ў гэтай справе. Хай вызначаная камісія дазнаецца, як гэта ёсць у сапраўднасці. І калі тыя асобы вінны, хай распачнуць проціў іх суд, і суд выдасць свой прыгавор, тым болей што некаторыя ўжо з іх вярнуліся, а калі яны не вінаваты, то ў такім выпадку павінны быць прыцягнуты да адказнасці тыя паны.

Далей справа грамадзянства. Між іншым, трэба адзначыць, што для сцверджання грамадзянства ў Польшчы існуе 18 пастаноў, паводле якіх можна азначыць грамадзянства. Вось жа кожны староста, кожны «кацык» крэсавы азначае так, як яму падабаецца, і людзі, якія з дзеда-прадзеда жылі на гэтай зямлі, якія згодна з Версальскім трактатам мусяць мець правы да грамадзянства, не атрымліваюць іх і

выкідаюцца за граніцу. Пазбаўленне грамадзянства і адбіранне пашпартоў ад грамадзян Польскай Рэспублікі ёсць асобным лагодным палітычным тэрорам, г. ё. засудзіць грамадзяніна на палітычную смерць.

А далей возьмем справы касцельныя і царкоўныя. Тут практыка польскага ўрадавання такая, што зрывае лаўры мучальніцтва Звяровічам, Грынявіцкім, Ропам і іншым біскупам польскім, якіх вывозіў расейскі ўрад. Вось нядаўна гвалтам вывезлі з Вільні епіскапа Элеўферыя. (*Голас:* «Не слухаў уладаў!») Але ж не з паліцыяй гэта робіцца і не вам так рабіць, хрысціяне! Далей забралі гарадзенскага епіскапа, і цяпер яго перавозяць да якогасьці манастыра, на шчасце праваслаўнага, бо Элеўферы пасаджаны ў манастыры не праваслаўным, а каталіцкім. (*Голас:* «З манастыроў робяцца вастрогі».) Так, панове, гэткім чынам з манастыроў робіце вастрогі. Гэта ёсць здзек над правамі чалавека.

А якая вялікая крыўда дзеецца беларускаму народу, большая, як прымусовае адбіранне зямлі, як зачыненне школ! Тая крыўда, што дзеецца вядомай хваробай некаторых частак польскага грамадзянства: некаторыя слаі польскага грамадзянства хварэюць на ненавісць. Ненавідзяць немцаў, ненавідзяць кожнага суседа, ненавідзяць расейца, ненавідзяць украінца, ненавідзяць беларуса. (*Голас:* «Няпраўда!») З прыемнасцю прымаю гэтую заяву! Вось жа, панове, лічу, што народ беларускі расце ў нездаровых варунках і сам можа заразіцца ненавісцю.

Добра разумею, што ў пашырэнні гэтай ненавісці ёсць пэўная дэмагогія, дэмагогія слаёў, што чуюць хуткі канец, іменна тых слаёў, якім з-пад ног высоўваецца грунт; ёсць гэта класа землеўласнікаў, яна чуе гэта і хоча абаперці ўсю сваю сілу і нават сваю здольнасць да жыцця на гэтай нацыянальнай ненавісці: (*Голас:* «Нацыяналісты».) У мазгах, замарочаных ненавісцю, родзяцца надта небяспечныя для польскай гаспадарсцвенасці брэдні. Вось аднэй з такіх брэдняў ёсць, што не бачаць таго, што ёсць, а з другога боку бачаць тое, чаго няма. (*Голас:* «То ж бо тоё!») Існуюць беларусы, існуюць украінцы, мы з'яўляемся довадам таго, што існуюць, але вы гэтага не бачыце, не хочаце бачыць. (*Кс. Альшанскі:* «Не!») Дык ксёндз гэтага не бачыце? (*Кс. Альшанскі:* «Не!») Дык дайце яму такія акуляры, праз якія б ён бачыў. А ўрэшце, калі і ёсць беларусы, калі і ёсць якіясьці там украінцы, дык іх надта лёгка апалячыць... (*Голас:* «Мыляецеся!»)

Вось жа, мае паны, цяпер ужо мінуліся тыя часы, калі так лёгка, насільна пазбаўлялі народ яго нацыянальнасці. Сам польскі народ ёсць жывым прыкладам гэтага. Таксама і Літва з'яўляецца надта добрым прыкладам таго, што пазбавіць народ яго нацыянальнасці не можна, а, урэшце, насколькі Польшча калісьці мела вялікую асіміляцыйную сілу праз сваю шляхту і прыцягвала іншую шляхту да сябе, то цяпер магчымасцей асіміляцыйных ужо няма. (*Голас:* «А чаму?») А няма іх дзеля таго, што не йдзе згодна з тымі прынцыпамі, якія абвяшчае: вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі.

Выбары разбілі тыя брэдні, што няма ўкраінцаў і беларусаў. Хто прайшоў з нашых беларускіх абшараў да Сойма, каго бачым? Бачым тых, што зусім выразна йшлі пад беларускім флагам, і зноў бачым «Wyzwolenie», гэта тых, якія, думаю, шчыра абвяшчалі свабоду народам, тых, якія карысталіся беларускаю мовай, тых, якія абяцалі беларусам тэрытарыяльную аўтаномію. (*Пас. Рудзіньскі:* «Польшча павінна быць краем свабоды, а не нацыяналізму!» *Воплескі. Рудзіньскі:* «Польшча ёсць рэспублікай вольных народаў! *Воплескі.)*

Вось жа на гэтых лаўках «Wyzwolenia» ёсць так-

сама некалькі беларусаў, нават праваслаўных. (*Вітас:* «Вось навіна! Не ведаў».) Адзавіцеся, вызваленцы, ці ёсць сярод вас беларусы? (*Галасы:* «Так, так».)

Дык вось жа, з беларускіх абшараў прыйшлі беларусы, выключаючы Вільню, дзе ў звярынцу віленскага нацыяналізму гнездзіцца Хіена, і з гэтага звярынцу маем тут некалькі экземпляраў.

Калі лопнула адна ілюзія, пачалі будаваць другую, падта небяспечную. Прыдумалі так званую нацыянальную польскую большасць. У суботу мы мелі прыемнасць чуць цэлую тэорыю аб гэтай польскай большасці з гэтай трыбуны ад паважанага праф. Гламбіньскага. Калі б гэта гаварыў не прафесар, не дзівіўся б, але гаварыў гэта чалавек адукаваны і гаварыў, што ў найважнейшых польскіх справах могуць рашаць толькі адны палякі. Гэткімі паняццямі аперыруе гэты, як бы ні было, паважаны чалавек.— «Справы найважнейшыя і польская большасць». Справы найважнейшыя... Якія гэта найважнейшыя справы? (*Голас:* «Дзяржаўныя!») А дзе ёсць справы не дзяржаўныя? Ці паны прыходзіце да Сойма праводзіць час у буфеце? Мы прыходзім займацца дзяржаўнымі справамі. (*Голас:* «У імя Грунбаўма?») Не, паночкі, у імя народа беларускага, як грамадзяне Рэспублікі. Мы прыходзім першы раз да гэтага Сойма і прыглядаемся крыху здалёк і збоку, дзе ёсць гэтая нацыянальная большасць, вы ўсе (*паказвае направа*), калі верыць газетам і правіцовым і левіцовым, усе прадстаўляеце 2 міліёны выбаршчыкаў, другія польскія партыі — прадстаўляюць 4 міліёны выбаршчыкаў. А дзе ж рэшта? Гэта — брэдні, якія мае ксёндз, што стаіць перада мною, які гледзячы, не бачыць, а слухаючы, не чуе. Мусіць, мае вочы не для таго, каб глядзець, а вушы — каб слухаць.

Не праміну таксама і дагавору з вялікімі дзяржавамі, так званага трактату аб нацыянальных меншасцях. У гэтым трактаце ў арт. 6 гаворыцца: «Прыналежнасць польскую набывае з самага права, праз самы факт ураджэння на тэрыторыі Польшчы, кожны, каму не прыслугоўвае карыстанне з іншай прыналежнасці». Арт. 7 гаворыць: «Усе польскія грамадзяне без розніцы расы, мовы альбо рэлігіі будуць роўныя адносна закону і карыстацца будуць з тых самых правоў цывільных і палітычных». На падставе гэтага права знаходжуся ў Сойме, але гэта панам не падабаецца.

Хочаце змяніць Канстытуцыю, аб гэтым пішаце выразна; хочаце так змяніць выбарную ардынацыю, што, калі нас яна цяпер крыўдзіць, дык паменшыць яшчэ нашы правы, зусім адабраць іх. Дык вось, што датычыцца трактату: разумею, што польскім патрыётам не падабаецца, што палякоў прымусілі яго прыняць, а прынялі і ратыфікавалі яго якраз вашы прыяцелі і калегі, пане Гламбіньскі. Добра б было, каб гэты трактат быў накінуты не адной Польшчы, але і тым дзяржавам, якія накінулі яго Польшчы!

Але вы, панове, робіце рэчы не толькі ганьбячыя польскае імя, але проста небяспечныя для самага існавання Польшчы. Вы сваімі паступкамі хочаце даказаць, што дзяржавы, навязаўшыя гэты трактат, мелі слушнасць. (*Голас:* «Добра сказана». *Пас. Гламбіньскі:* «У вас ніхто правоў не адбірае».) Далей, вашая тэорыя аб большасці, аб тым, каб большасць польская рашала ў дзяржаўных справах, гэтая тэорыя не згаджаецца з разуменнем аб сучасным гаспадарстве, бо сучаснае гаспадарства павінна забяспечваць усім грамадзянам наогул і кожнаму паасобку, незалежна ад расы, ад рэлігіі, ад паглядаў,— роўнасць і роўныя правы. Гаспадарства толькі тады можа існаваць, толькі тады можа быць цярпіма, калі роўна будзе апекавацца ўсімі нацыянальнасцямі, не

перашкаджаючы нікому, хто захоча развіваць сваю мову і культуру. (*Голас на правіцы:* «Маеце ж Канстытуцыю».) Так, але калі гаспадарства гэтых запаведзей не выпаўніць — траціць апраўданне свайго існавання, становіцца прычынай нязгоды людскасці, будзе абвінавачана судом роду чалавечага і змушана будзе альбо перастаць існаваць, альбо адмовіцца ад выканання такой немагчымай палітыкі. (*Пас. Гламбіньскі:* «Хай пан скажа гэта немцам і русінам». *Здаволенне на правіцы.)* Паны смеяцёся! — над сабою смеяцёся! *(Брава і воплескі на беларускіх лаўках.)* Тое, што я сказаў — не мае словы: гэта ёсць словы, якія прачытаў з кніжкі вядомага польскага пісьменніка Вайцеха гр. Дзедушыцкага. *(Галасы на лаўках беларускіх і лявіцы:* «Слухайце, слухайце! Яны не знаюць гэтага!»)

Вось так разумею заданні сучаснага гаспадарства і заданні Польскай Дзяржавы, тым болей што канстытуцыя гэтай Дзяржавы можа служыць прыкладам дэмакратычнай канстытуцыі, у іншым выпадку можа і нас задаволіць. Робіце нам закіды ў нелаяльнасці адносна польскай гаспадарсцвенасці, і чуем заўсёды пытанне: ці стаім на грунце польскай гаспадарсцвенасці, ці не? Вось жа зусім шчыра і яўна, з поўнай адказнасцю за свае словы, адказваю, што пачуваемся да еднасці з цэлым народам беларускім... (*Голас:* «Якім?») Беларускім... Народ і дзяржава гэта зусім што іншае,— а Народ Беларускі мае выразныя незалежніцкія тэндэнцыі... *(Крыкі. Пас. Рудзіньскі:* «Ці вы, панове, стыдаецеся сваёй польскай незалежнасці? Усякі ж народ мае права да незалежнасці, як палякі, так і беларусы». *(Маршалак звоніць.)* Незалежнасць гэтую глыбока ў сэрцы хаваем і пястуем, але з'яўляемся лаяльнымі грамадзянамі Польскай Дзяржавы, можа, болей, чым многія з тых паноў, што сядзяць тут *(паказвае направа)*; бо не робім і не маем



замеру рабіць ніякіх чынаў, якія могуць быць караны законамі Рэспублікі, іначай кажучы, разумеем гэтую справу эвалюцыйна, а не рэвалюцыйна,— і людзей — сапраўдных патрыётаў, людзей сумленных, гэта павінна задаволіць. Вось жа, панове, мы шанавалі вашу барацьбу за незалежнасць, але і вы мусіце ўшанаваць нашу. Мы не хочам быць падобнымі да тых... *(перабіваюць справа)*. Хай пан не адзываецца з якой рацыі?.. Не хочам быць падобнымі да тых, якія хоць у добрай веры, пане Гарусевіч, і хоць з замераў патрыятычных, але аблудна пасылалі вернападданныя дэпешы да Пецярбургу ў той час, калі іх зусім маглі і не пасылаць. *(Брава на лявіцы. Маршалак звоніць. Рух на лявіцы.)* Панове, мы не хочам быць падобнымі да тых... *(шум на лявіцы)*. Хай паны дазволяць гаварыць *(зварочваючыся да лявіцы)*. Мы не хочам быць у сітуацыі... *(Крыкі. Маршалак:* «Прашу супакоіцца».)... нязручнай сітуацыі тых, якія казалі: «Пры табе стаімо і стаяць будзем, Найяснейшы Пане». *(Крыкі. Маршалак звоніць.)* Урэшце, панове, думаю, што гэтых колькі слоў для парадачных людзей хопіць, але мог бы даць прыклады для ляпейшага зразумення. Вось жа, калі, напрыклад, кс. Лютаслаўскі ёсць шчырым каталіком... *(Пас. Хаціньскі:* «Хай пан пачакае, пакуль прыйдзе — я яму скажу». *Голас:* «Без асабістых прытыкаў».) Я кажу толькі кампліменты... Вось жа, калі кс. Лютаслаўскі ёсць шчырым каталіком, то можа думаць, хоць бы ў самай далёкай будучыне, аб тэакратыі. Таварышысацыялісты мусяць мець ідэалам — саюз сацыялістычных рэспублік, але ніхто проціў кс. Лютаслаўскага не распачне за гэта працэсу; альбо сацыялістам... таксама не знойдзецца ніхто такі разумны альбо неразумны, каб распачаць працэс. Прыходзім да Сойма не дзеля таго, каб забаўляцца ў славесныя азначэнні: ці Польская Дзяржава нацыянальная, ці

складаецца з многіх нацыянальнасцяў? Што ж, калі панам падабаецца сказаць, што нацыянальная, згаджаюся — хай будзе нацыянальная. Не ў гэтым справа, бо я рэальных нацыянальных стасункаў, існуючых у Польскай Дзяржаве, лічэбных стасункаў адной нацыянальнасці да другой змяніць не магу. Трудна адказаць, дзе канчаецца дзяржава нацыянальная, а пачынаецца складзеная з многіх нацыянальнасцяў!

Пакідаючы гэтую слоўную гутарку, скажу папросту, з чым мы прыходзім, як грамадзяне Рэспублікі, і чаго мы хочам. А гэтыя жаданні вось якія: стоячы на грунце тэрытарыяльнай аўтаноміі з Краёвым Соймам у Вільні, дамагаемся: найхутчэйшага спынення штучнай каланізацыі і ліквідацыі вайсковага асадніцтва; нацыяналізацыі ўсіх лясоў і безадкладна выдання закону, рэгуліруючага вырубку лясоў, з мэтай забеспячэння краю ад знішчэння; увядзення ў жыццё зямельнай рэформы, якая б насамаперш забяспечвала інтарэсы мясцовай беззямельнай і малазямельнай люднасці, надзяляючы яе зямлёю без выкупу. (*Голас:* «Без выкупу?») Так, бо калі адных надзяляюць без выкупу, то і другім тое самае належыцца; зварот рэпатрыянтам канфіскаванай дзяржаваю зямлі; адбудова зруйнаваных вайною вёсак і мястэчак. Дапамога рэпатрыянтам, свабода арганізацый у эканамічным жыцці. Безадкладнае выданне законаў, забяспечваючых беларускай люднасці культурнае і прасветнае развіццё, дапушчэнне беларускай мовы ў адміністрацыю і суд, няўмешванне адміністрацыйных уладаў у рэлігійнае жыццё. Умешваюцца не толькі да царквы праваслаўнай, але і царквы каталіцкай. (*Рудніцкі:* «Няма каталіцкай царквы».)... Касцёла каталіцкага. Вельмі перапрашаю. Вучуся польскай мовы, і гэта можна мне выбачыць, у праціўным разе папрашу, каб дазволілі мне гаварыць па-беларуску. (*Маршалак:* «Гэтага не дазволю».)



Хачу адзначыць на гэтым месцы, што дзе ёсць ксёндз-паляк, дык яму можна весці ў касцёле ўсякую агітацыю, а калі ёсць ксёндз-беларус, дык рэвізоры прыходзіць з карткай і забараняе ксяндзу гаварыць казанні ў беларускай мове.

Няўмешванне адміністрацыйных уладаў да рэлігійнага жыцця, адміністрацыя з мясцовых элементаў, увядзенне дэмакратычных прынцыпаў, суда прысяжных і выбарнасці міравых суддзяў, урэшце, тэрытарыяльная арганізацыя войска.

Пераходжу цяпер да экспазэ п. Старшыні Міністраў. Вельмі шмат маем незаспакоеных крыўдаў, шмат маем патрэбаў, але аб гэтых нашых патрэбах п. Старшыня Міністраў у сваім, надта вычарпальным у іншых галінах, экспазэ — гаварыў надта мала. Успомніў толькі, што будзе прытрымлівацца Канстытуцыі. У нас вось як гаворыцца па-беларуску: абяцанка — цацанка, а дурному радасць. Але мы з гэтага не цешымся і добра ведам, што Канстытуцыя — Канстытуцыяй, а жыццё застаецца жыццём, і што ў жыццё гэтае Канстытуцыя поўнасцю не праводзіцца. Пан Старшыня Міністраў таксама не даў, пакольні можна судзіць з яго экспазэ, ніякіх гарантый, апрача абяцанак, што Канстытуцыя будзе праведзена ў жыццё. Адным словам, нічога рэальнага нам не сказаў. Праўда, мы чулі кампліменты аб нашым жаўнеры, што ёсць храбры, кемлівы — кампліменты надта салодкія для нашага народу, але дапушчаю, што ў Дзяржаве Польскай не толькі маем права быць гарматным мясам, але таксама — права на дабрабыт, якое можа даць Дзяржава. І, аддаючы Дзяржаве сваю маёмасць, аддаючы Дзяржаве сваё жыццё, мусім мець і правы. Як да іншых урадаў, так і да ўраду п. генерала Сікорскага маем асаблівае перакананне, маем няпэўнасць. Калі польскія партыі не хочуць узяць поўнай і яўнай адказнасці за гэты ўрад, то мы не

хочам браць ніякай адказнасці і мусім зазначыць, што праз свае адносіны да ўраду, не хочам выклікаць ніякага крызісу, забурэнняў, якіх каб не было.

## ПРАМОВА НА 30-м ПАСЯДЖЭННІ СОЙМА 23 САКАВІКА 1923 ГОДА ПРЫ АБМЕРКАВАННІ СПРАВАЗДАЧЫ АГРАРНАЙ І БЮДЖЭТНАЙ КАМІСІІ АБ ПРАПАНОВЕ ПАСЛА БРЫЛЯ Ў СПРАВЕ КРЭДЫТАЎ ДЛЯ АСАДНІКАЎ

**Пас. Тарашкевіч:** Панове! Беларускі народ паслаў нас у Сойм у асноўным па дзве рэчы — па школу і па зямлю. Закон аб асадніцтве п. Брыля з'яўляецца дапаўненнем да закону аб асадніцтве з 17 снежня 1920 г. Закон жа гэты нацэлены на кроўныя жыццёвыя інтарэсы беларускага люду. (*Голас:* «Абшарнікаў!») Перш за ўсё беларускага люду. (*Голас:* «Нічога яму не сталася!») Сцвярджаю, што закон гэты незаконны, ненармальны, бязмэтны і шкодны. (*«Голас:* «Тое самае гавораць і абшарнікі».) Магчыма. Закон гэты незаконны таму, што быў выданы 17 снежня 1920 г. на тыя абшары, на якія Польшча ў той час не мела яшчэ суверэнных правоў. Не мела суверэнных правоў тады — сёння іх не аспрэчваю — таму, што мірны дагавор паміж Польшчай, Расіяй і Украінай быў падпісаны ў Рызе 21 сакавіка 1921 г. (*Пас. Кернік:* «Але граніцы былі ўжо акрэслены 21 верасня на падставе прэлімінарыяў».) Прэлімінарны мір становіцца мірам толькі пасля яго ратыфікацыі. Тут ніхто з юрыстаў не возьмецца абвяргаць. Але я пакідаю... *(Голас:* «Гэтыя землі спрадвеку належалі Польшчы!» *Гоман. Маршалак звоніць.)* Спрадвеку гэтыя землі Польшчы не належалі. Гэтыя 22 паветы



ніколі не належалі Польшчы. (*Гоман. Пратэсты. Голас:* «Заўсёды!» *Іншы голас:* «За чые грошы пан гаворыць?») Да Кароны яны ніколі не належалі, належалі Літве, і Літва пастаянна выступала ў абарону сваіх правоў на гэтыя землі. Не дапускала чыноўнікаў, не дапускала каланізацыі. *(Голас:* «З якіх крыніц пачарпнуў пан гэта?») Гэта гістарычная праўда і ніхто не здолее яе абвергнуць. *(Гоман.)*

Але я пакідаю ў баку тое, што было калісьці і скірую ўвагу на зламыснасць снежаньскага закону ў адносінах да беларускага і ўкраінскага насельніцтва. Менавіта ў арт. 2 гаворыцца *(чытае):*

«На моцы дадзенага закону таксама могуць перайсці ва ўласнасць Дзяржавы прыватныя землі:

а) поўнасцю, калі былі пакінуты ўласнікамі і калі ўласнікі або асобы, юрыдычна іх прадстаўляючыя, не вернуцца на свае сядзібы да 1 красавіка 1921 г.»

Заключаны і падпісаны 18 сакавіка 1921 г. у Рызе мірны дагавор быў ратыфікаваны толькі ў маі, закон жа гаворыць, што той, хто не вярнуўся да 1 красавіка, траціць права на свае землі. А колькі ж было такіх высланых царскімі ўладамі перад вайной на ўсход, колькі не магло вярнуцца? (*Пас. Палякевіч:* «І таму зямля мела пуставаць?») І таму трэба забраць у іх зямлю? Не, ніколі! Гэтая зямля не можа быць канфіскаваная! Перш за ўсё таму, што з гэтай трыбуны мы не раз чулі: Польшча абапірае сваё існаванне і стаіць на грунце патадненняў! А што гаворыць Версальскі трактат, аб чым гаворыцца ў Рыжскім дагаворы? Версальскі трактат, Рыжскі трактат поўнасцю гарантуюць грамадзянам іх правы на зямлю. Ніхто не можа гэтага аспрэчваць. Можна, панове, крычаць, але юрыдычна аспрэчваць нельга.

Такім чынам, панове, закон у сваім зародку асноўваецца на бяспраўі. Мы павінны гэта падкрэсліць. (*Пас. Кернік:* «У вашым разуменні!» *Голас у цэнтры:*

«Пан бароніць абшарнікаў!» *Пас. Падгорскі:* «Лепш абшарнікаў, чым асаднікаў». *Пас. Кернік:* «Вам лепей, нам не. Нам асаднік важней, чым абшарнік».) Закон быў прыняты без ушанавання трактатаў і права, а што ўжо казаць аб яго ажыццяўленні! Робяцца жахлівыя рэчы. Няма патрэбы тлумачыць і даказваць, вы самі добра ўсё ведаеце. Існуюць страшэнныя злоўжыванні, якія, паўтараю, накіраваны ў першую чаргу супраць беларускага і ўкраінскага насельніцтва. (*Пас. Падгорскі:* «Так яно і ёсць!») Так ёсць, панове! Нядаўна тут, з гэтай трыбуны пас. Карфанты, які так нападаў на немцаў за іх каланізацыю... (*Голас:* «Чаму каланізавалі?» *Голас у цэнтры:* «А чыю зямлю парцэлявалі? Польскую зямлю») ...гразіўся ў наш бок і гаварыў: «Панове, хіба вы забароніце нам на гэтых польскіх абшарах, якія належаць польскаму грамадству, пасадзіць нашых асаднікаў, нашых салдат?» (*Пас. Палякевіч:* «Там пасялілі не толькі польскіх грамадзян, але таксама і беларусаў».) Ніводзін беларус не атрымаў зямлі на гэтых абшарах. (*Голас:* «Мы вашай зямлі не хочам».) Дык вось, мушу рашуча адхіліць усялякія закіды і пагрозы ў тым разуменні, як разумеем гэта мы і як разумее ўвесь народ, што для вас будзе справай вельмі павучальнай. Перадусім сцвярджаю, што галоўны цяжар гэтага закону, у даным выпадку адчужэння, лажыцца на беларусаў, украінцаў і рускіх. (*Голас:* «Чаму, ці таму, што тыя, хто не вернецца да 1 красавіка, будуць адчужаны?» *Іншы голас:* «Таксама і польскія грамадзяне, калі не вернуцца да 1 красавіка».) Пра рускіх грамадзян гаварыць не прыходзіцца, бо яны на самай справе трацяць землі ў першую чаргу, а затым на моцы гэтай установы пазбаўляюць зямлі беларускіх і ўкраінскіх грамадзян. (*Голас:* «Дык жа і польскіх грамадзян, якія не вярнуліся да 1 красавіка!») Гэта адно.



Не прызнаём і ніколі не прызнаем таго, што землі, якія належаць польскаму грамадству і знаходзяцца на нашай тэрыторыі, з'яўляюцца польскімі землямі. Задам панам такое пытанне: ці землі, якія знаходзяцца на абшарах усходняй або заходняй Галіцыі і належаць грамадзянам польскай, украінскай або яўрэйскай нацыянальнасці, з'яўляюцца польскімі, украінскімі або яўрэйскімі землямі? Ніхто з яўрэяў не назаве іх яўрэйскімі. Гэта польска-ўкраінскія землі, якія належаць уласнікам-яўрэям. (*Голас з правых лаваў:* «І з гэтай пары пан зрабіўся беларусам?»)

Панове, на якой падставе нашыя землі павінны перадавацца чужынцам? На якой падставе, пытаю. Мо таму, што польскае грамадства на нашых «крэсах» так многа нам дало, так многа дало нашаму народу і сваімі заслугамі перад нашай краінай выкупіла зямлю? Барані бог! Па сутнасці, польскае грамадства ў пераважаючай сваёй частцы было паразітам на нашых землях. У апошнія гады назіралася, што праўда, пэўнае паляпшэнне, распачалася інтэнсіфікацыя аграрнай культуры, аднак доўгія дзесяткі год, цэлымі стагоддзямі яны былі паразітамі на гэтых землях. (*Галасы:* «Нахабства! Пераважна ў Сібіры былі! Колькі месяцаў пан з'яўляецца беларусам?») Ад нараджэння, палякам ніколі не быў.

Дык вось, панове, калі вы будзеце прад'яўляць нам гістарычныя рахункі, мы таксама прад'явім гістарычныя рахункі, і не знойдзецца такой сумы, якой можна было б іх аплаціць.

Што датычыць культуры, то пры ўсёй маёй павазе да польскай культуры мушу сказаць, што польскае грамадства не прынесла нашаму народу на «крэсах» вялікай культуры. Для прыкладу спашлюся на г. зв. польскія Інфлянты. Дык вось, перад вамі Латвія і Курляндыя, дзе высокаадукаваным класам былі нем-

цы, а побач польскія Інфлянты. Якая розніца ў цывілізацыі, культуры! Колькі асоб у польскіх Інфлянтах умеюць чытаць і пісаць? (*Голас:* «Пан забывае, колькі гадоў тут правіў маскоўскі ўрад!» *Пасол Гламбіньскі:* «Рускі ўрад прыгнятаў наш народ».) Правіў і тут і там.

Далей, не забывайце, панове, што ў сутыкненні з Польшчай, у гэтым супольным жыцці мы страцілі сваю культуру, вы ж атрымалі карысць. З нашай, магчыма, беднай, але прыгожай зямлі да вас прыйшлі Міцкевіч, Касцюшка *(вясёлае ажыўленне)*, вы атрымалі Манюшку, Кандратовіча, Ажэшка. Не хачу прысвойваць беларусам гэтых вялікіх людзей *(весялосць)*, але хто пасмее сцвярджаць, што гэтыя вялікія людзі, бясспрэчна палякі па пераконанням, не былі косць ад косці, кроў ад крыві беларусамі. *(Весялосць.)* Панам смешна, што не ведаю літаратуры. Калі ласка, вазьміце антрапалагічнае даследаванне аб Міцкевічу пяра Талькі-Грынцэвіча і прачытайце там, кім быў Міцкевіч. (*Голас:* «Паходзіў з дробнай польскай шляхты».) Дык жа тая польская шляхта была спаланізаванай беларускай шляхтай. Вазьміце, панове, Касцюшку, вазьміце працы Кажона. Шкадую, панове, што вы не чытаеце такіх капітальных польскіх твораў. Вы знойдзеце там, што дзед Касцюшкі быў праваслаўным беларусам. Дакументы напісаны па-беларуску. Звярніце, панове, увагу на прозвішчы: Міцкевіч, Кандратовіч, Касцюшка. (*Голас:* «Тарашкевіч». *Весялосць.)* Гэта ж усё беларускія прозвішчы. Я не гавару, што беларусы хочуць прысвоіць сабе ўсіх гэтых вялікіх польскіх людзей. Беларусы могуць іх толькі любіць, шанаваць, але пры ўсім тым не могуць зрачыся той праўды, што іменна яны кроў ад крыві, косць ад касці — беларусы. (*Голас:* «Тут, пане, вырашае псіхіка, а не кроў і косць».)



**Маршалак:** Напамінаю прамоўцы, што мы праводзім дыскусію ў прыватнасці па 1 арт.

**Пас. Тарашкевіч:** Вось так, панове, выглядаюць гістарычныя рахункі, аднак апрача юрыдычных параграфаў, апрача трактатаў ёсць яшчэ іншыя прынцыпы законнасці, якія народ носіць у сваёй нацыянальнай, грамадскай, сацыяльнай свядомасці і ў сваім сумленні. У народным усведамленні зямля, на якой народ сядзіць тысячу год, на якой стагоддзямі пralіваў пот і кроў, гэтая зямля павінна яму належаць. Гэта не агітацыя, я не маю намеру сагітаваць вас, але вы павінны лічыцца з тым, што ў народнай свядомасці жыве такі прынцып. Можаце назваць яго бальшавіцкім, у такім выпадку я таксама з'яўляюся ў гэтых адносінах бальшавіком. Лічыцеся, аднак жа, з тым, што такі прынцып ёсць і што народ ніколі не дазволіць вырваць у яго зямлю і не дапусціць гвалту над сваімі прыроднымі правамі на зямлю, на якой ён працаваў. *(Гоман. Маршалак звоніць. Галасы ў правым сектары:* «Ніхто гэтай зямлі ў беларускага народа не вырывае. Народ сам карыстаецца ёю».)

Ёсць яшчэ адна ненармальная рэч. (*Голас з правых лаваў:* «Тарашкевіч».) Пан вельмі дасціпны. Менавіта падкрэсліваецца, што зямлю гэтую павінны атрымаць героі, якія змагаліся за айчыну. (*Голас:* «Слушна».) Так, слава героям! Але не забывайце, панове, што апошні подпіс і пячаць на дыплом гераізму ставіць толькі смерць, і бясспрэчнымі героямі з'яўляюцца тыя, што загінулі. А яны атрымалі ўжо свой зямельны надзел і на той скромнай дзялянцы знайшлі вечны спачын. (*Голас:* «Як гэта, няўжо няма жывых герояў?») Іншыя хочуць выкарыстаць іх кроў і заслугі. Мы ўважаем, што гэта абраза гонару польскага салдата, знявага польскай годнасці і ніколі ad majorem Poloniae gloriam * не прычыніцца.

* Да большай славы Польшчы *(лацін.)*.

Легіёны Пілсудскага страцілі свой гонар на нашых «крэсах» іменна дзякуючы асадніцтву. Асадніцтва ж гэтае, панове, перш за ўсё бязмэтна. У польскіх меркаваннях дзяржаўнага парадку якія мэты ставіліся: галоўная мэта — паланізацыя «крэсаў», затым перасяленне пэўнай часткі насельніцтва з карэннай Польшчы на «крэсы», каб захаваць такім спосабам у Польшчы маёнткі абшарнікаў. Так, вы абараняеце маёнткі абшарнікаў, бо вы не хочаце даць польскую зямлю народу і польскаму салдату. Вы ўважаеце, што лепш выслаць гэты польскі люд на «крэсы», лічыце за лепшае даваць яму няпольскую зямлю. Такім чынам, вы хочаце, каб адзін народ пайшоў на другі, каб зрадзілася нянавісць паміж імі. Ёсць яшчэ адна мэта: дзякуючы асадніцтву, маўляў, павысіцца аграрная культура на «крэсах». І так, першнаперш, што датычыцца першай мэты — адносна паланізацыі, адносна пашырэння польскай культуры. Панове! Хіба гэтыя пляцоўкі могуць быць тымі асяродкамі польскай культуры, якія прыцягвалі б да сябе ўкраінскае і беларускае насельніцтва? Хутчэй такімі цэнтрамі павінны быць школы, універсітэты. Беларускія і ўкраінскія землі займаюць асаднікі, якія да ліку герояў не належаць, а калі і належаць, то пераважна да тых герояў у двукоссі. (*Голас:* «Каторыя не хацелі паміраць».) Вось іменна, да тых герояў, што не хацелі паміраць. (*Пас. Ануш:* «На жаданне пас. Тарашкевіча трэба памерці, бо толькі тады можна стаць героем!») Далей, калі Бісмарк паставіў сабе за мэту каланізацыю Пазнаншчыны, дык рабіў гэта вельмі растаропна і планава: ён пасылаў у Пазнанскае княства лепшых земляробаў, людзей высокай аграрнай культуры, здольных павысіць культурны ўзровень краю. Інакш выглядаюць справы ў нас. Асаднік не толькі не паднімае аграрнай культуры, а якраз наадварот, з'яўляецца варварскім эксплу-



ататарам зямлі, прадае лес, што атрымаў на будаўнічы матэрыял, прадаў бы сёння і тую зямлю, калі б толькі атрымаў яе ва ўласнасць, і выехаў бы сабе, пляваўшы на «ўсходнія крэсы». Таму і асадніцкія калоніі, гэтыя аракчэеўскія калоніі, гэтая казаччына, ніколі не будуць тым, што прыцягвала б украінскае і беларускае насельніцтва да польскасці, скарэй паспрыяе паглыбленню прорвы нянавісці паміж палякамі і гэтымі народамі.

Панове, калі сёння, калі некалькі дзён таму назад вы пачулі з вуснаў пана Міністра Справядлівасці аб тым, што на беларускай тэрыторыі зрадзіўся нейкі антыдзяржаўны рух, я не буду запярэчваць, магу толькі пацвердзіць факт. Так, панове, ёсць такі рух, аднак віну за гэта нельга звальваць ні на польскую адміністрацыю, ні на якіясь здзелкі з Коўнам ці Менскам. Існуюць, безумоўна, розныя ўплывы і ковенскія, і менскія, існуюць таму, што знаходзяць там падатлівы грунт, а знаходзяць той грунт (*пас. Ануш:* «Бо маюць грошы»), бо ў свядомасці беларускага і ўкраінскага селяніна ўзнікла трагедыя. У яго свядомасці жыве тое разуменне закону, што зямля, на якой ён працаваў і працуе, на якой умíралі ягоныя дзяды, павінна яму належаць, ён жа бачыць, што землі не толькі яму не належаць, але аддаюцца прышэльцам, і народ з гэтым не можа пагадзіцца. Зараз народ хвалюецца, і калі і далей будзе працягвацца абвешчаная каланізацыя, паверце, будуць не тысячы арыштаваных, як цяпер, але дзесяткі тысяч. І памятайце, панове, перасцерагаю вас, што калі-небудзь прыйдзе страшэнная ноч, у якую ўсе асадніцкія калоніі могуць пайсці «Z dymem pożarów, z kurzem krwi bratniej *». (*Пас. Дэмбскі:* «Не палохайце, не

* З дымам пажараў, з курывам братняй крыві.

палохайце!» *Голас з правіцы:* «Загадзя будзем ведаць, хто зрабіў!»)

Мы не хочам гэтага і з гэтай рацыі перасцерагаем паноў: не падбівайце на такія страшныя справы. (*Голас у цэнтры:* «Калі б вы гэта гаварылі сваім братам, дык вас бы выгналі. На такую агітацыю русіны не пойдуць!») Упамінанні аб тым, як гаспадараць асаднікі, можам знайсці ў кожнай газеце. (*Голас:* «У якой газеце?») Сёння бяру «Myśl niepodległą» за 17 сакавіка г.г. і чытаю наступнае *(чытае):* «Gazeta Nieświeska» 10 сакавіка паведаміла аб наступным факце: Уладальнік Сталовіч князь Радзівіл добраахвотна і бясплатна ахвяраваў на карысць асадніцтва 480 дзесяцін зямлі пад самым мястэчкам Сталовічы. Зямлю падзялілі на ўчасткі і раздалі асаднікам. Вынікі мізэрныя. У сучасны момант толькі на трох дзялянках гаспадараць асаднікі Лазіньскі, Ясіньскі і Баура. Тры дзялянкі ляжаць аблогай. На астатніх гаспадараць яўрэі са Сталовіч. Асаднікі, піша «Gazeta Nieświeska», атрымаўшы надзелы, даўно выпырхнулі з сваіх гнёздаў, а пад іх стрэхамі гняздзяцца шакалы, якія адкормліваюцца рэшткамі польскай зямельнай уласнасці». Вось вынікі вашага асадніцтва: асаднікі «выпырхнулі». Выпырхнулі паміж іншым і таму, што разумеюць, на якім няпэўным, небяспечным грунце знаходзяцца і што ім пагражае тое, аб чым я ўжо тут гаварыў. (*Голас:* «Калі маюць такіх таварышаў, як пан, дык сапраўды».) Ніякія мільярды не памогуць, дарма кідаеце грошы, лепш кінуць іх у балота, прынамсі, ніякай крыўды не прынясуць і шкоды не зробяць, а калі кінеце гэтыя грошы на асадніцтва, вынік будзе іншы, не той, на які спадзяецеся.

**Пас. Ануш.** А пан верыць у дзейснасць бальшавіцкіх мільярдаў?



**Пас. Мар'ян Дамброўскі:** Не, ён верыць у дзейснасць ковенскіх мільярдаў.

**Пас. Міхаляк:** Не, у эфектыўнасць нямецкіх мільярдаў, прывезеных праз Коўна.

**Пас. Мар'ян Дамброўскі:** А што пан падпісываў два тыдні таму назад?

**Маршалак:** Прашу не ўступаць у спрэчку, а прытрымлівацца тэмы.

**Пас. Тарашкевіч:** Пане Маршалак, трэба ўстанавіць, як завецца гэты пасол, ён павінен адказаць за свае словы.

**Маршалак:** Прашу ўстрымацца ад спрэчкі і прыступіць да тэмы.

**Пас. Тарашкевіч:** Так, але вы, пане пасол, мусіце адказаць за тое, што сказалі тут. Шукаюць вінаватых, бачаць прычыны зла заўсёды не там дзе яны ёсць, а яны іменна ў гэтым асадніцтве. Чаму народ нездаволены... (*Голас:* «Бо пан там агітуе».) Пан таксама там агітаваў, меў мільярды на агітацыю і нічога не дабіўся. Асновы тут іншыя, прычыны глыбокія, сацыяльныя. І дарма абрушваюцца громы на адміністрацыю, на злоўжыванні адміністрацыі. Дарэчы кажучы, дарма тут крыўдзяць людзей зусім невінаватых, тых чыноўнікаў, якія ў царскія часы былі на рускай службе. Некалькі дзён таму назад мы нават пачулі ад п. Панятоўскага, што вінаваты чыноўнікі, якія былі на рускай службе. Кепскі звычай, брыдкі звычай пастаянна пляваць, калі трэба і не трэба, у той бок. Зневажаць звергнутага непрыстойна і, што найважней, нават небяспечна, бо гэты звалены мядзведзь можа прачнуцца і тады... (*Голас:* «А тады пан паклоніцца».) Гавару тут аб гэтым таму, што гэтая справа нас моцна закранае. Паны б'юцца, а ў нас чубы трашчаць. Жыццёвыя гарызонты перад намі расчыняцца толькі тады, калі Польшча і Расія паміраццa не па прынцыпу падзелу Беларусі і Ук-

раіны, але на аснове іх прызнання. (*Голас:* «Хитро и мудро». *Іншы голас:* «Па-польску: шыта-крыта».) Гэтым праектам п. Брыля хочаце наклеіць пластыр на страшную язву. Язву трэба выразаць, асадніцтва поўнасцю зліквідаваць (*голас*: «Прыстасуемся да гэтага») і правесці зямельную рэформу. *(Воплескі на лавах нацыянальных меншасцяў. Маршалак звоніць.)* І тады засыпеце тую прорву, якую самі капаеце паміж беларускім, украінскім і польскім народамі. (*Голас:* «А пан часам не заяўляе прэтэнзіі на Саскую Кэмпу?») Таму наш беларускі клуб уносіць наступныя прапановы: Заклікаць урад прызначыць 50 мільярдаў марак на зямельную рэформу і на адбудову знішчаных вайной беларуска-ўкраінскіх зямель. Другая прапанова: Вызначыць соймавую камісію з удзелам прадстаўніка Беларускага клуба для даследавання справы вайсковага асадніцтва. На заканчэнне, заклікаю вас дапамагчы засыпаць прорву нянавісці (*голас:* «Якую вы капаеце»), якую капаеце *(крыкі)*, і не даваць грошай на распаўсюджванне бандытызму і нянавісці!

## ПРАМОВА НА 40-м ПАСЯДЖЭННІ СОЙМА 26 МАЯ 1923 ГОДА ПРЫ АБМЕРКАВАННІ ЗАКОНУ АБ ПАПЯРЭДНІМ ПРАЕКЦЕ БЮДЖЭТУ НА ПЕРЫЯД АД 1 КРАСАВІКА ДА 30 ЧЭРВЕНЯ 1923 ГОДА

**Віцэ-маршалак Панятоўскі:** Слова мае пасол Тарашкевіч.

**Тарашкевіч:** Высокая Палата! Пан пасол Карфанты вельмі дасціпна і трапна ахарактарызаваў палітыку ўрада п. ген. Сікорскага ў дачыненні да нацыянальных меншасцяў: адзін раз, маўляў, давалі цукерку, другі раз — бізун. Я хацеў бы ўдакладніць гэтае выказванне і падкрэсліць, што цукеркі не давалі, а толькі паказвалі, затое некалькі разоў пачаставалі бізуном, і бізун быў вельмі адчувальны. Чую голас з гэтага боку палаты — і дзякуй богу, што далі скаштаваць бізуна. (*Голас:* «Не было такога голасу».) Мы разумеем сутнасць палітыкі п. Сікорскага, пан пасол вельмі добра яе растлумачыў і паказаў, што генерал Сікорскі, як і ўсе папярэднія г. зв. дэмакратычныя ўрады Польшчы, знаходзіўся пад націскам і тэрорам палітычнай думкі правых колаў. Хацелася нешта зрабіць, бывалі часам добрыя намеры і планы, аднак здзейсніць іх нельга было, бо азіраліся на тое: а што скажа эндэцыя? Мы зрабілі б, але эндэцыя? І часамі здавалася, што, магчыма, лепш было б, каб тая эндэцыя яўна прыйшла да ўлады, паказала сваё аблічча і мы ведалі б, што можна рабіць, што можна рэалізаваць, а чаго нельга рабіць. Стала ўжо прывычным сцвярджэнне, якое паўтарае не толькі п. Сікорскі, але і ўсе ранейшыя ўрады, таму і адказнасць за яго мы ўскладаем не толькі на ген. Сікорскага, але на ўсю сістэму, сцвярджэнне, што, як казаў калісьці Сталыпін: «Спачатку ўціхамiранне, а потым рэформы». І ўвесь час уціхамірваюць, уціхамірваюць, а рэформ абяцаных не відаць. Дык вось мы прытрымліваемся думкі, што ўрад першы павінен «працягнуць руку», ды не так, як сказаў генерал Сікорскі: «Падаю руку», а па-сапраўднаму працягнуць нам руку і скласці нейкі рэальны план. Толькі так можна спыніць палітыку, якая раздражняе абодва бакі, уносіць замяшанне ў паняцці, калі адныя бачылі ўсюды дзяржаўную здраду, другія — у кожным паляку праследаваццеля. Мы з'яўляемся прадстаўнікамі лаяльнага беларускага грамадства, якія з гэтай трыбуны сцвярджаюць, што народ бе-

ларускі паводзіць сябе спакойна, мы хочам, каб уся сумленная прэса паўтарыла, што мы адмяжоўваемся ад гэтай шалёнай, злачыннай правакацыі, якая паходзіць ад ворагаў Польшчы, інспіруецца ці то з захаду, ці з усходу. Не салідарызуемся з гэтай правакацыяй, якая вядзе да масавых беспарадкаў, якая з'яўляецца найбольш злачыннай перш за ўсё ў адносінах да нашага беларускага народа, таму што перашкаджае ўсякай пазітыўнай дзейнасці, а такой пазітыўнай працай, якую мы паставілі сабе за мэту, якой чакаюць ад нас выбаршчыкі, ёсць школа, культура і абарона эканамічных інтарэсаў, абарона інтарэсаў зямель нашага народа.

Ген. Сікорскі да гэтай пары не змяніў ні на ёту сваёй беспраграмнай палітыкі, хоць, паўтараю, у нас было ўражанне, што часамі ў яго былі шчырыя намеры, не хапала толькі грамадзянскай мужнасці ў гэтым напрамку. Таму мы не можам несці адказнасці перад сваім народам за падтрымку ўрада п. Сікорскага. У свой час мы падтрымлівалі выходзячы з дзяржаўнага пункту гледжання. Напэўна прыпамінаеце, што тады ні левыя, ні правыя не маглі сфарміраваць урада без галасоў беларусаў і ўкраінцаў, не маглі стварыць урад і мы павінны былі дапамагчы, сёння, здаецца, такая хвіліна мінула. Такім чынам, мы знімаем з сябе адказнасць за ўрад Сікорскага і падтрымліваем прапанову калегі Марачэўскага.

## ПРАМОВА НА 42-м ПАСЯДЖЭННІ СОЙМА 2 ЧЭРВЕНЯ 1923 ГОДА ПАДЧАС ДЭБАТАЎ ПА ЭКСПАЗЭ СТАРШЫНІ САВЕТА МІНІСТРАЎ

**Маршалак:** Слова мае пасол Тарашкевіч.

**Тарашкевіч:** На думку многіх партый гэтай Высокай Палаты і пэўных палітычных колаў польскай грамадскасці з сённяшняга дня або з таго дня, калі ўрад, які зараз засядае тут на гэтых лавах, атрымае большасць галасоў, падтрымку Высокай Палаты, у польскай гісторыі пачнецца новая эра. З многіх цудаў, якія здарыліся апошнім часам, гэта найвялікшы цуд: «з шляхтай польскай польскі люд». І сапраўды, бачым на тых самых лавах і польскую шляхту (*голас:* «Хто?»), і прадстаўнікоў польскага люду. Здавалася б, усё ясна, ёсць адзінства польскага народа, значыць, і нам, нацыянальным меншасцям, выпадала б або выказаць давер, або аб'явіць рашучую барацьбу ўраду, які прадстаўляе адзінства народа. Іншага выйсця няма. Аднак гэта толькі бачнасць.

Калі прааналізуем усе партыі, якія ўваходзяць у склад соймавай большасці, якія з'яўляюцца асновай цяперашняга ўрада, то ўбачым, што шляхта ўжо не тая, якой была 100 гадоў таму назад, пра якую казаў паэт — многа тут шляхты ерусалімскай,— што сучасная шляхта не адчувае ўжо агіды да гандлю і сёння змагаецца з яўрэямі за манаполь на гандаль.

Прыгледзімся цяпер да іншай партыі, пазіцыя каторай была рашаючая для гэтага ўрада, да становішча, якое заняла частка «Пяста». Безумоўна, пра гэту частку «Пяста» не скажаш, што яна не прагне ўлады, што яна ўсяго толькі збілася з правільнага шляху. Прадстаўнікі «Пяста», якія ідуць у кааліцыі з прадстаўнікамі буйнога капіталу і буржуазнага мяшчанства (*голас з правага сектара:* «А рабочых

дык не?»), гэтая групоўка «Пяста» значна адышла ад шырокіх народных мас, сёння яна прадстаўляе багатых сялян. Такое адхіленне «Пяста» ад першапачатковай лініі ўжо можна было заўважыць у Заканадаўчым Сойме, калі «Пяст» заключыў умову з правымі партыямі адносна палажэння аб выбарах. Ужо тады можна было сказаць, што і ў будучым Сойме «Пяст» пойдзе разам з правымі. Іншага выхаду ў яго не было. Лічым, што такая пазіцыя «Пяста» не адпавядае інтарэсам шырокіх народных мас, а гэта азначае, што па матывах сацыяльнага, грамадскага парадку мы не можам давяраць цяперашняму ўраду.

Так выглядаюць агульныя меркаванні, якія аб'ядноўваюць нас, збліжаюць з усімі левымі польскімі партыямі, з усёй дэмакратыяй. Дарэчы кажучы, слова дэмакратыя сёння гучыць не зусім выразна, ёсць розныя дэмакратыі: дэмакратыя сацыяльная, хрысціянская і яшчэ іншыя. Дык вось заяўляю, што мы не можам аказаць панам даверу, г. зн., што мы салідарызуемся з тымі партыямі, з тымі прадстаўнікамі народа, якія абапіраюцца якраз на тыя шырокія сялянскія і рабочыя масы, што яшчэ не ўзбагаціліся.

Далей. Мы не можам падтрымаць урад і ў сувязі з нацыянальным пытаннем. Выслухалі мы тут экспазэ п. Старшыні Савета Міністраў, які па нацыянальнаму пытанню быў ласкаў сказаць толькі тое, што ён далёкі ад вядзення палітыкі нацыянальнага шавінізму. Пане Прэзідэнт, паняцце шавінізму ляжыць у плоскасці пачуццяў, і нам, безумоўна, было б прыемна, калі б польскі ўрад меў да нас прыязныя пачуцці, але, па сутнасці, справа ідзе тут не аб гэтых пачуццях. Адмежаванне ад шавінізму не мае вялікага значэння, калі не хапае талерантнасці. Неабходна праяўляць аднолькавыя клопаты аб кожным



народзе, пражываючым у дзяржаве, трактаваць нароўні з народам, які складае большасць у гэтай дзяржаве. Толькі таму ўраду мы маглі б аказаць поўны давер. Зусім беспадстаўна папракаў тут нас пан Тугут, быццам бы мы гатовы былі нізрынуць кожны ўрад толькі таму, што ён польскі. Гэта няпраўда, адзін урад мы падтрымалі, разумеецца, умоўна, і калі ён не выканаў сваіх абяцанняў, мы палічылі, што больш не можам несці адказнасці перад сваім народам за гэты ўрад.

А патрэбы нашы вельмі вялікія, перш за ўсё ў галіне школьнай асветы. Народ без школы ў роднай мове дзічэе, бо пасылаць сваіх дзяцей у школу з польскай мовай навучання не хоча, хоча роднай школы. А палітыка будучага ўрада, панове, мяркуючы па яго складзе, нам нічога добрага — хай бы ж мы памыліліся,— не абяцае. Думаем, што ў гэтай справе ўрад пойдзе па лініі дэнацыяналізацыі. Нам было б вельмі прыемна, паўтараю, каб мы памыліліся.

Затым, справа зямлі. Старшыня гэтага ўрада з'яўляецца прадстаўніком той партыі, якая прычыніла нам найвялікшую, бо векавую, крыўду сваім прымусовым, неразумна праводжаным асадніцтвам. І таму, пакуль гэтая справа не будзе ўрэгулявана, ніводнага ўрада мы не падтрымаем.

Кепска з шэрагам іншых спраў, напрыклад з справай падданства. Спашлюся тут хоць бы на такі факт. Некалькі дзён таму назад нашы паслы, палітычная надзейнасць якіх ніколі і нідзе не апратэстоўвалася, звярнуліся да гарадскога старасты места Вільні з заявай аб выдачы ім пашпартоў і ў адказ пачулі: вы нядобранадзейныя, вы з'яўляецеся пасламі, аднак выдаць вам пашпарты я не магу, таму што вы не маеце грамадзянства. Сапраўды, далей ісці ўжо няма куды. (*Голас:* «Тое самае адбываецца і з палякамі».) Вельмі сумняваюся, наўрад ці знай-

дзецца пасол-паляк, якому адмовілі б у грамадзянстве. Вы мне такога прыкладу не прывядзеце. Так адносяцца ўлады да нашых паслоў, а што ўжо казаць пра ўсё наша насельніцтва, якое пазбаўлена магчымасці дамагацца сваіх правоў, магчымасці, якую маюць паслы.

Далей возьмем справы адміністрацыі. Усе ўрады, а апошнімі часамі п. Сікорскі вельмі нападаў на адміністрацыю, называў іх кацыкамі, абяцаў прыслаць найлепшыя сілы — трэба разумець, сілы з Галіцыі. Праўдападобна і гэты ўрад таксама будзе прысылаць новыя сілы з Галіцыі і нанясе нашай краіне вялікую крыўду, таму што прыязджаюць людзі, неазнаёмленыя з мясцовымі ўмовамі, прыязджаюць людзі ўжо загадзя падрыхтаваныя да таго, што трэба з кімсьці змагацца і сваімі адносінамі, сваімі настроямі, калі трэба і не трэба, правакуюць гэтую барацьбу. Калі б новы ўрад — на што спадзявацца ў нас няма падстаў,— выпаўніў нашы слушныя патрабаванні, зрэалізаваў хоць бы самыя мінімальныя нашы пастулаты, нашы адносіны да яго змяніліся б на плюс. Праўда, мы не ўзялі б на сябе палітычнай адказнасці за гэты ўрад, але ў выпадку дзяржаўнай неабходнасці маглі б яго падтрымаць. Ды надзея на гэта вельмі знікомая, вельмі малая. Думаем, што ў нацыянальнай палітыцы цяперашні ўрад скіруе свае вастрыё супраць іншамоўных народаў, таму што ў рэшце рэшт на алтар кожнага новага ўрада заўсёды ўкладалася менавіта гэтае нявіннае ягня нацыянальных меншасцяў. Так было дагэтуль, так яно, пэўна, будзе і далей. Чулі мы і сёння накіраваныя правымі партыямі ў наш адрас папрокі, якія нічым іншым, як правакацыяй, як нядобразычлівым настройваннем польскай грамадскай думкі супраць нацыянальных меншасцяў, не вытлумачыш. Так, напрыклад, п. Строньскі сказаў, што пасольскія клубы нацыянальных меншасцяў



усялякімі спосабамі стараліся перашкаджаць у працы, накіраванай на стварэнне Польскай Дзяржавы. Перш за ўсё гэта страшэнны лагічны нонсэнс, не маглі яны перашкаджаць, бо іх тады яшчэ не было. Зрэшты, панове, многія могуць пасведчыць, што сярод прадстаўнікоў прыгаданых клубаў ёсць нямала тых, хто змагаўся менавіта за гэтую незалежнасць. (*Голас:* «Напрыклад, Баранаў?») Дык вернемся тады да Баранава. Вельмі добра, што паны даюць мне аказію закрануць гэтую справу. Вельмі шырокія абвінавачанні прад'яўляліся не толькі Баранаву, але і Якавюку. Што датычыцца пасла Якавюка, дык усе закіды адпалі, што ж да першага, Баранава,— справа яшчэ не закончана і будзе апеляцыя. Маю магчымасць сцвердзіць тут яшчэ адну рэч: што прысуд грунтаваўся на паказаннях дэфензівы. Справа да гэтага часу небывалая, што змушае мяне закрануць пытанне судоў прысяжных. У нас усё яшчэ няма судоў прысяжных. Ці ўвядзе іх цяперашні ўрад — пабачым. (*Мін. Справядлівасці Навадворскі:* «Справа знаходзіцца ў Сойме».) На падставе ўсяго сказанага заяўляю, што мы не можам падтрымаць урад і несці далей адказнасць за яго перад сваім народам.

## ПРАМОВА НА 51-м ПАСЯДЖЭННІ СОЙМА 26 ЧЭРВЕНЯ 1923 ГОДА ПРЫ АБМЕРКАВАННІ ЗАКОНУ АБ АМНІСТЫІ

**Віцэ-маршалак Марачэўскі:** Слова мае пас. Тарашкевіч.

**Тарашкевіч:** Высокая Палата! Край наш, літоўская і беларуская зямля, на працягу апошніх 8—9 гадоў быў сведкам вялікіх гістарычных падзей: падзення царызму, хвалі нямецкай навалы, часовых

урадаў на Віленшчыне, прыходу бальшавікоў адзін раз, прыходу бальшавікоў другі раз. Мы былі відавочцамі розных польскіх урадаў — Часовай Управы Усходніх зямель, затым г. зв. Сярэдняй Літвы, а цяпер знаходзімся ў Польскай Дзяржаве — Рэчы Паспалітай Польскай. Насельніцтва, якое, як ніякае іншае пакаленне, бачыла столькі палітычных змен, столькі важных гістарычных падзей, пачало думаць палітычна, а пачуўшы заклікі да самавызначэння народаў, заклікі, кінутыя не якімісьці там, як вы іх называеце, бальшавіцкімі дэмагогамі, але тымі сіламі, што прычыніліся да ўзнікнення і вызвалення Польшчы, г. зн. Вільсанам і вялікімі дзяржавамі, насельніцтва гэтае пачало самавызначацца, пачало праяўляць свае імкненні ў гэтым напрамку. Зразумела, што ў такой сітуацыі ўзнікалі шматлікія канфлікты паміж народамі, што пражываюць на гэтых землях. Гэтым канфліктам паміж польскім народам, не скажу народам, паміж польскім урадам і беларускім рухам і літоўскім дзяржаўным рухам спрыяў у пэўнай ступені, а магчыма, і ў значнай меры, той узнёслы, высакародны лозунг, які несла польскае войска, а менавіта: «Вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі!» Гэты дэвіз быў нічым іншым, як толькі заклікам да самаакрэслення народаў. Тое самае абвяшчаў і вядомы зварот галоўнакамандуючага Пілсудскага. Аднак жыццё выявіла ілжывасць усіх гэтых заклікаў. З аднаго боку, яно выявіла ілжывасць дэкларацыі Вільсана, даказаўшы, што толькі са зброяй у руках і сілай аружжа можна здабыць права на самавызначэнне, што словы, фразёрства нічога яшчэ не азначаюць. З другога боку, жыццё паказала, з болем сцвярджаю, усю ілюзорнасць польскага закліку «Вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі!», бо мы ўбачылі не здзяйсненне гэтых лозунгаў, а зусім што іншае: магчыма, бясспланавую, быць можа, стыхійную акцыю сацыяль-



нага і нацыянальнага прыгнёту. На гэтым фоне ўзнікае мноства канфліктаў, на гэтым фоне ўзнік парыў, стыхійны ўздым патрыятычнай барацьбы за незалежнасць. Безумоўна, у большасці выпадкаў, а што да беларускага руху, то, быць можа, і ўвогуле, такая дзейнасць не знаходзіла адпаведнага грунту. Таму беларускі народ падзялілі чужыя дзяржавы, чужыя народы.

Але, як бы там ні было, прыходзіцца лічыцца з тым, што ў час самавызначэння народаў, у тую часіну, калі вызначаліся высокія ідэалы, беларускі народ таксама стварыў свой ідэал дзяржавы, і ў яго з'явіліся тэндэнцыі да самастойнага жыцця.

Перш чым судзіць тых ці іншых беларускіх дзеячоў, тыя ці іншыя палітычныя плыні, тых ці іншых людзей, трэба, панове, добра сабе ўсвядоміць тыя гістарычныя ўмовы, тыя грамадскія ўмовы, тыя абставіны, выкліканыя барацьбой суседніх народаў, сярод каторых развіваліся гэтыя беларускія плыні і на арэне якіх выступалі паасобныя дзеячы. Тады паны пераканаюцца, што ўсе гэтыя людзі, якім прыпісваюць дзяржаўную здраду, якіх, магчыма, абвінавачваюць у шпіянажы і іншых рэчах, што яны ў сваёй дзейнасці кіраваліся патрыятычнымі матывамі, г. зн. тымі самымі матывамі, з якіх зыходзілі і ўсе тыя героі барацьбы за незалежнасць Польшчы, якія, абапіраючыся часова на Аўстрыйскую дзяржаву, стваралі польскія легіёны — аснову будучай польскай арміі, якая вызваліла Польшчу і прычынілася да яе ўмацавання і ўтрымання.

Беларусь, беларускія землі падзялілі, надзеі беларускіх дзеячоў да гэтага часу не здзейсніліся. Але, панове, хіба можна асуджаць усіх ідэйных людзей, якія імкнуліся да незалежнасці? Ваша сумленне, ваша гісторыя павінны сказаць: «Не!» І вельмі правільна тое, што ў сувязі з прызнаннем усходніх граніц

ўрад выступіў з праектам амністыі. Амністыя, слова, якое азначае «забыццё», гэта азначае аддаць забыццю ўсё тое, усе палітычныя змаганні, звязаныя з устанаўленнем гэтых граніц. На жаль, аднак, гэтая амністыя не стала забыццём, не стала амністыяй, бадай гэта будзе, адкінуўшы літару «а» — «мністыя», ліхая «памяць» пра ўсе злачынствы, якія мелі месца падчас барацьбы Польшчы за ўсходнія граніцы.

У 3 арт. пад літарай «а» чытаем: «Не падлягаюць амністыі шпіянаж і іншыя каральныя дзеянні на шкоду Польскай і карысць чужой дзяржавы або ў змове з асобай, якая дзейнічае на карысць чужой дзяржавы». Не ведаю, ці задавалі паны сабе такое пытанне, але я запытаюся, прашу толькі смела сказаць мне, які палітычны рух, накіраваны на ўтварэнне ўласнай дзяржавы, на адрыў тэрыторыі, не быў звязаны, не абапіраўся на іншую дзяржаву. Пан усміхаецца, дык я скажу: А легіёны, хіба не абапіраліся яны на мілітарную сілу цэнтральных дзяржаў, асабліва на сілу Аўстрыі? А хіба ў Расіі, ствараючы розныя камітэты, вы не абапіраліся на Расію?

Ходзіць многа непрыемных пагалосак пра асобу Міністра Замежных Спраў, не хачу іх паўтараць, не мая гэта справа, але, як бы там ні было, мы маглі б назваць шэраг фактаў, калі група, якая дзейнічала ў пагадненні з Антантай, дзейнічала таксама і на карысць Антанты. І ніякага злачынства ў гэтым не бачылі. Таму прымяненне арт. 3 п. «а» ў дачыненні да перадавых дзеячоў, можа, толькі за невялікім выключэннем спраў другарадных, звядзе на нішто ўвесь праект аб амністыі, і калі ён будзе прыняты, будзем ведаць, што для беларусаў няма ніякай амністыі. Дык каму гэта прынясе карысць? Мяркую, што аддаць забыццю барацьбу — не скажу віну беларусаў, бо гаворка тут не аб памілаванні, хто вінаваты, не ведаю, гісторыя рассудзіць,— мяркую, што забыццё і ў



інтарэсах дзяржавы, і ў інтарэсах беларусаў, якія хацелі б засыпаць прорву, што пралажыла гісторыя паміж польскім і беларускім народамі, а да паглыблення якое прычыніўся царскі ўрад.

З увагі на гэта яшчэ раз падкрэсліваю, што беларускі рух, беларускія дзеячы не просяць ласкі ў Заканадаўчай Палаты, а забыццё канфліктаў ляжыць у інтарэсах абодвух бакоў. І на гэтай падставе будзем галасаваць за папраўку, унесеную пас. Лібэрманам, якая належным чынам адлюстроўвае нашы імкненні ў гэтым напрамку.

## ПРАМОВА НА 63-м ПАСЯДЖЭННІ СОЙМА З ЖНІЎНЯ 1923 ГОДА ПАДЧАС ПРАЦЯГУ АБМЕРКАВАННЯ ПАПЯРЭДНЯГА ПРАЕКТА БЮДЖЭТУ

**Пас. Тарашкевіч:** Высокі Сойме! Ёсць дзве юрыдычныя падставы, якія нарміруюць становішча нацыянальных меншасцяў у Польшчы. Гэта Канстытуцыя, прынятая амаль што без удзелу нацыянальных меншасцяў, і міжнародныя трактаты. Сёння, калі нам трэба будзе прыняць пастанову аб праекце бюджэту, сказаць аб сваім placet * на дзяржаўныя выдаткі, мы павінны, наш абавязак, ускладзены на нас выбаршчыкамі, запытаць, а ці лаяльна выконвае Дзяржава свае абавязацельствы перад беларускай меншасцю? Ці ўрад і Дзяржава не парушаюць Канстытуцыі? Ці ўрад і Дзяржава не парушаюць трактатаў? Я не буду асабліва атакаваць цяперашні ўрад, хоць мы і перакананы, што з усіх урадаў, якія

* Ад лац. placet — падабаецца. Тэрмін, які ўжываецца, калі даецца дазвол, згода на што-небудзь.

мы мелі, гэта найгоршы, а зрэшты па сутнасці «Wart Pac pałaca, a pałac Paca». Усе папярэднія ўрады былі больш-менш аднолькавыя, фактычна правіла адна і тая ж група, якая і сёння ўжо зусім выразна, з адказнасцю ўзяла ў свае рукі ўладу. *(Пас. Дубановіч:* «Пан кепска арыентуецца ў гэтых справах».) Наадварот, арыентуюся. Дык вось, паўстае пытанне, ці бяруцца пад увагу інтарэсы нашага народа ў галіне адміністрацыі, ці па-сапраўднаму незалежныя і справядлівыя ў нас суды, ці не дзейнічаюць яны пад урадавым націскам? Ці ўлічваюцца нашы эканамічныя інтарэсы ў дзяржаўнай гаспадарцы, ці забяспечваюцца нашы асноўныя жыццёвыя інтарэсы, менавіта нашы культурныя патрэбы — наша школа?

Возьмем галіну адміністрацыі. Многа тут гаварылася пра «крэсавых» заправіл, не буду паўтарацца, вы, панове, таксама перакананы, што з адміністрацыяй адбываецца нешта кепскае. Вось толькі глядзім мы на гэта з розных пунктаў гледжання: паны хацелі б паставіць на «крэсы» яшчэ больш паліцыянтаў, больш шпікоў, мы ж лічым, што іх замнога. Дамагаемся ад адміністрацыі прымянення Канстытуцыі і законаў, а законы павінны асноўвацца на Канстытуцыі і не супярэчыць трактатам.

Закранаючы справы адміністрацыі, прывяду вам прыклад гвалту, гвалту нечуванага. І калі мы яшчэ не звярнуліся ў Лігу Нацый, гэта сведчыць толькі аб нашай лаяльнасці да Польскай Дзяржавы, аб нашым нежаданні раз'ятрываць і без таго хваравітую ўразлівасць пэўнай часткі польскага грамадства. Гэта справа польскага грамадзянства. Дазволю сабе працытаваць хоць бы адзін з многіх раздзелаў Версальскага трактата, дзе гаворыцца аб польскай грамадзянскай прыналежнасці.

І вось арт. 3 *(чытае)*: «Польшча прызнае сваімі



падданымі па праву і без ніякіх фармальнасцяў тых нямецкіх, аўстрыйскіх, венгерскіх або рускіх грамадзян, якія к моманту ўступлення ў сілу гэтага трактата пастаянна пражывалі на тэрыторыі, якая ўваходзіць або ўвойдзе ў склад Польшчы». Тым часам, нават пасля прызнання саюзнымі дзяржавамі ўсходніх граніц усё яшчэ застаецца ў сіле закон аб грамадзянскай прыналежнасці, які абапіраецца, а ў пэўнай ступені і абмяжоўвае дзеянне Рыжскага трактата, закон, прымяненне якога на практыцы з'яўляецца катаваннем насельніцтва. Закон гэты гаворыць, што польскае грамадзянства мае той, хто запісаны ў кнігах пастаяннага жыхарства. Трэба панам ведаць, што па нашых землях прайшла вайна, што вясковыя і гарадскія гміны спалены і што ў большасці выпадкаў адшукаць тыя кнігі немагчыма. Калі пойдзем далей, дык нават Вярхоўны Суд Рэчы Паспалітай парушыў закон, парушыў Версальскі трактат, а іменна параграф І, дзе сказана, што ніякі закон, ніякае распараджэнне не павінны супярэчыць Версальскаму трактату. Дык вось, некалькі дзён таму назад быўануляваны мандат пасла Каліноўскага, у той час, калі згодна з Версальскім трактатам і Каліноўскі і Пірагоў павінны мець польскае грамадзянства. Якое нечуванае парушэнне трактатаў! І ўсё гэта ў той час, калі з гэтай трыбуны мы чулі ад прадстаўнікоў папярэдняга ўрада, і бадай ніхто з членаў цяперашняга ўрада не будзе пярэчыць, не будзе аспрэчваць таго, што Польшча будавалася на аснове трактатаў, што яе дзяржаўнае існаванне грунтуецца на трактатах. Такім чынам, панове, канстатую нечуваны гвалт і калі ён не спыніцца, то запэўніваю паноў, што, нягледзячы на ўсю нашу лаяльнасць, мы звернемся ў Лігу Нацый. *(Апладысменты на ўкраінскіх і беларускіх лавах. Пас. Гдык:* «Ці звернецца пан у Лігу Нацый з дына-

мітам?») Вельмі шкада мне вас, пане пасол, шкада, што пан, які іншы раз займае месца Маршалка, не знаёмы з Версальскім трактатам, не ведае асноўнага дзяржаўнага закону, менавіта закону аб польскім грамадзянстве. Ды, урэшце, калі ўжо Вярхоўны Суд парушае права, парушае трактаты, то што тады казаць пра іншыя суды? Па сутнасці, панове, суды таксама з'яўляюцца толькі выразнікам стэрарызаванай, збаламучанай, асляплёнай польскай грамадскай думкі. Ужо само выяўленне таго факта, што ў Польскай Дзяржаве ёсць не толькі палякі, што трэцяя, як мінімум трэцяя частка насельніцтва — няпольскай нацыянальнасці, выклікала такую вялікую раздражнёнасць, якая і прывяла летась да тых нешчаслівых выпадкаў, сведкамі якіх мы былі ў снежні. Інакш гэтага не вытлумачыш, бо вы гадамі ўводзілі ў зман, пераконвалі, што няма беларусаў, няма ўкраінцаў. А калі гэтыя беларусы і ўкраінцы на падставе вамі ж устаноўленага палажэння аб выбарах апынуліся тут перад вамі і заявілі аб сваім існаванні, вы, панове, замест таго, каб растлумачыць, што гэта таксама грамадзяне дзяржавы, пачалі пераконваць (*пас. Хацінскі:* «Так, за адзін дзень пан зрабіўся беларусам, аб гэтым кожны ведае»), што гэта яўрэйскія, бальшавіцкія, нямецкія і іншыя махінацыі. (*Пас. Сэйда:* «Пан павінен зачытаць прыгавор, калі крытыкуе Вярхоўны Суд. Так вамі трактуецца справа».)

Далей, панове, у галіне гаспадаркі мы спатыкаемся з сістэматычным вырываннем усялякіх падстаў нашага эканамічнага быту. Вырываецца любая магчымасць заробкаў і таму, відаць, слушнай была тая бурная рэакцыя грамадскай думкі на звальненне з дзяржаўнай службы 16-ці грамадзян у Гданьску, горадзе, як бы там ні было, незалежным. Разам з тым ніхто, аднак, не абураецца, калі грамадзяніна, які не



меў шчасця нарадзіцца католікам і палякам, караюць за гэта, не прымаючы на пасады. Між тым Канстытуцыя і Версальскі трактат цалкам выразна сцвярджаюць, што ў Рэчы Паспалітай Польскай дарога да адказных пастоў і ўшанаванняў павінна быць адкрытая.

Наступная вельмі балючая справа — асадніцтва, з дапамогай якога пастаянна, дзень пры дні, з секунды на секунду капаецца прорва нянавісці паміж беларускай грамадскасцю і польскім народам.

А цяпер перайду да справы, якая, здаецца, не павінна выклікаць пярэчанняў, менавіта да справы нашай школьнай асветы, якая знаходзіцца ў такім жудасным стане, што нават цяжка падабраць словы для яго акрэслення. Колькі дзён таму назад, разам з нашымі таварышамі па нядолі — украінцамі, мы ўнеслі тэрміновую прапанову ў справе беларускіх і ўкраінскіх навучальных устаноў. Маем за гонар, што нам адказаў міністр пас. Гламбіньскі. І што ж мы пачулі? А тое, што беларусы маюць школы, маюць ажно 44 — так, цікавая лічба — беларускія школы. (*Пас. Солтык:* «А пры маскалях вы не мелі ніводнай!» *Гоман.)*

**Віцэ-маршалак Марачыньскі** *(звоніць):* Прашу супакоіцца.

**Пас. Тарашкевіч:** Мы чулі, што ёсць ажно 44 беларускія школы. А далей міністр заявіў з вялікай наіўнасцю — калі са шчырай, дык мне вельмі шкада яго, калі ж прытворна, то слушна тады абураюся,— сказаў, што нідзе ў Заходняй Еўропе няма нават такіх умоў, якія ёсць у Польшчы. Спасылаўся на Амерыку, аднак чамусьці не спасылаўся на тыя дзяржавы, якім Польшча сама высылала пратэстацыйныя ноты, не спасылаўся на Латвію, не спасылаўся нават на Літву, дзе ўмовы развіцця польскіх школ непараўнальна лепшыя за тыя, што маюць

беларусы ў Польшчы. Што ж да Латвіі, дык здзіўляюся, панове, вашай этычнай двудушнасці. 29 ліпеня г.г. мы прачыталі ў «Gazecie Warszawskiej», у вашым органе, наступнае — у сувязі з польскім школьным пытаннем у Латвіі вы пісалі, што гэты варварскі народ прыгнятае, тыраніць палякаў. *(Голас з правых лаваў:* «Дзе гэта пан прачытаў?») Аб гэтым пісалася не раз, паміж іншым, і ў «Dzienniku Wileńskim» *(голас з правых лаваў:* «У пана фантазіі»), у якім п. Студніцкі гаворыць, што нават пад уладай бальшавікоў польскія школы развіваліся больш паспяхова, чым пасля далучэння гэтых тэрыторый да Латвійскай Дзяржавы. У карэспандэнцыі пра крызіс урадавага кабінета ў сувязі з праследаваннем школ нацыянальных меншасцяў, пра адстаўку міністра Гайліта, чытаем: «Як чалавек бязлітасны, які не лічыцца ні з абавязацельствамі Латвіі ў міжнародным плане (паўтарэнне маіх аргументаў), ні з законамі сваёй дзяржавы, Гайліт быў вельмі на руку тым шавіністычным групоўкам, якім школьная аўтаномія нацыянальных меншасцяў была соллю ў воку».

Школьная аўтаномія. У вас ёсць школьная аўтаномія і ажно тры ўрадавыя гімназіі на 80 000 польскага насельніцтва ў Латвіі!

Чытаем далей: «Тым часам, не маючы магчымасці скасаваць школьную аўтаномію, ён (Гайліт) пастанавіў інтэрпрэтаваць яе па-свойму. Паколькі існуючыя правілы наказваюць адчыняць школы нацыянальных меншасцяў там, дзе пражывае дастатковая колькасць прадстаўнікоў пэўнай нацыянальнасці, а заявы бацькоў безупынна наплываюць, Гайліт разам са сваім памочнікам, дырэктарам дэпартамента Залітам прыйшлі да вываду, што ні матчына мова, ні воля бацькоў не могуць служыць дастатковым крытэрыем для вызначэння нацыянальнасці



дзіцяці. З польскіх школ выключылі многіх дзяцей, прозвішчы якіх не былі тыпова польскімі».

Звяртаю ўвагу, што і ў вас адны правілы існуюць на ўласны ўжытак, зусім другія — у дачыненні да іншых дзяржаў.

Чытаю далей: «Каб жа толькі падзенне міністра Гайліта дапамагло аздараўленню адносін у латвійскім міністэрстве асветы, прымусіла вярнуцца на шлях дэмакратыі і памяркоўнасці. Прагрэсіўная частка латвійскай грамадскасці будзе імкнуцца да гэтага ў перакананні, што павага законных правоў іншых народаў — найлепшая гарантыя ўласнай свабоды і незалежнасці». Так абараняеце польскія школы за мяжой, бяда толькі, што не хочаце кіравацца падобнымі прынцыпамі ў сябе. Такія паводзіны я назваў бы цынізмам і хлуслівасцю, калі б гэтыя словы былі прымальнымі, прыстойнымі ў парламенце, ёсць, праўда, і другое акрэсленне: гатэнтоцкая этыка, але, магчыма, яно таксама непарламентарнае. (*Голас:* «Завуаліраваў пан».) Мае аргументы і без таго ясныя.

У такім разе, якім чынам можа выйграць польская замежная палітыка, бароячы польскую нацыянальную меншасць у Літве або дзе-небудзь яшчэ? Кожная карта будзе бітай, бо Польшча не мае ніякіх козыраў. Пакуль не вырашана праблема нацыянальных меншасцяў, на Польшчу будуць глядзець як на дзяржаву нестабільную, незгуртаваную, здольную да любых нечаканасцяў, любых неспадзяваных сюрпрызаў пры ўдары звонку. Не забывайце, што на сённяшні дзень у польскім войску больш палавіны салдат — гэта ўкраінцы і беларусы *(пас. Грыцкевіч:* «Няхай пан не тлуміць нам галавы»), гэта трэба ўлічваць, гэта таксама павінна быць адным з аргументаў пры ўрэгуляванні нацыянальнага пытання.

А калі возьмем такія справы, якія датычаць усіх,

менавіта фінансавыя, дык ці можна без трэцяй часткі польскіх грамадзян праводзіць такую ганебную, неабдуманую перш за ўсё ў адносінах да ўласнай дзяржавы палітыку санацыі казны? Здаецца, Вітэ гаварыў: дайце мне добрую ўнутраную палітыку, а я сам дам вам фінансы. Я хацеў бы, каб і Вітас прыйшоў сёння да такога перакананпя і даў нам добрую ўнутраную палітыку, тады і фінансы паправяцца. Наконт гэтага можна шмат чаго сказаць, але ў сувязі з абмежаваным часам канчаю наступнай заявай: пакуль у адносінах да нас не зменіцца палітыка, даць свайго placet на часовы бюджэт мы не можам. Гэта не азначае, што мы заклікаем не плаціць падаткі, але памятайце, панове, калі такі стан бясправўя працягнецца яшчэ некалькі год, дык наш народ і падаткі плаціць перастане. *(Апладысменты на лавах нацыянальных меншасцяў.)*

## ПРАМОВА НА 84-м ПАСЯДЖЭННІ СОЙМА 5 СНЕЖНЯ 1923 ГОДА ПАДЧАС СПРАВАЗДАЧЫ КАМІСІІ АСВЕТЫ АБ ПРАСЛЕДАВАННЯХ БЕЛАРУСКІХ ШКОЛ

**Пас. Тарашкевіч:** Высокі Сойме!

Ніхто не адмаўляе важнасці вырашэння нацыянальнай праблемы для Польскай Дзяржавы. Яна важная ва ўсіх адносінах. Нават у сягоннняшняй, такой цяжкай для Дзяржавы фінансавай сітуацыі да рашэння гэтай праблемы трэба прыступіць неадкладна, бо ўжо першы крок у гэтым напрамку створыць карысныя ўмовы для адпаведнага ўрэгулявання фінансавых спраў. Выступаючы тут у якасці рэферэнта, разумею, што не ўпаўнаважаны скіраваць абмеркаванне такой далікатнай справы на шлях вострай



дыскусіі. Абмяжуюся сцвярджэннем, што большасць камісіі прызнае, што беларускай меншасці, якая складае значны працэнт насельніцтва, чынілася і чыніцца вялікая крыўда. Насуперак запэўненням былога Міністра Асветы п. Гламбіньскага аб існаванні 44 школ на 2 мільёны беларускага насельніцтва, мушу сцвердзіць, што іх значна менш, што большую частку з іх зліквідавалі якраз падчас яго праўлення. У часе выконвання ім абавязкаў міністра ў Віленскай беларускай гімназіі, напрыклад, былі скасаваны 4 штатныя адзінкі, зацверджаныя папярэднімі ўрадамі, і ў цэлым шэрагу іншых выпадкаў правы беларускай школы тапталіся. Не буду паглыбляцца ў прычыны, магчыма, гэта адбывалася таму, што ўрад Польшчы, у першую чаргу заканадаўчыя органы, не займаліся гэтымі пытаннямі і не хацелі зрабіць таго самага цяжкага, бо першага кроку ў кірунку іх вырашэння. Хачу мець надзею, што Сойм, прымаючы сёння высновы Камісіі, зробіць гэты першы крок і ўхваліць наступныя прапановы Камісіі Асветы:

Сойм заклікае ўрад:

1. Даследаваць стан беларускай асветы і патрэбы насельніцтва ў гэтай сферы, зрабіць справаздачу аб сучасным становішчы беларускай школы, выдаць адпаведныя распараджэнні.

2. Заклікаць ўрад:

а) заснаваць беларускую настаўніцкую семінарыю;

б) арганізаваць курсы павышэння кваліфікацыі беларускіх настаўнікаў;

в) субсідзіраваць беларускія падставовыя школы.

3. Заклікаць ўрад і ў прыватнасці Міністэрства па справах веравызнанняў і грамадскай адукацыі больш уважліва, з улікам культурна-асветных патрэб беларускага насельніцтва, апекавацца беларус-

кай школай і неадкладна прыступіць да планавага разгортвання сукупнасці беларускіх школ.

Як бачыце, панове, нашы прапановы якраз і з'яўляюцца тым першым крокам. Яны вельмі сціплыя і не сумняваюся, што Сойм ласкава прыме іх.

**Віцэ-маршалак Сэйда:** Слова мае п. Рымар.

**Пас. Рымар:** Высокі Сойме! Пытанні беларускай асветы абмяркоўваліся ў дзвюх Камісіях — Асветы і Бюджэтнай. Справаздача Камісіі па справах асветы перад намі. Што ж да Бюджэтнай камісіі, то яна для гэтай і іншых спраў выбрала падкамісію, якая хоць і прыйшла да пэўных вывадаў, аднак на пленарным пасяджэнні Бюджэтнай камісіі яны яшчэ не разглядаліся. Паколькі вывады Камісіі па справах асветы закранаюць і бюджэтны бок пытання, прапаную арганізаваць супольны семінар, а прапановы названай Камісіі пераслаць на разгляд у Бюджэтную камісію. *(Гоман, крыкі ў сектары нацыянальных меншасцей. Голас:* «Ad calendas Graecas *».

**Віцэ-маршалак Сэйда:** Паступіла фармальная прапанова перадаць даклад Камісіі па справах асветы ў Бюджэтную камісію. Слова просіць п. рэферэнт. Слова мае п. рэферэнт.

**Пас. Тарашкевіч:** Такі падыход лічу няправільным, бо калі справа датычыла польскіх семінарый або польскіх школ, ніколі не ўзнікала нават думка перасылаць яе для асобнага разгляду ў Бюджэтную камісію. Ёсць агульныя бюджэтныя асігнаванні на асвету, і гэты агульны бюджэт павінен прадугледжваць і беларускую школу. Лічу, што такое перамяшчэнне сапсуе ўсю справу. Вядома, хацелася б цешыць сябе надзеяй, што ў Бюджэтнай камісіі тыя, хто зрабіў гэту прапанову, нас падтрымаюць, аднак ужо сам падыход да справы выклікае сумненні.

---

* Да грэцкіх калядаў, г. зн. ніколі.



**Віцэ-маршалак Сэйда:** Пас. Рымар выступіў з фармальнай прапановай справаздачу Камісіі па справах асветы перадаць у Бюджэтную камісію. Фармальную прапанову пас. Рымара стаўлю на галасаванне. Папрашу тых паноў паслоў, хто за прапанову п. Рымара, устаць. Бюро не згаджаецца. Загадваю галасаванне праз дзверы. Хто за прапанову, прашу прайсці ў дзверы з надпісам «так», хто супраць — у дзверы з надпісам «не».

*(Пасля галасавання.)*

Вынікі галасавання наступныя: За прапанову пас. Рымара — 173 галасы, супраць — 135. Прапанова прынята. Справа перадаецца ў Бюджэтную камісію. *(Гоман. У сектары нацыянальных меншасцяў стукаюць пюпітрамі.)*

## ПРАМОВА НА 88-м ПАСЯДЖЭННІ СОЙМА 14 СНЕЖНЯ 1923 ГОДА ПРЫ АБМЕРКАВАННІ ЗАКОНУ АБ ПАРЦЭЛЯЦЫІ І АСАДНІЦТВЕ

**Пас. Тарашкевіч:** Высокая Палата! Ужо трэці раз і за кожным разам у хвіліну найбольш крытычную для Дзяржавы Сойм займаецца зямельнай рэформай. Першы раз гэта адбылося ў ліпені 1919 г., калі новастворaная Рэч Паспалітая пачала вайну з Расіяй за свае ўсходнія граніцы. Тады ўпершыню прагучала і ў нейкай ступені нават здзейснілася патрабаванне перадачы зямлі сялянам. Бо цяжка было весці вайну з гэтай Дзяржавай, не паабяцаўшы шырокім слаям польскага люду зямельнай рэформы. І польскі Заканадаўчы Сойм ухваляе прынцыпы зямельнай рэформы, але робіць гэта толькі па тое, каб не аб'яўляць яе нават у Зборніку пастаноў і зако-

наў. Толькі праз год, калі бальшавіцкія войскі Гая і Будзённага ўступілі на этнаграфічна польскія землі, Сойм адважыўся прыняць закон аб правядзенні зямельнай рэформы, і зноў гэтая пастанова была прынята па тое, каб яе не ажыццявіць. Статыстыка паказвае, што значна больш зямлі магло перайсці ў рукі малой уласнасці, калі б парцэляцыя праходзіла добраахвотна, без пастаноў. Адным словам, гэты закон 1920 г. зрабіў паслугу абшарнікам, бо затармазіў зямельную рэформу.

Мінулыя тры гады думка абшарнікаў працавала вельмі напружана, каб якім-небудзь спосабам знайсці эрзац-рэформу, знайсці нейкі сродак, які затрымаў бы імкненне селяніна да зямлі, які ашукаў бы гэтую яго патрэбу. І вось сягоння ўрад, утвораны з прадстаўнікоў лагеру абшарнікаў і вельмі багатых сялян, з тых сялян, якія прадстаўляюць сабой нешта падобнае на таго французскага караля, які казаў, што хацеў бы, каб кожны селянін меў курыцу на абед, а яны цвердзяць, што хочуць, каб кожны селянін меў сто гектараў зямлі,— зразумела, гэта абсурд — менавіта гэты ўрад прыходзіць з нічым іншым, як толькі з эрзацам зямельнай рэформы. Трэба, аднак, прызнаць, што гэта ўжо не называецца зямельнай рэформай, а завецца вельмі сціпла: «Закон аб парцэляцыі і асадніцтве». Гэта робіць гонар шчырасці аўтараў закону. Няма тут ні слова пра зямельную рэформу. Шырока задуманая, у тым значэнні, як яе заўсёды разумеюць, рэформа мае два бакі — не толькі надзяліць зямлёй сялян, але і адабраць яе ў памешчыкаў. Такім чынам, з аднаго боку трэба зямлю адабраць, каб з другога — магчы яе даць. І гэтыя два бакі зямельнай рэформы — негатыўны і пазітыўны — цесна звязаны паміж сабой. А цяпер возьмем сённяшнюю зямельную рэформу, прабачце, закон аб парцэляцыі, гэты эрзац зямельнай рэформы, і прыгледзімся, на чым ён грунтуецца. Абапіраецца ён на тры краевугольныя камяні. Найбольшы і наймацнейшы з іх — гэта захаванне буйной зямельнай уласнасці, захаванне класа абшарнікаў. Як можна гаварыць пра зямельную рэформу, калі абшарнікам пад рознымі выдуманымі прычынамі пакідаюць іх маёнткі, якія дасягаюць 1120 гектараў! Гэта не зямельная рэформа. Другі краевугольны камень — адчужэнне няпольскай зямельнай уласнасці, а на «ўсходніх крэсах» нават і польскай. Бо цяжка зразумець, панове, маючы на ўвазе зямельную рэформу як такую, чаму на этнаграфічна польскіх абшарах абшарнікам пакідаюць па 1120 га, а на «ўсходніх крэсах» толькі па 100 га. (*Пас. Хамінькі:* А дзе гэта «крэсы ўсходнія»?) На ўкраінскіх і беларускіх ускраінах. Я не збіраюся бараніць абшарнікаў і добра разумею, што падобная пастанова не можа называцца зямельнай рэформай, гэта нацяжка зямельнай рэформы для палітычных мэт. Справа тут у каланізацыі «ўсходніх крэсаў», справа ідзе аб трэцім краевугольным камені, які закладзены ў закон аб парцэляцыі і асадніцтве.

Панове, уся памешчыцкая ідэалогія на працягу апошніх трох гадоў будавалася на тым, што, маўляў, на крэсах ёсць каласальныя абшары незанятай зямлі, што на гэтыя каласальныя абшары трэба выслаць збытак польскага насельніцтва, што гэтыя абшары трэба скаланізаваць і спаланізаваць. А з другога боку, ідучы на ўсход падчас польска-бальшавіцкай вайны, палякі пастаянна паўтаралі мясцоваму насельніцтву: «Польшча аддасць вам зямлю!» *(Голас:* «І слушна».) Так гаварылася мясцоваму насельніцтву. Гэтую зямлю на «крэсах» мелі атрымаць палякі і мясцовае насельніцтва, адным словам, усе. Мясцовае насельніцтва ашукалі, і зусім зразумела, што на апошніх выбарах яно дало свой адказ на гэ-

тую ідэалогію, на гэты польскі Drang nach Osten. Мясцовае насельніцтва да гэтага часу бачыла толькі вайсковую каланізацыю і ад сягонняшніх улад, ад аўтарытэтных у Польшчы палітычных плыняў, акрамя далейшай каланізацыі і далейшай гвалтоўнай паланізацыі нічога больш не чакае. Нам пастаянна гаворыцца і гэта чуем з розных бакоў, напр. ад п. старшыні Гламбіньскага, а не далей, як учора ад п. старшыні Кавальчука, што каланізацыя ўсходу, каланізацыя беларускіх «крэсаў» польскімі сялянамі — з'ява зусім натуральная, гістарычная неабходнасць. Дык давайце прыгледзімся, як яно ёсць у сапраўднасці, ці гэта неабходнасць эканамічная, а значыць, і гістарычная? Ці сапраўды там так многа зямлі, што можна заспакоіць усе апетыты? Калі звернемся да статыстыкі, то яна пакажа нам, што гэта не так, і хоць абшар зямлі, прастор краіны значна большы, а шчыльнасць насельніцтва значна меншая, чым на этнаграфічна польскіх землях, не трэба забываць, што на беларускіх «крэсах» зямельныя ўгоддзі складаюць 31 %, а ў б. Каралеўстве, не гаворачы ўжо пра Пазнаншчыну, дзе % значна большы, у б. Каралеўстве яны складаюць каля 60 %, значыць, у два разы больш. Далей, калі звернем увагу на ўзровень культуры, які нельга змяніць за такі кароткі час, а гэты фактар таксама трэба ўлічваць, дык убачым, што ўраджайнасць зямлі ў Пазнанскім у 2, а ў б. Каралеўстве і б. Галіцыі ў 1,5 раза большая, чым на «ўсходніх крэсах». Акрамя працы і намаганняў, якія можна выканаць, трэба яшчэ звярнуць увагу і на кліматычныя ўмовы, бо яны, паводле аблічэнняў некаторых вучоных, зніжаюць у нас магчымасць павялічваць ураджайнасць на 15—20 %. І аказваецца, зямлі той не так ужо многа.

Далей. Разгледзім цяпер, што гаворыць нам статыстыка пра малазямельных і беззямельных на Беларусі. Аказваецца, што найбольш распаўсюджаным тыпам сялянскіх гаспадарак з'яўляецца гаспадарка ў 3 або 4 дзесяціны зямлі. (*Голас:* «Выхваляецеся, панове».) Чую нават голас, што мы выхваляемся сваім багаццем. Вельмі можа быць, што мы і гэтага не маем. Калі браць пад увагу ўраджайнасць зямлі, кліматычныя і культурныя ўмовы, то трэба сказаць, што нашыя 4 дзесяціны адпавядаюць не больш як 2—1,5 га ў б. Галіцыі. Зразумела, што ў такіх варунках у нас няма лішняй зямлі, да таго ж трэба не забываць, што з-за адсутнасці ў краі прамысловасці мы маем вялікую колькасць беззямельных. Паводле статыстыкі, іх было 15 %, пасля вайны, напэўна, значна больш. На падставе параўнання з іншымі краінамі сцвярджаю, што на беларускіх «крэсах» нармальная колькасць насельніцтва. У Нямеччыне, напрыклад, на 1 квадратным кіламетры з зямлі жывуць 33 чалавекі, у нас — 30. Тое самае больш-менш і ў Францыі. Там на 1 кв. км 32 чал. жывуць з земляробства. Такім чынам, у сённяшніх умовах няма ў нас лішніх зямель. Таму, праводзячы зямельную рэформу на беларускіх землях, трэба перш за ўсё мець на ўвазе мясцовае насельніцтва. Тым часам, на моцы закону аб парцэляцыі і асадніцтве, на першым плане застаецца вайсковая каланізацыя, па сутнасці працяг таго няшчасця, якое прынёс на нашыя землі закон з 19 снежня 1920 г. Інакш як няшчасцем не называюць гэтага і небеларускія партыі ці то левыя, ці правыя, якія ведаюць пануючыя на «ўсходніх крэсах» адносіны. І хоць на абмеркаваннях у камісіях пад уплывам крытычных заўваг нашых калег з Беларускага і Украінскага клубаў, а таксама дзякуючы дапамозе левых клубаў, п. Квапіньскага, партыі «Вызваленне» вызначыліся пэўныя змены і быў унесены пункт аб надзелах для мясцовага насельніцтва, аднак, ведаючы ўсю раней-

шую практыку, ведаючы ўсю літаратуру па гэтых пытаннях, мы глыбока пераконаны, што прышэльцы і далей будуць праводзіць вайсковую і цывільную каланізацыю. Панове, магчыма, мая статыстыка з-за адсутнасці дадзеных будзе не зусім дакладная, але я ўпэўнены, што жыццё гэтыя дадзеныя выправіць і выправіць у тым значэнні, што няма ў нас месца для асаднікаў. На беларускіх «крэсах», зразумелая рэч, значна больш людзей магло б заняцца сельскай гаспадаркай, калі б была праведзена ў шырокіх маштабах меліярацыя. А пакуль, апрача пінскіх балотаў, запрапанаваць вам нічога не можам ды наўрад ці зможам і потым.

Акрамя таго, што праект гэтай эрзац-рэформы неажыццявімы — двух цвікоў у адно месца не ўб'еш — я лічу гэты закон ганебным, правакацыйным, які хоча сутыкнуць польскі народ з украінскім і беларускім народамі. (*Голас:* «Слушна».) Усё ашуканства гэтай рэформы беларускі і ўкраінскі народы ўжо зразумелі, маю надзею, што і польскі народ таксама зразумее і дасць належным чынам адпор. А зямельная рэформа павінна быць праведзена дзеля многіх прычын і перш за ўсё таму, што адчуваецца страшэнны зямельны голад. У Польшчы сапраўды каласальная, аж да 5 мільёнаў, колькасць беззямельных і малазямельных сялян. Разам з тым палітычныя ўмовы існавання Польскай Дзяржавы складаюцца так, што яна з палітычных меркаванняў вымушана, і то як найшырэй, правесці зямельную рэформу. З мэтай выраўноўвання сацыяльнага ўзроўню трэба не толькі надзяліць зямлёю сялян, але і зліквідаваць буйную ўласнасць. І калі хтосьці не хоча ісці насустрач зямельнай рэформе, не хоча адчыніць ёй дзверы, то яна сама выламіць дзверы і пакладзе канец усялякім спробам затрымаць яе, спробам замаху на яе. Мы ўжо бачылі, як зямельная рэ-



форма парцэлюе не толькі зямлю, але і клубы. (*Голас:* «Паспяхова і то вельмі паспяхова».)

Але, панове, закон законам, а жыццё жыццём. Маёмаснае становішча нашага селяніна можна было б палепшыць нават пры гэтым законе, але толькі па добрай волі, скажам, калі б нам далі магчымасць правесці зямельную рэформу самастойна. Ды толькі мы ведаем, хто будзе яе праводзіць, калі да гэтага дойдзе, калі яна будзе ажыццяўляцца паводле гэтага закону. Знаем, што і ў далейшым будзе праводзіцца каланізацыя, што на аснове гэтай зямельнай рэформы ў далейшым будзе квітнець бяспраўе, хабарніцтва, сваяцкасць, пратэкцыянізм, што гэтая рэформа ў прымяненні да г. зв. «усходніх крэсаў» паспрыяе канчатковай дэмаралізацыі нашай адміністрацыі. Сярод тых зямельных устаноў, якія мне вядомы з непасрэднай практыкі, я не бачыў ніводнай, з якой не выгналі б аднаго або двух чыноўнікаў за хабарніцтва. Закон аб парцэляцыі і асадніцтве толькі пагоршыць сітуацыю, павялічыць хабарніцтва і поўнасцю здэмаралізуе не толькі зямельныя ўправы, але і ўсю адміністрацыю. Калі б мы дапускалі, што гэты закон пройдзе, мы звярнуліся б да партый большасці. (*Голас з левага сектара:* «Былой». *Галасы:* «Большасці няма».) Мы пакуль яшчэ не маем ясных, выразных фактаў таго, што пры ўвядзенні гэтага закону будуць улічвацца інтарэсы мясцовага селяніна, што гэты селянін, які з дзеда і прадзеда гараваў на той зямлі, які прычыніўся да таго, што з яго крыві, з яго мазольнай працы, знясілення і поту выраслі найцудоўнейшыя кветкі польскай культуры, што гэты селянін атрымае зямлю. Памятайце, панове, калі гэты селянін не атрымае зямлі (***пас. Квапіньскі:*** «То сам сабе возьме»), то папомсціцца перш за ўсё на вас. Ён сам зробіць зямельную рэформу. Ёсць у беларускага народа песня,

якую вы некалькі дзён таму назад ужо чулі ў гэтай палаце:

> Ад веку мы спалі, і нас разбудзілі.
> Мы знаем, што трэба рабіць:
> Што трэба свабоды, зямлі чалавеку,
> Што трэба...

а далей ідуць два варыянты: адзін варыянт кажа «асвету здабыць», а другі — «зладзеяў пабіць». Калі вы не даеце нам школ, калі вы вырываеце зямлю з рук беларускага селяніна, то ён будзе спяваць не той першы варыянт «асвету здабыць», а другі — «зладзеяў пабіць».

Закон аб парцэляцыі прадугледжвае шэраг выключных правоў, якія, між іншым, ідуць аж так далёка, што на іх аснове многіх грамадзян, нягледзячы на канстытуцыйныя гарантыі, можна поўнасцю пазбавіць зямлі. Гэта ёсць у 1-м, 2-м і многіх іншых параграфах. Для таго каб пакараць каго-небудзь за правіннасці бацькоў і продкаў, учыненыя нібыта ў зусім іншых палітычных абставінах, павінен быць адпаведны закон, які б нарміраваў гэтую справу, закон, у якім было б сказана, што тыя, хто набыў зямлю ў такіх і такіх умовах, сёння павінны падпарадкавацца закону і звярнуць зямлю. Тым часам у разгляданай пастанове ўсё неяк так употай, крадком — у людзей бліжэй неакрэсленай катэгорыі, у тых, хто набыў зямлю з пэўнымі, юрыдычна неакрэсленымі «агаворкамі», адбіраецца зямля. Выступаючы супраць усялякіх выняткаовых правоў, мы абараняем не абшарнікаў, а малазямельных і беззямельных сялян, да якіх зямля пераходзіла таксама з такімі агаворкамі, у сувязі з чым мы і ўнеслі свае папраўкі. Увогуле, калі б у гэтым быў сэнс, тут, перад гэтай палатай і ў гэтых палітычных абставінах гаварыць аб прынцыпах правядзення шырокай зямельнай рэформы, то мы сказалі б, што ўся зямля павінна быць



забрана і аддадзена без выкупу. Ніякіх вынятковых правоў ні для сялян, ні для памешчыкаў не павінна быць, усе павінны мець роўныя правы і атрымаць зямлю на аднолькавых умовах.

Такім чынам, не маючы цвёрдай упэўненасці ў тым, што закон гэты будзе праведзены, не бачачы іншых выразных яго мэт апрача асадніцтва, каланізацыі і вынятковых правоў, будзем галасаваць супраць гэтага закону.

## ПРАМОВА НА 90-м ПАСЯДЖЭННІ СОЙМА 21 СНЕЖНЯ 1923 ГОДА ПАДЧАС ПРАЦЯГУ АБМЕРКАВАННЯ ЗАЯВЫ СТАРШЫНІ САВЕТА МІНІСТРАЎ

**Пас. Тарашкевіч:** Цяперашні ўрад п. Грабскага прыходзіць да ўлады пад знакам санацыі, паляпшэння фінансаў. Мы шчыра жадаем яму поспеху ў справе папаўнення казны, аднак не верым у гэтае паляпшэнне. Не верым, бо, на наша разуменне, санацыя дзяржаўнага скарбу вельмі цесна звязана з радыкальнай пераменай знешняй і ўнутранай палітыкі ў цэлым. Урад п. Грабскага, сённяшні ўрад, не ў стане гэтага зрабіць, гэта мог бы зрабіць толькі парламентарны ўрад, урад, які абапіраецца на шырокія сялянскія і рабочыя масы, а значыць, дэмакратычны рабоча-сялянскі ўрад. Лічым, што польская дэмакратыя павінна стварыць такі ўрад. *(Пас. Дубановіч:* «А пан хто — рабочы ці селянін?») Я селянін, пан абшарнік, значыць, усё ў парадку. Лічым, што нават пры цяперашнім складзе Палаты, калі б усе партыі выканалі свае абавязацельствы перад выбаршчыкамі, існавала бы платформа для ўтварэння такога ўрада. Але ўсё няшчасце ў тым, што калі ідуць

на выбары, нам абяцаюць многае, калі ж справа даходзіць да складання законаў, то ўзятыя абавязацельствы не выпаўняюцца. Таму заклікаем польскую дэмакратыю ў адпаведным часе стварыць рабоча-сялянскі ўрад і такому ўраду мы акажам давер. Што датычыць складу сённяшняга кабінета, то нам ясна, што хоць гэта і пазапарламенцкі кабінет, афарбоўка яго моцна правая. Пазапарламенцкі ўрад Сікорскага быў з левым адценнем і не прынёс нам нічога, апрача шматлікіх бед. Баімося, што цяперашні ўрад пойдзе значна далей і ўзмоцніць прыгнёт беларусаў, прыгнёт «крэсаў».

## ПРАМОВА НА 96-м ПАСЯДЖЭННІ СОЙМА 24 ЛЮТАГА 1924 ГОДА ПРЫ АБМЕРКАВАННІ ЗАКОНАЎ: 1) АБ ГАРАДСКОЙ ГМІНЕ; 2) ПАЛАЖЭННЕ АБ ВЫБАРАХ У ГАРАДСКІЯ ГМІНЫ; 3) АБ СЕЛЬСКІХ ГМІНАХ; 4) АБ ВЫБАРАХ У СЕЛЬСКІЯ ГМІНЫ; 5) АБ ПАВЯТОВЫХ КАМУНАЛЬНЫХ САЮЗАХ; 6) АБ ВЫБАРАХ У МЯСЦОВЫЯ САЮЗЫ

**Пас. Тарашкевіч:** Высокі Сойме! Мы ўзялі слова ўжо ў першым чытанні гэтых законаў, паверце, не для таго, каб займацца дробнымі, малаістотнымі пытаннямі. Менавіта справа тут не ў лепшым або горшым сканструяванні муніцыпальных законаў, а ў парушэнні самой Канстытуцыі ў той момант, які ў палітычных адносінах з'яўляецца найбольш небяспечным для Польскай Дзяржавы.

Панове, вы добра ведаеце той артыкул Канстытуцыі, дзе сказана, што асновай дзяржаўнага ладу



Рэчы Паспалітай павінна быць тэрытарыяльнае самакіраванне. Мы разумеем, што такія асновы павінны быць дастаткова шырокія і трывалыя для таго, каб служыць апорай будынку, у якім мы будзем знаходзіцца, менавіта — будынку тэрытарыяльнай аўтаноміі. Асновы польскай Канстытуцыі былі ўрачыста пацверджаны, а польскую Канстытуцыю ў гэтых адносінах папярэдзілі міжнародныя трактаты, адрачыся ад якіх у гэты момант Польшча ніяк не можа. У Версальскім трактаце таксама было сказана, што Польшча ў рамках самаўрадаў гарантуе іншамоўнаму і іншапляменнаму насельніцтву поўнае і свабоднае развіццё іх расавых, моўных і нацыянальных асаблівасцяў. Урадавы закон аб муніцыпалітэтах кладзе канец гэтаму развіццю. Разумеем, што прыняцце такога закону было б тым апошнім нажом, які зарэзаў бы ўсе нашыя палітычныя правы. Але я не буду зараз гаварыць пра міжнародныя трактаты. Справа соймавай большасці вырашыць, палітыка гэта ці не палітыка.

Хачу толькі, быць можа, больш дакладна, чым гэта рабілі папярэднія прамоўцы, падкрэсліць адзін момант, а менавіта тое, што дадзены законапраект, я сказаў бы, да непрыстойнасці груба парушае Канстытуцыю. Паводле Канстытуцыі, усе грамадзяне Польшчы роўныя перад законам. Тое самае маем і ў Версальскім трактаце, дзе сказана, што ўсе павінны карыстацца аднолькавымі грамадзянскімі і палітычнымі правамі. А тым часам разглядаемы намі закон менавіта для таго, каб парушыць гэтыя грамадзянскія правы. Ён аддае перавагу, дадатковыя галасы ў першую чаргу польскаму насельніцтву, гэта значыць тым, хто ўмее чытаць і пісаць па-польску, і тым, хто служыў у польскім войску. Гэта супярэчыць не толькі Канстытуцыі, але і перакананням нашага народа. Нашае беларускае насельніцтва, якое

падчас сусветнае вайны пралівала кроў, абараняючы тую сістэму парадкаў, якая перамагла і перамозе якой Польшча абавязана сваім існаваннем, лічыць, што мае права нароўні з іншымі грамадзянамі карыстацца прывілеямі, якія дае служба ў войску, незалежна ад таго, было гэта рускае ці польскае войска. Па гэтай прычыне прывілеі толькі для пэўнай часткі насельніцтва трэба поўнасцю адкінуць.

Далей. Калі Канстытуцыя гарантуе ў рамках самаўраду культываванне роднай мовы, калі тое самае паўтарае Версальскі трактат, то як можна не дапускаць у органы самакіравання тых людзей, якія не ўмеюць чытаць і пісаць па-польску? Гэта самае грубае патаптанне нашых ад прыроды нам належных і гарантаваных Канстытуцыяй правоў.

А зараз звярну ўвагу паноў яшчэ на адну рэч і нагадаю, як вы пасля далучэння Віленскага краю ў закон з 4 лютага 1921 г., не ведаю толькі навошта, мабыць, як той казаў, каб пусціць туман у вочы, унеслі 8-мы артыкул, які абвяшчае: «Асобныя законы забяспечаць насельніцтву права свабоднага карыстання роднай мовай у культурным, асветным і рэлігійным жыцці». Калісьці, прабачце, што абражу слых некаторых паноў гукамі рускай мовы, але некалі Пётр Вялікі сказаў: «Всуе законы писать, коли не исполнять». Асобны закон пацвярджае, што права на развіццё роднай мовы будзе загарантавана, і раптам не хто іншы, а ўрад хоча паламаць гэтыя правы.

Думаю, што калі б Палата мела большае пачуццё таго, што такое Канстытуцыя, калі б мела большае пачуццё законнасці, то, напэўна, з вялікім абурэннем адкінула б такі праект урада, а сам урад ужо не засядаў бы на гэтых лавах.

Не паглыбляючыся ў сутнасць справы, што да са-



мога закону, мог ён быць горшы, чым ёсць, або не, ужо толькі з увагі на тое, што парушаецца Канстытуцыя, уношу прапанову адкінуць яго.

## ПРАМОВА НА 103-м ПАСЯДЖЭННІ СОЙМА 26 ЛЮТАГА 1924 ГОДА ПРЫ АБМЕРКАВАННІ ЗАКОНУ АБ НАДАННІ ПРАВА ЎЛАСНАСЦІ БЫЛЫМ ЧЫНШАВІКАМ І АРАНДАТАРАМ ВА ЎСХОДНІХ ВАЯВОДСТВАХ

**Пас. Тарашкевіч:** Высокая Палата! Закон надзвычай добры, карысны, але, як заўсёды ў кожным добрым законе, так і тут,— дзе бочка мёду, там павінна быць і лыжка дзёгцю. Дык вось, хачу звярнуць увагу Высокай Палаты на гэтую лыжку дзёгцю, якая прызначана ў першую чаргу нацыянальным меншасцям, а значыць, беларускаму, украінскаму і часткова нямецкаму насельніцтву. *(Пас. Асоўскі:* «І яўрэйскаму».) І яўрэйскаму, калі з'яўляюцца чыншавікамі. У раздзеле а) арт. 5, сказана, што дабрадзействамі гэтага закону нібыта не могуць карыстацца неграмадзяне Польскай Дзяржавы. Ды толькі мы добра ведаем стан рэчаў. Людзі, якія з дзядоў-прадзедаў паходзяць з гэтых зямель, якія самі тут нарадзіліся і нікуды не выязджалі, аказваецца, вельмі часта не маюць польскага грамадзянства, бо ў дачыненні да іх прымяняюцца, скажу проста, злачынныя метады. Закон аб польскім грамадзянстве трактуецца вельмі фармальна. Асобы, якія не могуць прад'явіць выпіскі з кніг пастаяннага жыхарства, хоць бы з той рацыі, што кнігі гэтыя былі знішчаны, згарэлі падчас вайны або па іншай якой прычыне, такія асобы не атрымліваюць польскага грамадзянства і аказ-

ваюцца грамадзянамі неіснуючай дзяржавы. Ім, напрыклад, упісваецца ў пашпарт: «Грамадзянін б. Расійскай Імперыі». Мяне цікавіць толькі, ці можа быць такая форма, пры якой той або іншы чалавек аказваецца грамадзянінам неіснуючай дзяржавы. Панове, з увагі на гэта прапаную раздзелы а) і б) скрэсліць, а замест гэтага сказаць так: «Не належыць шматгадовым арандатарам, якія маюць грамадзянства чужой дзяржавы». На практыцы гэта будзе ўжо зусім іншая справа, хоць лагічна паміж «мае грамадзянства іншай дзяржавы» і «не мае польскага грамадзянства» розніцы не павінна быць.

Далей другая лыжка дзёгцю.

У раздзеле в): «дабрадзействамі закону не могуць карыстацца асобы, якія былі або ёсць дэзерцірамі з польскага войска — з гэтым не хачу ваяваць і далей — або ў іншы спосаб выяўлялі свае варожыя адносіны да Польскай Дзяржавы, што было афіцыйна пацверджана». Некалі мы мелі вельмі высакародную ў сваёй ініцыятыве пастанову аб амністыі, аднак рознымі зламыснымі папраўкамі яе ўрэшце так сказілі, што нічога апрача шкоды і раздражнення яна не прынесла. Замест закону аб амністыі, замест таго забыцця яна стала напамінам змаганняў, якія вяліся на «ўсходніх крэсах» і толькі абвострыла там адносіны. А зараз — прадаўжэнне тых зласлівых намераў.

Лічу, што ў інтарэсах Польскай Дзяржавы менавіта забыццё былых змаганняў, а не напамінанне пра іх у кожным законе. Таму прапаную, пачынаючы ад слоў «або ў іншы спосаб выказвалі свае варожыя адносіны да Польскай Дзяржавы» далей да канца абзаца закрэсліць. Магчыма, калі б такая папраўка не прайшла, прапаную замест «афіцыйна пацверджана» ўставіць словы «рашэннем суда». Бо хто, панове, мае пацвердзіць, нейкі рэферэнт? — гэта ж абсалютны нонсэнс, каб закон ставіў справу гэткім чынам. Думаю, што той, у каго ёсць хоць кропля цвярозага розуму, не будзе галасаваць супраць такой папраўкі.

Далей лічу, што ў пункце г) маем поўную кумуляцыю бязглуздзіц і зламыснасці, а менавіта: «...трымалі арэндную зямлю з гадавым і больш перапынкам, за выняткам перапынкаў, прычынай якіх была прымусовая эвакуацыя расійскімі ўладамі падчас вайны, выкліканая прыналежнасцю арандатара да польскай нацыянальнасці». Уся бяссэнсіца тут у тым, што сказана «прымусовая эвакуацыя расійскімі ўладамі падчас вайны». Панове, калі гранаты лёталі над галовамі, ці ж не павінен быў той чалавек выехаць? Зусім зразумела, што выехаў і без усякай прымусовай эвакуацыі. І калі першая частка слушная і справядлівая, то другая — няслушная і крыўдзіць беларускую і ўкраінскую меншасць, робячы выключэнне толькі для асоб польскай нацыянальнасці. Хто памятае 1914 г., той добра ведае, што ўся Гродзеншчына, усё яе жыхарства, польскае і няпольскае, праваслаўнае і каталіцкае, было выгнана казакамі на ўсход. У сувязі з гэтым, з якой рацыі, на якой слушнай падставе можна было б замацаваць гэты прывілей толькі за польскім насельніцтвам, не пашыраючы яго на беларускае, украінскае, нямецкае і ўсякае іншае насельніцтва. Думаю, што і тут найменшая кропля одуму разважнасці загадае вам галасаваць за гэтую папраўку. Калі б папраўка аб скрэсленні не прайшла, прапануем скрэсліць слова «прымусовая».

## ПРАМОВА НА 112-м ПАСЯДЖЭННІ СОЙМА 19 САКАВІКА 1924 ГОДА ПРЫ АБМЕРКАВАННІ ПРАПАНОВЫ НАРОДНА-НАЦЫЯНАЛЬНАГА САЮЗА І ІНШЫХ КЛУБАЎ АБ ГАРАНТАВАННІ ПОЛЬШЧЫ ДОСТУПУ ДА МОРА

**Пас. Тарашкевіч:** Паны здзіўляюцца, што я бяру слова. Больш дзіўным было б, калі б па такім важным для ўсёй нашай краіны пытанні я не выступіў. У прынцыпе, мы за вольны доступ да любых шляхоў зносін. Свабодныя камунікацыі і палёгкі ў абмене каштоўнасцямі павінны быць адной з галоўных мэт саюза народаў, да якога, паводле нашага глыбокага пераканання, ідзе і павінна ісці Еўропа, калі яна не хоча беспаваротна стаць ахвярай катастрофы і знішчэння. Дарогі да гэтай мэты або надта завілістыя і падманныя, або, калі яны больш планамерныя, вымагаюць часам балючай аперацыі. Сёння ўжо нават французскі буржуазны імперыялістычны «Temps» адважваецца сцвярджаць, што Еўропа ідзе да федэрацыі. Таму справа свабодных камунікацый з'яўляецца найбольш актуальнай праблемай сённяшняга дня. Польшча павінна і мае права ісці гэтым шляхам, імкнуцца да мэт, якія б забяспечылі кааперацыю і супольнае пражыванне народаў, мець гарантыі таго, што яе слушныя патрэбы ў гэтых адносінах будуць задаволены. Справа толькі ў тым, наколькі абгрунтаваныя і сумленныя мэты польскай палітыкі ў яе імкненні да свабодных партоў і транспарту, ці гэта якраз тыя мэты кааперацыі і супрацоўніцтва народаў, ці, можа, іншыя?

Пераходзячы да пытання, якое закранаецца ў сённяшняй прапанове, я пакідаю ўбаку справу Гданьска, бо яна не звязана непасрэдна з інтарэсамі беларускага народа, закрану толькі справу Нёмана і



Клайпеды. Хто мае права вырашаць гэтае пытанне? У асноўным і перш за ўсё літоўскі і беларускі народы. Нёман — гэта наша родная рака-карміцелька, аб якой пяюцца песні: «Гэй ты, Нёман-рака». Я не буду прыводзіць статыстыкі, якая паказвае, што $^4/_5$ экспарту ідзе менавіта з беларускай тэрыторыі. Расія і Польшча, гаворачы пра Нёман, могуць гаварыць толькі ад імя беларускага народа, іншай падставы для гэтага ў іх няма. Чычэрын можа ўмешвацца ў гэтую справу пастолькі, паколькі мае на гэта мандат Савецкай Беларусі. Калі б польскі ўрад меў мандат даверу ад той часткі беларускага народа, якая цяпер знаходзіцца ў граніцах Рэчы Паспалітай Польскай, тады, безумоўна, ён меў бы вельмі важкі, магчыма, вырашальны голас у гэтай справе, і справа выглядала б зусім інакш, чым яна выглядае сягоння.

Ці можа, аднак, польская палітыка пахваліцца такім даверам беларускага насельніцтва? Не. Ці праводжаная дагэтуль на беларускіх землях польская палітыка кіруецца ідэаламі братэрскай кааперацыі народаў, жаданнем супрацоўнічаць з народамі? Не, сто разоў не! Беларускі і літоўскі народы прасякнуты недаверам і небеспадстаўна асцерагаюцца таго, каб транзіт па Нёмане не стаў прычынай, прыкрыццём зусім іншых намераў, спробай замаху на Коўна. Недавер заходзіць так далёка, што і латышы пачынаюць непакоіцца, ці не паспрабуе Польшча, ідучы па той лініі, па якой ідзе, захапіць такія порты, як Лібава, Рыга. *(Гоман. Крыкі на правых лавах. Голас:* «Ад імя каго пан усё гэта гаворыць?») Чытайце, панове, латвійскую прэсу. Я перакананы ў іншым і думаю, што Польшчы перш за ўсё не хопіць сіл, каб захапіць Лібаву і Рыгу, аднак такія настроі існуюць... І ў латвійскай прэсе, і ў латвійскім Сойме справа гэтая закранался і падавалася яна так, як я яе тут прадставіў, гэта факт. Гэта лішні раз па-

цвярджае, што вы, панове, не цікавіцеся такімі рэчамі, праводзіце засцянковую палітыку і не хочаце ведаць, што адбываецца. *(Пас. Кавэцкі:* «Неўзабаве скажаце, што мы замахнуліся на Канстантынопаль».) Дык я ж, панове, якраз і кажу, што гэта беспадстаўныя засцярогі, бо перш за ўсё сіл не хопіць, але такія чуткі сапраўды хадзілі. Палітыка, якая праводзіцца на беларускіх землях, выклікае толькі варожасць да Польшчы, пазбаўляе ўсякага даверу да яе. Урэшце, што дасць беларускаму народу свабодны транзіт па Нёмане ў сённяшніх палітычных і гаспадарчых умовах? Дасць вельмі мала, але затое выпампуе багацце нашай зямлі — лес.

Панове, калі папярэдні прамоўца п. пас. Строньскі так бедаваў аб тым, што Клайпеда абмежавана ў сваіх аўтаномных правах, то я маю права значна больш бедаваць аб тым, што наш край, наш народ не толькі не мае ніякай аўтаноміі, але і пазбаўлены фактычна палітычных правоў. *(Пас. Кавэцкі:* «Найлепшы доказ, што гэта не так — ваша выступленне тут у такой форме». *Маршалак звоніць. Пас. Фалькоўскі:* «Гэта правакацыя». *Галасы правых:* «Ён так гаворыць, каб пазней напісаць усё гэта і пасланць у Лігу Нацый». *Пас. Гламбіньскі:* «Гэта правакацыйная прамова!») Вы, панове, рабілі ўсё магчымае, каб я тут не выступаў. *(Гоман. Галасы:* «Прэч яго». *Гоман.)*

**Маршалак:** Прашу супакоіцца. Мой абавязак даць прамоўцы магчымасць выступіць.

**Тарашкевіч:** Прызнанне шырокай аўтаноміі *(гоман. На правых лавах стукат пюпітраў)* — гэта вырашэнне пытання Нёмана, Клайпеды і нават Вільні, гэта прызнанне аўтаноміі беларускай зямлі і выразнае, шчырае адмаўленне ад усялякіх каланізацыйных планаў, ад усялякай каланізацыі. Толькі пачынаючы з гэтага пункта, панове, можа наступіць



паварот у адносінах, такі патрэбны, такі жаданы для ўсіх людзей добрай волі і толькі гэты паварот можа прывесці да згоды паміж палякамі, беларусамі і літоўцамі. Інакш згоды быць не можа, і скажу зусім шчыра, што менавіта такой згоды хачу. Толькі такім шляхам можна вырашыць палітычную і эканамічную праблему краю, якая з'яўляецца перш за ўсё праблемай цэласнасці дзяржавы. *(Голас:* «Пан гаворыць пра Клайпеду?») Я ў пана не пытаю. За мяне пан Маршалак.

Усялякія антылітоўскія дэманстрацыі нічога апрача шкоды не прынясуць, пагоршаць адносіны і толькі паставяць у клапатлівае становішча ўрад. Таму, пакідаючы ўбаку справу Гданьска і маючы на ўвазе толькі справу Нёмана і Клайпеды, мы змушаны галасаваць супраць безадкладнасці прапановы. *(Гоман у правым сектары. Апладысменты на лавах нацыянальных меншасцяў.)*

## ПРАМОВА НА 117-м ПАСЯДЖЭННІ СОЙМА 8 КРАСАВІКА 1924 ГОДА ПРЫ АБМЕРКАВАННІ ПРАПАНОВЫ ПОЛЬСКІХ КЛУБАЎ У СПРАВЕ ПРАСЛЕДАВАННЯ ПАЛЯКАЎ У ЛІТВЕ

**Тарашкевіч:** Высокі Сойме! Унесеная прапанова накіравана на тое, каб абвінаваціць Літву перад Лігай Нацый за праследаванне польскай нацыянальнай меншасці і парушэнне спакою на ўсходзе Еўропы. Адначасова яна заклікае ўрад ужыць усе, магчыма, і ваенныя сродкі, каб змяніць існуючае становішча спраў у адносінах з Літвой.

Панове! Цяперашні літоўскі ўрад асаблівага захаплення ў мяне не выклікае, яго адносіны да на-

цыянальных меншасцяў, здаецца, сапраўды змяніліся ў горшы бок, зрэшты ад так званай «Ковенскай» Літвы нас аддзяляе кітайская сцяна, і мы не ведаем дакладна, што там робіцца. Уражанне такое, што нагрувашчаныя ў сённяшняй прапанове нападкі на дзейнасць літоўскага ўрада, на грамадскасць моцна перабольшаныя. *(Гоман. Пратэсты. Голас з правых лаваў:* «Мы ж адгароджаны кітайскай сцяной, дык адкуль пан ведае аб гэтым?») Але нават калі б толькі палова гэтых уяўных злачынстваў літоўскага ўрада была пацверджанай праўдай, мы гатовы з абурэннем і поўнай пераконанасцю падтрымаць гэтую прапанову пры адной умове — калі яе падпішуць людзі і партыі, якія ў справе нацыянальных меншасцяў тут, у сябе дома, у Польшчы маюць чыстыя рукі і добрыя намеры. *(Апладысменты на лавах нацыянальных меншасцяў. Голас з правых лаваў:* «Каго ён упікае, што мае нячыстыя рукі? Правакатар!» *Крыкі.)* Самі вы правакатары свайго народа, і гісторыя вам гэта пакажа.

**Маршалак** *(звоніць)*: Пасла, які назваў прамоўцу правакатарам не магу прызваць да парадку толькі таму, што не ведаю яго прозвішча. *(Галасы на лавах нацыянальных меншасцяў:* «Баязлівец!» *Крыкі.)*

**Тарашкевіч:** ...такім чынам тыя партыі, якія называюць мяне правакатарам, адкрыта заявілі б нам аб сваёй праграме дзеянняў у дачыненні да нацыянальных меншасцяў у Польшчы і ў першую чаргу да ўкраінскай, беларускай, а таксама літоўскай меншасці. Праграма ж гэтая зводзіцца да аднаго слова: «знішчыць», у лепшым разе да двух слоў: «знішчыць і паланізаваць». Паводле такой праграмы дзейнічалі і да гэтага часу дзейнічаюць урады, мадыфікуючы толькі вышэйзгаданую стандартную фразу на вядомае нам выслоўе царскага міністра Сталыпіна: «Сначала успокоение, а потом реформы». Дакараеце, панове, Літву, што не адчыняе новых польскіх школ, а што вы зрабілі з ужо адчыненымі ўкраінскімі, беларускімі і нават літоўскімі школамі? Абвінавачваеце, панове, Літву, што яна нішчыць польскую нацыянальную меншасць эканамічна, а хто вырывае зямлю ў беларускага, украінскага і літоўскага сялянства?.. *(Гоман. Голас:* «Дзе, хто вырывае?» *Голас:* «Гэта нахабства!») Іншым разам, калі ў мяне будзе больш часу, растлумачу панам гэта. *(Голас:* «Няхай пан скажа, хто забраў і ў якога селяніна зямлю?» *Гоман.)* А надзвычайным проста варварствам ёсць... *(Гоман)*. Папракаеце, панове, што Літва з-за адсутнасці пасведчання аб грамадзянстве выкідае палякаў за межы дзяржавы... *(Крыкі. Галасы:* «Далоў з трыбуны. Досыць!» *Стукат у правым сектары.)* Польскі ўрад першы даў повад... *(Гоман. У правым сектары стукаюць пюпітрамі)* ... з межаў дзяржавы грамадзян, якія на падставе Версальскага трактата... *(Гоман. Галасы:* «Пане Маршалак, гэты чалавек прыняў прысягу, а цяпер зламаў яе. Клятвапарушальнік!») Ніхто тады не пратэставаў, ні левыя, ні правыя, калі беларусаў і літоўцаў у Вільні... *(Гоман. Голас з месца Народна-нацыянальнага саюза:* «Пан гаворыць не аб тэрміновай прапанове, а зусім аб іншых справах». *Гоман на левых лавах.)* У сувязі з абвінавачваннямі мушу сказаць... *(Безупынны гоман. Маршалак звоніць.)* Бачу толькі, што ў Польшчы... *(гоман)*.

**Маршалак:** Спыняю пасяджэнне на пяць мінут.

## ПРАМОВА НА 129-м ПАСЯДЖЭННІ СОЙМА 13 ЧЭРВЕНЯ 1924 ГОДА ПАДЧАС ДЫСКУСІІ НАД ЭКСПАЗЭ СТАРШЫНІ САВЕТА МІНІСТРАЎ

**Маршалак:** Голас мае п. Тарашкевіч.

**Тарашкевіч:** Высокі Сойме. Занархізаваная шляхта XVIII ст. мела тое вельмі згубнае ў сваіх выніках перакананне, што Польшча «nierządem stoi *». Сёння ўцёрлася іншае, думаю, што ў будучыні не менш фатальнае і згубнае, перакананне, сягаючае аж да вышынь палітычнае мыслі, што «Польшча стаіць цудам!». Маем: цуд уваскрэсення Польшчы, цуд ацалення Польшчы, або цуд над Віслай, і апошні цуд аздараўлення скарбу ці фінансавая санацыя.

Нельга думаць, што галоўная хвароба сённяшняга гаспадарчага жыцця — гэта благія грошы. Прычына хваробы ляжыць куды глыбей — у глыбокім гаспадарчым крызісе. Ужо самая вайна — гэта пачатак гаспадарчага крызісу. Распачаўся ён дзеля таго, што народныя промыслы, промыслы нацыянальныя і нацыяналістычныя, канкуруючы паміж сабой, давялі да збройнае барацьбы.

Заключэнне міру ніякім чынам не спыніла гаспадарчага крызісу, але скарэй увяло ў новую фазу, паглыбіла яго ў цэлай Еўропе, а нават у цэлым свеце. Ведама, што вялікія эканамічныя багатыры Еўропы, якімі ёсць Англія, Францыя і Нямеччына, утрацілі значную частку сваіх рынкаў у калоніях, якія ў часе сусветнай вайны, творачы свае ўласныя промыслы, вызваліліся ад залежнасці ад еўрапейскіх дастаўшчыкаў. Прашу паноў, пасля перыяду інфляцыі, пасля перыяду ўпадку валюты наступіў другі перыяд — перыяд гаспадарчага крызісу. Гаспадарчы крызіс і інфляцыя — гэта два канцы таго самага кія, якія сёння б'юць наперамену па няшчаснай Еўропе. Паміж гэтай Сцыллай і Харыбдай інфляцыі, з аднаго боку, і гаспадарчага крызісу — з другога, можна зручна выкручвацца; прыклад — Чэхаславакія. Паглядзім жа, як гэты патэнтаваны ўжо фінансавы геній, п. Грабскі, выкручваецца паміж гэтымі небяспекамі.

П. Грабскі, як ведама, сягнуў не толькі да даходаў, але да часткі маёмасці. І як жа гэтая частка маёмасці бярэцца? Бярэцца, так сказаць, «на ўзвей вецер». Метады агентаў Міністэрства Скарбу, галоўным чынам на вёсцы, вельмі часта папросту граніча́ць з ашуканствам. Перадусім платнік не ведае, колькі і ў якім часе зможа плаціць свае падаткі. Далей, вышыня ападаткавання ў краі, зруйнаваным і знішчаным вайной, даходзіць да такое меры, якая існуе ў краі, што красуе дабрабытам, як Італія. Апроч таго, мусіў бы сказаць, што падатковая сістэма Польшчы ў сённяшняй хвіліне — нязмерна дражнючая, асабліва на нашых беларускіх землях. У той час, калі сяляне прывыклі плаціць падаткі ад зямлі, яны сёння плацяць нязлічаную лічбу розных падаткаў: «państwowych i komunalnych» — так, што запраўды няма тыдня, калі б не трэба было плаціць падатку. А ёсць, напрыклад, такія падаткі, якія ў вачах падатнікаў выклікаюць рост абурэння. Такім падаткам ёсць, напрыклад, падатак «spadkowy». У той час, як у сялянскай сям'і паміраe бацька і пакідае па сабе ўдаву і дзеці-сіроты, тады гэты падатак «spadkowy» выдаецца запраўды карай за смерць, ды так гэты падатак і разумеюць сяляне. Усюды ведама і сцверджана, што метады аздараўлення Скарбу п. Грабскага вядуць да поўнага збяднення вёскі і прамысловага крызісу.

У той час, калі ў Заходняй Еўропе кінуты лозунг

* Няладам трывае.

міру, тады польскія палітыкі цвердзяць, што «si vis pacem para bellum». А запраўды гэты прынцып давёў і вядзе да вайны. Хочучы стварыць мір, хочучы быць тварцом міру, трэба мір спраўна прыгатаўляць. Слушна гэта сказаў пасол Барліцкі, толькі, на жаль, не зусім хацеў вывесці з гэтага лозунга ўсе паследствы, бо, жадаючы чынна прыгатаваць мір, трэба хіба зменшыць ваенны бюджэт?! А бюджэт польскі — гэта выразна мілітарны бюджэт, дзеля таго, што найменш 57 % бюджэту ідзе на ўзбраенне і на армію. Пытаюць часта, ці мае Польшча мілітарыстычныя намеры, ці вядзе Польшча імперыялістычную палітыку? Я б сказаў, што Польшча вядзе мілітарыстычную палітыку, аднак жа не патрабуе пакуль што мець мілітарыстычных намераў, а гэта дзеля таго, што сёння Польшча цалкам насычана чужой люднасцю і чужымі землямі і іменна дзеля гэтага, каб гэтую чужую люднасць, гэтыя меншасці, перад усім тэрытарыяльныя, а знача ўкраінцаў і беларусаў, утрымаць у належнай карнасці і паслухмянасці і зламаць іх, дзеля гэтага патрэбны ваенны бюджэт. А гэта ёсць вынік вялікай слепаты палітыкі ўрадавых чыннікаў, дзеля таго, што ніякая армія, калі б Польшча азброіла з ног да галавы ўсю люднасць — мужчын і жанок нават, то ніводная, кажу, армія ў недалёкай будучыне не патрапіць змагацца на два фронты, ці то з Расеяй як такой, ці то з саюзам усходніх народаў, і не патрапіць змагацца з Нямеччынай, з другога боку. Вось дзеля гэтага польская палітыка павінна быць — мірная, немілітарная.

Прашу паноў, пагледзімо, як гэты «апалітычны» прэм'ер, які абяцаў з гэтай трыбуны быць бесстароннім і апалітычным, пагледзімо, якую ён вядзе ўнутраную палітыку ў галіне школьніцтва. Смела можна сказаць, што «такога несумленнага» міністра ў адносінах да школ нацыянальных меншасцяў, як



п. Міклашэўскі, дасюль не было. *(Крык на правіцы. Галасы:* «Як можна аб міністру сказаць, што ён «несумленны»?! Гэтага слухаць не можна!»)

**Віцэ-маршалак Марачэўскі** *(звоніць)*: Прашу паноў супакоіцца. Калі моўца сказаў штосьць неадпаведнага, то я даведаюся аб гэтым з стэнаграмы і прызаву да парадку.

**П. Тарашкевіч:** Калі ўжыў неадпаведнага слова, то гатоў даць за гэта сатысфакцыю, але няхай паны толькі паслухаюць, як п. міністр Міклашэўскі, зачыняючы сістэматычна школы, уводзіць да школы паліцэйскую сістэму.

Вось жа па дні 1 мая беларускія і жыдоўскія школы ў Вільні атрымалі ад віленскага куратарыуму запытанне, якія вучыцялі і вучні ў дзень 1 мая не прыйшлі да школы. Не ведаю, як гэта маю назваць... (*Крык, голас*: «Беларускае свята ёсць 1 мая».)

Або зямля... Гэтае пытанне ёсць першае для шырокіх масаў люднасці беларускай і ўкраінскай. Як гэтае пытанне стаіць? Пастаянна абяцаецца зямельная рэформа. Напаследак — не віна ўрада і не віна адміністрацыі, што справа зямельнае рэформы ў той ці ў іншы спосаб праведзена ў Сойме. Але як земскія ўрады трактуюць беларускага мужыка? Там перадусім пытаюць, хто ты такі: ці ты паляк, ці беларус? Адным памагаюць, другім ставяць перашкоды на кожным кроку.

Найвышэйшыя ўлады, найвышэйшыя паньствовыя «чыннікі», пастаўленыя сцерагчы лад, кажуць, што толькі палякі ў Польскай Рэчы Паспалітай маюць правы, толькі яны ёсць гаспадары зямлі, а ўсе іншыя — грамадзяне другога класа. Хто так казаў, дзе казаў, панове добра ведаеце. *(Голас на жыдоўскіх лавах:* «Той, каторага мы выбралі. Шчаслівым ходам акалічнасцяў не быў забіты, як Нарутовіч».) Каб трымаць у паслухмянасці люднасць, якая за-

праўды ўтраціла цярплівасць, якую дагэтуль мела, трэба сяння легіёнаў паліцыі. Побач арміі, побач войска стаіць другая паліцэйская армія. На нашых вачах Польшча *(голас на лавах меншасцяў:* «Палюе на людзей!») штораз выраджаецца ў паліцэйскае гаспадарства. *(Голас на правіцы:* «Бароніць вас ад бандытызму, які ёсць у Расеі!») Што робіцца з гэтым бандытызмам, то зараз скажу. У прошлым годзе, чуючы аб гвалтах паліцыі, выехаў я да паветаў: Пінскага і Косаўскага. Аб'ехаў два паветы, і там пасля ведамага нападу ў Тэлеханах не было бадай вёскі, а ў вёсцы не было мужчыны, які б не быў у агідны, брутальны спосаб скатаваны. Старыя з заціснутымі зубамі нічога не гаварылі, але тая моладзь, у каторай кіпіць гарачая кроў, гаварыла: «Цяпер будзем шукаць дарогі да помсты!» Гэта ёсць адна з прычын «бандытызму». І цвярджу рашуча, што чым больш будзе паліцыі на «крэсах», тым большае будзе забурэнне, тым больш будзе таго, што панове слушна ці няслушна завеце бандытызм. Бо гэтая паліцыя на «крэсах», у той колькасці, у якой там знаходзіцца, запраўды не мае нічога да работы, як толькі правакаваць. Такога паліцэйскага ўціску, такога рэжыму яшчэ наш народ не бачыў. *(Голас на правіцы:* «Аб якім пан говорыш, ці аб гранічным, ці аб унутраным?») Аб унутраным. Так, дзе даўней адзін паліцыянт, ці адзін стражнік, ці таксама адзін расейскі ўраднік даваў сабе раду, там сёння ёсць па 10-цёх, 15-цёх паліцэйскіх. Аднак і гэты паліцэйскі не ёсць выпрабаваны, як адпаведны фаховы элемент. Гэты паліцыянт, каторага гаспадарства не можа дасканальна аплаціць, бо, маючы столькі паліцыі, не можа добра плаціць, гэты паліцыянт шукае пабочных заработкаў. Я дасканальна ведаю, што паліцыя ў цэлай чарзе мястэчкаў мае даручэнне даставіць столькі а столькі пратаколаў у працягу месяца. А калі гэ-



ты паліцыянт не даставіць, то яго выкідаюць.

Урэшце Польшча дачакалася, што ў гэтую справу ўмяшаліся чужыя дзяржавы і гуманітарныя арганізацыі. Дык што ж думаеце рабіць з гэтай справай? Пан міністр Грабскі тутака выступаў зусім не як прэм'ер, а толькі як міністр фінансаў. Ён думае, што справа ўнутранай і заграпічнай палітыкі, бюджэтная і фінансавыя справы не маюць нічога супольнага, і не хоча аб гэтым гаварыць, а калі нават што і робіць, то робіць у тайніцы. Паважна і праўдзіва гэтай справы ніхто не хоча трактаваць, а калі хто захоча патрактаваць, то хацеў бы яе зрабіць якімісь паўспосабамі. *(Голас на правіцы:* «А які ёсць цэлы спосаб?» *Голас на лявіцы:* «Самавызначэнне!»)

Аўтаномія тэрытарыяльная на даўжэйшы час не развязала б гэтай справы аканчальна, а толькі залатала б яе. Аднак народ наш беларускі не верыць ужо сёння ў магчымасць тэрытарыяльнай аўтаноміі, бо ведае, што калі б нават які-кольвек Сойм пад прымусам якіх кольвек «прычын» гэтую справу правёў і даў бы аўтаномію, то няма пэўнасці, каб гэтая аўтаномія, таксама, як і Канстытуцыя, не была пагвалчана і зламана. Беларускі народ сцвярджае толькі факты і сёння яшчэ тым больш абарочвае свае вочы на ўсход *(галасы:* «Jazda!» * *Голас на лявіцы:* «Але разам з зямлёй і з людзьмі»), дзе бачыць магчымасць развіцця і дзе многа робіцца, каб, ведама, цяжкае сённяшняе эканамічнае палажэнне селяніна было палепшана.

У часе, калі нашая люднасць, церпячы ўціск і сістэматычнае праследаванне, траціць давер да самога гаспадарства, трудна, каб мы маглі мець які-небудзь давер да п. Грабскага, такога аднабокага палі-

---

* Выбірайцеся! *(польск.)*

тыка. Тым больш будзем пратэставаць супраць давання яму якіх-небудзь паўнамоцтваў. Не маючы даверу да сённяшняга ўраду, не маем таксама даверу і да сённяшняга Сойма і дамагаемся новых выбараў. Урэшце, не можам меець лішне вялікіх надзей і на новы Сойм. Спасцярога і халодная развага змушае да вываду, што развязанне тых палючых задач прыходзіцца чакаць найхутчэй ад глыбокіх устрасенняў, ад палітычнай і сацыяльнай рэвалюцыі... *(Словы: «А вы іменна на гэта і чакаеце».)*...

## ПРАМОВА НА 146-м ПАСЯДЖЭННІ СОЙМА 9 ЛІПЕНЯ 1924 ГОДА ПРЫ АБМЕРКАВАННІ ЗАКОНАПРАЕКТАЎ АБ МОВАХ

Высокі Сойме! Колькі тыдняў паміж польскімі партыямі ў Сойме існавала праўдзівая «sielanka *». А гэта ж яшчэ так нядаўна мы былі сведкамі гвалтоўных сцэн і сутычак паміж лявіцай і правіцай, як дзеля важных, так і дзеля няважных прычын. Жыва йшчэ стаяць уваччу часы, калі пасол Тугут разам з намі, нацыянальнымі меншасцямі, выбіраў першага Прэзідэнта Рэчы Паспалітай, і часы, калі гэты прэзідэнт паў, як смяротная ахвяра злачыннае фашыстоўскае агітацыі партыі пана пасла Станіслава Грабскага, мусіў жыццё сваё аддаць толькі за тое, што згадзіўся прыняць мандат з подпісамі нацыянальных меншасцяў. Мінуў год, мінае другі — і вось той самы п. Тугут і той самы п. Грабскі супольна рашаюць аб долі нацыянальных меншасцяў! У польскім нацыянальным хоры чуем аб'яднаныя галасы ўсіх «дэмакратыяў» у двукоссі і дэмакратыяў больш-менш без

* Ідылія *(польск.)*.



двукосся, а іменна нацыянал-дэмакратыі і хрысціянскае дэмакратыі, і пястова-людовавызваленскай, і урэшце, сацыялістычнай дэмакратыі. І ўсе спяваюць надзіў згодна, толькі аднатонна, бо пераважна unisono. У гэты непараўнаны хор некаторую дэтанацыю ўносіць ППС, але і яна музыцы не перашкодзіць, а толькі крыху ажывіць яе. Бо ж і як тут перашкаджаць, калі чуваць гэтае старашляхоцкае «кахаймася»! Так гуляюць паны шляхта і сяляне, што строяць сябе ў пёры шляхоцкае традыцыі. Няма толькі на гэтым банкеце ані ліры, ані жалейкі беларускае, няма ані бандуры, ані ўкраінскіх гайдукоў, няма нямецкіх штукароў, дый цябе, Янкель-цымбаліста, нямашака!

Затое здалёку далятае рокат з усходу і раздаюцца падземныя грымоты: гэта — гнеў народу!..

Вось абраз акалічнасцей і адносінаў, пры якіх вылупіліся цяпер на свет тры заканадаўчыя страхоцці пад назовам: моўныя ўставы для нацыянальных меншасцяў.

Вы, паны, цешыцеся са зробленае работы і трубіце на ўвесь свет аб сваёй велікадушнасці ў адносінах да нас і самі сябе славіце, выхваляючы празорлівасць свайго дзяржаўнага розуму. «Слухайце, народы! Слухай, увесь свет! Вось Польшча братоў Грабскіх і хаўрузіі надае сваім нацыянальным меншасцям magnam chartam libertatum *!» Так кажа бадай уся польская буржуазная прэса. Аднак мы гэтага фабрыкаванага на вываз аптымізму не раздзяляем. Мы не бачым у гэтых уставах ані забяспечання нашых правоў, ані ўважаем іх за выяўленне нейкае велікадушнасці, што раптоўна, нет ведама скуль, агарнула, змякчыла сэрцы такіх закаянных нацыяналістычных грэшнікаў, як п. Станіслаў Грабскі. Вы робіце гэта, панове, перад усім націскам вонкавых акалічнасцей!

* Вялікую хартыю свабод *(лацін.)*

Дзеля розных прычын сёння па ўсім свеце жыва цікавяцца справай нацыянальных меншасцяў. Польшча мае гэтых меншасцяў каля 40 прац. свайго насялення. З гэтага найбольш выпадае на ўкраінцаў і беларусаў, засяляючых свае землі густой масай. Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна аружнай сілай адарваны ад сваіх матчыных рэспублік.

Насяленне гэтых зямель, далучанае да Польскае Рэспублікі, знаходзіцца ў годным жалю палажэнні. Яго нішчаць матэрыяльна, культурна і нават фізічна. У яго адбіраюць зямлю, школу, ды бяскарна здзекуюцца над ім і катуюць. Дзяржава, якая не можа запэўніць сваім грамадзянам нават найменшае асабістае бяспечнасці, вымагае ад іх празмерных падаткаў, а, магчыма, у хуткім часе зажадае і празмерных ахвяр крывёй і ўсёй маёмасцяй. Тым часам па той бок граніцы бальшавіцкі ўрад, хоць з вялікім трудом, але разам і з незвычайнай упорлівасцю, будуе новы дом беларускае дзяржаўнасці. (*Голас:* «Пан сам з гэтага смяешся!») Адкажу пану словамі чалавека, якога цяжка западозрыць у якім-колечы бальшавізме, словамі п. Леона Васілеўскага, які ў сваёй апошняй працы, дзе ён стараецца паменшыць рух і народ беларускі, кажа гэтак: «Як-ніяк, а сучасная сістэма, уведзеная ў Беларускай Рэспубліцы, дае беларусам магчымасць развіваць беларускую культуру ў рамках радавага ладу». У такіх абставінах украінцы і беларусы не могуць доўга маўчаць і цярпліва пераносіць немагчымае палажэнне. Стыхійны выбух гневу і нездаволення можа затрэсці самымі падставамі дзяржавы. За граніцай аб усім гэтым вельмі добра ведаюць, і безнадзейна хворай дзяржаве там няма веры і... крэдыту. Гэтымі ўставамі паны хочаце абаламуціць заграніцу, атуманіць увесь наш і ваш край *(крыкі)*. Але будзеце мець з гэтым вялікую, трудную і цяжкую задачу, бо мы ўжо зышлі з шляху даверчы-



васці, мы маем за сабой пяць горкіх гадоў спроб і расчаравання. Мы бачылі адозву галоўнакамандуючага польскіх войск, Язэпа Пілсудскага, да грамадзян б. Вялікага княства Літоўскага, у якой ён урачыста суліў народу магчымасць самому вырашаць свае справы, і гэная абяцанка скончылася нягоднай пародыяй віленскага Сойма і далучэннем беларускіх зямель да Рэчы Паспалітай без найменшае згоды гэтых зямель. Дзе, хто, калі пытаўся ў беларусаў, ці яны хочуць належаць да Польскае Дзяржавы? А цяпер дык лёгка казаць, што Польшча ані кусочка зямлі не дзержыць прымусам. Мы былі, далей, сведкамі абвяшчэння «найдэмакратычнейшай» і «найяснейшай» Канстытуцыі, а адначасна былі і ёсць сведкамі грубага гвалтавання яе ў сталіцы, на правінцыі і на кожным месцы. Гвалтавання кім? Ды бюракратычным няладам, якім некалі Польшча дзяржалася, ад якога ўпала і, на жаль, дзержыцца цяпер... Мы былі сведкамі зацверджання зямельнае рэформы, былі сведкамі таго, як польскі жаўнер ішоў на ўсход, несучы гэтую рэформу на сваім штыху. І чым гэта скончылася для нашага краю? Вось тым, што зямлю ў нас пачалі адбіраць, а не даваць *(шум)*. Мелі, далей, мы чысленыя абяцанкі прэм'ераў і міністраў; кожын з іх суліў многа, каб нічога пасля не даць. Ці то ў вялікіх, ці ў малых справах — заўсёды было таксама: усё абяцалі, нічога не далі. Дык вы самі прызнаеце за мной слушнасць, калі скажу: «Timeo Danaos et dona ferentes» — «Баюся вас і тады, калі нешта дорыце!»

Гляджу я — і першае, што мне кідаецца ўвочы ў гэтых новых моўных уставах, гэта цана, якую самі сабе вызначаеце за вашу велікадушнасць, упарта цвердзячы, што граніцы Польшчы ёсць і павінны быць непарушальнымі. Ужо цяпер — не ведаю, дзеля чаго: хіба так, на ўсялякі прыпадак...— вы паўторна заанкетавалі аж 4 паветы з беларускім насяленнем:

бельскі, беластоцкі, сакольскі, аўгустоўскі. (*Голас на правіцы:* «А можа, варшаўскі?») Мы стаім на этнаграфічным грунце, і праца польскага прафесара Развадоўскага, якая можа мець вагу для вас, паказуе там наагул беларускі элемент, ды нават ваша статыстыка выяўляе там значную лічбу беларусаў. (*Голас на правіцы:* «Дык і ў Варшаве ёсць беларусы».) Так, ёсць і ў Варшаве і нават тут, на гэтай трыбуне. Вось жа дзеля гэтага пытаюся ў паноў, ці ў гэтых паветах ужо зусім адкрыта мае адбывацца гвалтаванне права, культуры і мовы беларусаў, ці там не будзе мець сілы Канстытуцыя? На гэты замах я і народ беларускі адкажам панам: рукі прэч!

Такім жа чынам пагвалчаны правы літоўскага насялення ў паветах: лідскім, браслаўскім, ашмянскім, горадзенскім і сувальска-сэйненскім. Няма сумліву, што на памянёных абшарах беларусы і літвіны маюць быць пазбаўлены ўсіх моўных правоў. А што мае быць на абшарах другіх беларускіх паветаў? Гэта ж вы, панове, нават у афіцыяльным абаснаванні ўставу гаворыце, што быццам даяцё больш, чым таго вымагае Канстытуцыя і трактаты.

Я пазволю сабе прачытаць адносныя тэксты, бо паны чытаць іх не любіце! Вось жа Канстытуцыя ў арт. 96 кажа прынцыпова: «Усе грамадзяне роўныя перад законам». Арт. 109 гавора: «Кожын грамадзянін мае права на захаванне сваёй нацыянальнасці і на развіццё сваёй мовы і нацыянальных адзнак. Асобныя дзяржаўныя ўставы забяспечаць меншасцям у Польскай Дзяржаве поўнае і свабоднае развіццё іх нацыянальных уласцівасцей» — і далей, што йшчэ цікавей: «пры помачы аўтаномных сувязей меншасцяў публічна-праўнага характару ў межах саюзаў агульнага самаўраду. Дзяржава ў адносінах да іх дзейнасці будзе мець права кантролю і папаўнення — у прыпадку патрэбы — іх фінансавых засобаў».



Далей возьмем арт. 7 Трактату аб меншасцях. У ім забяспечваецца права меншасцяў на ўжыванне сваёй мовы ў судох — у гутарцы і на пісьме. Цікавей арт. 9 таго ж Трактату аб меншасцях: «У мястох і акругох, заселеных значнай лічбай грамадзян іншае, чым польская, мовы, польскі ўрад робіць у справах публічнага навучання адпаведныя палягчэнні, каб запэўніць дзецям такіх польскіх грамадзян у пачатковых школах навуку ў іх уласнай мове». Пане прафесар Грабскі! «У іх уласнай мове»! А што да польскай мовы, дык гэты абзац таксама зусім не двузначны, бо кажа: «Гэтая пастанова не перашкаджае польскаму ўраду зрабіць у гэтых школах навуку польскае мовы абавязковай». А што творыцца ў двухмоўнай школе?!

Не кажу ўжо аб арт. 7 Рыжскага Трактату, бо лішне добра вядомы і папулярны. Але пагледзімо цяпер, у якіх адносінах знаходзяцца прапанаваныя моўныя ўставы да Канстытуцыі і трактатаў. Калі паны кажаце, што яны даюць больш, чым трактаты і Канстытуцыя, дык я заяўляю, што вы маеце лішне вялікую, але мала пахвальную адвагу, бо гэтыя ўставы з'яўляюцца гвалтам і запярэчаннем асноўных законаў Рэчы Паспалітай і трактатаў, не кажучы ўжо аб тым, што прадстаўляюць насмешку над здаровым розумам.

Вось самы нявінны ўстаў — аб моўных палягчэннях у судзе. Бяру, да прыкладу, § 3: «Старана, якая падае жалабу ў няпольскай мове, павінна перакласці яе на польскую мову, калі праціўная старана будзе таго жадаць; судовае паступанне ў такім прыпадку пачынаецца ад падачы польскага перакладу». І гэта мае быць палягчэнне?! Каб карыстацца «дабрадзействамі» гэтага ўставу, трэба хіба быць нейкім патрыятычным маньякам, а не нармальным чалавекам!

Возьмем цяпер другі ўстаў — аб мове ў адміні-

страцыі. Трэба прызнацца, што на першы пагляд гэты ўстаў як быццам запраўды дае некаторыя моўныя палёгкі няпольскаму насяленню, але на дзеле — пры сучасных адміністрацыйных адносінах на гэтых землях — усе гэтыя палягчэнні робяцца толькі шкоднай ілюзіяй. Калі ўстаў дазваляе зварачацца да ўрадаў ніжэйшае інстанцыі па-беларуску, дык пры найчарнейшым бюракратычным тэрорыы, пры «панскіх», а калі хто хоча — пры хамскіх адносінах урадоўцаў да насялення, пры яўным і адкрытым вядзенні ўрадоўцамі палітыкі самага заядлага шавінізму і імсцівасці,— трэба людзей з вялікай самаахвярнасцю і ідэйнасцю, каб адважыліся дамагацца адказу ў украінскай ці беларускай мове. Цяпер ужываецца беларуская кляцьба: «Каб ты па ўрадах цягаўся!» Аб тым, што вычвараецца на гэтым польскім Сахаліне *(крыкі)*,— а так назваў беларускія «крэсы» іменна ваш эндэцкі «Dziennik Wileński»,— чытайце ў гэтай вось вашай газеце!

Аб межах ужывання мовы ў адміністрацыі ў вялікай меры маюць вырашаць самаўрады. Гэта вельмі пекна, але, на жаль, ізноў толькі ў абстракцыі, бо па сягоння мы зусім не маем ніякіх правільных, выбраных згодна з Канстытуцыяй, самаўрадаў. Трэба аб гэтым памятаць і ведаць, і я думаю, што паны гэта знамяніта ведаеце... «Самаўрад» аснованы на тым, што староста... сам гаспадарыць! Вось вам і «самаўрад»! А далей — пададзеныя законапраекты аб «самаўрадах», з аднаго боку, годныя злітавання, а з другога — заслугуюць на найвялікшае абурэнне, бо іменна ў гэтых уставах самым цынічным спосабам гвалціцца Канстытуцыя, бо адзін паляк мае гэтулькі галасоў, як пяць беларусаў. Гэта ж скандал! І на гэтых самаўрадах вы маніцеся абаперці далейшае дзяржаўнае будаўніцтва, далей тварыць уставы? Хто ж будзе ў такім выпадку кіраваць? Ці мясцовае на-





Браніслаў Тарашкевіч. Вільня, 1925 год



Бацькі — Алена з Чарняўскіх і Адам Тарашкевічы —
пры ганку сваёй сядзібы



Бронік Тарашкевіч — вучань
2-й віленскай гімназіі



Моладзь з падпольнага гуртка на маёўцы.
Ваколіцы Вільні, 1909 год



Рэферэнт у Аддзеле асветы
Сярэдняй Літвы. 1921 год


Дыпламатычны пашпарт
Passeport Diplomatique
Diplomatischer Paß
іменем Беларускага Народу,
au nom du Peuple Blanc-Ruthenien.
Le Président du Conseil des Ministres

**Дыпламатычны пашпарт Браніслава Тарашкевіча**



**Дырэктар Віленскай беларускай гімназіі**
**1921 год**



Беларускія дэпутаты Сойма і сенатары. 1922 год.
Сядзяць у першым радзе (злева направа): Павел Валошын, Фабіян Ярэміч, Антон Аўсянік;
у другім радзе — Аляксандр Уласаў, Аляксей Назарэўскі, Браніслаў Тарашкевіч, Міхал Кахановіч, Вячаслаў Багдановіч; стаяць — Пётра Мятла, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Адам Станкевіч, Сымон Якавюк, Васіль Рагуля



Андрэй Снітка — беларускі гісторык і археограф.



Тарашкевіч з сынам Радаславам
і жонкай Верай Андрэеўнай. 1925 год



Сымон Рак-Міхайлоўскі з жонкай Надзеяй,
дачкой Рагнедай і сынам Рагвалодам
У двары Віленскай беларускай гімназіі, 1923 год



Пётра Мятла. Каля 1927 года



Браніслаў Тарашкевіч. 1923 год









Уверсе: лідэры Беларускай сялянска-работніцкай грамады (справа налева) — Пётра Мятла, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Браніслаў Тарашкевіч, Павел Валошын.

Унізе: з працэсу над Грамадой. Малюнкі Язэпа Горыда



У Радашковічах. Лета 1930 года



У Маскве. Сярэдзіна 30-х гадоў

сяленне? Не,— ізноў староста, асаднік, шпік і правакатар. Замест самаўраду — ёсць і будзе існаваць шляхоцка-асадніцкае староста-дзяржаўе і чыноўніцкі тэрор.

Урэшце, трэці ўстаў. Два папярэднія законапраекты — гэта нявінная забаўка, раўнуючы да гэтага школьнага ўставу. Толькі яна паказвае меру паланізатарскага імпэту ейных аўтараў, а разам і меру глыбіні іх дэмакратычных прынцыпаў. Скажу па-беларуску: было ліха, дый пагоршала; было блага, будзе горай. Не буду развадзіцца аб тым, як за кароткі час польскі ўрад зачыніў 400 беларускіх школ. Зачыненне школ было выклікана кірункам агульнае палітыкі ўраду, а перадусім самастойнай палітыкай розных школьных інспектараў. Гэта — прывезеныя з далёкае Галіччыны адміністрацыйныя шулеры, якія са спрытнасцю і крывадушнасцю, годнымі лепшае справы, спынялі і спыняюць усялякія высілкі беларускага народу ў кірунку здабыцця ўласна школы. Цэлымі сотнямі ляжаць у іх пад сукном і ў кашах просьбы аб адкрыцці беларускіх школ. Было і ёсць блага, але можна было спадзявацца, што пераменіцца ўрад, пераменяцца людзі і пераменіцца палажэнне. Цяпер п. Станіслаў Грабскі,— бо ж яму ў першы чарод трэба прыпісаць чэсць аўтарства гэтага ўставу! — гэты патэнтаваны эндэцкі спецыяліст ад парцэлявання і паланізавання ўкраінцаў і беларусаў, цяпер пазбаўляе нас апошняе надзеі і пры помачы закону творыць апошнюю перашкоду развіццю беларускіх і украінскіх школ. Школы беларускія будуць выняткам, затое скрозь будуць школы польскія ці ў лепшым выпадку — польска-беларускія, так званыя двухмоўныя. Устаў у сваіх асноўных пастановах, насупраць гарантыям канстытуцыі і трактатам, стаўляе польскі элемент у прывілейнае палажэнне, крывадушна прыкрываючы гэта няяснай фармуліроўкай уставу.

Вось пробкі «дэмакратызму» і «справядлівасці». Калі ў абводзе школы будзе 39 няпольскіх дзяцей, дык школа мае быць польская, хоць бы не было ніводнага польскага дзіцяці! Калі ж у абводзе ёсць 25 польскіх дзяцей, дык школа будзе двухмоўная, хоць бы няпольскіх дзяцей было 100, 200, 500, 1000 — без агранічэння лічбы! Даволі 25 польскіх дзяцей, каб беларускае школы не было... Можаце, паны, сабе прадставіць, якая гэта будзе дасціпная «выкрэсьльная геаметрыя» школьных акругаў, якую спрытныя інспектары будуць безсумліўна пускаць у ход. Паны міністры зара сарганізуюць дзеля гэтага адумысныя інструктарскія курсы і пачэснае кіраўніцтва гэтымі курсамі трэ было б аддаць п. Станіславу Грабскаму...

Што ж прадстаўляе двухмоўная школа сама па сабе? Гэта школа ў двух пастацях, утраквістычная: ультрагумарыстычная і ультрадраматычная. *(Вясёласць, воплескі на беларускіх і ўкраінскіх лавах.)* Гэта — школа, у якой навука абернецца ў жарт, а ва ўражлівай дзіцячай душы будзе пасеяна жыццёвая драма. У гэтай школе беларускае дзіця будзе бачыць паняверку ўсяго, што яму дарага, беспасярэдне блізкае, стыхійнае: сваёй мовы, звычаяў, акружаючых. Калі можна ўсяляк судзіць аб вартасці двухмоўных школ у Швейцарыі і Бельгіі, калі там яны могуць нам здавацца свайго роду педагагічным дзіватворам, дык у нашых абставінах гэта будзе не дзіватвор, а педагагічнае страшэнства. Дый не трэба адгадваць, што будзе, бо і сягоння мы маем польска-беларускія школы. Беларускаму дзіцяці, якое не мае паняцця аб польшчыне, даюць у рукі польскі лемантар. Навучанне адбываецца ў польскай мове, а беларускія гадзіны — гэта гімнастыка, маляванне, рухомыя гульні і г. д. Дзеля паважных двухмоўных спроб патрэбны ідэальныя настаўнікі, ідэальныя адміністратары



і спакойнае сужыццё грамадзянстваў. Усяго гэтага ў сучасных абставінах няма нават у найменшай меры, і дзеля гэтага сужыццё ў польска-беларускай школе падобна да дружбы ваўка ў авечай скуры з ягняткам, з'яўляецца папросту ганебнай правакацыяй. (*П. Карфанты:* «Гэтае ягнятка — хто гэта?») А гэны воўк у авечай скуры — то пан!

Такі характар нашых дасюлешніх адносінаў — зусім выразны, і няма сумліву, што гэты ўстаў пойдзе ў кірунку мэтаў, якія п. Станіслаў Грабскі стаўляе ў сваім творы пад загалоўкам: «Uwagi z chwili bieżącej» *. І на тым вялікшае абурэнне і асуджэнне панове заслугуеце, калі ў артыкуле 2 школьнага ўставу крывадушна прыкрываецеся высокім прынцыпам «згоднага сужыцця насялення мешаных зямель». Гэта вы будзеце ўзгадоўваць дзяцей польскай і беларускай нацыянальнасці ва ўзаемнай пашане іх нацыянальных уласцівасцей?! Ад якога гэта часу гвалты, прымус і законнае таптанне прынцыпаў роўнасці вядзе да ўзаемнае пашаны і згоднага сужыцця? — Непапраўныя рамантыкі! Гэтую атруту для нашых дзетак беларускіх вы не забыліся прыхарошыць аздобамі рамантычнае крывадушнасці!..

Вы пазываецеся на традыцыі сваей культуры на нашых землях і на сваю цывілізацыйную місію. Вельмі гэта пекна, але ваша шляхоцкая традыцыя для нас з'яўляецца традыцыяй вызыску, гвалту і крывавае працы. Іменна на гэтай крывавай працы нашых дзядоў і прадзедаў вырасла ваша традыцыя і вырасла ваша вялікая літаратура,— літаратура, якая ў часох няволі была пажывай для душ вашых. Але папытайцеся такжа, панове, што ваша вялікая літаратура і ваша вялікая культура дала нам? Надта не шмат, бо што ж? Шляхціцу ніколі не йшло, здаецца, аб

* Заўвагі да бягучага моманту *(польск.)*.

нейкую цывілізацыйную місію. Ён сабе вялікай місіі не браў, ён вышэй за місію стаўляў поўную місу, дый меў шляхціц гэтую поўную місу з нашае працы і з нашых неабдымных бароў і лясоў. Але што польскі шляхціц, прыблуда ці спольшчаны тутэйшы, меў у працягу некалькіх вякоў поўную місу з працы беларускага ці ўкраінскага мужыка, дык з гэтага, мае паны, для Польшчы йшчэ зусім не вынікае нейкі тытул уласнасці ані на нашу зямлю, ані на нашыя душы,— запамятайце гэтае! Усе вашы наскокі на нас кшталтам сягонняшніх моўных законапраектаў мы з абурэннем адкідаем!

Беларускі народ збудзіўся з векавога сну, да ўсяго пільна і крытычна прыглядаецца і ведае, чаго хоча! Хто мае вушы, каб чуць — няхай прынікае да зямлі — і пачуе голас працуючага на ёй народу. «Ніякімі круцельскімі ўставамі вы мяне не абдурыце!» — кажа ён: «Я верыў у Канстытуцыю, але гвалты і здзекі выбілі мне яе з галавы. І цяпер — кажа — ведаю, што рабіць: выкінуць вон усю барбарскую паліцыю, адміністрацыю, ды разам з імі асаднікаў і абшарнікаў,— і стварыць свой уласны работніцка-сялянскі ўрад, уласную адміністрацыю, школы і войска, адбудаваць непадзельную і незалежную Беларусь *(воплескі на беларускіх лавах; вялікі шум)*, у якой самі сяляне будуць гаспадарамі сваёй зямлі!»

Так кажа народ, і не ашуквайце сябе, паны, быццам усходнія граніцы, якія мае сёння Польшча, стаяць на лішне цвёрдым грунце,— бо што ж такое ўсходнія граніцы Польшчы? Усходнія граніцы Польшчы — гэта прыпадак: для адных ён прыкры, а для другіх — клапатлівы, але заўсёды і аб'ектыўна — гэта прыпадак, і больш нічога! Бо ж гляньце, паны! — увесь свет перастройваецца паводле нацыянальных граніц. Не кажучы ўжо аб дзяржавах, якія стварыліся з прычыны вялікае вайны і Версальскага трактату,— вось Ірландыя, Егіпет здабываюць незалежнасць, Індыя, Шатландыя йдуць у тым жа кірунку. Наогул, на ўсенькім свеце нацыянальныя рухі імкнуцца да стварэння ўласнае дзяржаўнасці. Не кажу ўжо аб Украіне і Радавай Беларусі, дзе даволі шырока закроеныя дзяржаўныя схемы памалу, але няўстанна запаўняюцца сацыяльна-нацыянальным зместам. Паміма таго нават напалавіну дзікія племенні цэнтральнае Расеі атрымліваюць ад радавае ўлады пачатыя падставы асобнае дзяржаўнасці. Польшча, хоч не хоч, мусіць прыняць учасце ў гэтым агульным паходзе,— і няма выхаду, няма іншае дарогі.

Высокі Сойме! Калі ж нашыя — беларускія і ўкраінскія — імкненні да ўласнае дзяржаўнасці вы прымаеце з абурэннем, дык дарма толькі псуяцё сабе гэтым нервы, бо нішто не можа запыніць гэтыя імкненні! Паліцэйскія спосабы нічога вам не памогуць: чым болей будзеце пісаць уставаў, падобных да сягонняшняга, чым болей будзеце нас уціскаць і праследаваць, тым больш выразным і яркім будзе нашае імкненне да поўнае непадзельнасці і незалежнасці! *(Воплескі на беларускіх лавах; шум на правіцы.)*

## ПРАМОВА НА 166-м ПАСЯДЖЭННІ СОЙМА 4 СНЕЖНЯ 1924 ГОДА ПРЫ АБМЕРКАВАННІ БЮДЖЭТУ МІНІСТЭРСТВА ЗЯМЕЛЬНЫХ РЭФОРМАЎ

**Пас. Тарашкевіч:** Аграрная рэформа — колькі разоў мы чулі гэтыя прыгожыя словы! Пачынаючы з 1919 г., беларускаму народу пратрубілі вушы аграрнай рэформай, скланяючы гэтыя словы на ўсе лады. Польскі Заканадаўчы Сойм ухваліў нават закон аб

аграрнай рэформе, і калі польскае войска ішло наперад з ідэяй польскай дзяржаўнасці, паўсюдна гаварылася, што на сваіх штыках яно нясе не толькі свабоду прыгнечаным народам, але і зямельную рэформу. І вось цяпер, праз некалькі год, мы бачым, колькі праўды было ў гэтых словах. (*Голас:* «Святая».)

Замест аграрнай рэформы нам прынеслі толькі асадніцтва, а закон аб аграрнай рэформе прыслужыўся не сялянам, а абшарнікам, бо калі б гэтага закону не было, у рукі дробных уласнікаў шляхам свабоднага абароту перайшло б значна больш зямлі, чым пасля яго прыняцця. Закон аб аграрнай рэформе — смею сцвярджаць, што наш народ іменна так гэта разумее,— быў і ёсць тормазам аграрнай рэформы. Ён скаваў і затрымаў пераход зямлі ў рукі дробнай уласнасці.

Мне часта здаецца, што большасць партый гэтай Палаты мае нейкі спецыяльны інтарэс у тым, каб аграрная рэформа не дала вынікаў. Кожная партыя трымае за пазухай «зямельную рэформу», ідучы да сваіх выбаршчыкаў, паказвае яе і гаворыць: «Я праваду вам зямельную рэформу. Але калі б рэформа была праведзена па-сапраўднаму і радыкальна, то аказалася б, што многім партыям тут у гэтай Палаце няма чаго рабіць». (*Голас:* «Праўда».) Зямельнай рэформы не было і няма, і вы, панове, гэтай рэформы не зробіце, бо не хочаце яе зрабіць. Народ, бадай, сам зробіць рэформу, калі сам возьмецца дзяліць зямлю. (*Галасы:* «Які народ? Якім чынам?») Любы народ, не толькі беларускі і ўкраінскі, але і польскі, дачакаецеся, панове, і гэтага.

Такім чынам, замест зямельнай рэформы маем асадніцтва і Міністэрства Зямельных Рэформ ёсць не што іншае, як Міністэрства Каланізацыі і Асадніцтва, а фонды, якімі яно распараджаецца, гэта пераважна фонды на асадніцтва і толькі асадніцтвам



займаецца і апякуецца гэтае міністэрства. (*Голас:* «Вельмі мала».)

Панове, мы ўжо дасканала зразумелі намеры не толькі правага крыла Палаты, але і некаторых левых партый, ведаем, што паводле іх паняццяў зямельная рэформа — гэта перш за ўсё асадніцтва, перасяленне польскага сялянства на беларускія і ўкраінскія тэрыторыі, дзе, маўляў, вельмі многа зямлі. Дык вось сцвярджаю, што няма там той зямлі. Той, хто выношвае такія планы і так разумее правядзенне рэформы, з'яўляецца правакатарам барацьбы і сутычак паміж народамі. Ні беларускі народ, ні ўкраінскі народ далей гэтага не пацерпяць.

Вы, панове, ужо бачылі, што народ мімавольна, стыхійна пачынае змагацца, калі бачыць... (*Пас. Янікоўскі:* «Бо вы падбухторваеце».) Гэта не падбухторванне, гэта не інспірацыя з-за мяжы, гэта рэфлекс барацьбы народа за свае правы. Калі г. зв. зямельная рэформа і далей пойдзе ў дагэтуль запланаваным напрамку, дык дачакаецеся, панове, як я ўжо некалі з гэтай трыбуны казаў, што пасяленні каланізатараў пойдуць з дымам пажараў. (*Страшэнны гоман. Галасы:* «Пазбавіць слова. У астрог яго!»)

**Віцэ-маршалак Марачэўскі:** У сувязі з вялікім шумам у Палаце я абсалютна нічога не чую з таго, што гаворыць прамоўца. (*Голас:* «Пагражаў падпалам».) Толькі па стэнаграме я змагу канстатаваць гэта.

**Пас. Тарашкевіч:** Я не пагражаю падпалам. Канстатую толькі тое, што ёсць. І сёння беларускі і ўкраінскі народ не дасць сябе абдурыць ні такой пастаноўкай справы, ні такім, якім яно ёсць, Міністэрствам Зямельных Рэформ. Нашы адносіны да гэтага міністэрства выразныя і адназначныя — лічым яго не Міністэрствам Зямельных Рэформ, а Міністэрствам Каланізацыі, Асадніцтва.

## ПРАМОВА НА 178-м ПАСЯДЖЭННІ СОЙМА 19 ЛЮТАГА 1925 ГОДА ПРЫ АБМЕРКАВАННІ НАВЕЛЫ ДА ЗАКОНУ АБ ПРАВЯДЗЕННІ АГРАРНАЙ РЭФОРМЫ

**Пас. Тарашкевіч:** Высокая Палата! Прапанаваны цяперашнім урадам праект унясення змен і дапаўненняў у закон аб зямельнай рэформе нацэлены на захаванне буйной зямельнай уласнасці на этнаграфічна польскіх тэрыторыях і каланізацыю беларускіх і ўкраінскіх зямель. Гэтым ён не вырашае такой вострай сацыяльнай праблемы, якой з'яўляецца аграрнае пытанне. Гэты праект толькі абвострыць да небывалых памераў міжнацыянальную барацьбу. Акрамя таго, увесь цяжар фінансавання зямельнай рэформы ён перакладае з маёмасных слаёў на прыгнечаныя працоўныя масы таму, што селянін, выкупляючы зямлю нібыта ў дзяржавы, фактычна плаціць за яе абшарнікам. Мы стаім за самае радыкальнае правядзенне зямельнай рэформы без выкупу ва ўсёй дзяржаве такім чынам, каб польскі селянін атрымаў зямлю ў сябе на этнаграфічна польскай тэрыторыі, а беларускі або ўкраінскі — у сябе, там, дзе працавалі ягоныя бацькі. У сувязі з гэтым лічым, што сённяшні праект не надаецца нават для дыскусіі і прапануем памінуць яго і перайсці да парадку дня работы Сойма. (*Голас:* «Ёсць ужо такая прапанова».)

Я хацеў бы сказаць яшчэ колькі слоў пра нашу славутую Канстытуцыю. Пан пас. Строньскі некалькі разоў паклікаўся на Канстытуцыю, гаворачы, што менавіта Канстытуцыя забараняе прымаць зямлю ва ўласнасць дзяржавы без кампенсацыі. Дык вось, панове, мы сцвярджаем, што Канстытуцыі ў Рэчы Паспалітай Польскай няма, што Канстытуцыя ў Рэчы Паспалітай Польскай толькі на паперы, а калі і існуе, то толькі для моцных, а не для слабых, прыгнечаных.



Калі справа ішла пра перадачу зямлі вайсковым асаднікам, ніхто тады не падумаў спасылацца на Канстытуцыю, тады адбіралі зямлю не толькі ў абшарнікаў, але нават і ў тых, хто меў па 10, 15 і 20 га. Тады вы не хацелі прыслухацца да пратэстаў супраць такога гвалту. (*Пас. Строньскі:* «Наадварот».) Сёння ж, калі размова ідзе пра абарону вашых інтарэсаў, вы заяўляеце, што селянін павінен заплаціць вам за зямлю.

Далей. Як вы можаце гаварыць пра Канстытуцыю, з якім чалом бараніць яе, калі пасля таго, як Міністр Унутраных Спраў Ратайскі адважыўся нядаўна на грубае яе парушэнне, ніхто іншы, толькі вы, панове, стараліся апраўдаць гэтага міністра. Бо міністр Ратайскі, забываючы пра грамадзянскія свабоды, у прыватнасці, пра пасольскія свабоды, гэты міністр Ратайскі, забыўшыся на Канстытуцыю, паклікаўся аж на царскія законы... *(Гоман у правым сектары.)*

**Віцэ-маршалак Асецкі:** Пане пасол, звяртаю ўвагу, што пан атрымаў слова ў сувязі з абмеркаваннем менавіта закону аб зямельнай рэформе. *(Голас з левага сектара:* «Ён мае рацыю, Ратайскі сапраўды парушае закон».)

**Пас. Тарашкевіч:** Што гэта мае сувязь з законам, я зараз пакажу. Калі пану міністру Ратайскаму і ўсім вам можна спасылацца на царскія законы, то дазвольце і мне тут з высокай трыбуны спаслацца ў такой актуальнай для нас матэрыі на тыя рускія законы, якія, дарэчы, не шкодзіла б і вам прыняць да ведама, а менавіта: на законы, выдадзеныя рускім Часовым урадам з мэтай урэгулявання землекарыстання, і на тыя законы, якія расійскі дэмакратычны, а не іншы, Устаноўчы Сход прыняў для таго, каб канфіскацыя абшарніцкіх зямель праводзілася на законных падставах. А далей: тое, што Устаноўчы

Сход ухваліў, тое бальшавікі ажыццявілі — аддалі ўсю зямлю народу.

Такім чынам, вы хацелі б адначасова спасылацца і на Канстытуцыю, а калі гэта адпавядае вашым інтарэсам, то і на царскія законы. З свайго боку сцвярджаю, што гвалцячы Канстытуцыю, вы ўтрацілі права спасылацца на яе. (*Голас:* «Прынамсі, пан выразна сказаў, чаго пан хоча». *Апладысменты на левых лавах. Голас з правага сектара:* «Хоча да бальшавікоў».)

## ПРАМОВА НА 181-м ПАСЯДЖЭННІ СОЙМА 27 ЛЮТАГА 1925 ГОДА ПРЫ АБМЕРКАВАННІ ЗАКОНУ АБ ЧУЖАЗЕМЦАХ

**Пас. Тарашкевіч:** Законапраект аб чужаземцах, несумненна, з шэрагу тых праектаў, якія апошнім часам называюць санацыйнымі ў адносінах да г. зв. «усходніх крэсаў» і ў гэтым сэнсе ён вельмі характэрны, бо паказвае, як урад мяркуе саніраваць * стасункі на «ўсходніх крэсах», з якога боку прыступае да гэтай санацыі. Трэба сказаць, што ўрад нязменна трымаецца пазіцыі: «Спачатку ўціхаміранне, а потым рэформы», спачатку супакоіць, і толькі пасля гэтага могуць наступіць рэформы, г. зн. трымаецца пазіцыі, на якой стаяў Сталыпін і якая давяла царскую Расію да катастрофы.

Панове, унесены закон аб чужаземцах трактуе аб тым, хто павінен быць выкінуты за мяжу толькі на падставе вывадаў надзеленых шырокімі правамі старостаў, ваяводаў, наогул адміністрацыйных улад.

* Аздаравіць.



І прыходзяць з гэтым законам тады, калі, па сутнасці, дакладна не вядома, хто з'яўляецца грамадзянінам Польскай Дзяржавы. Праўда, існуе закон аб польскім грамадзянстве з 20 студзеня 1920 г., але жыццё паказала, што закон гэты з'яўляецца не толькі парушэннем Версальскага трактату, як-ніяк абавязкова га і для Польшчы, а і тое, што ён аніяк не вытрымлівае жыццёвай практыкі. Як выглядаюць прававыя асновы грамадзянскай прыналежнасці ў Польшчы? На ўсходніх землях да таго, як саюзныя дзяржавы прызналі ўсходнія граніцы, у нейкай меры такой асновай быў Рыжскі трактат. Паводле яго, многім жыхарам усходніх зямель можна было адмаўляць у польскім грамадзянстве таму, што трактат гэты дазваляе патрабаваць ад пэўнай катэгорыі людзей фармальнага запісу ў саслоўныя кнігі. Безумоўна, прычынялася б крыўда і шкода мясцоваму насельніцтву, якое жыло там ад дзеда-прадзеда. Але ўрэшце да моманту прызнання ўсходніх граніц можна было каменціраваць гэтую справу такім чынам, што ўрад, як бы там ні было, мае нейкую матывацыю сваёй дзейнасці. Пасля прызнання ўсходніх граніц саюзнымі дзяржавамі на ўсходніх землях павінен быў абавязваць Версальскі трактат і ніякі іншы закон не павінен быў яму супярэчыць, бо такімі былі абавязацельствы, узятыя на сябе Польшчай пры падпісанні Версальскага трактату. Дык вось. Аказалася, што польскі ўрад па-ранейшаму кіруецца Рыжскім трактатам і далёка не ўсё прызнае ў Версальскім трактаце. А не прызнае дзве асноўныя рэчы, дзве рэчы, якія на працягу стагоддзяў лічыліся свяшчэннымі ў міжнародным праве, менавіта, што на тэрыторыях, далучаных да дзяржавы ў выніку вайны, грамадзянская прыналежнасць вызначаецца перш за ўсё на падставе фактычнага пражывання і нараджэння ад бацькоў, што жывуць у дадзенай мясцовасці.

З Версальскім трактатам здарылася надзвычай цікавая і характэрная рэч. Тут польскі ўрад учыніў — не магу знайсці лепшага слова — пэўны падлог. Менавіта перакладаючы абавязковы французскі тэкст, дзе было запісана: пражываючыя — domiciliés, адзін раз перакладае як «пражываючыя», другі раз — як «пастаянна пражываючыя». Польскі ўрад стварыў новы, несанкцыяніраваны саюзнымі дзяржавамі і міжнародным правам тэрмін «пастаянна пражываючыя». Абапіраючыся на гэты самавольна створаны тэрмін, на свой адвольны пераклад, польскія ўрады нязменна адмаўлялі ў польскім грамадзянстве тым людзям, якія ў палітычных адносінах былі непажаданымі для адміністрацыі. Але, на шчасце, справа трапіла — у сувязі з грамадзянамі нямецкай нацыянальнасці — у такі кампетэнтны орган, якім з'яўляецца Гаагскі трыбунал. Гаагскі трыбунал у нямецкім пытанні недвухсэнсава растлумачыў, што азначае тое domicile, тыя domiciliés. Гэта не мае таго значэння, якое прыпісваецца ім польскім урадам. Пражываць зусім не азначае быць фармальна запісаным у якія-небудзь саслоўныя кнігі і само сабой зразумела, што заканадаўца, калі пісаў Версальскі трактат, і паняцця не меў аб падобных запісах і кнігах, ну, а domicilium (месцапрабыванне) азначае фактычнае пражыванне на пэўнай тэрыторыі. І польскі урад, праводзячы ў гэтай справе перамовы з Нямеччынай, мусіў прызнаць слушнасць пазіцыі Гаагскага трыбуналу, і сёння, у сувязі з маніпуляцыямі адміністрацыі на «крэсах», асабліва на г. зв. «усходніх», трэба сказаць, што ў пытанні аб грамадзянстве Рэчы Паспалітай Польшчы не выконвае пастаноў Версальскага пагаднення, на якім, дарэчы, хоча абгрунтаваць сваё існаванне. Словам, польскія ўрады падважаюць той фундамент, на якім хочуць будаваць свае прававыя адносіны.



Так выглядае прававое становішча на сённяшні дзень. Праўда, у часы Міністра Унутраных Спраў п. Губнэра і Віцэ-міністра п. Дуткевіча быў такі момант, калі менавіта п. Дуткевіч хацеў праявіць лібералізм, зрабіць пэўныя ўступкі проста ў імя жыцця. Меліся на ўвазе пэўныя палёгкі для тых «несапраўдных» жыхароў, а па сутнасці польскіх грамадзян, пры атрыманні імі таго польскага грамадзянства. Але гэтыя вельмі скромныя пачынанні мала што дапамаглі, і фактычны стан рэчаў застаецца такім, якім і быў. Менавіта: многія людзі пазбаўлены грамадзянства і выкінуты за бальшавіцкую мяжу. У гэтым годзе я жыў на граніцы і бачыў тое сапраўднае пекла, якое там адбывалася. Амаль кожны божы дзень паліцыя адпраўляла кагосьці ноччу на граніцу і выкідала на той бок. Бальшавікі не прымалі, бо не было падстаў прымаць, і адсылалі няшчаснага зноў на польскі бок. Тут ізноў выкідалі, і так па некалькі разоў. Урэшце гэтых людзей або нехта падстрэльваў з польскай паліцыі ці бальшавіцкай — я знаю шмат такіх выпадкаў пры пераходзе граніцы,— або пасля доўгай адсідкі ў адміністрацыйным арышце яны зноў вярталіся да сябе.

Пазбаўлена грамадзянскіх правоў таксама і духавенства. Многія праваслаўныя свяшчэннікі — не ўсе, але вельмі многія, магчыма, нават большасць — паходзяць з мясцовага люду і пражываюць тут з дзеда-прадзеда. У гэтых адносінах усё іх няшчасце ў тым, што яны, як сцвярджае ўрад, не запісаны ў ніякія кнігі. Людзі пацвярджаюць дакументальна, што дзед тут нарадзіўся, што бацька тут нарадзіўся, што самі тут нарадзіліся і вучыліся — нічога не памагае. (*Пас. Пятроўскі:* «А дакументы сапраўдныя?»)

Другая катэгорыя людзей — гэта тыя, хто меў няшчасце закончыць навучальную ўстанову, ці то сярэднюю, ці вышэйшую, ці нават настаўніцкую семі-

нарыю, асабліва гэтыя апошнія, што закончылі вучыцельскія семінарыі, бяруцца на прыцэл як страшэнныя ворагі польскай дзяржаўнасці — іх з лёгкай душой выкідаюць і з вялікімі цяжкасцямі даюць ім грамадзянства. Бывалі такія выпадкі, калі бацька, сястра, брат усе запісаны ў саслоўныя кнігі, а ў грамадзянстве адмаўляюць якраз таму, што закончыў навучальную ўстанову. Урад тлумачыць гэта так: «Пан закончыў сярэднюю ці вышэйшую школу, выходзіць, меў пан права выпісацца з кніг пастаяннага жыхарства, а калі меў пан права, значыць, пан выпісаўся і мы пана выкідаем». Адміністрацыйная практыка даходзіць да абсурду. Я ўжо неяк упамінаў, што паслы Беларускага і Украінскага клубаў звярнуліся да старостаў з хадайніцтвам аб выдачы ім як польскім грамадзянам пашпартоў, пасведчанняў асобы, а старосты адказалі: «Прабачце, панове, але вы павінны даказаць, што запісаны ў кнігах». Дастаюць пасольскія пасведчанні, паказваюць, нічога не памагае. Бо староста кажа: «Тое, што пан з'яўляецца паслом, не мае значэння, пан павінен даказаць, што пан сапраўды з'яўляецца грамадзянінам Польскай Дзяржавы».

Панове, каб пераканаць вас, дабаўлю, што для таго, каб праверыць усё гэта, я сам звярнуўся ў віленскае староства. Намеснік старосты сказаў мне: «Пан з'яўляецца паслом, але я не магу пану выдаць пашпарт. Пан павінен даказаць, што пан з'яўляецца грамадзянінам». І толькі калі я ўчыніў скандал у старостве (*голас:* «Навошта рабіў пан скандал?») і спаслаўся на параграф Канстытуцыі аб тым, што толькі польскі грамадзянін можа быць паслом Сойма, староста звярнуўся да падручніка па логіцы, пабудаваў сілагізм, прычым мне прыйшлося памагаць яму ў пабудове гэтага сілагізма, і толькі пасля гэтага ён адказаў так: «Пан сапраўды з'яўляецца грамадзянінам



Польскай Дзяржавы». (*Голас:* «Маеш, пан, галаву!») Дык вось, калі няма законаў аб грамадзянстве, то на якой тады падставе паны міністры прыходзяць з новым дысцыплінарным законам?

**Віцэ-маршалак Марачэўскі:** Пане пасол, прашу канчаць.

**Тарашкевіч:** Цяперашні стан з'яўляецца парушэннем трактатаў, а ўнясенне законаў аб чужаземцах супярэчыць наогул усякаму цвярозаму розуму, з якім паны міністры хацелі б — так, прынамсі, яны сцвярджаюць — прыступіць да аздараўлення «крэсаў».

Уношу наступныя прапановы:

1. Сойм пераходзіць да парадку дня па закону аб чужаземцах. (*Голас:* «Па пану».)

2. Заклікаць урад на працягу аднаго месяца падрыхтаваць новы закон аб грамадзянстве згодна з Версальскім трактатам.

## ПРАМОВА НА 185-м ПАСЯДЖЭННІ СОЙМА 19 САКАВІКА 1925 ГОДА ПРЫ АБМЕРКАВАННІ ЗАКОНУ АБ ДЗЯРЖАЎНАЙ ГРАНІЦЫ

**Пас. Тарашкевіч:** Высокая Палата! Цяперашні ўрад пад уплывам санацыйнай ліхаманкі становіцца вельмі пладавіты, бо прыходзіць з штораз то новымі законамі, якія, па сутнасці, датычацца толькі г. зв. санацыі «крэсаў». Аб тым, каб урад прынёс законы, якія б гарантавалі асабістую свабоду, падставовыя правы чалавека, грамадзяніна, нібыта забяспечаныя Канстытуцыяй,— аб гэтым нешта не чутно. Нядаўна ўрад прыйшоў з праектам закона аб надзвычайным становішчы. Не паспеў урад выступіць, як на парадку дня ўжо стаяў нібы ваенны, нібы нармальны за-

кон аб канфіскацыі маёмасці і вывадзе насельніцтва. Не так даўно мы былі таксама сведкамі і таго, як у Адміністрацыйнай Камісіі прымалася пастанова аб калектыўнай адказнасці. Усё гэта дазваляе нам сцвярджаць, што закон аб граніцах дзяржавы не ёсць той нармальны закон, які звычайна запаўняе канстытуцыйныя рамкі — гэта ізноў надзвычайны закон, скажу, бяспрыкладны, накіраваны перш за ўсё супраць грамадзян г. зв. «усходніх крэсаў», супраць мільёнаў беларусаў і ўкраінцаў. У той час, калі ўсё часцей гаворыцца аб стварэнні Злучаных Штатаў Еўропы, калі на ўсходзе Еўропы гэтая ідэя ў пэўнай ступені здзейснілася, у той самы час урад прыходзіць у Сойм з законам аб збудаванні вакол дзяржавы кітайскай сцяны, якая павінна адгарадзіць Рэч Паспалітую Польскую (*голас:* «Ад бальшавікоў») ад усіх суседніх дзяржаў, а значыць — ад усяго свету.

Само сабой зразумела, што калі ёсць граніцы дзяржавы, павінен быць і закон аб дзяржаўнай граніцы, аднак разгляданы закон уводзіць ажно тры граніцы: адна граніца нармальная дзяржаўная, затым другая граніца, якая мае праходзіць на адлегласці 6 км ад нармальнай дзяржаўнай граніцы — гэта мяжа пагранічнай зоны, і, урэшце, трэцяя граніца — прыгранічная паласа, якая ахопіць усе паветы, тэрыторыі каторых прымыкаюць да дзяржаўнай граніцы. Цяпер уявіце сабе, калі ласка, канфігурацыю граніц Польшчы, зірніце, калі ласка, на поўнач і вы ўбачыце, што фігура Польскай Дзяржавы мае там форму нейкага мяшка або сляпой кішкі, а ўсе паветы ляжаць там у прыгранічнай паласе. (*Голас:* «Трэба зрабіць аперацыю гэтай сляпой кішкі»). Так сапраўды, я таксама нічога не маю супраць таго, каб зрабіць аперацыю сляпой кішкі, тады, прынамсі, не будзе гэтай санацыйнай ліхаманкі.

Калі возьмем пагранічную зону, г. зн. 6 км уздоўж



каля 30 000 км², г. зн. абшар, роўны тэрыторыі Бельусёй граніцы Рэчы Паспалітай, то атрымаем нешта гіі, і акажацца, што на такой каласальнай тэрыторыі згодна з законам мясцовае насельніцтва, па сутнасці, не мае права пражываць, хіба толькі ў выняткавых выпадках. Дзе гэта бачна, каб на такім значным абшары людзі былі пазбаўлены не толькі асабістых свабод, але і маёмасных правоў, таму што кожную хвіліну па прапанове ваяводы ўсякая маёмасць грамадзян, усякая рухомасць экспрапрыіруецца. У гэтай зоне забараняецца ставіць новыя будынкі, рамантаваць старыя. Кожны кавалак зямлі ў пагранічнай зоне можа быць канфіскаваны ў любую хвіліну, калі таго пажадае староста або ваявода.

Далей — прыгранічная паласа. Усе беларускія паветы, за выключэннем Ашмянскага і пары іншых, знаходзяцца ў гэтай паласе, якая складае ледзь не палову тэрыторыі ўсёй Рэчы Паспалітай, і на гэтай тэрыторыі дэмакратычныя свабоды, асабістыя правы грамадзян будуць скасаваны. Значыць, перш за ўсё патрэбна польскае грамадзянства і не ў прынцыпе, што было б у пэўнай ступені зразумелым, патрэбна фармальнае прад'яўленне дакументаў. Такім чынам, кожны, хто не дакажа паперкай, якую, зрэшты, вельмі цяжка атрымаць, хто для пацвярджэння сваёй грамадзянскай прыналежнасці не прад'явіць пашпарта, пасведчання асобы, у любую хвіліну можа быць выкінуты з прыгранічных паветаў. Можа дайсці да таго, што ўрад вымушаны будзе збудаваць нейкія канцэнтрацыйныя лагеры, калі прыйдзецца высяляць з прыгранічча цэлыя вёскі і мястэчкі. Да таго ж уявіце сабе, калі ласка, вялікія выдаткі, якія чакаюць насельніцтва ў сувязі з неабходнасцю мець тыя пашпарты. Я падлічыў, што такі пашпарт, як мінімум, каштуе 14 злотых. Пытаюся: з якой рацыі насельніцтва «ўсходніх крэсаў», і без таго не вельмі зада-

воленае сваёй дзяржаўнай прыналежнасцю, павінна плаціць даніну за тое, што граніца прайшла ў гэтым, а не іншым месцы?

Далей. Усё насельніцтва прыгранічча жыве пад вечным страхам перад самавольствам адміністрацыі. Не ведаю, хто распрацоўваў праект закону, але калі ў гэтым прымаў удзел нейкі юрыст, то нават нуль будзе завышанай ацэнкай ягонай працы. І вось у арт. 20 знаходзім такое: віна можа быць не толькі наўмыснай, але і ненаўмыснай, і далей, калі нехта, парушаючы граніцу, двойчы правініўся ненаўмысна — караецца зняволеннем тэрмінам на 1 год, або штрафам у 10 000 злотых і высяленнем. Гэта нечуваная рэч з кожнага пункту гледжання. *(Пас. Балін:* «Зараз палова Польшчы апынецца ў турме».) Калі б гэты няўдалы закон уступіў у сілу, дык сапраўды палавіну Польшчы прыйшлося б засадзіць у турму. Але тут, зразумела, не можа быць і гаворкі аб усіх граніцах Рэчы Паспалітай Польшчы, гэта вынятковы закон супраць «усходніх крэсаў», закон, які пераклікаецца з іншымі такога роду пастановамі, з праектам канфіскацыі маёмасці і высялення людзей з прыгранічных зон. Бо, панове, трэба сказаць, што ўрад паставіў дагары нагамі ўсякую логіку. Урад сам неаднаразова сцвярджаў з гэтай трыбуны, што закон аб польскім грамадзянстве да гэтай пары не адлюстроўвае ўсіх пытанняў, не рэгулюе поўнасцю гэтую праблему і цяпер замест таго, каб прыйсці з новым законам, каб пакончыць са справай грамадзянства, ён прапануе іншы закон, зыходзячы з прадпасылкі, што праблема грамадзянскай прыналежнасці ўжо канчаткова вырашана і таму закон аб дзяржаўнай граніцы вымагае фармальнага пацвярджэння польскага грамадзянства. Цяжка тут дашукацца нармальнай логікі. Гэта адзін з тых асобых законаў, накіраваных супраць «усходніх крэсаў», калі шматмільённае насельніцтва іх будзе пазбаўлена грамадзянскіх і маёмасных праvoў, калі насельніцтва беларускіх і ўкраінскіх «крэсаў» мае жыць пад пастаяннай пагрозай адміністрацыйнага мяча, які вісіць над ім. Гэтае насельніцтва, перш чым ушанаваць закон аб граніцах дзяржавы, напэўна, сур'ёзна падумае аб тым, што, бадай, трэба змяніць гэтыя граніцы, замест таго, каб іх сцерагчы і падтрымліваць такімі законамі, якія парушаюць усякія людскія правы.

Ад імя Беларускага і Украінскага клубаў уношу наступную прапанову: «Сойм у першым чытанні адхіляе праект закону аб граніцах дзяржавы».

## ПРАМОВА НА 196-м ПАСЯДЖЭННІ СОЙМА 25 САКАВІКА 1925 ГОДА ПРЫ АБМЕРКАВАННІ ПАПЯРЭДНЯГА ПРАЕКТА БЮДЖЭТУ НА 1925 ГОД

**Пас. Тарашкевіч:** «Я вельмі шчаслівы»... Зразумела, вельмі шчаслівы не я, а пан Прэм'ер, які ў сваіх палітычных і фінансавых прамовах, выказваючы непапраўны аптымізм, пачынае кожны абзац словамі: «Я вельмі шчаслівы». Калі што блага — ён заўсёды заяўляе, што магло быць і горш, а калі магло быць горш, значыць, усё добра, нармальна. Аднак іншы польскі палітык, чалавек цвярозага розуму, неяк сказаў,— здаецца, дэлегатам служачых,— што ёсць блага і будзе яшчэ горш. Гэтым палітыкам быў п. Вітас, і мне здаецца, што ў прыліве шчырасці, а можа, таму, што сам прыкладаў руку да гэтага зла, ён сказаў праўду. Ужо два ці тры гады мы пастаянна бачым, што ёсць блага і не робіцца лепш, а ўсё пагаршаецца. Панове, калі глянем на прамысловасць, на гарады, то прамысловасць стаіць, пастаянна ра-

сце лік беспрацоўных, да лепшага не ідзе. Гандлёвы баланс, плацёжны баланс дзяржавы ўвесь час пагаршаецца. Польская буржуазія і польскае абшарніцтва распрадаюць Польшчу, прадаюць лясы, прадаюць капальні, прадаюць манаполіі — усё, што можна прадаць, прадаецца. Капіталы ўцякаюць за мяжу. Калі глянем на вёску, дык такой галечы, як цяпер, не бачылі нават у час вайны. І ніхто іншы, а сам дакладчык бюджэту Міністэрства фінансаў п. Міхальскі, якога нельга западозрыць у левых поглядах або ў апазіцыі да цяперашняга ўрада, у сваім дакладзе, гаворачы пра вёску, сказаў даслоўна: «У многіх паветах краіны сёння ўжо драўляная саха арэ зямлю. Які заняпад аграрнай культуры, зварот у сярэднявечча!» У іншым месцы кажа. «Сённяшняя вёска шпаркім крокам набліжаецца да канчатковага збяднення і хутка можа стаць цэнтрам камуністычнага руху». Я не буду прыводзіць іншых цытат з яго прамовы, бо ўсе яны больш-менш ідэнтычна гучаць. Тое, што падае ўрадавая статыстыка аб колькасці беспрацоўных, што іх налічваюць сто восемдзесят з нечым тысяч,— так сцвярджаў мой папярэднік,— зразумела, не адпавядае праўдзе, вельмі далёка адыходзіць ад праўды таму, што беспрацоўных можна лічыць на мільёны. Беспрацоўе, эканамічны застой, загасанне ўсякага жыцця асабліва востра даецца ў знакі на беларускіх землях, менавіта з-за геаграфічнага палажэння, з прычыны імперыялістычнай палітыкі Польшчы, якая, атрымаўшы тое, што ёй не належала, стварыла абсурдны паўночны калідор, і беларускія «крэсы» аказаліся адрэзанымі ад усіх камунікацый, ад усяго свету. Чыгуначныя лініі, якія звязвалі буйныя цэнтры Расіі з Еўропай, былі перарэзаны, і тым самым чыгуначны рух, праца на чыгунцы і многія галіны народнай гаспадаркі, звязаныя з развіццём чыгуначнай справы, спыніліся. Нашы лясы сёння распрадаюцца за бясцэнак, і нават гэта не мае ходу. Лес праданы, але стаіць на пні. Дрэваапрацоўчай прамысловасці няма. Каб вывезці лес за мяжу, трэба ўлічваць і тое, што экспарт ідзе праз Гданьск, што транспарт з'ядае ўсё. Пры такім становішчы спраў беззямельнае сялянства аказваецца беспрацоўным і вымушана проста паміраць з голаду.



Калі возьмем далей, як склаліся эканамічныя адносіны, то тут трэба звярнуць увагу на тое, што край наш развівае сваю эканоміку ў будаўнічым напрамку. Сёння вядома, што цэны на жывы інвентар упалі да мінімуму і наадварот, цэны на прамысловыя тавары падскочылі ў два-тры разы. Разам з тым увесь цяжар велізарных дзяржаўных і камунальных падаткаў кладзецца перш за ўсё на плечы беларускага селяніна. Праўда, і на астатніх абшарах Рэчы Паспалітай сітуацыя мала чым адрозніваецца. Так выглядае вёска. Можна сказаць, што голад, якога яшчэ не зналі нашыя землі, гэтак жа, як і па ўсёй Польшчы, стукаецца сёння ў сялянскую хату. І пану Прэм'еру, і ўраду лёгка казаць, што магло б быць і горш, лёгка ім заяўляць, што мы шчаслівыя, калі самі яны сытыя, калі польская бюракратыя цяпер уяўляе сабой новую, добра забяспечаную матэрыяльна арыстакратыю. Для польскіх бюракратаў будуюць новыя дамы, а на зруйнаваных землях селянін усё яшчэ дагэтуль змушаны туліцца ў зямлянках.

Зразумела, тут можна сказаць, што і на ўсім свеце кепска, што ўвесь свет перажывае перыяд глыбокага эканамічнага крызісу, у гэтым можна знайсці сабе нейкае суцяшэнне, але калі ва ўсім свеце буржуазія, капіталізм змагаецца з вялікім эканамічным крызісам, то тут трэба сказаць праўду аб польскай буржуазіі, што яна вельмі няўмелая, нездатная. Прыгледзімся, як гэтая буржуазія арганізавала дзяржаву, успомнім цэлы перыяд разгульнай, распя-

рэзанай, у свеце нябачанай спекуляцыі. Польская буржуазія і польскія ўрады выхваляліся тады, што яны аднаўляюць польскі быт, адбудоўваюць дзяржаву, прамысловасць, што пасля вайны, як грыбы пасля дажджу, растуць фабрыкі. І што ж? Так, яно і сапраўды здавалася, што растуць фабрыкі. Але гэта быў спекуляцыйны рост, рост нездаровы, рост, які паказаў поўную няздольнасць польскай буржуазіі наладзіць прадукцыю. Менавіта калі пасля перыяду інфляцыі наступіла стабілізацыя грошай, аказалася, што гэтыя фабрыкі не былі разлічаны на тое, каб пратрымацца на працягу даўжэйшага часу, што яны не прыстасаваны да дзяржаўных патрэб, што ўсё іх прызначэнне зводзіцца да таго, каб за кароткі час 1—2 гадоў фабрыканты і спекулянты маглі напоўніць свае кішэні.

Эканоміка Рэчы Паспалітай у многіх адносінах з'яўляецца адзінай у свеце. Такога разрыву цэн, такіх нажніц, такой розніцы паміж цэнамі фабрычных вырабаў і цаной на збожжа бадай нідзе ў свеце няма, нават у Саветаў. Саветы куды лепш далі сабе рады, хоць эканамічных цяжкасцяў, пакінутых ім грамадзянскай вайной і войнамі, навязанымі імперыялістычнымі суседзямі, у іх было значна больш. *(Голас з правых лавай:* «То пан аддае перавагу Саветам».) Пан сказаў.

Прашу паноў, прычыны гэтага эканамічнага становішча, гэтага глыбокага крызісу, які сёння перажывае Польшча, не толькі ў эканоміка-геаграфічных варунках, не меншае, а, можа, нават і большае значэнне маюць тут палітычныя умовы. Польская буржуазія аказалася недальнабачнай і ў палітычных адносінах. Перадусім яна ўзяла тое, што ёй не належала, загарнула аграмадныя беларускія і ўкраінскія тэрыторыі і сёння не хоча іх страціць. *(Голас з правага сектара:* «Мы ўзялі тое, што нам належала, нам



належала больш».) Да такога перакапання прыйшоў ужо ўвесь свет, той свет, які дапамагаў ёй захапіць гэтыя тэрыторыі. Сёння кожны, хто сочыць за пераменамі грамадскай думкі ў заходніх дзяржавах, асабліва ў Англіі, ведае, што ўся Англія ў адзін голас ускліквае — Польшча не можа больш валодаць гэтымі землямі, што патрэбна рэвізія граніц. *(Апладысменты на лавах нацыянальных меншасцяў. Пярэчанні на правых лавах. Голас з лавай ППС:* «А што Англія робіць са сваімі калоніямі?») Цалкам згодзен з панам і вельмі ўдзячны за тое, што пан калега так выдатна мне дапамог. Я не з'яўляюся адвакатам Англіі і скажу, што Англія, безумоўна, крывадушнічае, калі гаворыць аб неабгрунтаванасці тэрытарыяльнага стану ўладанняў Польшчы і нічога не гаворыць пра свае калоніі, але і вы, панове з ППС, не лепшыя — вы запальчыва выступаеце ў абарону інтарэсаў Эстоніі і Грузіі і маўчыце, калі Францыя парушае правы народаў, маўчыце тады, калі інтарэсы польскай буржуазіі перашкаджаюць вам гаварыць аб гэтым.

Панове, эканамічная структура Рэчы Паспалітай такая, што воляй-няволяй яна павінна шукаць рынкі на ўсходзе. Гэта эканамічная аксіёма, аксіёма, якую перад вайной так упарта падкрэслівалі асабліва правыя партыі, менавіта тыя прадстаўнікі польскай буржуазіі, якія крыху разбіраюцца ў эканоміцы. І што ж, калі адчуваецца такая патрэба рынкаў на ўсходзе, калі гандлёвае пагадненне з Саветамі становіцца неабходнасцю, унутры краіны робіцца ўсё, каб не дапусціць да гэтага пагаднення: душаць, гвалцяць цэлы народ, рабочы рух, увесь працоўны люд, а ў першую чаргу ўкраінскія і беларускія народныя масы. Не забывайце, што нават пры наяўнасці самага спрыяльнага гандлёвага пагаднення і адкрытай для вас дарогі на ўсход важнае значэнне

маюць сімпатыі народаў, якія там пражываюць, з якімі польскай вытворчасці прыйдзецца мець справу, што антыпатыя, якую ствараеце і на кожным кроку ўзводзіце ў ступень, можа знішчыць усякія нават найлепшыя гандлёвыя трактаты. Не забывайце, што па той бок жыве 40 мільёнаў украінцаў і беларусаў. (*Голас:* «Такіх, як пан».)

Зірнем на гэтую ўнутраную палітыку — я не буду закранаць эканамічных цяжкасцяў, якія пераважна і амаль выключна ляжаць на плячах рабочага і селяніна, у сваім месцы пры абмеркаванні фінансавага бюджэту будзем гаварыць пра гэта — закрану палітычную сферу. Вазьму актуальны прыклад. Нядаўна, некалькі тыдняў таму назад, адбыліся генеральныя арышты і рэвізіі па ўсіх «усходніх крэсах». (*Пас. Павел Васыньчук:* «Ганебная расправа».) У адным толькі Наваградскім ваяводстве... (*Васыньчук:* «У кайданах. А ці людзі вы? Не, вы не людзі!» *Гоман.*)

**Віцэ-маршалак Марачэўскі:** Прашу супакоіцца. Пану слова не давалі.

**Пас. Тарашкевіч:** У адным толькі Наваградскім ваяводстве праведзена 1386 вобыскаў і арыштаў. (*Голас з лаваў меншасцяў:* «Гэта польская культура і справядлівасць!») І ўсё гэта рабілася нібыта для таго, каб паралізаваць камуністычную і дыверсійную акцыю. Сярод тых, у каго праводзіліся вобыскі, сярод арыштаваных і падвергнутых ганенням былі праваслаўныя свяшчэннікі, каталіцкі ксёндз, рабіны. Калі сёння ўжо духавенства становіцца камуністычным, калі камуністычным становіцца ўвесь народ, калі трэба праводзіць масавыя арышты, то гэта азначае, што для вас няма там месца, так што збірайце манаткі і выбірайцеся адгэтуль. Толькі так можна адказаць на гэтыя арышты. Але я ведаю, чаму ўсё гэта робіцца. У той час якраз завяршалася акцыя скла-



дання дэкларацый на адкрыццё школ, дэкларацый на падставе законаў, прынятых гэтым Соймам, законаў, за якія вы самі галасавалі. І што ж, каб паказаць заграніцы, што Польшча талерантная, што дае волю і свабоды, гарантаваныя трактатамі і Канстытуцыяй, выдаюцца законы, аднак гэтыя законы ёсць нішто іншае, як толькі дымавая заслона. (*Голас на лавах меншасцяў:* «Правакацыя, за якую па-людаедску мардуюць увесь народ». *Голас з правых лаваў:* «Не падбухторвайце, ніхто не мардуе».) А як катуюць людзей — раскажу. Падчас вобыскаў у Красным арыштавалі многа людзей. (*Голас з правага сектара:* «Бандытаў». *Галасы абурэння ў левым сектары. Маршалак звоніць.*) З нечуванай лютасцю катавалі іх, я сам бачыў, абцугамі вырывалі пазногці з пальцаў, убівалі шпількі, вырывалі валасы, ламалі рэбры, жанчынам разбівалі грудзі, рабіліся такія рэчы, што... (*Гоман. Розныя выкрыкі ў левым сектары.*) Паслухайце, калегі. А калі забілі Вайтовіча, пан Міністр Справядлівасці павінен ведаць аб гэтым, то выкінулі яго з той катоўні на вуліцу, і гэты чалавек тры дні, двое сутак ляжаў на вуліцы, а пагранічная ахова таргавалася з паліцыяй, хто павінен прыняць гэтага чалавека. Вось як было, а якія гэта былі бандыты, якія гэта былі камуністы, аб гэтым сведчыць той факт, што гэтыя пабітыя, скатаваныя, пакалечаныя людзі былі хутка выпушчаны следчым суддзёю. І пан асмельваецца яшчэ рабіць заўвагі наконт такіх спраў. Сорам. (*Голас з правага сектара:* «Гэта паклёп!») Гэта не паклёп. Калі пан паедзе ў Краснае Вілейскага павета... (*Голас у правым сектары:* «Прозвішчы?») Пан можа праверыць прозвішчы. Калі закатавалі Вайтовіча, мы падалі інтэрпеляцыю... (*Гоман. Галасы з левага сектара:* «Цікава, што зрабіў міністр? Ён сядзіць і маўчыць. Міністр адказвае за гэтыя забойствы. Другі Мурашка».)

**Віцэ-маршалак Марачыньскі:** Пас. Паўла Васыньчука заклікаю да парадку.

**Пас. Тарашкевіч:** Панове, трэба сказаць, што міністры сапраўды маўчаць і рэагуюць толькі тады, калі кагосьці замардуюць і ўтаіць гэтага нельга, толькі тады яны ўмешваюцца. Аб тым, як было ў дадзеным выпадку, то скажу, што калі мы звярнуліся ва ўрад з хадайніцтвам аб умяшанні, бо п. Тугут не інтэрвеніраваў у гэтай справе, то цэлы тыдзень прыйшлося шукаць арыштаваных. Вось да чаго даходзіць, якая бяскарнасць! Паны, не тут урад, не тут. Урад — гэта Мурашка, Мурашка правіць. Улада — гэта сотні, тысячы шпіёнаў. У кожнай вёсцы сядзіць па некалькі шпіёнаў, і ўсім кіруе дэфензіва, дэфензіва судзіць, дэфензіва правіць, а вы будзеце гаварыць, што не судзіць, не правіць. *(Апладысменты на левых лавах.)* Калі Мурашка забіў Вечаркевіча і Багінскага, то для нас гэта не было нечаканасцю, мы добра ведалі, хто такі Мурашка. Мурашка — гэта якраз і ёсць адзін з тых катаў, які гадамі забіваў людзей, аб якім ведаў урад, ведала паліцыя, яго спецыяльна перамяшчалі з месца на месца менавіта для такіх злоўжыванняў, даючы пры гэтым больш высокія пасты. Безумоўна, за ўсе гэтыя забойствы, як і за забойства Вечаркевіча і Багінскага, адказнасць нясе ўрад, адказныя і вы, панове, што з цынічнай усмешкай на вуснах асмельваецеся рабіць заўвагі аб гэтых страшных справах. *(Гоман. Розныя выкрыкі.)* Так ёсць у галіне бяспекі, дзе органы бяспекі сталі найвялікшай небяспекай і чалавек стараецца на вярсту абысці паліцыянта, афіцэра, каб пазбегнуць непрыемнасці, магчымасці быць пабітым або забітым. Вы, панове, зразумела, глядзіце на ўсё гэта паблажліва, таму што гэта ў вашых мэтах. У вашых мэтах, прытрымліваючыся лініі паноў Грабскіх, асабліва Станіслава Грабскага, развязванне тэрору не толькі для таго,



каб не дапусціць працоўны люд узяць уладу ў свае рукі, але і каб тэрорам змусіць нацыянальныя меншасці, у першую чаргу беларусаў і ўкраінцаў, дэнацыяналізавацца. У гэтым напрамку робіцца ўсё.

Калі з'явілася магчымасць ажыццявіць школьныя законы, калі паступілі распараджэнні аб іх выкананні, украінскія і беларускія сяляне пачалі масава складаць дэкларацыі, тады не без ведама ўрада старосты даюць загады войтам — дэкларацыі не завяраць, усяляк тэрарызаваць насельніцтва. І мы бачылі, як войты насуперак выразнаму зместу пастановы не хацелі пасведчыць гэтыя дэкларацыі, як насуперак выразнаму зместу закону школьныя інспектары тэрарызавалі насельніцтва і адмаўляліся прымаць гэтыя дэкларацыі. (*Голас з правага сектара:* «Няхай пан скажа, які інспектар, дзе?») Няхай пан пачытае інтэрпеляцыі і прапановы, то даведаецца. Было зроблена ўсё для таго, каб не дапусціць да ажыццяўлення самых нязначных льгот. Сёння ўсіх абвінавачваюць у камунізме. Гэта метад для заграніцы. Ведаем, што высокім замежным гасцям пастаянна падаюцца такія інфармацыі: маўляў, калі б не бальшавікі, то ніякіх беларусаў, ніякіх украінцаў не было б, што ўсё ў парадку, што няма ніякага нацыянальнага руху, няма крыўд, няма ніякіх злоўжыванняў, усё хараша, усё гладка, толькі гэтыя няшчасныя камуністы. Толькі гэта ёсць і гэта гаворыцца. І тут з гэтых арыштаў, што праводзіліся з мэтай стэрарызаваць насельніцтва, якое дамагалася сваіх школ, з гэтых беспадстаўных арыштаў зрабілі камуністычную афёру: меліся быць нейкія замахі, нейкія дыверсіі. Бог ведае што — усё гэта гаворыцца і гаворыцца беспадстаўна. Я перакананы, што будуць суды і суды будуць засуджваць, але ў нас няма ні павагі, ні даверу да судоў. Бо суды больш вераць

правакатарам з дэфензівы, якія, калі абарона ў іх пытаецца, на што паклікаюцца, паклікаюцца на дзяржаўную тайну, кажуць, што аб крыніцах сваіх інфармацый не маюць права гаварыць таму, што дзяржаўная тайна гэтага не дазваляе. Такім чынам, суды больш верацъ дэфензіве, чым сумленным грамадзянам. Да такіх судоў, да судоў дзе... (*п. Павел Васыньчук:* «Да судоў захопнікаў не можа быць даверу»).

**Віцэ-маршалак Марачэўскі:** Яшчэ раз заклікаю пас. Васыньчука да парадку.

**Пас. Тарашкевіч:** Да такіх судоў, дзе ўсё абапіраецца на правакацыі, паўтараю яшчэ раз, не толькі даверу, але найменшай нават павагі мець не можам. Але суды будуць, шмат каго яшчэ засудзяць, і калі гэта будуць зусім маладыя людзі, то, можа, не на кару смерці, а на доўгія гады турэмнага зняволення.

Абвінавачваеце нас у камунізме, у распальванні дыверсійнага руху, бандыцкага, як вы яго называеце, а па сутнасці паўстанцкага, абвінавачваеце нас у тым, што не хочам заняць лаяльнай пазіцыі ў адносінах да польскай дзяржаўнасці, але ўспомніце, што мы прыйшлі ў гэты Сойм іменна для таго, каб стаць на грунт законнасці, на нейкі момант мы былі наіўнымі, мы паверылі ў канстытуцыйныя ілюзіі, мы думалі, што трактаты і Канстытуцыя на самой справе гарантуюць правы, хаця б мінімальныя грамадзянскія правы, што гарантуюць хаця б мінімальныя палітычныя і нацыянальныя правы. Мы прыйшлі ў гэты Сойм, каб дабівацца аўтаноміі. (*Голас:* «А паводзіны Луцкевіча?») Пан успомніў тут Луцкевіча, дык паводзіны Луцкевіча былі ўжо пасля забойства Прэзідэнта вашымі прыяцелямі, мы выбіралі Прэзідэнта, мы галасавалі за ўрад Сікорскага, каб падкрэсліць сваю лаяльнасць. І што ж здарылася? За тое, што мы асмеліліся выбіраць Прэзідэнта, вы яго забілі, і паны ў канэхце *, разам з забойцамі, пайшлі да ўлады, здрадзіўшы самым выразным чынам інтарэсам люду, здрадзіўшы тым лозунгам, з якімі вы ішлі на выбары. (*Голас:* «Мы здрадзілі з вашага пункту гледжання».)

**Віцэ-маршалак:** Пан пасол Тарашкевіч, пытаюся, колькі часу пан мае намер яшчэ выступаць, хачу зарыентавацца, калі загадаць абедзенны перапынак.

**Пас. Тарашкевіч:** Нейкіх 10—15 мінут.

**Віцэ-маршалак:** Бо калі даўжэй, то я зрабіў бы перапынак.

**Тарашкевіч:** Такім чынам, мы хацелі ісці па гэтым шляху, у нас былі ілюзіі, але, прыглядаючыся да таго, што дзеецца ў гэтай Палаце, да таго, што адбываецца ва ўсёй краіне, у нас і ў нашых выбаршчыкаў канчаткова развеяліся ўсялякія ілюзіі. Сёння мы павінны сказаць, што ў палітычных адносінах у нас было блага, ёсць блага і будзе штораз то горш і на размовы аб аўтаноміі няма тут месца, што той, хто ставіць на аўтаномію, як палітыкварты жалю, бо няма ніякай аўтаноміі, ніякай самастойнасці, нават культурнай аўтаноміі ў гэтых палітычных умовах, ва ўмовах, дзе кіруе і правіць пан і фабрыкант. І наш народ добра гэта разумее, разумее, што ніякія пісаныя законы, хай сабе нават і найлепшыя, не памогуць, што Мурашка і далей будзе правіць.

Дык што ж тут такое? Бачым, што выступленні польскай буржуазіі супраць выбару Прэзідэнта былі вельмі знамянальныя, хаця Прэзідэнт гэты не быў якімсьці бунтаўшчыком, не быў вельмі радыкальным чалавекам. Знамянальныя таму, што правячыя класы, якія засядаюць тут у правым сектары, зразумелі: узнікае магчымасць невялікіх, вельмі скромных рэформ. А правыя, а за імі і левыя, якія, як мы заўва-

* У тайнай змове.

жылі, ужо на працягу некалькіх гадоў з гэтага боку свядома ідуць на павадку,— штурхаюць воз у напрамку самай чорнай рэакцыі. (*Голас:* «Філосаф з пана».) Замах на Канстытуцыю развіваецца. Самакіраванне сёння не маем. У нас староста сам правіць, гэта і ёсць самакіраванне,— што хоча, тое і робіць. *(Апладысменты ў левым сектары.)* А бюракратыю з мясцовага самакіраўніцтва, якая з'ела апошнія сялянскія грошы, селянін змушаны цягнуць на сваіх плячах без усякай для сябе карысці. І бюракратыя гэтая з'ядае 90 % усіх падаткаў. Такім чынам, самакіравання не было і не будзе таму, што пройдзе закон плюральнага вотуму. (*Голас:* «Не пройдзе».) Пройдзе, бо вы, панове з левага крыла, перад кожным галасаваннем вельмі самаўпэўненыя, пагражаеце, што выведзеце народ на вуліцы, а мы пераконаны, што ў гэтым напрамку вы нічога не робіце. Вы не адважыцеся нават крык падняць. Вы, каторыя падтрымліваеце ўрад п. Грабскага, урад, які за кулісамі выразна дамаўляецца з буржуазіяй, не можаце гэтага зрабіць, вы бяссільны, вы баламуціце тыя сялянскія і народныя масы, што ідуць за вамі, баламуціце ў тым сэнсе, што нібыта ад гэтага Сойма, ад гэтага парламента, дзе яўна правяць пан, абшарнік, буржуазія, можна нешта атрымаць. Але падзеі развіваюцца ў тым палітычным кірунку, што іменна правы лагер усюды кіруе і насаджае сваіх людзей. Скора не застанецца ніводнага ваяводы, старосты, войта ў гміне, які не быў бы калі не закончаным эндэкам, то ў найлепшым разе членам «Пяста», ну а гэта аднаго поля ягадкі.

Сёння мы павінны выразна сказаць свайму народу, разбіваючы гэтыя згодніцкія ілюзіі, што там, дзе правіць буржуазія, дзе правіць абшарніцтва, а іменна яны правяць усёй краінай, не можа быць ні сацыяльнага вызвалення, ні якіх-небудзь нацыянальных правоў, ужо не кажучы аб аўтаноміі. Няхай наш селянін зразумее, што толькі поўная змена ўрада, не ўрада тут, на гэтай лаве, але ўрада ва ўсім краі можа даць яму вызваленне. Менавіта такая змена, каб урад быў сялянска-рабочы і каб гэты ўрад узяў усю ўладу ў свае рукі. Мы не маем намеру рознымі парламенцкімі, соймавымі абяцанкамі ашукваць людзей, якія даверылі нам абарону сваіх інтарэсаў. Зразумела, беларускі селянін, беларускія працоўныя масы ў гэтай барацьбе за свой урад павінны падаць руку ўкраінскім сялянам, польскім сялянам і ўсяму працоўнаму люду *(воплескі на лавах нацыянальных меншасцяў)*, бо толькі супольным фронтам — селянін поплеч з селянінам, селянін поплеч з рабочым — на роўных правах могуць здабыць сабе сацыяльнае вызваленне, нацыянальнае вызваленне, палітычнае вызваленне і нацыянальнае адраджэнне. Без гэтага ніякія пагадненні, ніякія размовы нічога не дадуць.

Панове, сітуацыя яшчэ не наспела, каб селянін адкапаў свае іржавыя карабіны, каб узяў цапы і з цапамі пайшоў разбіваць і біць сваіх ворагаў. Лічым, што гэта было б шаленствам. Наадварот, мы хацелі б з гэтай трыбуны перасцерагчы народныя масы ад неабачлівых выступленняў, ад такіх выступленняў, якія ўрад вельмі ахвотна хацеў бы справакаваць, каб потым задушыць іх і ўтапіць у моры крыві. Наша задача на сёння — паказаць нашым масам, дзе іх вораг, чаго ад каго могуць спадзявацца.

Панове, вялікі паэт і патрыёт Адам Міцкевіч маліўся некалі, каб настала вайна народаў: «Вайну народаў дай нам, Пане»,— казаў ён. Мы гэтага не скажам і, здаецца, ніхто з нас не будзе маліць Бога, каб той даў вайну народаў. А чаму не будзе маліцца? Таму, што кожны з нас ведае, што працоўны люд не хоча гэтай вайны. Ён ненавідзіць вайну, наогул, вайна для яго — найцяжэйшая рэч. Але, з дру-

гога боку, мы не можам ашукваць масы мірнай балбатнёй, бо ведаем, што буржуазія ўсяго свету рыхтуецца да вайны і яе праклянцем ёсць тое,— гавару гэта без нянавісці да буржуазіі, толькі каб акрэсліць пэўную гістарычна-грамадскую катэгорыю,— што буржуазія адыграла сваю ролю, што яна не можа справіцца з эканамічным крызісам, які ахапіў увесь свет. Яна можа даць сабе раду на некалькі год, не ведаю, можа, на год, можа, на два, пяць, дзесяць, не ведаю, як доўга будзе яшчэ яе панаванне, як доўга будзе існаваць гэтая няўстойлівая раўнавага, але ў адным можна быць упэўненым, што нацыяналістычна настроеная буржуазія, канкурыруючы паміж сабой, не здолее дабіцца такой арганізацыі вытворчасці, якая б прывяла да гаспадарчай стабільнасці, выключыла б на доўгі час канкурэнцыю і дала б магчымасць праз гэта пазбегнуць вайны. Бачым, што буржуазны свет з фатальнасцю коціцца да новай бойні, да новай вайны. І што ж, да чаго мы павінны весці свае масы? Ці накшталт розных левых адвакатаў і інструктараў мілітарызму маем заклікаць да так званай абароны Айчыны, асабліва калі наша Айчына раздзелена? Не, мы павінны навучыць свае масы, што імперыялістычная вайна не ёсць той вайной, якая вядзецца ў іх інтарэсах, што гэта вайна буржуазіі, якая вядзе імперыялістычную вайну з мэтай падзелу здабычы, дзеля новых калоній, дзеля заваявання чужых тэрыторый. Разумеем, што калі масы ўсвядомяць сабе гэта, то ў першую ж хвіліну вайны, асабліва пры сённяшнім яе характары, калі вайна будзе распалена ў цэлым краі, яны павінны будуць сказаць тое, што кажа буржуазія: «Si vis pacem para bellum». Буржуазія кажа, калі хочаш мець мір, рыхтуй вайну. Пралетарыят, сялянскія масы павінны адказаць такім жа чынам: калі хочаце грамадскага ладу, рыхтуйце вайну з буржуазіяй усіх краін.



Вось мірная гаворка. Калі б буржуазія зразумела, што працоўныя масы настолькі ўсвядомленыя, што не пойдуць на бойню, на якую іх вядуць нібыта ў імя айчыны, то гэтая буржуазія абамлела б ад жаху і вымушана была б поўнасцю ўступіць сваё месца іншым.

Мы разумеем, што так ці іначай, ці то шляхам вайны, ці ў выніку яе будзе грамадская рэвалюцыя, і толькі гэтая сацыяльная рэвалюцыя дасць нам палітычныя правы, прынясе нам нацыянальнае адраджэнне і вызваленне. У імя гэтага высокага ідэалу будучыні, у імя сацыялізму мы павінны ісці да мас і ўзняць іх свядомасць.

Мы, зразумела, не можам аказаць падтрымку не толькі капіталістычна-абшарніцкаму, але і рэакцыйна-клерыкальнаму ўраду і таму будзем галасаваць супраць прыняцця бюджэту.

## ПРАМОВА НА 192-м ПАСЯДЖЭННІ СОЙМА 2 КРАСАВІКА 1925 ГОДА ПРЫ АБМЕРКАВАННІ ТЭРМІНОВАЙ ПРАПАНОВЫ «ВЫЗВАЛЕННЯ» АБ РОСПУСКУ СОЙМА

**Пас. Тарашкевіч:** Высокая Палата! Паколькі ў гэтай Палаце ніхто, здаецца, сур'ёзна не трактуе вельмі сур'ёзную справу, я выказваю велізарнае спачуванне калегу Васыньчуку, які прыклаў столькі намаганняў у сваім выступленні, каб паказаць поўную няздольнасць Сойма да працы на карысць выбаршчыкаў.

Калі мы ўступалі ў Сойм, то нашыя выбаршчыкі і мы думалі, што звязваць нас з заканадаўствам будзе не якаясь, так сказаць, прымусовая прысяга, а ў першую чаргу Канстытуцыя. І наш першы акт быў зу-

сім лаяльны — мы выбіралі Прэзідэнта. А вы, каторыя сёння славіце і на кожным кроку вытыкаеце нам прысягу і Канстытуцыю, вы, панове, не прамінулі ў той самы дзень, у тую самую хвіліну арганізаваць бурныя дэманстрацыі супраць Канстытуцыі і вынікам гэтай гвалтоўнай дэманстрацыі было забойства Прэзідэнта. Віна за гэтае забойства, безумоўна, кладзецца на інспіратараў дэманстрацыі. Ужо тады мы зразумелі, што Канстытуцыя — гэта толькі кавалак паперы, яна добрая толькі тады, калі накіравана супраць нас, і кепская, калі нас абараняе. Сёння ў сваёй дзейнасці мы на кожным кроку пераконваемся, што гэта сапраўды так, і мы не можам культываваць ілюзій, якія стварае Канстытуцыя. Сёння мы павінны сказаць, што Канстытуцыя існуе толькі на паперы і што ўсім правіць суполка капіталістаў, абшарнікаў і дзяржаўных чыноў. Нейкі час паміж левымі і правымі стаяў клуб Нац. рабочай партыі на чале з п. Вахавякам, займаючы няўстойлівую пазіцыю і схіляючыся то ў адзін, то ў другі бок; потым сітуацыя стала больш выразнай, п. Вахавяк адышоў, магчыма, на больш высокае становішча, а клуб НРП далучыўся да правых. Гэтай суполцы было выгадна аддаць уладу ў рукі непапулярнага кабінета, і тады, панове, правыя і левыя, асабліва што датычыць нашых інтарэсаў, інтарэсаў беларускіх і ўкраінскіх, Беларускага і Украінскага клубаў, прыйшлі да згоды.

І вось сёння ўзнікла нейкае непаразуменне, нейкі разнабой у гэтым мілым канцэрце. Я не хачу ўнікаць чаму. Кажуць, што кангрэс «Вызвалення» змусіў «Вызваленне» змяніць сваю палітычную тактыку і свае адносіны да ўрада. Я не буду называць выступленне клуба «Вызвалення» дэмагагічным. Панове, па сутнасці дэмагогія — гэта лёс і неабходнасць усіх партый, усіх парламентаў. І калі сёння партыя «Вызваленне» ўнесла прапанову аб роспуску Сойма і калі паны называюць яе дэмагагічнай, то адносіны да гэтай справы іншых клубаў не менш дэмагагічныя. Бо ў тым, што ўсе, пачынаючы ад левых у ППС, займаюць такую, а не іншую пазіцыю, напэўна як ёсць свае цалкам выразныя прычыны — яны баяцца выбаршчыкаў, баяцца новых выбараў. Новых выбараў не хоча ні НРП, ні «Пяст», які здрадзіў самым грубым чынам тым лозунгам, якія абвяшчаў падчас выбараў. Правыя ў кампаніі з «Пястам» імкнуцца абсадзіць усе пляцоўкі ў ведамствах і правесці такое палажэнне аб выбарах, якое дазволіла б абмежаваць палітычныя правы на «ўсходніх крэсах», г. зн. на беларускіх і ўкраінскіх землях, а заадно і магчымасці атрымання дзяржаўнай пасады людзям з шырокіх дэмакратычных слаёў. Толькі пасля ажыццяўлення такога палажэння аб выбарах вы ўвойдзеце з прапановай аб роспуску Сойма, бо тады будзеце лічыць, што гэта адпавядае вам і вашым партыйным інтарэсам. Толькі тады запатрабуеце гэтага і тады, зразумела, сваю тактыку не будзеце называць дэмагагічнай. Мы разумеем, што калі на кожным кроку самым выразным, скажу, самым ганебным і грубым чынам парушаецца Канстытуцыя, то роспускам Сойма павінны былі б зацікавіцца рабочыя масы, сялянскія масы, масы працоўнага люду, якія выбіралі гэты Сойм. Без адпаведнай дапамогі роспуск Сойма не адбудзецца. Для таго каб гэта стала фактам, каб гэты факт нарадзіўся, патрэбна акушэрка, а такой акушэркай павінны стаць тыя масы, якія папросту разгоняць гэты Сойм. Панове, ніхто не аспрэчыць, што такія галасы раздаваліся і ў лагеры правых. Але вы хацелі б разагнаць Сойм на фашыстоўскі манер, метадамі Мусаліні, толькі як дагэтуль вам гэта не ўдаецца па прычыне ўмоў, у якіх знаходзіцца Польшча, умоў знешніх і ўнутраных. Гаварыць доўга і падрабязна на гэтую як-ніяк сур'ёзную тэму я не хачу, тым

больш што ўжо наперад вядома — паслы могуць спакойна раз'ехацца на святы без боязі, што Сойм будзе распушчаны. Ад імя свайго клуба заяўляю, што ў прынцыпе мы за роспуск Сойма і расклад выбараў на аснове старога палажэння аб выбарах, калі Сойм папросту не разгоняць, мы згодны з прапановай «Вызвалення».

## ПРАМОВА НА 203-м ПАСЯДЖЭННІ СОЙМА 30 ЧЭРВЕНЯ 1925 ГОДА ПАДЧАС АБМЕРКАВАННЯ ЎСТАВУ АБ ПАРЦЭЛЯЦЫІ І АСАДНІЦТВЕ

Панове! Пасол Вітас у адной з сваіх гутарак з журналістамі сказаў,— па-мойму дасціпна і слушна,— што соймавыя паседжанні падобны да абедаў у нашым соймавым буфеце: яны вельмі аднастайныя, нездаровыя і нудныя. Пры разглядзе гэткай важнай справы, як зямельная рэформа, сулілі вельмі вострую барацьбу з розных бакоў гэтае палаты. Але вось ужо йдзе агульная дыскусія і аказваецца, што гэтая дыскусія ў істоце сваёй не розніцца ад звычайных паседжанняў Сойма. Было, як заўсёды, нудна, троху забавы і троху смеху. Было пуста і нудна ў салі, пуста і нудна на галёрцы. І няма нічога дзіўнага ў тым, што ўвесь Сойм, сталіца і цэлы край перагаканаўся, што ў істоце тутака, у гэтай палаце, нічога запраўды новага не можа стацца. Цэлы край зразумеў, што ў гэтай палаце адбываецца паміж нібы варожымі ўзаемна групамі фактычна гульня ў карты, гульня значанымі картамі,— адбываецца свайго роду commedia dell'arte. Commedia dell'arte, уступіўшы месца драматычнаму мастацтву, са сцэны перайшла на парламенцкія трыбуны і ў працягу XIX сталецця мела вялікія трыумфы і славілася зусім слушным поспехам. І вось сёння бачым, што гэты род парламенцкай творчасці згубіў сваю жыццёвасць, бо каб гэтае мастацтва цікавіла публіку, яно мусіць заўсёды даваць штосьці новае, мусіць тварыць!..



А сёння запраўды найчасцей у парламенце бывае камедыя, а польскае грамадства бачыць, не ведаю каторы раз, як на гэтай соймавай сцэне граюць камедыю, назоў якой «Зямельная рэформа». Польскі Сойм ставіць гэтую рэч, як я сказаў, не першы раз. І нічога дзіўнага, што зацікаўленне гэтаю рэчай адпала, бо трэба прызнаць, што калі цяперашняе прадстаўленне зямельнае рэформы для чалавека са смакам, хоць крыху разборчывым, з'яўляецца нудным і нецікавым, дык толькі таму, што ў 1919 і 1920 годзе гэтая самая рэч была разыграна ва Устаўадаўчым Сойме лішне геніяльна.

Якраз тады, калі польскі селянін на водгалас рэвалюцыі працягваў рукі па зямлю, якой ён прагне ды якую яму абяцалі правадыры сацыялістычных угрупаванняў і розных іншых, што называлі сябе народнымі,— тады мы былі сведкамі, як гэтыя правадыры з нечуванаю імправізуючай фантазіяй разыгралі на соймавай сцэне гэную камедыю з небывалым поспехам. Цэлы край, увесь сялянскі люд быў загіпнатызаваны артыстычнымі жэстамі сваіх правадыроў і фразамі, што падалі з гэтае трыбуны. Абяцалі сялянам зрабіць рэвалюцыю без рэвалюцыі, зрабіць пераварот грамадскіх адносінаў без усялякага праліцця крыві, без усялякіх гвалтаў і ўсялякага пагвалчэння так званага «правапарадку»,— адным словам, абяцалі зрабіць цуд. І таму польскі селянін не толькі галасаваў і чакаў хуткага правядзення ў жыццё зямельнае рэформы, але больш таго: грудзьмі сваімі бараніў польскіх абшарнікаў і буржуазію ад рэвалюцыі. Бо калі ў 1920 г. «Чырвоны Ганібал» стаяў перад мурамі Варшавы, то на падмацаванне жаўнер-

скіх сэрцаў разыгралі яшчэ раз на bis камедыю аб зямельнай рэформе. Вайна канчаецца перамогаю, селянін чакае на зямлю, чакае год, чакае два, тры, чакае пяты год. Ажно ў канцы нецярплівіцца, пачынае бурыцца, забурэнне гэтае пачынае выяўляцца на паверхні зямлі, асабліва на «ўсходніх крэсах». I вось, сёння для заспакаення гэтага селяніна збіраецца Сойм заграць ужо 5-ты ці 6-ты раз, калі лічыць усе зямельныя ўставы, зноў гэтую рэч.

Паважаныя панове! Дзіўная гэта рэч, але на перашкодзе зямельнай рэформе, як прызналі ўсе ўгрупаванні, стала нішто іншае, як менавіта ўстаў аб зямельнай рэформе!..

Ці ж гэта не камедыя? Гэта ёсць такая камедыя і так геніяльна сыграная, што толькі паны з гэтага боку *(паказвае на правіцу)* мусяць запляскаць у далоні і сказаць брава, брава партыі, што слухаецеся нашае каманды! Кажучы проста, польская лявіца ўратавала,— хоць дзіўным гэта здаецца, але фактычна гэтак было! — уратавала маёмасць абшарнікаў, і то ўся лявіца, пачынаючы ад пэпээсаў і канчаючы на Вітасе. Ці гэта было свядома, ці гэта мо несвядома, ці гэта, можа, жыццёвая недазнанасць некаторых партыяў з гэтага боку палаты *(паказвае на лявіцу)*, ці гэта гульня зусім свядомая,— у рэшце рэшт гэта мае меншае значэнне, але фактычна гэтак ёсць, і я ўжо не буду казаць аб тым, што ўрад, які называўся народным, сам дабравольна аддаў уладу ў рукі абшарнікаў і буржуазіі. Я не гавару аб усіх перспектывах рэвалюцыйнага развязання зямельнае справы.

Але калі звярну ўвагу на тое, як праводзілася зямельная рэформа, дык выявіцца, што фактычна гэты ўстаў выратаваў абшарніцкія маёнткі не толькі ад адабрання, але нават і ад продажу іх. Бо ў працягу гэтага часу з рук вялікіх уласнікаў у рукі сярэдніх і малых уласнікаў перайшло зямлі шмат менш, чым



пераходзіла за такі ж самы час перад вайною, і перайшло меней таму, што гэты ўстаў замацаваў стан уладання вялікае маёмасці і выратаваў яе ад распродажу.

Дык дзіўным выдаецца, калі правіца наракае на лявіцу. Фактычна, правіца мусіла б падзякаваць і паставіць п. Вітасу і ўсім паном з ППС вялікі помнік удзячнасці. (*П. Вітас:* «Можа, яны гэтае і зробяць, бо гэта ж удзячныя людзі!») Пан маеш надзею? Пан на гэта чакаеш? *(П. Вітас:* «Я маю пэўнасць».)

Тым часам селянін пачынае нецярплівіцца ў краі і ўсё больш выразна кідаць пяруны ў сваіх правадыроў. Ужо чуваць голас гневу на ўсходніх землях. Паны кажаце, што да трох разоў штука. Дзеля баламучання селяніна, дзеля яго заспакаення, хоць і на кароткі час, патрэбна хоць фікцыя нібы зямельнае рэформы; не ведаю, каторы раз паны хочаце вярнуцца да гэтае рэформы. Хоць гэты ўстаў фактычна зусім не з'яўляецца зямельнаю рэформаю, гэта ўстаў не аб надзяленні селяніна зямлёю, але гэта ўстаў аб абаронным вале, які мае бараніць маёмасць абшарнікаў, аднак бачу, што паны з гэтай палаты галосна лямантуюць і зусім недвузначна раздзіраюць шаты свае, быццам то робіцца вялікая крыўда! Але мы бачым нешта іншае. Мы бачым, як я казаў, гульню ў карты, і, хаця лявіца абяцала вялікі адпор, вялікую барацьбу, вынік гульні наперад пастаноўлены: «зямельная рэформа», натуральна, пройдзе. Калі ўзяць напр. партыю «Вызваленне», дык я перакананы, што яна, убачыўшы, што частка правіцы будзе проці ўставу, будзе баяцца перашкодзіць правядзенню ўставу і падасць галасы за «зямельную рэформу». Калі ж убачыць, што абшарнікі будуць за ўставам, дык каб злавіць агітацыйныя козыры, яна будзе галасаваць проці. Пабачыце, панове, што гэтак будзе. *(Голас:* «А пан пойдзеш за абшарнікамі?») Я пайду проці гэтага баламуцтва.

Адносіны ППС да зямельнае рэформы зусім выразныя: пры гэтай справе некаранаваны кароль парабкаў (Квапіньскі) хоча спячы малую парабчанскую пячэню, а аб цэласці сацыяльнага пытання, якім з'яўляецца зямельная рэформа, зусім не дбае. І ведама, п. Квапіньскаму, як і п. Вітасу, належыцца помнік удзячнасці ад гэтага боку палаты *(паказвае на правіцу)*. А вынікам усіх гэтых галасаванняў, усіх гэтых гутарак будзе тое, што абшарнікам застануцца маёнткі, толькі ў вельмі малой меры абрэзаныя дарогаю прымусовага выкупу і крыху болей паабразаныя дарогаю дабравольнага спекуляцыйнага продажу. І на гэтае, аказваецца, усе партыі згодны.

Другім вынікам гэтага ўставу будзе тое, што павялічыцца лічба заможных, разбагацеўшых сялян — «кулакоў»,— не ведаю, як гэта па-польску сказаць, няма адпаведнага слова, я б раіў прыняць назоў «пястун»,— будзе трохі гістарычна і трохі пясціва гучэць. Значыць, толькі гэты клас павялічыцца, гэтая — падпора польскае буржуазіі, апіраючыся на якую абшарнікі будуць гаспадараваць у краі, трымаючы большасць краю ў ярме ў эксплуатуючай меншасці. І на гэтае паны патэнтаваныя сацыялісты згодзяцца зусім, абы толькі «спячы маленькую парабчанскую пячэню».

Яшчэ адна рэч, якая фактычна з'яўляецца асновай усяго гэтага ўставу: гэта — справа каланізацыі. Гэты ўстаў слушна называецца ўставам аб асадніцтве і парцэляцыі. І дужа цікавыя тут адносіны да гэтае справы, асабліва левае паловы палаты. Бо хто ж быў ініцыятарам усяе гэтае каланізатарскае палітыкі? Перадусім польская лявіца. Мусім тут прыпомніць прагрымелы ўстаў 17 снежня 1920 г. аб пераходзе да дзяржавы зямлі пад асаднікаў у некаторых паветах, менавіта ў «крэсавых» паветах, і другі ўстаў — аб вайсковым асадніцтве. Якраз тады — гэ-



та можна сцвердзіць стэнаграмамі — лявіца хвалілася, што мае так глыбокае дзяржаўнае чуццё, што была ініцыятарам усіх гэтых уставаў.

Прамовы з боку лявіцы ішлі далей з пагляду каланізацыйных парываў, чым прамовы з боку правіцы. Адзін з сімпатычнейшых нават дэпутатаў з партыі «Пяста», п. старшыня Дэмбскі, вельмі неасцярожна выказаўся, што ён шчаслівы, што цяпер гэткая якраз адпаведная часіна, каб забраць гэтыя «крэсавыя» землі — беларускія і ўкраінскія,— што люднасць ваеннымі аперацыямі і вайною стуль выкінута. *(П. Дэмбскі перапыняе.)* Так, пан казаў, я лаяльна сцвярджаю. *(П. Дэмбскі:* «Але зямля ляжала там аблогам!»*)* Ясна, вельмі магчыма, што пан тады думаў, што люднасць тая не вернецца, і ўважаў гэта за вельмі шчаслівы ўклад абставінаў. Але беларускі і ўкраінскі селянін, таксама як і польскі, як і кожны іншы, гэтак прывязаны да сваёй зямлі, што масава вярнуўся з выгнання, а не з дабравольнага выезду ў Расею, як пан Смольскі сказаў,— вярнуўся на тую родную зямлю, дзе нічога не знайшоў, апрача зарослага поля. Упаў на гэтую зямлю, плакаў, пазурамі папросту дзёр гэту зямлю, абрабіў яе,— і сёння гэты селянін — беларускі і ўкраінскі — так глыбока запусціў карэнне ў гэтую зямлю, што ніякая сіла, ніякія наскокі яго не адарвуць ад яе. *(П. Дэмбскі:* «Яго зямлі не забралі асаднікі, хоць бы і ляжала яна аблогам».*)* Нават і яго зямлю забралі, бывалі выпадкі, мы складалі аб гэтым інтэрпеляцыі.

Здаецца, што вайсковае асадніцтва спаткалася з належнаю ацэнкаю мыслячых людзей не толькі з лявіцы, але і з боку правіцы, у кожным выпадку з ацэнкаю, што не было яно выяўленнем глыбокай «дзяржаўнай думкі» — нават у тым значэнні, у якім паны яго разумеюць. А вось нядаўна адзін выдатны сябра партыі «Пяст», п. пасол Панятоўскі, выступіў у

прэсе з сажнёвым артыкулам аб асадніцтве. (*П. Міхаляк:* «Некаранаваны кароль сялян!») І што ж? Аказваецца, што той асаднік, які стаўся найвялікшай ганьбаю г. зн. «крэсаў усходніх», той асаднік, паводле думкі п. Панятоўскага, нясе там культуру, гэты асаднік, што ў большасці выпадкаў сваёй зямлі сам не абрабляе, што ў большасці выпадкаў займае «пасады» і дужа часта такія «пасады», як служба ў дэфензіве,— гэты асаднік, паводле думкі п. Панятоўскага, навязаў дасканалыя адносіны з мясцоваю люднасцяй, і на гэтага асадніка п. Панятоўскі пакладае надзею, што ён здолее зблізіць «братнія» народы!.. Былі б вельмі здаволены, калі б гэта была памылка, а не выяўленне тых ні з чым не лічачыхся каланізацыйных і паланізацыйных парыванняў, якія адзін з другім заўсёды вяжуцца.

На жаль, сёння мусім сказаць, што ў польскім Сойме і па-за Соймам, апрача камуністычнае фракцыі, няма партыі, якая б не гадзілася з каланізацыйнымі парываннямі. (*П. Дэмбскі:* «Напрыклад, у Радавай Беларусі».) У Радавай Беларусі няма каланізацыі імпартавай звонку. (*П. Дэмбскі:* «Прывозяць з глыбокай Расеі!») Запэўняю пана пасла, што пан мыліцца!.. У Радавай Беларусі нават ёсць гэтак, што аказваецца, што там замала зямлі і беларусы змушаны эміграваць — гэта праўда. Змушаны з Беларусі эміграваць. Гэта аргумент вельмі важны — якраз процi пана. Гэтыя каланізацыйныя парыванні, высоўваныя польскаю лявіцаю, апіраюцца на цверджанні, быццам на «крэсах усходніх», а спецыяльна на беларускіх землях знаходзяцца велізарныя запасы зямлі. Вось мы мусім сказаць, што калі чуем гэта ад людзей, якія з'яўляюцца правадырамі, прадстаўнікамі партыяў, то, скажам адкрыта, гэта ёсць подлая дэмагогія. На беларускіх і ўкраінскіх землях няма гэтакага запасу зямлі, каб можна было раскаланізаваць прывезеную з этнаграфічнай Польшчы люднасць.



Папярэдні міністр зямельных рэформаў нядаўна ў Зямельнай камісіі даў дакладныя даныя, апрацаваныя не намі, але Міністэрствам,— даў гэтыя даныя, як даныя сакрэтныя, якія сцвярджаюць, што, напрыклад, зямельныя адносіны ў Наваградскім ваяводстве не лепшыя, як у Варшаўскім ваяводстве. А калі параўнаць Варшаўскае ваяв. з Наваградскім ваяв. пад іншымі паглядамі, напр. урадлівасці зямлі, кліматычных розніцаў, аддалення ад прамысловых цэнтраў, то акажацца, што Наваградскае ваяв. знаходзіцца ў шмат горшых варунках, чым ваяв. Варшаўскае. Яшчэ іншыя факты кажуць зусім ясна, што гэнага багацця зямлі дзеля збыту там зусім няма. Перад вайною беларускае насяленне менавіта з гэтых зямель масава эмігравала ў прамысловыя цэнтры — у Расею, у Амерыку, у Сібір. Сёння гэтыя дарогі эміграцыі зачынены, і калі вы хочаце пакаваць сюды яшчэ людзей з іншае краіны, то мясцовай людансці застанецца толькі адно месца эміграваць: гэта — зялёны лес; гэта будзе адзіны вынік каланізацыйнае палітыкі.

Калі чуем з гэтага боку, што вы ніколі не падзеліце нашага пагляду, што на беларускіх і ўкраінскіх землях не можа быць пасаджаны польскі селянін, дык я скажу, што на беларускай зямлі, паводле нашага пераканання, уся мясцовая людансць мусіць знайсці зямлю на роўных правах, незалежна ад нацыянальнасці, але сцвярджаю перадусім, што тае зямлі для каланістаў звонку няма, і што дзеля гэтага польская каланізацыйная палітыка нічым не розніцца ад каланізацыйнай палітыкі нямецкай. Каланізацыйныя парыванні, з якога б боку палаты яны ні паходзілі, не ёсць нічым іншым, як польскаю гакатаю, і мы іначай глядзець на гэта не можам. Гэтакія са-

мыя аргументы мелі нямецкія гакатысты, як і вы маеце. Заходняя частка Нямеччыны далёка гусцей заселена, як усходняя. А стуль мог бы быць вывад, што немцы мелі маральнае і гістарычнае права каланізавання сваей усходняй часткі — Пазнані.

Увесь польскі народ і цэлы цывілізаваны свет даў гэтаму адпор. І мне здаецца, што сёння на нашым баку будзе не толькі наш народ, не толькі наогул цывілізаваны свет, але ўвесь працоўны польскі народ.

Вельмі цікавыя прычыны гэтае асадніцкае ідэалогіі, а прычынамі гэтага з'яўляюцца хваробы, якія сядзяць у польскім грамадскім арганізме і жаруць гэты арганізм. Першаю хваробаю з'яўляецца несправядлівая зямельная будова. Абшарнікі маюць вялізарныя прасторы зямлі, калі побач вялізарная лічба малазямельных і беззямельных сялян. Падавалі тутака лічбы, я іх падам пры падрабязным абгаворанні; сёння толькі заяўляю, што каланізацыяй абшарнікі хочуць адвярнуць увагу сялян ад сваіх маёнткаў і гатовы хутчэй ахвяраваць інтарэсам крэсавых абшарнікаў, абы ўцалелі маёнткі ў этнаграфічнай Польшчы.

Другая хвароба — гэта імперыялізм, заўсёдныя сны аб дзяржаўнай моцы, а сны гэтыя звязаны з мілітарызмам. Польскі мілітарызм у свой чарод вымагае, каб усходнія граніцы — «Kresy Wschodnie» абсаджаны былі польскім казацтвам, і таму гэтая каланізатарская палітыка з'яўляецца аргументам у руках мілітарных кругоў.

Далейшая прычына — гэта спецыфічна шляхоцка-польская ідэалогія, а іменна антыіндустрыялізм. Блізу ўсе сялянскія партыі хварэюць на гэтую хваробу, на ненавісць да прамысловасці. Чутно даволі часта з гэтага боку палаты: «Апарыліся мы на прамысловасці, промыслаў не можам развіць, промыслы не маюць ніякае перспектывы, а значыцца — на зямлю, болей зямлі!» Ну, і ясна: зямлі болей і болей,— з крыўдаю для крэсавага селяніна забраць гэтую зямлю і аддаць польскаму селяніну. Гэтакім спосабам паны з сялянскіх партыяў, г. зв. «аграрных» партыяў, думаюць развязаць пытанне пералюднення Польшчы.



А мы адкажам, што гэты ўстаў, гэтае развязанне зямельнай рэформы, якое тут будзе праведзена, нікога ў істоце не здаволіць. У першую чаргу раздражніць «крэсы». «Крэсы» будуць пакрыўджаны і зрэвалюцыянізаваны. І правільна тут зноў п. Вітас сказаў — ён часта рацыянальна кажа,— што нікому не можна, ані няма магчымасці забараніць звяртацца думкаю да Расеі, калі хтосьці на тым баку бачыць рэальныя карысці. І тутака, панове, гэты ўстаў, які фактычна з'яўляецца ўставам аб паланізацыі ўсходніх зямель, пакажа зусім выразна «крэсам», куды яны маюць ісці, зусім ясна можа скіраваць без розніцы ўсе масы і ўсе «крэсы» на ўсход.

Далей гэтым уставам не будзе здаволены і польскі селянін — гэта паном скажа статыстыка. Бо што ж ён дастае? Польскі селянін дастае толькі ахлапкі тае зямлі, і вельмі мала. Створыцца пэўная колькасць асаднікаў, будзе заўсёды дражненне. Дражненне гэтае будзе ўзрастаць тым болей, што г. зв. зямельная рэформа расцягнута на дзесяць гадоў. Будзе незадаволены і польскі абшарнік, бо не ўсе яны будуць ведаць сакрэты палітыкі і не ўсе будуць у такіх абставінах, каб уцалелі іх маёнткі.

Не з'яўляюся я абаронцам абшарнікаў, але абшарнік разумее, што яго тупою пілою дзесяць гадоў пілуюць. Я б раіў папросту з літасці да гэтых абшарнікаў адразу адабраць у іх усе гэтыя маёнткі, і тады п. пас. Дубановіч не скардзіўся б на тое, што абшарнік жыве заўсёды пад пагрозаю таго, што сёння даюць яму 350 га, 180 га, потым новыя выбары могуць даць толькі 50 га ці 25, а потым, як п. Дубано-

віч баіцца, што дадуць колькідзесяць сантыметраў, што чуў з выкрыкаў у часе прамовы п. Тугута,— раіў бы адразу адабраць усё. Такім спосабам было б вырашана вялікае сацыяльнае пытанне, а іменна справа зямельнае рэформы была б ужо зліквідавана, зямля была б падзелена, і ніякага чакання на зямлю не было б. А гэтыя надзеі дужа небяспечныя таму, што селянін заўсёды чакае, каб далі яму зямлю. Гэтае чаканне на зямлю стаіць на перашкодзе інтэнсіфікацыі зямельнае культуры, а менавіта: 1) інтэнсіўнасць зямельнае культуры; 2) развіццё прамысловасці, пытанне аб зарганізаванні промыслаў і здабыцці рынкаў збыту,— урэшце 3) аканчальнае вырашэнне пытання аб зямельнай рэформе,— усё гэта можа развязваць пытанне пералюднення.

Мы з свайго боку падаем прапазіцыю, якая апіраецца на трох падставах:

1) Зямля без выкупу, без платы за яе.
2) Падзел зямлі сялянскімі камітэтамі.
3) Максімальныя надзелы ад 30 да 60 га.

Толькі гэткая зямельная рэформа фактычна дасць зямлю сялянскім масам і будзе падставаю да будавання новае грамадскае структуры, абароніць нас ад асадніцтва і будзе падставаю запраўды брацкага сужыцця народаў.

Калі гаворыцца тут, што гэтыя падставы з'яўляюцца проціканстытуцыйнымі, дык на гэта трэба сказаць, што спачатку быў свет, на ім — народ, які тысячы гадоў працаваў, каб хтосьці іншы збіраў. Спачатку селянін, выбіраючы нават ва Уставадаўчы Сойм, пасылаў паноў па зямлю, а паны тады стварылі такую канстытуцыю, якая стаіць сёння на перашкодзе да рэалізацыі зямельнае рэформы. Мы думаем, што з тым, хто хапае або выдае свой народ у лапы чорнае рэакцыі, хто адбірае ў селяніна зямлю,— з тым не можа быць паразумення.



Толькі тады, калі селянін і работнік возьме ўладу ў свае рукі — тады гэтая справа будзе вырашана, але сёння апрача шкодных ілюзіяў, апрача дражнення нічога добрага гэтая «зямельная рэформа» не дасць.

Пры асобных параграфах выкажам яшчэ больш дэтальна ўвесь палітычны і грамадскі сэнс гэтага ўставу, а сёння падаем прапазіцыю адкінуць яго.

## ПРАМОВА НА 237-м ПАСЯДЖЭННІ СОЙМА 17 ЛІПЕНЯ 1925 ГОДА ПРЫ ТРЭЦІМ ЧЫТАННІ ЎСТАВУ АБ ПАРЦЭЛЯЦЫІ І АСАДНІЦТВЕ

Ад імя работніцка-сялянскага блоку, зложанага з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, Незалежнай Сялянскай Партыі і Камуністычнай Пасольскай Фракцыі, рашуча пратэстую проці гэтага ўставу аб парцэляцыі і асадніцтве, крывадушна названага ўставам аб выкананні зямельнае рэформы.

Ухвалены Соймам устаў аб парцэляцыі з'яўляецца замахам злучанай буржуазіі і абшарніцтва на жыццёвыя інтарэсы працоўнага люду. Мэта яго — гэта ўтрыманне касты абшарнікаў, якая ў працягу сталецціяў сыцела потам і крывёю працоўнага люду, стварэнне яшчэ жмені кулакоў і здабыццё такім чынам для буржуазіі і абшарніцтва саюзнікаў у барацьбе з вызвольным народным рухам. Мэтаю ўставу з'яўляецца пазбаўленне зямлі адзіных яе праўных уласнікаў — мільёнаў беззямельных і малазямельных сялян, выкіданне з бацькаўскай маёмасці беларускіх і ўкраінскіх сялян і адначасна ашукванне і баламучанне народных масаў крывадушнымі абяцанкамі. Урэшце, мэтаю ўставу з'яўляецца замацаванне буржуаз-

нага ўраду ў Польшчы, узмацненне і так ужо страшнага ўціску і вызыску сялян і работнікаў.

Устаў гэты, які служыць інтарэсам буржуазіі і абшарніцтва, праводзіцца пры самым дзейным удзеле панскіх прыслужнікаў з «Пяста» і ППС, якія ўжо цалкам мэтаю сваёю паставілі: бараніць і ўзмоцніць панаванне буржуазіі. Але таксама і «Вызваленне», якое напаказ карыстаецца радыкальнымі фразамі, якое нейкі час у Сойме рабіла від апазіцыі,— ідзе ўсё выразней на панскай аброці, а ўгодай з «Пястам» выразна перайшло да варожага для працоўнага народу абозу.

Насупраць буржуазна-пястоўска-пэпээсаўскага блоку, узмоцненага цяпер «Вызваленнем», павінен быць пастаўлены магутны сялянска-работніцкі блок, у радах якога знойдуцца мільёны працоўнага люду ў вёсцы і ў месце, змагаючыся пад клічам: зямля сялянам, фабрыкі работнікам, нацыянальная свабода — для паняволеных народаў!.. Мы, прадстаўнікі гэтага сялянска-работніцкага блоку, які ўжо творыцца, ад самага пачатку пратэставалі і пратэстуем проці гэтага ўставу і дамагаемся адабрання зямлі без выкупу і і падзелу яе паміж сялянамі самымі ж сялянамі.

Устаў гэты не толькі не вырашае зямельнага пытання, не толькі не з'яўляецца, як гэта цвердзіць буржуазія і яе прыслугачы, пачаткам мірнага развіцця зямельных адносінаў у Польшчы, але, наадварот, з'яўляецца пачаткам вялікай і адкрытай барацьбы. Вялікая барацьба за зямлю ўваходзіць у новы перыяд. Сойм сялянам зямлі не даў і не дасць. Зямлю сяляне мусяць узяць і возьмуць самі. *(Воплескі.)*

Уся абшарніцкая і касцельная зямля разам з будынкамі і інвентаром мусіць быць сканфіскавана без ніякае заплаты і бясплатна ж падзелена сялянскімі камітэтамі паміж вясковай малазямельнай і беззямельнай люднасці. Тварыць сялянскія камітэты! —



вось загад мамэнту. Тварыць сялянскія камітэты дзеля масавай барацьбы за зямлю для сялян без выкупу, дзеля барацьбы з раздзіраннем зямлі невялікаю жменяю вясковых кулакоў, дзеля барацьбы з падатковым уціскам і гвалтамі паліцыі, дзеля арганізавання масаў пад дэвізам барацьбы за сялянска-работніцкі ўрад.

Прыманы Соймам устаў аб парцэляцыі і асадніцтве вядзе да ўзмацнення барацьбы на беларускіх і ўкраінскіх землях, паняволеных польскімі панамі і буржуазіяй.

## ПРАМОВА НА 271-м ПАСЯДЖЭННІ СОЙМА 12 ЛЮТАГА 1926 ГОДА ПРЫ ПЕРШЫМ ЧЫТАННІ ЎСТАВУ АБ НАТУРАЛЬНАЙ ПАВІННАСЦІ ПРЫ ПАПРАЎЦЫ ДАРОГ І МАСТОЎ СЯЛЯНАМІ

Панове! Устаў гэты, здавалася б, вельмі бяскрыўдны, але фактычна ўскладае на сялянства прыгонную павіннасць у адносінах да дзяржавы. І гэта таму, што ўвесь цяжар гэтага ўставу ляжыць перадусім на селяніне. Як папярэдні прамоўца, п. Галавач, выясніў і ілюстраваў вельмі добрымі прыкладамі з жыцця, пераважна «крэсавага»,— абшарніцтва, якое мае найболей багаццяў і зямлі, гэтай павіннасці ў адносінах да дзяржавы не адбывае, але ўвесь цяжар яе падае на сялянства, і што ж гэты селянін мусіць даць дзяржаве як падатак з свае працы? А вось што: мусіць будаваць тэлефоны, вазіць тэлефонныя слупы, вазіць дрэва на масты, будаваць дарогі, перавозіць фураж, перавозіць войска, вазіць урадоўцаў і вучыцялёў, якіх пакідае яму дзяржава дзеля апалячвання.

Мушу звярнуць увагу на яшчэ адзін бок гэтага ўставу, а менавіта на тое, што асаблівы цяжар яго

падае на г. зв. «крэсы». Нідзе гэтак не зруйнаваны масты і дарогі, як на «крэсах». Будуецца цэлы рад дарог і мастоў, патрэбных перадусім для войска і абароны граніц,— і вось «крэсавы» селянін павінен несці цяжар чыноўнікаў, якія ў грунце рэчы з'яўляюцца цяжарамі агульнадзяржаўнымі. І, значыць, для «крэсаў» гэты закон з'яўляецца падвойнай крыўдай, для селяніна, менавіта для «крэсавага» селяніна. Ясна, што на гэткі ўстаў, які змушае селяніна да непамерных цяжараў, які змушае яго вазіць дрэва, дзе будзе рваць вупраж, ламаць калёсы і вазы, будзе псуць сваіх коней, як гэта сёння ў нас робіцца,— згадзіцца мы, як прадстаўнікі сялянства,— не можам.

Мусім тут жа падкрэсліць яшчэ адну вельмі цікавую асаблівасць. А менавіта тое, што ўстаў гэты ў апошняй форме зрэдагаваны і падпісаны сацыялістычным міністрам з ППС — п. Марачэўскім,— міністрам тае партыі, якая на нашых «крэсах» выступае гэтак дэмагагічна і гэтак «па-прыяцельску» фліртуе з сялянамі, пераважна на Палессі. З гэтага часу селянін будзе ведаць, як міністр з ППС не думае аб дабры гэтага селяніна і аб абароне яго інтарэсаў.

Будзем галасаваць проці гэтага ўставу, каб адкінуць яго ў першым чытанні.

## ПРАМОВА НА 286-м ПАСЯДЖЭННІ СОЙМА 28 КРАСАВІКА 1926 ГОДА ПАДЧАС ДЫСКУСІІ НАД ПАПЯРЭДНІМ ПРАЕКТАМ БЮДЖЭТУ НА МАЙ — ЧЭРВЕНЬ 1926 ГОДА

**Маршалак:** Адчыняю паседжанне. Голас мае п. Тарашкевіч.

**Тарашкевіч:** Ізноў мушу сказаць: Высокі, але пусты Сойме! Фінансавае і гаспадарчае палажэнне Польскае Рэчы Паспалітае катастрафічнае. Край з неагляднай шпаркасцю коціцца ў прорву. Ёсць так блага, што нельга гэтага схаваць перад шырокімі масамі грамадзянства. Аднак правячыя кругі стараюцца нікчэмнымі і падманнымі фразамі ўкрыць гэтую страшную праўду.

**Маршалак:** Пане пасол Тарашкевіч! Здаецца мне, што Вы праз недагляд ужылі такіх слоў, дзеля гэтага не заклікаю Вас да парадку.

**Тарашкевіч:** Гэтая палітыка правячых кругоў тлумачыцца з аднаго боку тым, што яны не маюць адвагі сказаць праўды шырокім масам працоўных, не маюць адвагі, бо баяцца гэнае масы, якая ўжо даведзена да апошняе нэндзы, чыя цярплівасць ужо канчаецца; баяцца яны сказаць шырокім сялянскім і работніцкім масам, што прыбліжаецца час пераломy і працоўныя масы стануць перад пытаннем: або Польшча з'яўляецца калоніяй заграгічнага капіталу, а працоўны народ заменіцца ў рабочае быдла капіталістычных плантатараў, або кірунак палітыкі мусіць нарэшце ўзяць у свае рукі работніцка-сялянскі ўрад, які вызваліць працоўныя масы з путаў нэндзы і вызыску і дасць вольнасць прыгнечаным народам. Або — або, tertium non datur. Іншае дарогі няма. Аднак буржуазія не мае адвагі выявіць гэнае праўды, свядома ашуквае працоўныя масы, каб усыпіць іх чуткасць, каб загамаваць іх дзейнасць.

Другой прычынай укрывання гэтае страшнае праўды з'яўляецца жаданне выцягнуць ад працоўных масаў яшчэ новыя ахвяры, новыя яшчэ цяжары — гэта наступ на сацыяльныя здабыткі, ведзены пад рознымі лозунгамі «канечнасцяў дзяржаўных». Польская буржуазія дэкламуе аб дзейным гандлёвым балансе, аб добрых выніках сваіх высілкаў у кірунку паправы гаспадарчага палажэння краю. Польская буржуазія паказвае нам табліцы са скрытна ўгрупа-

ванымі цыфрамі і хоча ўгаварыць нас, што мы ўваходзім на дарогу прадукцыйнае гаспадаркі, што вывозім больш, ніж прывозім, што ў балансе знаходзіцца вялікая надвышка.

Гэта ж польскі дзіцячы лепет або звычайнае ашуканства.

Ці можа такое ці іншае ўгрупаванне лічбаў у рубрыках засланіць зіяючую пропасць нэндзы ў краі? Ці ўжо сёння не ясна кожнаму, што гэны хвалёны баланс не ёсць праўдзівы, што ён з'яўляецца яшчэ адным доказам збяднення краю, дый толькі? У які спосаб бядняк-Польшча можа выказаць дзейны гандлёвы баланс, адкуль бярэцца ў Польшчы перавага вывазу над прывозам?

Справа дужа простая, тлумачыцца гэта ўсіленнем вывазу з Польшчы сыравіны і збожжа пры адначасным паменшанні прывозу. Прывоз да Польшчы паменшаў дзеля мытнае вайны з Нямеччынай, а таксама дзеля вялікіх мытных аплатаў, якія ўрад уводзіць на жаданне польскіх капіталістаў.

Далейшай прычынай паменшання прывозу ёсць агульнае збядненне жыхарства, малая здольнасць шырокіх масаў грамадзянства так збяднела і да такой меры страціла здольнасць набывання, што яе мае толькі малая частка жыхарства. Прывоз паменшаў дзеля таго, што ў краі крызіс, замірае таргоўля і промысел, што пануе нэндза. Дык адкуль жа ўзялася перавышка вывозу над прывозам.

Гэта рабунковая гаспадарка: выказ збожжа, дрэва і сыравіны. Да якой ступені ўрад вядзе неразумную гаспадарку, як бароніць спекуляцыю — можа доказам служыць вываз збожжа.

У гэтым годзе, як ведама, не было ўраджаю ў Канадзе і Аргенціне — краях, якія побач з Расіяй з'яўляюцца галоўнымі пастаўшчыкамі збожжа на сусветныя рынкі. Так, Расея, як Канада і Аргенціна, не пада-



лі спадзяванай колькасці збожжа на рынкі, і дзеля гэтага цана збожжа на біржах паднялася. Была г. зв. «добрая кан'юнктура» для вывазу збожжа з Польшчы. Але ў гэтым часе ўрад спаганяў налог з маёмасці, і трэба адзначыць, што ад сялян і бяднейшых слаёў грамадзянства гэны налог спагнаны з цэлай суровасцю пад націскам экзекуцыі і ліцытацыі, сферы ж абшарніцка-капіталістычныя сабатавалі гэны налог і да сёння яго не заплацілі, і іх не толькі мінавалі экзекуцыі, але ўрад прыйшоў да пераканання, што гэныя паны «не могуць заплаціць», і даў спакой сцяганню ад іх налогу ад маёмасці. Вось гэта, як іх называе Вітас, «заўсёдныя жабракі».

Увосень леташняга году, падчас добрай кан'юнктуры на збожжавым рынку, урад спаганяў налог з маёмасці і прымушаў селяніна прадаваць збожжа на налогі. Дзеля вялікага продажу збожжа цэны на яго былі вельмі нізкія. Гэнае палажэнне выкарысталі спекулянты, выкупіўшы на вёсцы ўсё збожжа. Пасля ж вывезлі таннае польскае збожжа за граніцу, прадаючы яго з вялікім заробкам па высокіх цэнах. У выніку такое палітыкі ўраду сёння на вёсках голад, бо ж абрабавалі селяніна з яго гадовае працы, а ў местах цэны на хлеб штораз узрастаюць.

Трэба адзначыць, што існуе вялікая розніца паміж цэнамі на хлеб і на муку, і Польшча спраўджае з заграніцы муку, якая, нягледзячы на кошт перавозу і мытных аплат, таннейшая ад мукі краёвае.

Рабунковай таксама з'яўляецца палітыка лясная. Замест разумнае лясное гаспадаркі, замест пераробкі лесу на тартаках і фабрыках, практыкуецца рабунковая вырубка лясоў і за марныя грошы лес, як сыравіна, вывозіцца за граніцу. Ужо цяпер на абшарах Заходняй Беларусі прадаюцца ўчасткі лесу, якія павінны быць прададзены ў 1928 г., а на адбудову ідуць участкі ажно з 1934 г.

Калі гаворыцца аб рабунковай лясной гаспадарцы, трэ' ўспомніць хоць у пары словах аб гаспадарцы ў Белавежскай пушчы. Слаўным з'яўляецца кантракт з фірмай «James Calder», якая цалкам нішчыць Белавежу, а паводле апошніх вестак адведваюць Белавежскую пушчу міністры са шведскім і ангельскім пасламі, здаецца мне, не дзеля палявання толькі, але каб спісаць новую ўмову, дагодную толькі для заграцічных капіталістаў. Капіталісты і спекулянты пад абслонай і са згодай ураду рабуюць Заходнюю Беларусь, вырубаючы і вывозячы Белавежскую пушчу. Капіталісты і спекулянты зарабляюць аграмадныя працэнты, купляючы за бясцэн лес, а адначасна беларускія сяляне да сённяшняга дня жывуць у гліняных зямлянках, дзеля таго, што не маюць сродкаў на куплю дрэва для адбудовы знішчаных падчас вайны дамоў.

Палітыка ўраду прыпамінае метады банкрута, які спяшаючыся, за бясцэн прадае апошняе начынне з хаты, кіруючыся карысцю сённяшняга дня, бо не ведама, што будзе заўтра.

Гэтая ўласнарабунковая палітыка вывазу, пры адначасным змяншэнні прывозу, дае абман дзейнага гандлёвага балансу. Гэта з'явішча штучнае і ўтрымацца можа на кароткі час. Вось ужо апошнія месяцы паказваюць штораз мацнейшае спаданне. Палажэнне гэнае мусіць павелічацца штораз мацней. Анамаліяй гэтаксама ёсць факт, што падчас узвялічанага вывазу за граніцу запас валют у Польскім Банку штораз меншае і меншае. Ужо за месяц перад перыядам новага спадку злотага выказвае заграцічная прэса, што пакрыццё ў Польскім Банку выносіць толькі 5 %, а не 30 % з нечым, як гэта падае ўрад і буржуазная прэса. Тады бачым, што пры дзейным гандлёвым балансе маем уемны баланс платнічы.

Гэта яшчэ адзін доказ, што палажэнне польскае



гаспадаркі катастрафічнае. З'явішча гэтае тлумачыцца ў сферах капіталістычных тым, што ў гэным часе прыпадаюць тэрміны плацяжу заграцічных дзяржаўных даўгоў. Няма сумліву, што сплата ўзятых на вялікія працэнты даўгоў руйнуе скарб, але і тое ёсць пэўным, што экспарцёры, г. зн. вывозячыя за граніцу капіталісты і спекулянты, нягледзячы на распараджэнні аб гэтым, не складаюць у Польскім Банку атрыманых з вывазу валютаў. Дзяржава, якая так энергічна і няўхільна ўмее прымусіць працоўныя класы плаціць без меры цяжкія налогі, з'яўляецца слабаю і бяссільнаю ў стасунку да класаў багатых.

Няўхільным вынікам паменшання запасу валют у Банку Польскім, інакш кажучы, падставы, на якой апіраецца польскі злот, ёсць спадак злотага, які, паводле афіцыйных дадзеных, мае ўжо толькі пятую часць свайго першага забеспячэння. У варунках, у якіх знаходзіцца капіталістычная Польшча, з палажэння гэтага няма выхаду, яно будзе горшаць, і ўжо выстаўляе свае зубы інфляцыя.

Усе надзеі буржуазна-капіталістычных кругоў ґрунтаваліся на атрыманні заграцічнае пазыкі. Апошнія доследы, аднак, паказалі, што разлічваць на гэта абсалютна нельга.

Тыя малыя пазыкі, якія ўдалося атрымаць пад заставу манаполю тытунёвага і серніковага, разам з пазыкай Дылёнаўскаю, зацягнены на такіх цяжкіх ліхвярскіх варунках, што яны сталіся не толькі новым цяжарам для збяднелага краю, але гэтаксама пераканалі, што аб далейшых пазыках думаць нельга.

Перспектыва гэтая для краю, так гаспадарча занябалага, як Польшча, краю, які перайшоў нядаўна праз перыяд інфляцыі, настолькі страшная, што п. Міністр Скарбу не мае адвагі прызнацца да гэнае канечнасці, але ў пару дзён па першым чытанні бюджэтнага правізорыя ўносіць уставу аб урэгуляванні

грашовага абароту і ў гэтай уставе сам прапануе нішто другое, як інфляцыю, менавіта друкаванне 81 мільёнаў злотых. Няма сумліву, што гэты зварот інфляцыі будзе для фінансаў Дзяржавы смяротным.

Беспасярэдным вынікам такога палажэння будзе ўтрата апошняга ценю гаспадарчай незалежнасці і замена краю ў калонію загранічнага капіталу, у край, які будзе дастаўляць толькі сыравіну. П. Міністр Скарбу не мае смеласці глянуць праўдзе ў вочы і бароніцца толькі прад словам «інфляцыя», а, як ужо казаў, сам гэтую інфляцыю падтрымлівае і сам прыходзіць з інфляцыйнымі праектамі. Цяжка, бо іншага нічога зрабіць не можа. Бо ці ж ёсць пры капіталістычнай гаспадарцы ў сённяшніх польскіх варунках іншы выхад з цяперашняй сітуацыі, як інфляцыя? Бюджэт жа з былога года замкнулі з дэфіцытам 400 мільёнаў злотых, а першыя месяцы бягучага года таксама выказваюць дэфіцыт. Не прыходзіцца сумнявацца, што гэтаксама будзе і далей, бо ўвесь цяжар дзяржаўных падаткаў ляжыць на збедненай ужо дарэшты працоўнай класе, а дзяржаўныя расходы ёсць саўсім не прадуктыўныя. Львіная часць дзяржаўных даходаў ідзе на заплату ліхвярскіх працэнтаў ад загранічных даўгоў, на войска і паліцыю. І сёння прыйшоў урад у Палату з жаданнем павелічэння яшчэ прэлімінаваных да гэтага часу даходаў на карысць Міністэрства Вайсковых Спраў і Міністэрства Скарбу. Урад штораз болей ламае засаду, паводле якой новыя выдаткі могуць быць робленымі ў меру таго, як на гэта ёсць пакрыццё ў пазіцыях даходу. Сёння ўрад дамагаецца ад Сойма прызнання павелічэння крэдытаў. А дзе ж ёсць пакрыццё іх? Пакрыцця няма. Пакрыццё ёсць толькі ў інфляцыі. Ці ж бы ўрад хацеў угаварыць каго, што дзякуючы перанясенню бюджэтнага году з 1 студзеня на 1 ліпеня сітуацыя фінансавая і сітуацыя бюджэтная палепшылася? Трэба спа-



дзявацца, аднак, што даходы зменшацца primo дзякуючы таму, што вываз збожжа ў надходзячым часе ўпадзе да мінімуму, secundo, з даведзенай да крайняга бядоцтва працоўнай люднасці ніводная ўжо падатковая шруба не выцісне болей даходаў, а іншых крыніцаў даходу ўрад шукаць не ўмее і не адважваецца. І не ўмее заглыбіцца ў кішэні тых, якія называюць сябе «знанымі жабракамі», а ў істоце ёсць такімі жабракамі, якія маюць вялікія скарбы і проці якіх трэба было б выдаць вострую антыжабрачую ўставу. Я ўспамінаў ужо аб падатку ад маёмасці, які за цану капчатковага зруйнавання сябе плаціла працоўная класа, а якога не плаціла заможная класа, сёння нават на гэтым паседжанні Сойма, на якім урад дамагаецца прызнання павялічаных крэдытаў, мае быць разгледжаны ў апошнім чытанні ўставу аб дапамозе для цынковага промыслу, гэта значыць аб падараванні фірме «Giesche» на Горным Слёнску 30 000 000 належнага падатку. Прэлімінованыя праз урад даходы маюць свае галоўныя крыніцы ў пасярэдніх падатках, г. зн. яны кладуцца ўсім цяжарам на шырокую масу найбяднейшай люднасці ў Дзяржаве. У істоце афіцыяльна прэлімінуецца на пасярэднія падаткі каля 30 % агульнай сумы даходаў. Але, разгледзеўшы старанна бюджэт, лёгка пераканацца, што далейшыя пазіцыі даходаў з гэтага самага аблажэння толькі ўмела перагрупаваныя і ўпісаныя пад іншыя рубрыкі. Але працоўных масаў не ашукаюць гэткія штучкі і выкруты, бо гэныя масы гнуцца і ўпадаюць пад цяжарам церазмерных налогаў, крытычнасць іх узрастае пасля кожнага новага ўрадавага праекта.

Крывава заробленыя грошы, выдзертыя ад працоўных масаў, аддаюцца ў аграмадных сумах на войска, бо гэтага вымагае імперыялістычна-захватная палітыка, якой прытрымоўваецца ўрад. Аграмадныя сумы ідуць на ўтрыманне паліцыі, бо абшарніцка-

буржуазны ўрад вядзе барацьбу з паднявольнай працоўнай класай, з народам украінскім і беларускім. Гэная падвойная афензіва ўраду, вонкавая і ўнутраная, для якой патрэба масы войска і паліцыі з'ядае больш чым палову даходаў Дзяржавы. Усе акраінныя землі, калі не ўся Польшча, нічога не перабольшваючы, з'яўляюцца адной турмой для сялян і работнікаў, для беларускай, украінскай і літоўскай інтэлігенцыі, якая працуе над культурным адраджэннем і грамадскім вызваленнем сваіх народаў.

Тайная і яўная паліцыя, як саранча, апанавала ўвесь край, сеючы нечуваны, варварскі страх і тэрор сярод жыхарства.

Без мала ўсё жыхарства, яго мужчынская палова ўнесена на г. зв. «listy nieprawomyślnych» (спісы западозраных), спісы гэтыя вядуцца з велізарным ужыццем грошаў і энергіі, са стараннем, годным для лепшай справы.

Ці можна гаварыць аб правапарадку і незалежных судох? Дэфензіва правіць, дэфензіва й судзіць. Суды з'яўляюцца мёртвай прыладай у руках дэфензівы. Працэс Біспінга паказаў усяму свету, асабліва ж працоўнаму люду, што мужыка можна бяскарна замардаваць, што можна паліць беларускія вёскі і за гэта атрымаць назоў нацыянальнага героя — не кажу ўжо аб бяскарнасці. І ці хто проці гэтага пратэстуе? То ж Біспінг, які змардаваў некалькі беларускіх сялян, гэтым на судзе хваліўся і знайшоў абарону ў асобе пасла, які лічыць сябе дэмакратам і хрысціянінам,— а забойцу ставіць у прыклад грамадзянскіх і палітычных цнотаў.

Хачу закрануць тут яшчэ адну справу, калі кажу аб судох, а менавіта тое, што сённяшнія суды на г. зв. «крэсах» у працэсах палітычных адбываюцца пры зачыненых дзвярах, што з'яўляецца насмешкай з усялякага вымеру справядлівасці.



Гэта не ёсць незалежныя суды, гэта ёсць судовадэфензіўныя закаморкі. А што творыцца ў праўдзівых закаморках палітычнай паліцыі? Сапраўднае пекла, сапраўдная Gehenna, дзе боль і скрыгат зубоў не ёсць саўсім плодам фантазіі. На кожным кроку спыняюцца ўсялякія канстытуцыйныя свабоды, de facto саўсім натуральна, бо ідзе аб сялянах і работніках, украінцах, жыдох, беларусах і літвінах. Усякія ж пісаныя і няпісаныя прывілеі ёсць для паноў і ўсялякіх падпанкаў, для абшарнікаў, для ксяндзоў і для кожнага элеганцкага паразіта. Усялякае культурнае і грамадскае жыццё, апрача таго, калі яно датычыць пануючых класаў або іхніх падслужнікаў, ёсць тамаванае і гвалтам і насіллем. Але х'ена-пястоўскія заганячы і розныя каланізатары маюць выключны манаполь на скліканне мітынгаў, сабранняў і закладанне таварыстваў. Моўныя ўставы паказалі ўжо ў жыцці ўсю сваю ману і ашуканства. Сёння ўсе тыя, хто прылажыў руку да гэтага ўставу, калі хочуць быць людзьмі прыстойнымі, мусяць публічна адрачыся ад іх. Яны мелі служыць нібыта для ўхілення нацыянальных спрэчак і для згоднага сужыцця Народаў. А тымчасам знішчылі і загубілі дашчэнту беларускае і ўкраінскае школьніцтва. Апухцін мог бы пазайздросціць поспехам п. Грабскаму. Нездарма ж п. Грабскі так блізка аціраўся ў царскіх сенях: навука не пайшла ў лес.

Ніякія патрэбы ў гэным палажэнні, калі маем дачыненне з урадам гаспадарчай немачы і адначасна бессаромнага гаспадарчага вызыску працоўных класаў, бессаромнага паланізатарскага гвалту ў адносінах да падняволеных народаў — у гэным палажэнні нас абавязваць не могуць.

Галасуем проці бюджэтнага правізорыя.

# ПРАМОВА НА 288-м ПАСЯДЖЭННІ СОЙМА 25 ЧЭРВЕНЯ 1926 ГОДА ПАДЧАС ДРУГОГА ЧЫТАННЯ ПРАЕКТА БЮДЖЭТУ НА ТРЭЦІ КВАРТАЛ 1926 ГОДА

Панове! Кожны, хто палітычна думае і палітычна працуе, у цяперашні момант перадусім мусіць даць адказ на пытанне: што сталася ў Польшчы,— што сталася ў гэтыя крывавыя маёвыя дні. Погляды зусім разыходзяцца. Адны цвердзяць — перадусім на правіцы,— што нічога не сталася,— што адны людзі толькі замянілі другіх, што не варта было рабіць гэтай т. зв. рэвалюцыі. Другія зноў, а перадусім шырокія масы грамадзянства, чакалі і сягоння яшчэ, часткова, чакаюць глыбокай грамадскай перамены ад гэтых пераваротаў. Дзе праўда? На жаль, праўды няма нават пасярэдзіне. Пануе поўнае замяшанне, ніхто не можа зарыентавацца ў тым, што ёсць.

Вядома выказванне Лойд Джорджа, што ніхто не ведае польскай палітыкі. Гэта адносілася да заграцічнай польскай палітыкі і было зразумелай рэчай, што польская заграцічная палітыка тады, калі Польшча зрабілася цацкай вялікіх дзяржаў, не магла быць выразнай, а мусіла плаваць ад аднае дзяржавы да другой.

Калі гаварыць аб унутранай палітыцы, то таксама і да гэтай пары няма і не было сталай і выразнай палітычнай лініі. Унутраную палітыку схарактарызавала меранне сілаў на намеры, адсутнасць азначанай лініі і супярэчнасць паміж інтарэсамі шырокіх масаў грамадзянства і інтарэсамі Дзяржавы, з аднаго боку, і паміж інтарэсамі працоўнага класа, з другога боку. Можна тут адрозніць два перыяды, адзін — перыяд бурнага поспеху і палітычныя перспектывы зусім неспадзяваныя. Вось жа замест розных канцэпцыяў аўтанамічнай Польшчы пры Расеі ці якойсьці абрэзанай Польшчы пры Аўстрыі, паўстае магчымасць сягаць туды, куды вока не сягне. Пачынаюць гаварыць аб Кіеве, ідуць на Кіеў, каласальны поспех на Усходзе. Пілсудскі кажа, што можа йсці за Дняпро, наогул туды, дзе яму толькі спадабаецца,— адным словам, як кажуць: Польшча ад мора да мора і ад Берліна да Табольска. Хутка, аднак, настала маленькае ацверазенне ў 1920 годзе з прычыны наступлення на Варшаву. Польшча, аднак, якімсьці цудам, як кажуць, над Віслай, уратавалася. Аднак паўтараю — у гістарычнай перспектыве гэта зусім прыпадковыя і неспадзяваныя для самых правадыроў польскай буржуазіі поспехі. Пасля гэтага бурлівага перыяду поспеху настаў час выразнага расчаравання. Першым пунктам расчаравання былі «крэсы»,— «крэсы», якія давалі гэтак вялікія надзеі польскаму імперыялізму. Вельмі хутка настала пераканание, што гэты беларускі народ, аб прыстойнасці якога чулі мы яшчэ сягоння з вуснаў п. пасла Дэмбскага,— што гэты прыстойны беларускі і ўкраінскі народ не хоча быць толькі матэрыялам для польскага імперыялізму, што гэтыя народы выходзяць на дарогу свайго нацыянальнага і палітычнага адраджэння, чуюць у сабе новыя сілы і даюць азнакі барацьбы. Першай гэткай азнакай і першай перамогай былі выбары да Сойма. Доўга вы гаварылі, што жыды правялі ўкраінцаў і беларусаў да Сойма, аднак цяпер ужо вы самі перасталі гэта гаварыць. Пасля прыйшло бурлівае лета гэтак званай дыверсійнай акцыі, і зноў хацелі бачыць у гэтым вонкавыя прычыны — акцыю суседняй дзяржавы. А, аднак, усё тое, што робіцца сягоння ў межах кароннай Польшчы, што рабілася ў Калішы, што рабілася ў апошніх днёх у Астроўцы, у Гастыніне,— усё гэта даказвае, што іменна ў тым бурлівым леце на «крэсах» не было вонкавай рукі, а фактыч-

на была рэакцыя,— быў рух украінскай і беларускай люднасці.

Далей наступным расчараваннем — з боку вонкавай палітыкі — было захістанне тае, здавалася, непарушальнае на доўгія дзесяткі гадоў, аб якую апіралася ўся польская палітыка,— а менавіта захістанне Францыі. І ў лучнасці з захістаннем Францыі Польшчу спаткалі на грунце заграмічнай палітыкі адна па другой няўдачы, і ўжо тое захапленне з Захаду, гэтае слова Захад — якоесь магічнае слова — пачало паволі траціць значэнне, прынамсі, у шырокіх сялянска-работніцкіх масах, і ў значнай меры інтэлігенцыі, а нават сярод некаторых кіруючых буржуазна-абшарніцкіх угрупаванняў.

Трэцяе расчараванне і найважнейшае — гэта было расчараванне ў сваёй гаспадарцы. Усюды думалі, што Польшча, якая дастала гэтулькі натуральных багаццяў, якая дастала гэтулькі зямлі, багатай жалезнай рудой і вуглём, засяўной зямлі і лясоў,— што гэтая Польшча патрапіць паставіць гаспадарку на ногі вельмі хутка. Гэта была агульная вера. Расчараванне, аднак, прыйшло вельмі хутка. Польшча ўвайшла ў перыяд вострага і сталага крызісу, і выхад з гэтага крызісу вельмі цяжкі, а можа быць, нават безнадзейны, пры тэй гаспадарцы, пры тым грамадскім ладзе, які сягоння існуе.

Вось найважнейшая прычына гэтай няўдалай гаспадаркі — гэта перадусім жыццё па-над меру грамадства і дзяржавы і прыватнае жыццё па-над меру ўсяе польскае буржуазіі і шляхты. У грамадскім жыцці хацелі дасягнуць вышыні вялікае дзяржавы, заграмічную палітыку вялі гэткую ж і наладзілі дэфензіву па-над меру нават вялікай дзяржавы. А ў рэзультаце ўсё гэта дало, што збяднелы край не мог вытрымаць і пачала трашчаць уся гаспадарка. І пачалі тады гэты хворы арганізм з боку грамадскага і



палітычнага папраўляць і лячыць. Ужо ўрад Сікорскага выступіў у характары «направы» рэспублікі. Пасля прыходзілі іншыя ўрады, якія сцвердзілі, што будзе горш. Прыйшоў, урэшце, Грабскі, пра якога проста сказана, што аграбіў Польшчу,— пачалі рабіць фінансавую, валютную і гаспадарчую санацыю. Санацыі лопалі адна па другой і пачалі рабіць санацыю санацыі. Пасля санацыі санацыі прыйшоў, урэшце, час, што трэба было яшчэ адну санацыю зрабіць, а менавіта «маральную санацыю». Адзін з паслоў,— п. пасол Міхальскі — параўнаў кааліцыйны ўрад Х'ена-Пяста-ППС да таго лебедзя, рака і шчупака з байкі Крылова, дзе кожны цягне на свой бок. Маю ўражанне, што пэўны вельмі папулярны чалавек у Польшчы ў сваім зацішшы, разважаўшы аб урадах, прыпомніў сабе другую байку Крылова — «Квартэт»,— і прыраўнаваў да яго гэтыя ўрады міністраў, якія ўпраўлялі залежна ад таго, хто як сядзе, думаючы, што тады будзе гармонія ў музыцы; — і гэты папулярны чалавек, прыпомніўшы словы «как ни садитесь — всё в музыканты не годитесь», як у расейскай быліне «Салавей-Разбойнік» — узяў бізун і разагнаў усё гэта.

Які ж сэнс усяго таго, што сталася? Шырокія масы грамадзянства чакалі вялікіх перамен і таму вуліцай йшлі сяляне і работнікі — пераважна ў карэннай Польшчы — і частка цяпер ідуць за імем Пілсудскага, бо спадзяваліся, што Пілсудскі,— гэта экс-сацыяліст і экс-рэвалюцыянер — які ў часе перавароту сказаў, што не можа быць занадта многа несправядлівасці ў адносінах да тых, якія сваю працу аддаюць іншым;— спадзяваліся, што гэты Пілсудскі дасць сялянам зямлю, работнікам працу і вольнасць паняволеным і прыгнечаным народам.

Але хутка настала расчараванне. Калі гаварыць аб «крэсах», спецыяльна аб беларускіх землях, то мож-

на сказаць, што там з імем Пілсудскага не звязвалі вельмі вялікіх надзей. Калі хто звязваў гэтыя надзеі і гаварыў, што можа быць лепей, дзякуючы гэтай перамене, то толькі таму, што за часоў, калі Пілсудскі быў начальнікам Дзяржавы, селянін гэтакіх падаткаў не плаціў, якія плаціў за часоў Грабскага і Скшынскага. *(Перарыванні.)* Плаціў інфляцыю, але на гэта трэба быць эканамістам, каб зразумець, што гэта такое інфляцыя. Селянін гэтага не разумее і думаў, што гэта дзякуючы вайне. Але зараз пасля перавароту Пілсудскага прыйшлі срокі платы падаткаў, розных прасрочанняў, і калі пры сцягванні гэтых падаткаў пачалі сцягваць скуру з селяніна, селянін сказаў: «Даволі».

І прыпомніў сабе Пілсудскага, таго Пілсудскага, які распачаў асадніцтва на «крэсах», таго Пілсудскага, пры якім дэфензіва трактавала сялян гэтак, як цяпер таго Пілсудскага, які абяцаў федэрацыю і які пасля вельмі ўстыдліва яе выракся і сказаў, што хоць гаварыў аб федэрацыі, але ніколі паважна гэта не трактаваў. Сказаў тады селянін: «Даволі, не можна спадзявацца ад Пілсудскага палёгкі». Не можна спадзявацца ад Пілсудскага палёгкаў у нацыянальных справах.

Значыць, выглядала б, што нічога не змянілася, а, аднак, змянілася. Не змянілася толькі тое, што ўрад Пілсудскага, які гэтак многа шырока і высока гаварыў аб маральнасці, што гэты ўрад нічога не гаварыў якраз аб зацягнуўшыхся падатках, аб тых 740 мільёнах, што не заплачаны абшарнікамі і буржуазіяй.

Вы пасміхаецеся,— вельмі вас, панове, разумею, што вы, як абшарнікі, пасміхаецеся. У грамадскай палітыцы нібы ўсё на месцы, толькі курс больш рашучы. Абшарнікі і асаднікі на «крэсах» так паднялі галаву, як ніколі да гэтага часу не паднімалі. Вы, панове, не ведаеце,— можа, не будзеце ўжо пасміхацца,— што на гэтым грунце паўстала цэлая хваля канфліктаў паміж вёскай і дваром. *(Голас на лявіцы: «Знаць моцную ўладу».)* Калі гаварыць аб сервітутах, якія звязаны амаль з кожнай вёскай,— то гэта першая вясна, калі абшарнікі так бессаромна папросту пачалі наступаць з сялянамі, пачалі на гвалт прадаваць сервітутную зямлю, не маючы на гэта права. І калі ў гэтым годзе, а менавіта цяпер сяляне на свае пасвішчы, якія да іх паводле права належаць з-прад вякоў, выгналі свае стады, з'явілася паліцыя — і не ў адным месцы, але ў кожным павеце было па некалькі гэткіх выпадкаў, што з'явілася паліцыя і страляла ў сялян, разганяючы іх. *(Голас на правіцы: «Парадак быць мусіць».)* Парадак быць мусіць, але на гэта няма ніякага права.

Далей — Пілсудскі рэвалюцыянер сам, тэрарыст сам, экс-сацыяліст, які змагаўся за вольнасць, сягоння са спакойным сэрцам і сумленнем адносіцца да тысячаў тых людзей — найлепшых сыноў свайго народу і свае грамадскай класы, якая змагалася за вольнасць для сялян і работнікаў і ўцісненых народаў. Пяць ці шэсць тысячаў палітычных вязняў гніе ў астрогах, а Пілсудскі слова не пусціць аб амністыі,— і гэта вельмі характэрна.

Калі гаварыць аб праследаванні прэсы, то прэса праследуецца яшчэ больш востра, чым перад гэтым. Перад гэтым закрываліся якімсьці канстытуцыйным поглядам, а цяпер гавораць: такі час, што не можам пазволіць на гэтае або на тое. Тое самае са сходамі і вечамі, наогул з усімі грамадзянскімі свабодамі.

Гаворачы аб сцягванні падаткаў, мушу тут прыпомніць адну падрабязнасць, што ўжо выданы загад, а калі не выданы, то ўведзена на практыцы, што да кожнага секвестратара, які сцягвае падаткі, прыстаўляецца адзін вельмі цікавы дадатак, а іменна паліцы-

янт з ружжом, які прыходзіць і з ружжом і штыхом вырывае з-пад галавы апошнюю падушку ў нашых сялян. У дварох гэтага не робяць, і гэта дае магчымасць пану-абшарніку Дубановічу вельмі вясёла пасміхацца і рабіць дасціпы.

Калі гаварыць аб новым курсе палітыкі да меншасцяў, то тут кормяць людзей, людзей пакорнага сэрца, прыстойных прадстаўнікоў народу, абяцанкамі, але абяцанкі-цацанкі, а камусьці радасць,— гэта кажа прыказка. Мушу тут зачапіць яшчэ адну справу, бо аб урадзе не маю чаго гаварыць. У грунце рэчы я таксама магу махнуць рукой на ўрад, як урад на мяне, бо ўрад апрача гутаркі з пэўнымі людзьмі, апрача фармавання запрадаўшыхся арганізацыяў, якіхсьці розных Паўлюкевічаў, абсалютна ніякіх іншых планаў не мае,— і яны — Паўлюкевічы — пазапарламентарна маюць прадстаўляць украінскую і беларускую грамадскую думку: федэруецца з Паўлюкевічамі, гэта значыць з тымі, якіх з бюджэту беларускіх сялян і работнікаў утрымоўвае.

Але хацеў бы зачапіць адну справу, а іменна апошняе аб'ясненне ў справе нацыянальных меншасцяў польскай дэмакратычнай лявіцы. Гэта — прызнаю паном — адвага з вашага боку. Фактычна ўся дасюлешняя палітыка да нацыянальных меншасцяў была дыктавана тэрорам на ўрад з боку дэвотак з-пад Святога Крыжа. Вы, панове, мелі больш адвагі, чым тыя людзі, што выйшлі з маёвай рэвалюцыі і не пабаяліся гэтых дэвотак і абяцалі меншасцям: беларусам і ўкраінцам... аж аўтаномію. Я скажу больш. Вы пайшлі так далёка, што прызналі беларусам і ўкраінцам права на незалежнасць — але толькі... за кардонам. Пазнаць можна ў вас патомкаў польскай шляхты, а іменна Заглобы, які дараваў Нідэрландзію. *(Воплескі на лаўках меншасцяў.)* Я думаю, што далёка лепей зрабілі б вы, калі б сказалі папросту, што аб аўтаноміі можа быць мова, а аб незалежнасці не гаворым,— але гэтак прызнаваць права незалежнасці дзесьці ў іншым месцы, а тут у сябе толькі аўтаномію... то гэта такая этыка, якой называць не буду. Але, аднак, кажу, што штосьці сталася, што штосьці змянілася. Маршалак Пілсудскі сказаў, што зрабіў рэвалюцыю праз вялікае і падвойнае «Р», але без рэвалюцыйных вынікаў. Чалавек, які не жартуе словамі і які шануе здаровы рассудак, не можа сказаць, што штосьці сталася так вялікае, як рэвалюцыя, і то без ніякіх рэзультатаў. Рэвалюцыя мусіць мець рэзультаты і то рэзультаты рэвалюцыйныя,— або гэта не рэвалюцыя. Я думаю, што гэта не рэвалюцыя, бо гэта не быў пераварот,— не была рэвалюцыя аднае класы проці другой. Адбылося толькі перамяшчэнне самай польскай буржуазіі. Пілсудскі, які думаў, што той датагачасны квартэт не дасць ніякай сімфоніі, разагнаў усю гэтую музыку і ўзяўся сам за кіраўніцтва. Мае кіраваць, чуючы, ці не чуючы, што над ім ёсць іншы кіраўнік,— кіраўнік ангельска-амерыканскага капіталу.

Сцвярджаю, што Пілсудскі вырашае тое самае грамадскае пытанне, а іменна ратаванне польскай буржуазіі і імперыялізму, тое самае пытанне, якога няздольна-ўрадуючыя ўгрупаванні не маглі вырашыць. Хоча ратаваць вас проці вас і паміма вашай волі. І таму Пілсудскі зрывае ўсялякія заслоны парламентарызму і канстытуцыянізму,— маем папросту незамаскаваную вайсковую дыктатуру, уведзеную нібы ў імя ўсяго народу, не ў імя партыі, а фактычна ў інтарэсе валадаючай класы, у інтарэсе польскай буржуазіі, у інтарэсе абшарнікаў, а нават у інтарэсе вялікага капіталу і амерыканскага гандлю.

Хоць не ўсё скрышталізавалася ў гэтай дыктатуры Пілсудскага, аднак штораз выразней вымалёўваецца фашыстоўскі воблік і нават ёсць каласальнае

псіхічнае падабенства паміж Мусаліні і Пілсудскім. Абодва экс-рэвалюцыянеры, экс-сацыялісты, абодва хварэюць на манію велічы: адзін — на веліч свайго народу, другі — на сваю ўласную веліч; аднак абодва маюць незакілзаваную фантазію велічы — памерах, да гэтага часу ў гісторыі не спатканых.

Калі гаварыць аб спосабе кіравання, трэба сказаць, што гвалт, сіла і кулак ужо гуляюць у Польшчы з большай свабодай і шырынёй, чым у Італіі. А якая ж перспектыва выглядае з гэтага стану рэчы, які зусім слушна мусіць быць названы Пілсудчынай? Няма сумліву, што грунт пасля маёвага перавароту не зрабіўся больш цвёрдым, але зрабіўся больш няпэўным. Польшча прыспешаным тэмпам ідзе да сацыяльнай рэвалюцыі. Гаспадарка зруйнована, і палажэнне проста без выхаду. Ніякі геній не паможа. Ніякі ўвоз, хоць бы найбольш амерыканскі, нічога не зробіць, бо для ўтрымоўвання вялікадзяржаўнай арміі, вялікадзяржаўнага паліцыянта, адміністрацыі, дэфензівы багацці краю вычарпаліся.

Пануе агульнае збядненне найшырэйшых масаў грамадзянства: селяніна, работніка і працоўнай інтэлігенцыі; — не паноў, бо паны як курылі цыгары, так і кураць. Прадукцыя стаіць. А тут веліч буржуазна-абшарнічай дзяржавы, вялікадзяржаўная манія велічы жадае штораз новых і штораз цяжэйшых ахвяраў перадусім ад тых, хто аддае сваю працу іншым.

Каб памагчы гэтаму, трэба каласальных грошай, трэба помачы загранічнага капіталу, іначай — сацыяльная рэвалюцыя. І якраз гэтыя новыя моманты ў польскай палітыцы, гэтыя моманты робяць, можна сказаць, пераломны час. Цяпер якраз стаўся гэты паварот у польскай палітыцы, які можна назваць пачаткам ангельскай ілюзіі. Пасля французскіх ілюзіяў, пасля французскай хваробы, прыходзяць ангельскія ілюзіі, прыходзіць ангельская хвароба. Польшча



робіцца лялькай імперыялістычных інтарэсаў Англіі. Бо так: калі Польшча дастане пазыку, то дастане не на адбудову свае гаспадаркі як такой, а толькі палітычную пазыку,— пазыку, якая запэўніць Англіі, што Польшча разам з яе іншымі новаздабытымі васаламі стане ў супольны фронт проці Савецкага Саюза. (*П. Мантэрус:* «Гэта вам баліць».) Мне здаецца, што вам больш баліць, чым нам. Пасля гэтай пазыкі гаспадарчая сітуацыя можа часткова паправіцца, але паправіцца ненадоўга, бо для развіцця польскай прамысловасці, для развіцця польскай гаспадаркі патрэбны рынак збыту. А рынкі збыту ляжаць перадусім на Усходзе. Новая ж ангельская палітыка гэтыя рынкі зачыняе, а не адчыняе, хоць савецкія і ўсходнія рынкі наагул з кожным днём расшыраюцца і маглі б у значнай меры змясціць прадукцыю польскай прамысловасці. Якія ж будуць рэзультаты гэтай антысавецкай палітыкі? Мне здаецца, што гэта не толькі я скажу,— што згодзяцца са мною нават угрупаванні, якія засядаюць на правіцы Сойма,— што, дзякуючы гэтай палітыцы, будзе вайна з Савецкім Саюзам,— вайна з Расеяй, як тут кажуць.

І ініцыятары новай праангельскай палітыкі павінны вельмі паважна затрымацца над тым, чым гэта можа скончыцца, бо мне здаецца, што ў перспектыве падзеяў Англіі само існаванне Польшчы не з'яўляецца неабходным. І тады, калі Англія забяспечыць спакой на Захадзе, калі будзе пераконана, што вайна на Усходзе не выкліча ваеннага пажару ва ўсёй Еўропе,— тады Англія можа даць грошы нават на тое, каб упхнуць Польшчу ў вайну і папросту згубіць яе. І, такім чынам, Нямеччына была б задаволена на Захадзе, а тады Саветы, ці Расея, мела б ці беспасярэднюю граніцу, ці ў кожным разе граніцу сваіх палітычных уплываў з Нямеччынай, а ў такім выпадку мусіла б стаць у абозе антынямецкім.

Утварэнне новага рэжыму залежыць ад ангельска-амерыканскага капіталу. Капіталу гэтага не будзе — і ўся перспектыва не ўдасца. А калі будзе капітал, то будзе ўзмоцнены маёмасны стан польскай буржуазіі.

У лучнасці са стабілізацыяй паўстануць дваякага роду ілюзіі: з аднаго боку, грамадскія ілюзіі, а з другога — палітычныя, калі гавараць аб нацыянальных меншасцях. Грамадскімі ілюзіямі, ілюзіямі для шырокіх масаў,— найважней — для ўгадовых правадыроў іх — гэта будзе стабілізацыя капіталу. ППС год таму назад уважала за аксіёму, за пункт свайго «credo» стабілізацыю капіталізму на даўжэйшы час ў Еўропе, а сягоння ўжо чытаем на старонках «Robotnika», што капіталізм увайшоў у перыяд трывалага і глыбокага крызісу.

Калі стабілізацыя настане пад фашыстоўскай нагайкай, то будзе не моцная і хутка давядзе да агульнай вайны, бо фашысты — гэта перадусім прынцып мілітарнага кулака,— кулака нацыяналістычнага і імперыялістычнага. Паслухайце, што кажа Мусаліні, ці ў яго словах не чуеце падземных удараў вулкана, які штохвілі можа выбухнуць вайной. Мусаліні пад неба падносіць толькі свой народ, які кажа, што толькі Італія, а не хто іншы мусіць стаць на чале ўсіх народаў свету, што ўсе іншыя, нават найболей культурныя, варты толькі таго, каб чысціць боты італьянцам. Чытайце прамовы Мусаліні і параўноўвайце іх са стылем Маршала Пілсудскага. А гэтакіх паноў, як Мусаліні, штораз больш знаходзіцца ў Еўропе, і рэзультатам гэтай дактрыны з'явіцца вайна, новы сусветны пажар, які мусіць кончыцца грамадскім пераваротам.

Аб нацыянальных ілюзіях, аб гэтым новым курсе скажу толькі, што польская бюракратычная машына, створаная для нацыянальнага ўціску, не можа даць



красак вольнасці, хоць бы фальшывых і папяровых. Жадаць ад гэтай бюракратычнай машыны, каб яна давала краскі гэтай вольнасці, гэта тое самае, што хацець спячы яечню на машыне да шыцця.

Вы, панове, што абіваеце парогі кабінета Бартля, можаце вынесці з гэнага кабінета ўсмешку культурнага чалавека,— можаце пасля ў кулуарах чуць насмешкі над вамі, але канцэсіі для народу не здабудзеце, хіба што будзеце здабываць для групаў або для саміх сябе, чаго, знаючы вас, не спадзяюся.

У нацыянальнай палітыцы трэба было б прыпомніць дэвізы «маральнай санацыі» і трэба было б прыпомніць, як Пілсудскі пастулаў, якая была маральнасць Пілсудскага, калі Польшча была ўціснена, калі Польшча была падняволена. Маральнасцю Пілсудскага тады было змагацца, хоць бы з аружжам у руках — з браўнінгам, з бомбай. Тады маральнасцю Пілсудскага было разбіваць цягнікі, разбіваць касы, забіваць урадоўцаў, заклікаць не плаціць падаткаў. Ніхто прыстойны не можа сказаць, што можам іншую навуку, іншы спосаб тактыкі вынесці з гэтага, як тое, што рабіў Пілсудскі. Але не хачу, каб блага разумелі мяне. Кажу, што цяпер мы не бачым адпаведнага грунту да беспасрэднай дзейнай акцыі. Мы не ідзем шляхам тэрору, асабліва шляхам індывідуальнага тэрору, але ідзем да масаў з дэвізам нацыянальнага і сацыяльнага ўсведамлення, з дэвізам класавай салідарнасці, класавай барацьбы, барацьбы сялян і работнікаў пляча з плячом за самаазначэнне народаў, за сялянска-работніцкі ўрад, за перамогу над шляхтай і буржуазіяй, за грунтоўнае перабудаванне ўсяго грамадскага ладу.

Даверу да ўраду не маем і галасаваць за бюджэт не будзем.

## ПРАМОВА НА 293-м ПАСЯДЖЭННІ СОЙМА 19 ЛІПЕНЯ 1926 ГОДА ПРЫ АБМЕРКАВАННІ ПРАЕКТА ЗМЕНЫ КАНСТЫТУЦЫІ

Панове! Рэвалюцыйны ўраган шалеў на Усходзе, вырываючы з коранем апошнія ўстоі царскага парадку ў старой Расіі, крышачы ланцугі няволі, наложаныя на селяніна і работніка, на прыгнечаныя народы. З другога боку, на Захадзе палітычны барометр паказвае, што збліжаецца грамадзянская бура. Вось у такім гістарычным моманце з бяздоння паваеннага хаосу ўсплыла незалежная Польшча. Па кароткім эпізодзе «Людовага Жонду» з панам Марачэўскім на чале, пасля таго, як гэты нібыта сацыялістычны ўрад без усякае барацьбы аддаў самахоць уладу ў рукі буржуазіі — паны шляхта, абшарнікі і фабрыканты сталіся поўнымі гаспадарамі ладу і няладу Рэчы Паспалітае. Аднак жа ўзяліся да гэтае ўлады вельмі асцярожна і хітра, разумеючы дужа добра, што так адразу нельга паказваць сваіх кіпцюроў, разумеючы, што за ўсякую цану мусяць утрымацца на ўзбураных хвалях, пад пагрозаю страты не толькі сваіх маёнткаў, сваіх фабрык, але і самога жыцця.

У такім палажэнні пачалі паны шукаць нейкае дошкі ратунку. Гэткай дошкаю ратунку, здольнаю праз даўжэйшы час вынесці панаванне буржуазіі, з'явілася парламентарная дэмакратыя. Дык і абяцалі працоўнаму народу ды нацыянальным меншасцям шырокія палітычныя правы, а нават вырашальны ўплыў на ўсю грамадскую гаспадарку. Супакойцеся! Не трэба страху рэвалюцыі — гладкім шляхам эвалюцыі, шляхам галасавання, кіданнем нумаркоў на выбарах у Сойм, пасольскім прысяданнем ды ўставаннем у Сойме — здабудзеце дабрабыт у справядлівым грамадскім строі! Бачце, мы даем вам самае шырокае,



самае дэмакратычнае выбранае права! Так казалі тады буржуазна-дэмакратычныя правадыры і ніхто тады не спрачаўся з роўным, простым, тайным, агульным, прапарцыянальным галасаваннем. Быў такі час, што далі б усялякае галасаванне, абы толькі супакоіць узбураны народ. Словам, прагаласавалі і выбралі першы Устаноўчы Сойм...

Сабраўся Сойм і пачаў пісаць Канстытуцыю, павёў гутаркі аб зямельнай рэформе, аб правах для работнікаў: зямлю абяцалі, 8-гадзінны дзень працы прынялі... Калі Пілсудскі вёў вайну проці работніцка-сялянскае ўлады Саветаў, тады патрэбны былі для народа абяцанкі, для сялян, для работнікаў, для беларусаў, для ўкраінцаў.

Але вось вайна скончана, улада буржуазіі ўмацавалася, і абяцанкі сталіся непатрэбнымі. Гутаркі аб зямлі так і засталіся гутаркамі, нягледзячы на цэлы рад законаў аб рэформе «рольнай», ад работнікаў адбіраюцца іхныя правы — памалу касуецца 8-гадзінны дзень працы,— урэшце, змяняецца і сама Канстытуцыя. Праўду кажучы, не так цяжка ўжо й змяніць яе, бо запраўды аж дагэтуль не была яна ажыццёўлена: была яна нейкім гліняным балванам, якога спрытныя рукі размалявалі яскравымі, вясёлкавымі колерамі. На фалдах ейнай вопраткі выпісана роўнасць, брацтва, свабода і справядлівасць, але ў руках... старыя царскія даваенныя законы, з нягоднымі прыпіскамі і папраўкамі крэсавых адміністратараў — у адной руцэ, а паліцэйскай палкай — у другой.

Аб змене Канстытуцыі гаварылася даўно, аж неспадзеўкі адным ударам гарматных стрэлаў Пілсудскі збіў яе з ног і, здавалася, аканчальна разваліў. Але так толькі здавалася, бо вось ізноў яна пастаўлена на ногі, і Сойм прыступіў да яе рамонту. Запытацца, нашто гэты рамонт, нашто тое маляванне выбляклых фалдаў новымі фарбамі? Каму няведама,

што запраўды ўся ўлада знаходзіцца ў руках дыктатара Пілсудскага, што Сойм паніжаны, што паслы паслушна галасуюць пад свістам дыктатарскага бізуна. Дык навошта гэты рамонт, навошта гэтыя гутаркі, навошта гэтая відзімасць?

Відзімасць на тое, каб зняць з сябе адказнасць перад масамі, відзімасць на тое, каб зманіць гэтыя масы новападмалёваным сцягам дэмакратызму: вось, бачыце, «рэвалюцыя» ўжо адбылася (хоць і «без рэвалюцыйных скуткаў»), ну а цяпер ізноў толькі нумаркі, галасаванне, выбары. Выбірайце,— бо выбары гэта найлепшая прышчэпка проці рэвалюцыі.

Памыляецца той, хто думае, што Пілсудскі не мае плану. Не, план гэты ёсць. Няведама, у якой меры ён належыць ангельскім дырыгентам, што стаяць за плячыма Пілсудскага, але ўсюды выразна відаць вельмі лоўкія хады. Відзімасць дэмакратызму, пустыя гутаркі аб маральным адраджэнні, аб справядлівасці для тых, хто сваю працу дае другім, а адначасна ўзяць за морду масы (кажучы моваю маральнага адраджэння) і трымаць на павадку дэмакратычных правадыроў гэтых мас. (*Голас:* «А чаму яго так не любяць маючыя сферы?») Не любяць — не, гэта яны толькі робяць від, што не любяць, гэта дужа лоўкая тактыка для падману народу і вялікая шкода, што вы гэтага не разумееце.

Вось жа якім чынам пры гэтым рамонце Канстытуцыі маняцца спрытныя людзі зацугляць народныя масы.

Першае — прэзідэнту даецца права развязваць народнае прадстаўніцтва (Сойм і Сенат) без ягонае ўласнае на гэта згоды. Такім парадкам, хоць згодна з 1-м артыкулам Канстытуцыі быццам уся ўлада належыць да народу, прэзідэнт мае права распусціць кожны Сойм, калі ён яму не спадабаецца. Выходзіць тут проста па Гогалю: афіцэрская ўдава сама сябе высекла... Сойм і Сенат выбіраюць прэзідэнта, а той іх разганяе... Прыкладаў такой Канстытуцыі хіба на свеце няма, бо ўсюды, дзе прэзідэнт мае права распускаць Сойм, там яго выбірае не парламент, а ўвесь народ у агульным галасаванні. Далей ўрад дамагаецца, каб прэзідэнту было дадзена права veto, каб ён мог адным словам «не позвалям» скасаваць кожную пастанову Сойма і Сената. Такім правам карысталіся толькі манархі: цары ды кайзары ў старыя добрыя для паноў часы.

Мала гэтага. Урад дамагаецца для прэзідэнта права выдаваць законы без Сойма і Сената. Такое права меў цар на падставе § 87 расейскіх асноўных законаў, калі існавала хірлявая, бяссільная Дума. Маючы такія законы — пры цяперашнім стане рэчаў — урад пп. Пілсудскага-Бартля быў бы абсалютным неабмежаваным урадам. Існаванне Сойма было б толькі малёванай заслонкай для прыкрыцця голае дыктатуры капіталу (чужаземнага...).

Але й гэтага панам з правіцы замала: як ні слабы Сойм, а ім хочацца зрабіць яго яшчэ больш рэакцыйным, да ўрадавага букету яны панатыкалі сваіх кветак. Захацелася ім, каб права выбіраць у Сойм мелі грамадзяне не ад 21 году, як цяпер, але ад 25 гадоў. Маладога пакалення нашыя паны з правіцы баяцца, яны больш надзеюцца на старыкоў. Правільна, паночкі, усё, што здаровае і маладое, ідзе проці вас!

Далей, захацелася вам абмежаваць пасольскую «недатыкальнасць». Паны з правіцы хочуць, каб сялянскія ды работніцкія, беларускія ды ўкраінскія прадстаўнікі былі выданы на ласку і няласку першага лепшага паліцыянта, каб яны сталіся найбольш «тыкальнымі» з усіх грамадзян Рэчы Паспалітай.

Ой панове, панове! Ці ж вам мала таго, што цяпер дзеецца, калі несправядліва асуджаны і незаконна супроць 21-га параграфу Канстытуцыі арыштаваны

беларускі пасол Баран чацверты год гніе ў гарадзенскім астрозе! Ці ж мала вам таго, што тысячы лепшых сялян і работнікаў гнояцца па турмах — вы хочаце йшчэ прыдушыць і згнаіць у астрогах іхных абаронцаў, іхных паслоў. Хоць нас невялічкая жменька, але мы вам нялюбы і страшныя тым, што праўды не скрываем, што бязлітасна перад усім народам, перад усім светам бічуем вас, панове, бічом гэтай самай праўды. Мы разумеем, што гэта вам не «маральны» біч Пілсудскага: той больш вас гладзіць, як лупцуе... Мы адно тут скажам: ніякаю «тыкальнасцю» нас не застрашыце! Вастрогі перапоўнены найлепшымі людзьмі, людзям чэсным і справядлівым — месца ў вастрогах!..

Так хочуць абмежаваць палітычныя правы сялян і работнікаў, палітычныя правы беларускага, украінскага і літоўскага народу. Паміж іншым — гэта ўжо па-за Соймам — некаторыя прадстаўнікі моднага сёння «маральнага адраджэння» дагаварыліся да таго, каб адабраць выбранае права ад усіх грамадзян, што не ведаюць польскае мовы... З жалем прыходзіцца назваць тут імя Серашэўскага, даволі вядомага польскага пісьменніка. Гэтае яго выступленне не прынясло лішняе чэсці ані ягонаму імені, ані «польскаму дэмакратызму» наогул.

Змяняючы Канстытуцыю, урад дабіваецца сільнае «ўлады». Каму яна патрэбна? Яна патрэбна абшарнікам і капіталістам, бо яны яе дамагаюцца, за яе галасуюць, нягледзячы на тое, што так нядаўна Пілсудскі нагнаў ім смяротнага перапуду. Ну, а цяпер змянілася. Капітал і абшарнікі — не проці Пілсудскага, бо Пілсудскі — не проці абшарнікаў, не проці капіталу.

Дыктатарская ўлада прэзідэнта і ўраду яшчэ ў большай меры патрэбна заграпічнаму капіталу, які шукае ў Польшчы калоніі. Польская буржуазія сама



сабе не можа даць рады, яна прайграла сваю вялікадзяржаўную гульню і цяпер змушана шукаць сабе ратунку ў амерыканскага капіталу на павадку ангельскае палітыкі.

Амерыканскаму капіталу, ангельскай палітыцы патрэбна дыктатура, трэба аднаго чалавека, бо з ім лягчэй гаварыць, як з цэлым Соймам. Такі чалавек тым больш варт, калі ён, маючы «дэмакратычную і рамантычную» прошласць, умее трымаць у сваіх руках масы, кіруючы імі праз паслушных сабе правадыроў. Такая сільная ўлада — гэта толькі цяжэйшае ярмо для сялян і работнікаў, цяжэйшае ярмо для прыгнечаных народаў. А дзеля гэтага мы будзем галасаваць проці такога «ўсілення ўлады», проці пагоршання Канстытуцыі. Мы галасуем проці ўрадавага праекту, проці «паправак», уведзеных правіцай у камісіі.

Адначасна мы мусім сказаць, што не робім з Канстытуцыі ніякае святасці. Мы ведаем, што такое для нас Канстытуцыя. Маніць і ашуквае масы той, хто ўсю іхнюю ўвагу збірае каля барацьбы за параграфы Канстытуцыі. Бо паглядзеце на тыя параграфы-стаццi, што стаяць у Канстытуцыі нязменнымі: на паперы святыя, а ў жыцці ніхто іх не слухае.

Возьмем канстытуцыйны ўстаў у рукі і некалькі першых лепшых параграфаў гэтай Канстытуцыі — вось § 83 Канстытуцыі гаворыць аб судах: «Да прыгавораў за цяжкія праступкі, за якія пагражае цяжкая кара і за палітычныя праступкі будуць пакліканы суды прысяжных». А што ж фактычна маем на бларускіх і ўкраінскіх «крэсах»? Бачылі мы суды прысяжных у царскія часы, але цяпер бачым толькі надзвычайныя суды, і менавіта ў справах палітычных праступкаў,— а калі не надзвычайныя суды, то бачым суды пры зачыненых дзвярах. *(Голас на ўкраінскіх лаўках:* «Гэта выконванне дэмакратычнай кан-

стытуцыі».) Нікога не ўпушчаюць у судовую салю, прэса і грамадства не мае тут голасу, а ўрадоўцы, назначаныя пракуроры, якія самі варты таго, каб сядзець на лаве абвінавачаных,— варты таго, каб ім на рукі былі наложаны кайданы, як у Вільні п. Гурчын і іншыя, абвінавачваюць найлепшых людзей, якія змагаюцца за волю да свайго народу,— за волю для сялян і работнікаў. Гэтак выглядае ў жыцці § 83.

Возьмем далей яшчэ адзін § з трэцяга аддзелу, які гаворыць аб грамадзянскіх правох. Сказана там, напрыклад: «Усе грамадзяне роўныя перад законам». Гэта § 96. «Публічныя ўрады ў роўнай меры для ўсіх даступны на варунках, прадпісаных законам». А як гэтую роўнасць перад законам трактуе адміністрацыя? У гэтым годзе асабліва многа было канфліктаў паміж дварамі і сялянамі на грунце сервітутаў. Уласнік, якога лес ці сенажаць абцяжаны сервітутам і якія служаць пасвішчам для вёсак,— гэтакі ўласнік прадае, скажам, свой маёнтак і той, хто купіў, не дазваляе сялянам пасвіць быдла. Сяляне не хочуць адступаць ад свайго права, і тады гэты ўласнік, калі ўважае, што слушнасць на яго баку,— замест таго, каб падаць на сялян у суд, едзе да старосты, і пан староста прысылае карную экспедыцыю, якая робіць расправу з сялянамі. Вось гэта роўнасць перад законам.

Далей, панове, калі возьмеце ўрады, то ва ўрадах гэтай роўнасці зусім няма. Калі прыйдзе селянін, то яму кажуць чакаць увесь дзень ад рана да вечара, кажуць яму прыйсці на другі дзень і часамі гэтак кажуць яму некалькі дзён,— а там зноў будзе дзень прыняцця якогасьці кацыка. Калі прыйдзе пан абшарнік — ветліва яму кланяюцца і перад ім адчынены ўсе дзверы. Гэтакая роўнасць у трактаванні грамадзян.

Гаворыцца, што ўрады даступны. А фактычна няма аб тым і мовы, каб беларусы, украінцы, літвіны ці жыды былі якімісь урадоўцамі. (*Голас:* «Але ж жыды ёсць».) Мы знаем «окульнікі» * Дырэкцыяў Чыгунак, паложаных на нашых землях, якія паказваюць адміністрацыі, каб выкідала нават найніжэйшага функцыянера на чыгунках з дзяржаўнай службы. Гэта роўнае трактаванне, вольны доступ да ўрадаў, гэта — справядлівасць, гэта — Канстытуцыя!



У § 97 гаворыцца, што няма абмежаванняў асабістай вольнасці, а калі абмежавана яна, то толькі судом. Гэта ёсць толькі насмешка з народу. Кожны паліцыянт найніжэйшага гатунку, кожны адміністрацыйна-«крэсовы» лобуз з'яўляецца не толькі панам жыцця, але панам жыцця і смерці. Салдатчына так разгулялася на «ўсходніх крэсах», як не бачылі гэтага ні пры якім урадзе, ні пад якім заборам. Гэтага, што робіцца цяпер, калі цэлыя дзесяткі салдат з'яўляюцца на вяселле, хочуць выкінуць за дзверы ўсіх вясельнікаў, самі скачуць і п'юць,— гэтага не бачылі мы ў царскія часы, ані за часоў нямецкай акупацыі. Асабістая вольнасць нібы забяспечана Канстытуцыяй. Не маюць права затрымоўваць грамадзян у арышце болей чым 48 гадзін, а тым часам без акту абвінавачання сядзяць цэлымі гадамі. Ёсць выпадкі, калі па тры гады сядзяць людзі. Нядаўна, якраз, злажылі мы інтэрпеляцыю, што малалетнія хлапцы па 17 і 18 гадоў сядзяць без акту абвінавачання болей году. Гэта называецца асабістай вольнасцю. Сёння вялікія людзі гавораць аб амерыканскіх узорах. Польская паліцыя не толькі ўзяла ўзор, але перасягнула метады амерыканскай паліцыі, а іменна — пры біцці ўжываюцца найбольш выдуманыя метады біцця. Найболей распаўсюджаным,— памінаючы ўжо біццё гумовымі кіямі ў пяты,— з'яўляецца ўліванне дзесяткаў літ-

* Цыркуляр.

раў вады праз нос у нутро, а асабліва лёгкія чалавека. (*Кавэцкі:* «Падайце факты».) Факты не раз падаваў.

**Маршалак:** Пане пасол, гэта не да рэчы.

**П. Тарашкевіч:** Пане Маршалку, я перакананы, што гавару дарэчы, бо гавару аб Канстытуцыі.

**Маршалак:** Пане пасол Тарашкевіч. Сёння мы гаворым аб Канстытуцыі. Найдалейшая талеранцыя не пазваляе мне дапусціць да такога адыходу ад тэмы.

**П. Тарашкевіч:** Цяжка, калі аб праўдзе не можна гаварыць; але праўда сама за сябе гаворыць. Пад націскам з боку п. Маршалка пакіну гэтыя рэчы,— урэшце, вельмі знаныя. Жадаючы вельмі шырокіх паўнамоцтваў для сябе, цікавай ёсць рэчай, што ўрад выключае пэўныя моманты з гэтых паўнамоцтваў, а менавіта «моўныя ўставы». Моўных уставаў урад не хоча рушыць.

Гэта, я думаю, ахвяра, урэшце, вельмі лёгкая для ўраду,— ахвяра на карысць правых груповак, перад якой урад хоча адкупіцца. Урад пп. Бартля і Пілсудскага папросту ўмывае рукі, і трэба з гэтага заключаць, што калі грамадскі воблік гэтага ўраду ёсць зусім выразны, то таксама зусім выразны ёсць воблік гэтага ўраду для нацыянальных меншасцяў, а перадусім для беларусаў і ўкраінцаў, незалежна ад таго, што людзі, якія засядаюць у гэтым урадзе, дэкламавалі і вельмі пекна дэкламуюць аб нацыянальных меншасцях, аб сваіх нібы вельмі далёкасяжных ліберальных замерах. Мы пацвердзім, што курс цяперашняга ўраду ёсць хутчэй больш страшны для ўкраінцаў і беларусаў, чым курс папярэдніх урадаў. І апіраемся тут на тых канцэпцыях, з якіх новы ўрад Пілсудскага пачынае ўпраўляць у Польшчы. Урад г. зв. маёвай рэвалюцыі ёсць у грунце рэчы адною з спружынаў англа-амерыканскага капіталу, таго капіталу, які хоча з Польшчы зрабіць земляробны край,



край вывазу збожжа, прадуктаў земляробства і ўвозу з заграніцы — тавараў амерыканскай, ангельскай і нямецкай прамысловасці.

Урад, які вядзе палітыку аграрызацыі Польшчы, ніколі не можа пагадзіцца з тэрытарыяльнымі меншасцямі, а менавіта з беларусамі і ўкраінцамі, бо ясна, што прамысловасць можа праглынуць, можа даць значна большай колькасці рабочых рук заробак, чым земляробны край. А тым часам прырост люднасці ў Польшчы ёсць вельмі вялікі і адзіным выхадам для гэтай люднасці, паводле думкі ўраду пп. Бартля і Пілсудскага і ўсяго абозу «напраўцаў» Рэспублікі — гэта «ўсходнія крэсы». І гэта зусім не выпадкова, што Пілсудскі і ўвесь яго абоз з'яўляецца патронам польскага асадніцтва на «крэсах». Гэта арганічна лучыцца адно з адным.

Праўдзівай перамогай для працоўнага люду будзе не тая ці іншая «направа», не той ці іншы рамонт Канстытуцыі, але праўдзівай перамогай будзе забранне ўлады, стварэнне сялянска-работніцкага ўраду,— стварэнне ўраду на падставе працоўнай дэмакратыі; не на падставах, абапёртых на гутарках парламентарна-дэмакратычных, але на падставе дэмакратыі працы. Аж да тае пары, пакуль уся ўлада не пяройдзе ў рукі сялян і работнікаў, ніякая пісаная Канстытуцыя не забяспечыць інтарэсаў сялян і работнікаў. Беларускі селянін казаў перад тым: перажылі мы царскія часы, перажывём і Канстытуцыю. Цяпер гэта збылося: перажылі мы цара, перажылі малёваную Канстытуцыю,— перажывём і рамантаваную Канстытуцыю. *(Воплескі на лявіцы.)*

## ПРАМОВА НА 307-м ПАСЯДЖЭННІ СОЙМА 16 ЛІСТАПАДА 1926 ГОДА ПРЫ АБМЕРКАВАННІ ПАПЯРЭДНЯГА ПРАЕКТА БЮДЖЭТУ НА 1927—1928 ГАДЫ

Паслухайце, панове. Вось ужо больш за два месяцы, як па польскай буржуазнай прэсе лётаюць трывожныя чуткі аб тым, што на Заходняй Беларусі падымаюцца нейкія страшэнныя «бальшавіцкія» Грамады: зямля дрыжыць ад іхняй сілы, беларускія хмары зацьмілі сонца панскага панавання.

«Гурткі — бальшавіцкае наступленне» — стацця ў адной газеце, «Падрыхтоўка да беларускага паўстання» — стацця ў другой газеце, і так, што ні дзень, то стацця за стаццёй ды ўсё ў такім родзе, проці Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады, проці нашае арганізацыі, проці беларускае работы наогул. Прыпісваюцца нам самыя дзікія і нястворання рэчы: бачыце, мы не толькі арганізавалі ўсе паветы, усе гміны і вёскі, але вось ужо нейкія «таемныя сілы» параздавалі нам аружжа ды яшчэ якое,— не толькі бомбы, вінтоўкі і рэвальверы, але кулямёты і... цяжкую артылерыю. А ўлада, бачыце, гэтага не дагледзела, дык таму крычаць гвалт віленскія панскія газеты і ціснуць на Варшаву, на ўрад, каб забараніць Сялянска-Работніцкую Грамаду і спаралізаваць беларускую работу. Урэшце дайшло да таго, што «Звёнзак людова-нарадовы», а папросту эндэкі, уносяць у Сойм прапазіцыю, дамагаюцца, каб урад закрыў Грамаду. Вось колькі гвалту і крыку паднялося проці Грамады за самы апошні час. Цікава тут адзначыць, што гэты варожы вой панскіх газетаў пачаўся якраз пасля вядомага з'езду ваяводаў у Вільні.

Што тут за прычына і колькі праўды ва ўсёй гэтай панскай трывозе? Праўда, што ў працягу апошняга паўгода ў Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадзе зарганізаваліся найшырэйшыя масы сялян і работнікаў і такой велізарнай легальнай арганізацыі яшчэ не было дагэтуль на землях Заходняй Беларусі. Праўда, што за гэтай арганізацыяй ідзе ўвесь народ. Праўда, што беларускія масы праяўляюць надзвычайную актыўнасць ва ўсіх напрамках грамадскага жыцця — нацыянальным і сацыяльным. Рух гэты шукаў легальных арганізацыйных сродкаў і знайшоў іх, лепш кажучы, стварыў у нашай Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадзе. Народ уласнымі рукамі хоча будаваць сваё грамадскае жыццё і ўласнымі сіламі бараніць свае правы. Гэта ўсё праўда і толькі гэта. А выдумкі розных «рэчазнаўцаў крэсавых» *(паказвае на пасла Звяжыньскага, рэдактара эндэцкага «Dziennika Wilenskiego»)*, прыпісванне нам аружнага паўстання ды яшчэ так, што мы вось ужо гатовы перайсці ў наступленне, прыпісванне нам, што мы карыстаемся індывідуальным тэрорам,— гэта ўсё не толькі злосная хлусня, гэта палітычны шантаж і правакацыя. Вы крычыцё, панове, аб паўстанні, аб тэроры Грамады, а сапраўды і больш за ўсё страшыць вас, што народ збудзіўся да грамадскага жыцця, паказаў сваю актыўнасць, што праявілася масавасць нашага руху. Палохаюць вас менавіта нашыя легальныя спосабы барацьбы, легальныя, але масавыя, легальныя, але без угоды і заўзятыя. Ну й моцна ж вы збаяліся народа, бо што такое Грамада? Вы абвінавачваеце Грамаду ў бальшавізме. Добра. Але Грамада толькі настолькі «бальшавізуе», наколькі «бальшавізуюць» найшырэйшыя народныя масы. Грамада настолькі бальшавіцкая, наколькі вы называеце бальшавізмам кожнае дамаганне зямлі для сялян, абарону правоў работніка, кожнае дамаганне роднай школы, людскіх, а не варварскіх парадкаў, свабоды і культуры для працоў-

нага народа, улады для сялян і работнікаў. Праграма Грамады — гэта народная праграма. Узята яна з палітычнай працоўнай практыкі нашага працоўнага народа. Нічога ў ёй няма, чаго б не жадаў сам народ — селянін, работнік, працоўны інтэлігент. А народ навучыўся жадаць, не толькі жадаць, але і думаць палітычна, проста і практычна, бо ў працягу апошніх гадоў працоўны народ Заходняе Беларусі перажыў вельмі і вельмі многа і вынес з усяго перажытага вялікую палітычную і грамадскую практыку. І гэтага нельга забывацца. Хоць фармальная асвета стаіць у нас не высока — у значнай меры дзякуючы русіфікатарскай і паланізатарскай палітыцы «міласціва» панаваўшых і пануючых урадаў — усё ж палітычная свядомасць шырокіх працоўных масаў стаіць у нас дужа часта вышэй, чым у карэннай этнаграфічнай Польшчы, дзе пісьменнасць наогул беручы вышэйшая. Так піша аб гэтым, напрыклад, п. Сракоўскі, муж даверу былога прэм'ера Сікорскага, у сваёй кніжцы аб «усходніх крэсах». І нічога дзіўнага. Народ тут бачыў столькі перамен, столькі ўрадаў, столькі розных парадкоўнікаў непарадкаў. Бачыў ваенныя змены. Крах царызму, першую свабоду і другую свабоду — урад Керанскага і бальшавіцкі пераварот — першых бальшавікоў і першых «легіёнаў», другіх бальшавікоў і другіх «легіёнаў», бачыў «першага» Пілсудскага, калі ён баіў аб «вольнасці і роўнасці» (вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі), цяпер бачыць «другога» Пілсудскага, які баіць з панамі за бяседным сталом ужо іншыя казкі «аб сацыяльнай раўнавазе».

Усё гэта мы бачылі, што бачылі — вынеслі на сваёй шыі і выцерпелі на сваёй скуры, дык тады нічога дзіўнага, што народ наш, селянін і работнік, шмат што глыбей зразумеў ва ўсёй грамадскай машыне і, зразумеўшы, лягчэй пазбавіўся тых зманлівых ілюзій-зданняў, што дагэтуль яшчэ жывіць селянін і работнік польскі. Менавіта мы перажылі і аджылі ілюзію-Канстытуцыю, ілюзію зямельнае рэформы, ілюзію Сойма і парламентарнай дэмакратыі, моўных законаў і, урэшце, майскага перавароту, бо замест правоў, гарантаваных Канстытуцыяй, замест грамадзянскіх свабод мы бачылі гвалт і здзек, насільства багатых і «ўстасункованых»*, замест зямельнае рэформы — асадніцтва, а ў Сойме здраду ўсіх згодніцкіх партыяў; замест хоць бы куртатых моўных законаў — фальш і, проста кажучы, правакацыю. Бо калі, карыстаючыся з моўных законаў, пачаў беларускі селянін часам і дзесяткамі тысяч складаць дэкларацыі на родную школу, то дастаў за гэта не школу, а турму: «до козы» ** пайшлі тыя, хто законна збіраў і падпісваў дэкларацыі. Даволі прыпомніць вядомую аблаву ў Наваградскім ваяводстве і тысячныя арышты сялян.

Дык вось, калі прыйшоў маёвы пераварот (лепш кажучы паварот), то надзеяў у нас было менш як дзе або, можа, і зусім не было. Сялянства беларускае знала Пілсудскага з 1919 і з 1920 гадоў і нічога добрага ад яго не спадзявалася і цяпер. Мы былі песімістамі, але, здаецца, ніхто не думаў, што Пілсудскі так моцна падасца ўправа, што ўрад яго будзе ўрадам такой чорнай і непрыкрытай рэакцыі, як бачым сёння. Пілсудскі ўзяў зусім выразны курс і кануе гэты курс, пакуль яшчэ не сябе, у Нясвіжы, у тым радзівілаўскім Нясвіжы, дзе дагэтуль пануе сярэднявечны прыгон. Калі хто не ведае, што такое Нясвіж, хай паедзе туды і запытаецца ў мясцовых сялян. Там няма рэспубліканскай улады. Там пануе ўлада князя Радзівіла і ягоных упраўляючых, бо

* Забяспечаных.
** У каталажку.

кожны ўрадавец, пачынаючы ад старосты і канчаючы суддзёй, залежны ад князя і выконвае ягоную волю.

Банкет прэм'ер-міністра Пілсудскага ў нясвіжскім замку разам з польскімі магнатамі-прыгоннікамі — гэта проста выклік, кінуты ў твар беларускаму народу. Але што ж, мала бяды... Гэтым толькі агалілася сапраўдная шляхецкая прырода «былога рэвалюцыянера» Пілсудскага, агалілася ўся класавая механіка ўсяго пануючага дзяржаўнага і грамадскага ладу. Перад законам быццам роўнасць, на паперы «грамадзянскія свабоды», а сапраўды, на практыцы, у жыцці — што? Абарона правілаў дужага і багатага, бяспраўнасць слабога і беднага, крыўда і здзек з усіх людскіх правоў мільёнаў шырокіх мас сялян і работнікаў, з усяго беларускага народа. Вазьміце слаўны працэс барона Біспінга, тут ужо сам суд паказаў, што мужыка і работніка ў нас можна, як таго сабаку, застрэліць *(галасы на лавах меншасці: «Ганьба». Віцэ-маршалак Дэмбскі звоніць)*, можна папаліць вёскі, а за тое атрымаць тытул польскага патрыёта і хіба не доўга чакаць — ордэн Polonia Restituta або нават Міністра Справядлівасці. Ці ж гэта не здзек над справядлівасцю, над грамадскім сумленнем усяго народа.

І хочаце, панове, каб народ у такім становішчы сядзеў ціха і не шэмраў, каб не шукаў дзе-кольвечы і якой-кольвечы сілы дзеля абароны не толькі сваіх правоў, а проста свайго жыцця.

Не знаходзячы гэтае абароны ні ў Канстытуцыі, ані ва ўрадах, ані ў судах, што толькі на словах незалежныя, селянін і работнік, увесь працоўны люд, увесь беларусі народ шукае тае сілы ў сабе, у сваёй собскай арганізацыі, што яго не ашукае, што нічога яму падманна не абяцае, а толькі хоча памагчы весці барацьбу за права на жыццё.



І такая арганізацыя — гэта наша Грамада. Прынамсі, народ яе хоча такую бачыць і за такую мець.

Народ хоча бачыць у Грамадзе найшырэйшую легальную арганізацыю сялян, работнікаў і працоўнай інтэлігенцыі, арганізацыю, што вядзе барацьбу, заўзятую і без угоды *, за штодзённыя патрэбы народа — нацыянальныя, палітычныя і сацыяльныя; арганізацыю, што рыхтуе і загартоўвае народ на барацьбу за сялянска-работніцкі ўрад, за сялянска-работніцкую ўладу. Вы прыпісваеце нам, панове, падрыхтоўку да паўстання. Я не пярэчу, што такая думка не была б папулярнай, каб яе кінуць з гэтае трыбуны. Я не пярэчу, што нянавісць да пануючага сацыяльнага і нацыянальнага ўціску такая вострая і палючая, што падняць завіруху няцяжка. Паўстанне можна нават справакаваць, але што з гэтага, што далей?.. Але мы мусім і бачыць, якія віды на ўдачу паўстання. То ж трэба быць зусім шалёным, каб не бачыць, што, не звязаўшы свае барацьбы з барацьбой Заходняй Украіны і ўсяе Польшчы, барацьбы сялян з барацьбой работнікаў, вёскі з горадам, сацыяльнага пытання з нацыянальным — немагчыма не толькі аружнае паўстанне, але простая абы-якая палітычная перамога.

А раз так, то мы прызываем не да паўстання і хочам, каб гэта чулі не толькі вы тут, панове, але чуў увесь народ праз вокны гэтага Сойма, што толькі ў арганізацыі ёсць магчымасць барацьбы і абароны сваіх правоў і інтарэсаў.

Індывідуальны тэрор. Вядома, ёсць такія праявы, нельга запярэчыць, бо даўно сказана, што помста саладзейшая за мёд. Нельга запярэчыць, што ёсць людзі асабіста так пакрыўджаныя ўладай і зняважаныя, што проста гараць помстай. Гэтая помста часам

* Згодніцтва.

кладзе ім у рукі аружжа і кажа забіць, зарэзаць таго ці іншага паліцэйскага агента, найчасцей тайніка і правакатара. Індывідуальны тэрор не ёсць спосаб нашай барацьбы, гэта не наш метад. Мы хочам, мы арыентуем думку і волю народа, каб у кожную хвіліну, пры ўсякіх акалічнасцях здольны быў да арганізаванага, масавага, хоць і легальнага адпору пры абароне сваіх правоў і палітычных інтарэсаў. Паўтараю — масавы адпор, а не індывідуальны тэрор.

Мы будзем весці барацьбу, выводзячы масы для абароны сваіх правоў, абароны свабоды сходаў, свабоды слова і іншых канстытуцыйных свабод. Бо хоць пра гэта пішацца ў Канстытуцыі, але ж у нас няма ані свабоды сходаў, ані свабоды слова. Як з кожнага месца, так і з гэтае трыбуны мы вучым і заклікаем сялянскія і работніцкія масы, каб сваёй арганізаванасцю, стойкасцю, сілаю націску сваёй масы зламалі загарадкі паліцэйскіх забарон, адваявалі сабе гэтыя элементарныя канстытуцыйныя правы проці здзеку і гвалту паліцыі і адміністрацыі, не зважаючы на ніякія перашкоды. Мусім перамагчы ўсе перашкоды, склікаць сходы, тварыць арганізацыі.

Таксама ўсім народам, цэлай масай вядзем барацьбу за нацыянальную культуру і школу. Цяпер вось зноў пачалося складанне дэкларацыяў на беларускую школу. І народ зробіць гэта масава, нягледзячы на тое, што не мае ніякай пэўнасці ў тым, каб атрымаць гэту школу ад цяперашняга ўраду, таксама, як і ад папярэдніх.

Бо, напрыклад, вось пан віцэ-дзядэк *(агульны смех)*, выбачайце, віцэ-прэм'ер і Міністр Асветы ў адной асобе, хоць і выйшаў з такой партыі («Вызваленне»), што пры выбарах у Сойм абяцала нават аўтаномію, але ж цяпер, як чутно, проста нецярплівіцца і нудзіцца, калі гаворыць аб справах беларускай школы, з беларускімі дэлегацыямі. Але мы ўсё ж



будзем даказваць сваё права і, ведучы барацьбу, арганізаванай масай пакажам сваю моц і загартуем яе ў барацьбе. Мы дэкларацыі будзем складаць, дэкларацыямі і пратэстамі засыпем Вас, пане міністр. Яны Вам будуць сніцца *(агульная весялосць)*. Будуць Вам сніцца не толькі дэкларацыі, але няхай Вам сняцца горкія слёзы нашых дзяцей, бітых у польскай школе за тое, што гавораць па-беларуску. (*Шум. Міністр Бартэль:* «Дагэтуль Вы не далі фактаў. Не звяртайцеся да мяне без фактаў. Першы раз чую, што беларускіх дзяцей катуюць у школе».) Калі вы гэтым сапраўды зацікавіцеся, то Вам будуць дадзены факты. Зрэшты такія факты не раз падаваліся ўраду зусім афіцыйна, у нашых інтэрпеляцыях. Я не хачу гэтым сказаць, што менавіта Вы самі, міністр, даеце такую інструкцыю, каб біць дзяцей. Наадварот, я думаю, што Вы самі не пахваліце. Але гэта не змяняе факту, што дзяцей б'юць. *(Шум не перастае. Віцэ-маршалак Дэмбскі:* «Пасла Мятлу прызываю да парадку».) Вядзем народ да масавай барацьбы з надужыццямі і гвалтамі адміністрацыі і паліцыі. Ніхто нацыянальна і класава свядомы, ніхто, у кім хоць крышку людскога сумлення тлее ў сэрцы, не можа праходзіць спакойна міма дэфензіўнай катоўні. А пан віцэ-прэм'ер мне не запярэчыць, што ў дэфензівах як білі, так і б'юць, як катавалі, так і катуюць — пры ўрадзе «маральнай санацыі», нібыта «маральнага аздараўлення». Хіба ж не будзеце патрабаваць тут ізноў «фактаў», бо на гэта маеце сотні інтэрпеляцый. Дык так, мы будзем заваструць у народзе грамадскае сумленне, будзем арыентаваць масы на тое, каб на кожным кроку і ў кожным выпадку дэмаскаваць, раскрываць правакатарскую, шпіёнскую работу. Няхай народ зразумее, што сярод яго не павінна знайсціся ніводнага тайніка-правакатара. Тайнікаў, правакатараў трэба выку-

рыць. (*Пасол Скрыпа:* «Гэта ж апора для ўраду, правакацыя». *Віцэ-прэм'ер Бартэль:* «Ці патрапіце вы гэта даказаць?»)

У сваёй барацьбе мы мусім выкарыстаць усе легальныя спосабы. Вось, напрыклад, 107 артыкул Канстытуцыі дае грамадзянам права паасобна і разам звяртацца да ўлады з петыцыямі. Дык мы і будзем звяртацца з петыцыямі і пратэстамі, выкрываючы надужыцці ўлады, выкладаючы свае штодзённыя патрэбы і дамаганні, «гарантаваныя» Канстытуцыяй. Вядома, усё гэта будзем рабіць публічна, тым больш публічна, каб урад пана Пілсудскага меў магчымасць паказаць, як ён на дзеле дбае пра тое, каб у Польшчы «не дзеялася лішне шмат бяспраўя і несправядлівасці ў адносінах да тых, хто працу сваю аддае другім».

Дык вось, панове, што мы робім, як мы робім.

Магчыма, што панам эндэкам хацелася б, каб мы вось зараз жа на іх правакацыйнае жаданне паднялі нейкае недарэчнае «паўстанейка», «рухаўку», каб даць повад для зрыву і развіцця ўсяго руху. Але ж мы на правакацыю не пойдзем, а будзем заўзята бараніць свае правы, стаяць цвёрда і непахісна. Будзем заклікаць да асветы, да салідарнасці, да ахвярнасці, да арганізацыі, арганізацыі і яшчэ раз арганізацыі. Да арганізацыі палітычнай, да арганізацыі культурна-асветнай — школ, народных дамоў і бібліятэк, да арганізацыі эканамічнай — кааперацыі, сельскагаспадарчых гурткоў і г. д.

Адзін за ўсіх, усе за аднаго. Усе разам грамадой, бо грамада — вялікі чалавек. Вось гэта, панове, больш за ўсё вам і не падабаецца; таму ўвесь гэты гвалт каля Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады.

Вы маеце, паночкі, яшчэ адзін вялікі клопат і вялікія згрызоты: гэта ж выбары, да якіх усё бліжэй,



здаецца, падыходзім, стаяць для вас на «ўсходніх крэсах» пад вельмі чорным і невясёлым знакам пытання. Гэта вам страшна і балюча. Тут нават орган віленскіх «дэмакратаў» субсідыяваны ўрадам з народных падаткаў, «Kurjer Wileński» закрычаў расейскі «караул» разам з старашляхецкім «не позвалям». Нельга, кажа, цяпер рабіць выбараў, трэба перш задушыць Грамаду, толькі тады можна рабіць выбары. Гэты сэнс перадусім мае і прапазіцыя «Звёнзку людова-нарадовага» (эндэкаў), які проста перакручвае факты. Для паноў эндэкаў страшна «антыдзяржаўным» у нашай праграме здаўся артыкул аб самавызначэнні народаў.

«Стоячы на грунце самавызначэння народаў, Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада лічыць, што ўсе беларускія землі павінны быць злучаны пад уладай сялян і работнікаў». Так, гэта прынцыповы кірунак нашай палітычнай лініі. Але з гэтым параграфам самым цесным чынам звязаны другі пункт нашае праграмы: «адначасна з тым Грамада жыва падтрымлівае сучаснае імкненне працоўных мас да стварэння сацыялістычнага саюзу еўрапейскіх народаў».

А гэта ўжо прынцыповы кірунак і ўсяе сацыялістычнае думкі, а калі адкінуць прыметнік «сацыялістычны», то аб саюзе еўрапейскіх народаў гавораць нават ліберальна- і дробнабуржуазныя партыі і паасобныя палітычныя дзеячы.

Урэшце, пункт аб самавызначэнні народаў і злучэнні беларускіх зямель пададзены ў праграме, скажам, «Беларускага Сялянскага Саюзу». Але пакуль гэты Саюз не з'яўляецца масавай арганізацыяй, дык там гэта можна не лічыць за «антыдзяржаўны».

Найцікавей тое, што нашы эндэкі, абвінавачваючы саму нашу праграму ў нелегальнасці, пакінулі зусім зумысля той пункт, дзе сказана, што Грамада ў сваёй барацьбе карыстаецца метадамі легальнай

працы, абапёртай на Канстытуцыі. Такое цытаванне праграмы, з такімі прыпускамі — фальш і падлог. Наогул метады, спосабы палітычнай барацьбы паноў эндэкаў вельмі цікавыя, тым больш што ўрэшце іх, эндэкаў, б'юць тою самаю палкаю, якою яны білі або збіраліся біць сваіх палітычных праціўнікаў. Калі ішла, напрыклад, гутарка аб беларускай, украінскай апазіцыйнай сялянскай і работніцкай прэсе, вы, паночкі эндэкі, заўсёды крычалі на ўвесь голас, што трэба душыць, канфіскаваць, зачыняць, штрафаваць, рэдактараў ледзь не вешаць. А цяпер, калі вы не зусім паладзілі з Пілсудскім, калі ён дабраўся да вас, дык вы раптам зусім іначай запяялі. А далей... Калі білі пасла Галавача пры ўдзеле паліцыі *(галасы:* «І ППС!»), калі адміністрацыя ў Пружанах наладзіла напад на пасла Ярэміча пры дапамозе асаднікаў, калі я выступіў з трыбуны ў гэтай справе і сказаў, што банда вайсковых асаднікаў напала на пасла, то вы абурыліся і не далі мне скончыць нават прамову, уважаючы, што нават імя вайсковага асадніка нельга лучыць з бандаю — а вось цяпер, калі нейкія афіцэры выдубілі скуру вашаму паслу пану Здзяхоўскаму, то вы зразумелі, што баліць. І тады вы самі ўжо не называеце інакш гэтых афіцэраў, а не асаднікаў, як бандытамі; тады аказваецца, што і павага Сойма парушана, і ўсе аргументы выкладаеце супроць сапраўды дзікага паступку.

Так і з гэтаю прапановаю проці Грамады. Вы заклікаеце ўрад, каб ён зачыніў Грамаду. Я дужа добра разумею, што як на тое пайшло, калі маюць зачыняць легальныя партыі, то, ведама ж, нас першых прымкнуць. Але, відаць, свярбіць у вас скура. Бо пасля нас могуць узяцца і за вас, панове эндэкі. Ужо манархічнае «Słowo» і «Kurjer Wileński» да гэтага дагаварыліся.

Усім добра вядома, як адносіцца ўрад і ўся ўлада да нашае палітычнае арганізацыі, да Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады. Мітынгаў-вечаў не дазваляюць, з'езды забараняюць, сходы разганяюць, дзеля розных паліцэйскіх кручкоў і зачэпак за легальную, яўную работу садзяць сяброў «до козы», накладаюць штрафы, газеты канфіскуюць і закрываюць. Канстытуцыя гаворыць адно, а робіцца зусім другое. Усё да таго быццам на аснове «закону» ўставу Асмалоўскага. Дый што гэта за закон у пібыта дэмакратычнай рэспубліцы, што горшы за царскія законы? Гэта ж не канстытуцыйны закон, а закон ваеннага часу, калі ў нас быў фронт. Фронту няма, вайны быццам няма, а ваенны закон аб сходах існуе. Што кажу існуе, яшчэ добра, каб існаваў, а то і гэтага закону паны ваяводы, старасты і каменданты не шануюць. Дык, выходзіць, поўнае бяспраўе і неабмежаваны здзек над людзьмі. Можна было б падумаць, што такія адносіны толькі да палітычных арганізацыяў, толькі да Грамады. Такія самыя адносіны і да культурных арганізацый, напрыклад, да Таварыства Беларускае Школы. Дадзены свабоды ў Канстытуцыі, на паперы, але ў жыцці народу звязаны рукі і ногі ды заткнуты рот, каб нічога ні зрабіць, ні сказаць не пасмеў. Гэта звычайная і агульная метода. Вось віленскія нашы прыяцелі, паны з «Kurjera Wileńskiego» і «Słowa» выдумалі такую формулу-сказ: трэба любіць беларускі народ, але знішчыць Грамаду. Трэба любіць, кажа, беларускі народ, але знішчаць усе яго арганізацыі. Вось дык палітыка, палітыка хлусні!

Але, паночкі, не так ужо лёгка з намі справіцца! Можаце зачыніць Грамаду, а паслоў і частку нашых дзеячоў пасадзіць у «вулей». Яшчэ шмат месца на Лукішках і па іншых турмах, але сто тысяч арганізаванага народа вы не пасадзіце і не пасадзіце ў турму ўсіх сялян і работнікаў Заходняе Беларусі. Мы

пераканаsuccessful, што вашым апетытам і здзекам сам народ дасць масавы адпор, у той ці іншай форме. Дый што ж вы даказалі б, зачыніўшы Грамаду? Даказалі б толькі сваю слабасць, даказалі б, што на законным грунце змагацца з намі не можаце, а таму, кінуўшы Канстытуцыю і закон, хапаецеся за бізун і штык, што ўжо і пачалі рабіць. *(Маршалак паўторна дае чырвонае святло, каб прамоўца скончыў.)* Калі ідзе гутарка пра давер да гэтага ўраду, то, змушаны кончыць, скажу коратка: мы думаем, што старым байкам пана Маршалка аб штандарах з высокімі клічамі «За нашу і вашу свабоду» тая самая цана, што і новым аб жабках і фальбонках. На паказным белым баку гэтых штандараў напісана «За нашу і вашу свабоду», а на адваротным, чорным,— за вашы землі для нас,— за беларускія і ўкраінскія землі для польскага пана і асадніка.

## АПОШНЯЕ СЛОВА Ў ВІЛЕНСКІМ АКРУГОВЫМ СУДЗЕ НАД ГРАМАДОЙ

Панове суддзі! У памятны зімовы дзень я ішоў за трунной Прэзідэнта Рэчы Паспалітай Польскай Габрыеля Нарутовіча і мысленна пытаўся: «Quo vadis Polonia?» Гэта была трагічная хвіліна і для нас, паслоў нацыянальных меншасцяў, і тым больш для мяне, бо я асабліва прычыніўся да выбару гэтага Прэзідэнта. Я галасаваў за яго з шчырым намерам супрацоўніцтва з палякамі, а працаваць я хацеў у рамках польскай дзяржаўнасці таму, што ў выніку палітычнай стабілізацыі Еўропы надзеі на незалежнасць Беларусі былі знікомыя. Я хацеў працаваць легальна, а якія вынікі гэтага супрацоўніцтва? Ру-



ка чалавека не злачыннага, проста які паддаўся намаўленню, забіла Нарутовіча. Аднак я сказаў сабе тады, што па-ранейшаму пайду тым самым шляхам і ўгавару ўкраінскі і беларускі пасольскія клубы галасаваць за ўрад Сікорскага. Нам тады многа абяцалі, ды нічога не далі. Такім чынам, мы ў пэўным сэнсе адарваліся ад свайго народа, якому не маглі нічога даць. У выніку гэтага ў Заходняй Беларусі пачаў шырыцца г. зв. дыверсійны рух, які для беларусаў быў простай дарогай у анархію. Тады я сказаў сабе: «Не так гэтыя справы робяцца». У той час я хацеў працаваць не толькі ў парламенце, але ў саюзе з польскай грамадскасцю ў Польска-беларускім таварыстве, аднак з гэтага нічога не выйшла, таму што з прычыны сталай апазіцыі грамадства польскаму ўраду з правінцыі паступіла многа лістоў, якія закляймілі гэты крок. Я адмовіўся тады ад старшынства ў Беларускім пасольскім клубе, і на маё месца прыйшоў Рагуля. У 1924 г. я ездзіў па вёсках і вывучаў настроі насельніцтва, у выніку чаго прыйшоў да пераканання, што безадказная апазіцыя нічога не дае. У 1924 г. урад Грабскага выдаў г. зв. моўныя законы. З соймавай трыбуны я сказаў тады, што на аснове гэтых законаў школ мы не атрымаем, але яны будуць падставай для складання дэкларацый на адкрыццё беларускіх школ. Я лічыў, што на грунце барацьбы за школу з беларускіх нізоў можна стварыць вялікую палітычную сілу. Пры гэтым я ведаў, што ППС і «Вызваленне» выходзілі да гарадскога і сельскага насельніцтва з лозунгамі наскрозь сацыяльнымі, і народ ішоў за імі. Як марксіст-тэарэтык, я прыйшоў да высновы, што для такой арганізацыі трэба распрацаваць праграму і тактыку беларускай партыі — так паўстала БСР Грамада. Не трэба шукаць Юды і трыццаць срэбранікаў. Тактыка БСРГ акрэслілася не пад націскам Камінтэрна, дый сам я тады

яшчэ не ведаў камуністычнай тактыкі. Я выставіў лозунг: «Народ сам для сябе», які азначаў, што толькі сам народ можа здабыць сабе правы з дапамогай сілы. На маю думку, БСРГ павінна была стаць арганізацыяй, якая ахоплівае сацыяльны і нацыянальны рух. Напомню тут прысутным гімн Я. Купалы «А хто там ідзе?». Геній паэта прадбачыў, што народ павінен імкнуцца да сваіх правоў у вялікай грамадзе. Беларусаў крыўдзілі ўсе, а хто навучыў іх несці крыўду? Бяда, гора стварылі Грамаду, а Грамада стварыла Тарашкевіча.

Праграма БСРГ не запазычана ў Камінтэрна, яна не грамафон пастаноў КПЗБ, гэта эмпірычная праграма. Усе лозунгі БСРГ ёсць у праграмах іншых радыкальных партый. У праграме БСРГ гаворыцца пра саюз народаў. Шчыра веру, што Еўропа стаіць перад дзвюма альтэрнатывамі: поўнага знішчэння або саюзу народаў. Асабіста я хачу, каб еўрапейская цывілізацыя не загінула і каб узніклі Злучаныя Штаты Еўропы, савецкія ці несавецкія, таму што формы і саветы мяняюцца. Што датычыць майго інтэрв'ю ў справе народаў, якія адважыліся на новую сацыяльную структуру, дык на судовым разборы я ўпершыню даведаўся аб ім, але нават калі б такое інтэрв'ю і мела месца, то на падставе граматычнай інтэрпрэтацыі нельга рабіць такіх высноў, як гэта ўчыніў пан пракурор Раўзэ.

Праблема аграрнай рэформы без выкупу на першы погляд можа здавацца крайне дэмагагічным лозунгам. Асабіста я лічу, што куды большай дэмагогіяй з'яўляюцца пастаянныя дэбаты над неіснуючай аграрнай рэформай, якой кожны баіцца або чакае яе. Калі б такую рэформу правялі, абшарнікі перасталі б ужо баяцца яе, а сяляне зразумелі б, што на падставе гэтай рэформы насыціцца зямлёй не могуць і паднялі б узровень аграрнай культуры. Напамінаю



пры гэтым, што нельга ісці да нашых людзей без гэтага лозунга.

Што датычыць тактыкі БСРГ, дык тут на першым плане стаіць яе масавасць, а там, дзе справа ўпіраецца ў свядомасць мас, сама акцыя павінна быць масавай. Праведзеная Грамадой акцыя барацьбы за амністыю, на маю думку, некаральная, бо ніхто не можа сказаць, што ўсе прыгаворы суда справядлівыя. Што ж датычыць петыцыйнай і пратэстацыйнай акцый, дык яны дазволены і прадугледжваюцца Канстытуцыяй. Дзейнасць перыядычнага друку Грамады была накіравана на тое, каб людзі падпісваліся на газеты і часопісы, каб сяляне навучыліся не толькі чытаць газету, але і плаціць за яе. Напамінаю, што ў аснову перыядычных выданняў былі пакладзены прынцып самазабяспечанасці, а беларуская кнігарня распрадавала ўсе тыражы.

Найбольшай балячкай усёй тактыкі Грамады былі яе адносіны да камуністычнай партыі. У сваіх паказаннях следчаму я шчыра расказаў, што мы не змагаліся з кампартыяй, але дадаў, што мы стараліся выключыць камуністаў з Грамады і, паступаючы лагодна, пазбавіць кампартыю ўплываў. Мы былі зацікаўлены ў тым, каб наша партыя была масавай, і мне здаецца, што кожны, хто хоча заваяваць масы, не можа выступаць супраць камуністаў. Да таго ж у нас не было легальнай тэрыторыі для барацьбы з камунізмам. Сцвярджаю, аднак, што ў БСРГ канфлікты з кампартыяй былі і ўзнікалі яны на грунце г. зв. ліквідатарскіх настрояў у кампартыі. Не бачу таксама неабходнасці ставіць грамадоўцам у пастаянны абавязак крытыкаваць кампартыю.

Што датычыць лозунга адзінага фронту рабочых і сялян, дык ім аперыруе нават ППС. Тут я хацеў бы зрабіць упор на тым, што на адным участку Грамада заўсёды змагалася з камуністамі, а менавіта ў

справе сялянскіх камітэтаў. Кампартыя лічыла, што такія камітэты неабходны ў кожным пасёлку, мы супрацiўляліся. Гэтыя камітэты не супярэчылі 51-му артыкулу Статута Грамады. Некаторыя лічаць, што 51-ты артыкул быў унесены з мэтай пусціць пыл у вочы ўладам, дык вось падкрэсліваю, што кампартыя крытыкавала Грамаду за існаванне гэтага 51-га арт. у яе Статуце.

БСРГ у сваёй дзейнасці поўнасцю адкідае ўсялякія замежныя камбінацыі і лічыла бессэнсоўнымі ўсякія фікцыі розных беларускіх урадаў, бо ў сувязі з кансалідацыяй палітычных умоў у Еўропе можна думаць толькі аб арганізацыйнай працы. Сцвярджаю, што Грамада ніякіх пастаянных кантактаў з замежнымі арганізацыямі не ўтрымлівала, што на берлінскай канферэнцыі ніхто ад БСРГ не прысутнічаў і што ўсякія дадзеныя аб удзеле БСРГ у гэтай канферэнцыі з'яўляюцца правакацыяй.

Паўстанне? СССР паможа? А хіба мы не бачылі не так даўно крывава задушанага паўстання ў Эстоніі, калі СССР не аказаў дапамогі. Калі я гаварыў калі-небудзь аб беларускім паўстанні, дык мяне трэба было б зачыніць у доме для вар'ятаў, а я не вар'ят. Цяпер, у 1925, 1926, 1927 гадах, калі ўвага Саветаў звернута на ўсход, калі Саветы апасаюцца ўскладненняў на захадзе, Тарашкевіч меў бы намаўляць беларусаў узняць паўстанне? Успамінаю, што ў тэрміновай прапанове НД паўтаралася такая версія аб паўстанні, і я сказаў тады, што хачу, каб гэтыя версіі дайшлі да беларускага народа, каб ён не паддаўся правакацыі. Тут на судзейскім стале былі мае газетныя артыкулы, у якіх я выразна падкрэсліваю мэты Грамады і гавару пра школу, кааперацыю, тэатры і г. д. Чаму лічыцца дэмагогіяй, калі Тарашкевіч кліча да кнігі і да нацыянальнай салідарнасці? Калі я абуджаю свой народ, які так доўга быў у



няволі розных паноў,— гэта таксама дэмагогія? Гавару, магчыма, неасцярожна, але шчыра і прашу ўсё гэта адносіць толькі да мяне аднаго, а не да іншых, не дарэшты падсудных.

Вельмі важнай праблемай былі адносіны грамадаўскай прэсы да Савецкай Беларусі. Мушу прызнацца, што мяне моцна ўразіла тое, што было зроблена ў Савецкай Беларусі дзеля яе адраджэння. Не магу цяпер прыпомніць, хто паінфармаваў мяне аб пануючых у Савецкай Беларусі адносінах, добра памятаю толькі, што гэта быў не камуніст, а польскі служачы. На падставе гэтай інфармацыі я зразумеў, што беларуская справа ў БССР пастаўлена з размахам. Зразумеў я таксама, што Саветы паважна глядзяць на беларускі нацыянальны рух. Я хацеў сам паехаць у БССР, але мяне не пусцілі. Тады я раздабыў вялікую колькасць выдадзеных там кніг, з якіх даведаўся, што апошнім часам у БССР праведзена беларусізацыя дзяржаўных устаноў. І я сказаў тады, што ў БССР будуецца беларускі дом. Гавару ўсё гэта шчыра, не сцвярджаючы, аднак, таго, што БССР гэта мой ідэал таму, што веру ў будучы саюз народаў, у якім беларусы стануць вольным народам. З Масквой, ці Варшавай, ці Кіевам, але вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі. У мяне шмат засцярог што да канцэпцыі і сусветнай перамогі сацыялізму, аднак пераконаны, што Саветы — гэта першы крок у канкрэтнай гісторыі сацыялізму. Калі мяне можна за гэта асудзіць — судзіце. Часта ганім існаванне нашага ўсходняга суседа, у кожнага свой пункт гледжання, аднак складаецца ўражанне, што калі б на ўсходзе не было Саветаў, то была б «единая неделимая», а я аддаю перавагу Саветам. Не буду напамінаць тут, што «прыяцелі» накшталт Францыі ў крытычныя хвіліны здраджвалі Польшчы. Напярэдадні рускай рэвалюцыі Думерг абвясціў «désintéressement» Фран-

цыі да Польшчы. У існаванні СССР не бачу зла для Польшчы, што ж датычыць нянавісці некаторых палякаў да Саветаў, дык беларусы такой нянавісці не адчуваюць.

БСРГ праімінула, але ці застаўся пасля яе нейкі след? Нас не дапусцілі да выбараў, думаю, аднак, што беларускі народ пайшоў бы за намі. Уся польская і беларуская прэса прызнае, што Грамада адыграла каласальную ролю ў жыцці беларускага народа. Беларускі народ без школы пачаў пісаць па-беларуску, а навучыла яго гэтаму БСРГ. Беларускі народ абудзіўся, і рабом ён не застанецца, рук цалаваць не будзе, як і не будзе гаварыць «польская морда».

Танна прадаў я беларускую справу — абвінавачвае мяне пракуратура і ўзапраўды аж занадта танна — калі б я наогул яе прадаваў. Аднаго не магу зразумець: адкуль бярэцца ў словах пана пракурора гэтая нянавісць Тарквемады? *(Старшыня перапыняе.)* Дзе доказы, што я браў грошы? Аб гэтым гаворыць Гурын, і толькі Гурын. А той самы Гурын на допыце 13 кастрычніка 1927 г. кажа, што не ведае, аб чым гаварылася на канферэнцыі ў Гданьску і ці была там мова пра паўстанне. Не ведаю, якія прафесары вучылі паноў пракурораў логіцы і не разумею, як на падставе паказанняў Гурына можна было прыйсці да вываду, што я ўзяў тыя грошы. Адкуль паходзяць гэтыя 30 тыс. рублёў? Можа, гэта напамінанне пра 30 срэбранікаў Юды? Я ўпэўнены, што незалежна ад грамадскай намовы — вы, панове суддзі, адкінеце абвінавачанне па арт. 110 к.к.

Многа гаварылася тут пра польскую рамантычную паэзію, якая падбіла сэрца маладога варвара Тарашкевіча. Так, сэрца маладога варвара было падбіта. Але гаварылася гэта з дакорам, так, быццам бы я атрымаў ад вас паэзію, юнацкі ідэалізм, а чым



адплаціў вам? Сцвярджаю, што люблю польскую культуру... На Полацкім тракце, непадалёку ад Міцкунаў быў маёнтак, дзе жыў Славацкі і там жа працаваў мой прадзед — прыгонны мужык. Я не саромеўся таго, што Славацкі еў хлеб з рукі гэтага мужыка, толькі пытаюся: дзе перавага — у кветцы ці ў глебе, на якой гэтая кветка вырасла?.. *(Гоман. Перапыненне.)*

Некаторыя польскія паслы таксама прадавалі бацькаўшчыну, адзін гісторык гаворыць нават, што прадавалі яе па-французску. Так, Польшчу прадавала магнатэрыя, якая стварыла ўмовы, што дазволілі Кацярыне ўмяшацца ў польскія справы, а што было ў 31-м і 63-м гадах? Столькі праліта польскай крыві за свабоду, а ў канцы канцоў тыя самыя паны загубілі Польшчу, таму што не захацелі надзяліць сялян зямлёй, што пазней зробіць рускі ўрад і тым самым перацягне сялян на свой бок. Гісторыя паўтараецца. Гісторыя БСР Грамады пачалася гвалтам адміністрацыі, хай жа закончыцца актам справядлівасці — прашу апраўдання.

## «ІЛІЯДА» ГАМЕРА

Сем грэцкіх гарадоў вялі паміж сабой заўзятыя спрэчкі за гонар лічыцца бацькаўшчынай Гамера. Яму, як герою, грэкі пасвячалі храмы і алтары. Песні яго леглі за аснову грэцкага мастацтва, навукі і грэцкай тэалогіі. Рым успрыняў Гамера як свайго паэта, і тут ён аказаў рашаючы ўплыў на элінізацыю рымскай літаратуры. «Энеіда» Вергілія — гэта імітацыя Гамера, хоць сярэднія вякі прызналі яе ідэалам эпічнай паэзіі. І толькі гуманісты XVI стаг., а затым Лесінг, Гердэр, Гётэ, Шылер і многа іншых крытыкаў правільна ацанілі гамераўскія творы, як непаўтарымы правобраз эпасу.

Гістарычна-літаратурная крытыка XVIII і XIX стст. вяла сапраўдныя «гамераўскія баі» каля пытання аб гістарычнасці асобы самога Гамера і аб тым шляху, якім злажыўся гамераўскі эпас. Крайні рэвізіянізм у гэтым пытанні дайшоў да поўнага запярэчання існавання Гамера, прызнаючы ўвесь гамераўскі эпас народнай творчасцю. Але гістарычную сапраўднасць асобы Гамера не пераставалі бараніць некаторыя вучоныя і асабліва паэты: Гётэ, Шылер і другія.

Самае нават павярхоўнае знаёмства з гамераўскім эпасам змушае прызнаць, што «Іліяда» і «Адысея» з'яўляюцца пладом мастацкай творчасці. Крыху глыбейшы аналіз паказвае, што гэту творчасць нельга прыпісаць адной асобе. Так, напрыклад, ясна, што



«Адысея» адносіцца да шмат пазнейшага часу, як «Іліяда». Але і сама «Іліяда» не з'яўляецца прадуктам творчасці выключна аднаго чалавека: гэта аб'яднанне цэлага цыкла самастойных твораў высокакваліфікаваных у паэтычным мастацтве песняроў-аэдаў. Можна дапусціць, што найвыдатнейшым з іх, найболей слаўным і быў Гамер.

Аднак жа «Іліяду» і «Адысею» можна лічыць у некаторым значэнні і народнай творчасцю і не толькі таму, што на працягу доўгага часу яны складаліся ў вялікай грамадзе, карпарацыі іянійскіх песняроў, але і таму, што паэтычным матэрыялам для іх паслужыла грэцкая міфалогія, у якой народная фантазія дала прыродзе і грамадскім формам свядомую мастацкую апрацоўку.

Гамераўскі эпас дае нам карціну яшчэ даволі слаба расслоенага грамадства, калі паасобныя плямёны злучаліся ўжо ў невялікія народы, у якіх, аднак, род, фратрыя і племя захоўвалі яшчэ сваю самастойнасць.

На гэтай ступені мы бачым у грэкаў гарады, абнесеныя мураванымі сценамі, бачым даволі развітае рамяство, але бачым і нявольніцтва. Гэтыя маленькія народы вялі паміж сабою безупынныя войны за лепшыя землі і пасбішчы, за дабычу, у тым ліку за нявольнікаў.

Адна з такіх войнаў — вайна ахейцаў (грэкаў) процi Троі — з'яўляецца прадметам «Іліяды». Праўда, «Іліяда» абымае не ўсю траянскую вайну, а толькі паасобныя з яе эпізоды, якія здарыліся ў працягу 51 дня на дзесятым годзе вайны.

Паміж сучаснасцю і гэтым даволі прымітыўным грамадствам — тры тысячы гадоў гістарычнага развіцця. Сучасная тэхніка, смела можна сказаць, закасавала фантазію гамераўскай міфалогіі. Нашыя самалёты лятаюць хутчэй за звестуноў грэцкіх багоў,

сучасныя «робаты» спраўляюцца спрытней за цудоўныя аўтаматы самога Гефеста, бога-будаўнічага і мастака-рамесніка.

Паміж намі настолькі вялікая гістарычная дыстанцыя, што сам эпас у яго класічнай форме не можа быць створан цяпер, калі ў нас выключана ўсякая міфалагізацыя прыроды і грамадства. У часы самалётаў і танкаў, кулямётаў і ядавітых газаў немагчымы Ахілесы і Гектары.

«Але,— кажа Маркс («Да крытыкі палітычнай эканоміі»),— труднасць заключаецца не ў тым, каб зразумець, што грэцкае мастацтва і эпас звязаны з вядомымі грамадскімі формамі развіцця. Труднасць заключаецца ў разуменні таго, што яны яшчэ прадаўжаюць дастаўляць нам мастацкае здавальненне і ў пэўным сэнсе захоўваць значэнне нормы і недасягаемага ўзору.

Мужчына не можа зрабіцца зноў дзіцем, не становячыся смешным. Але хіба яго не радуе наіўнасць дзіцяці і хіба сам ён не павінен імкнуцца да таго, каб на вышэйшай ступені ўзнаўляць сваю ісцінную сутнасць, і хіба ў дзіцячай натуры ў кожную эпоху не ажывае яе ўласны характар у яго простай («безискусственной») праўдзе? І чаму дзяцінства людскога грамадства там, дзе яно развілося найпрыгажэй, не павінна мець для нас вечнага харама, як ніколі не паўтараючаяся ступень? Бываюць нявыхаваныя дзеці і па-старыкоўскаму разумныя дзеці. Многія са старадаўніх народаў належаць да гэтай катэгорыі. Грэкі былі нармальнымі дзецьмі. Чароўнасць, якую мае для нас іх мастацтва, не стаіць у супярэчнасці з тым неразвітым грамадскім асяроддзем, з якога яно вырасла. Наадварот, яно з'яўляецца яго рэзультатам і неразрыўна звязана з тым, што недаспелыя грамадскія адносіны, сярод якіх яно ўзнікла і толькі магло ўзнікнуць, ніколі не могуць паўтарыцца зноў».



І сапраўды, што ў дарослага можа з'яўляцца банальным і нават дурным, у дзіцяці можа быць выяўленнем геніяльнага пробліску мыслі. Таму гамераўскія эпітэты і поўнаю жменяю параскіданыя параўнанні так асабліва чаруюць нас сваёй свежасцю, дзіцячай прастатой і непасрэднасцю. Нам заўсёды здаецца, што так было сказана першы раз у жыцці чалавецтва. Ствараецца ўражанне, што мы знаходзімся пры нараджэнні паэзіі і вобразнага слова. Сама перспектыва такой гістарычнай далечыні не можа не прыцягваць нас.

Але нягледзячы на ўсю сваю далячынь і сваю варварскую прымітыўнасць гамераўскі эпас, асабліва «Іліяда», знаходзіць жывы рэзананс і ў сучаснага чытача. Не раз захапляліся Маркс і Энгельс «жыццярадаснымі, моцнымі, цэльнымі вобразамі Гамера», вобразамі герояў і шматшумлівага мора, захапляліся ягонаю моваю. Трэба адзначыць, што і Маркс і Энгельс былі вялікімі знатакамі класічнай літаратуры. Не такім яе знатаком быў Леў Талстой, але ў росквіт сваіх творчых сіл, узяўшыся раз за «Іліяду», не можа ад яе адарвацца. Дзеля Гамера Талстой вывучае грэцкую мову.

Гамер, падобна Шэкспіру,— паэт барацьбы вялізных страсцей. Людскія афекты і страсці, хоць і не з'яўляюцца вечнымі, а змяняюцца ў залежнасці ад сацыяльных абставін, маюць здольнасць будзіць эмацыянальнае пачуццё нават з далечыні трох тысяч гадоў. Гамераўскія багі даўно зрабіліся камічнымі фігурамі. Хоць Гамеру і не думалася зрабіць іх смешнымі, але гнеў Ахілеса, ягоны адчай і палкае жаданне помсты за забітага друга Патрокла, але гора Пры-ама, Гекубы і Андрамахі па забітым Гектары не перастаюць гаварыць да нашага пачуцця, хоць мы сваё гора пераносім іначай і праяўляем яго ў іншых формах.

Звязваючай ніццю, на якую нанізаны 24 песні «Іліяды», з'яўляецца тэма аб гневе Ахіла, аб чым і гаворыцца ў першых радках першай песні пры звароце песняра да музы:

«Муза, спявай мне пра гнеў Ахілеса, Пелеева сына, гібельны гнеў, прычыніўшы ахейцам бязмернае гора, многа бо душаў адважных герояў паслаў да Аіда, самых жа іх пакідаў на здабычу сабакам і птушкам розным дзярлівым — а ўсенька па божай Зявесавай волі — з часу таго, як з сабой разышліся ў злосці заўзятай боскі Ахіл і дружы́н валадар Агамемнан Атрэіч».

Злосць між імі ўзнялася з таго, што Агамемнан, галоўны начальнік ахейскага (грэцкага) войска, адабраў ад Ахіла яго палонніцу, прыгожую Брызэіду. Быстраногі Ахіл (Ахілес), сын грэцкага князька Пелея і марской багіні Фетыды, галоўны ваяка ў ахейскім ваенным стане пад Трояй, у страшэннай злосці і гневе на начальнага князя адказаўся біцца з траянцамі і разам з другам Патроклам і ўсёю сваёй баёвай дружынай бясчынна праводзіць час пры беразе многашумлівага мора. Карыстаючы з гэтага, траянцы пад камандай свайго героя Гектара, сына Прыяма, б'юць і адганяюць ахейцаў да самага мора, да іхніх выцягнутых на бераг караблёў (лайбаў). Пала цэлая маса адважных герояў. Грэкам пагражае аканчальная катастрофа. Ужо загарэліся караблі. А гнеўны Ахіл не паддаецца просьбам, ні за якія дары, перапросіны ці абяцанкі не згаджаецца ісці ў бой, і толькі ў апошні крытычны момант пасылае ў сваёй зброі — «мілага друга» Патрокла на помач ахейцам.

Ап'янелы баявой удачаю Гектар забівае Ахілава друга і здзірае Ахілесаву зброю: ледзь удаецца ахейцам адабраць яго цела. Тады Ахіл, страціўшы друга і зброю, кідаецца ў страшным дзікім ляманце між жалем, адчаем і палкім жаданнем бязжаласнай помсты. Па просьбе Фетыды Гефест яму выкаваў новую зброю цудоўнай работы (апісанне шчыта Ахілеса ў XVIII песні — гэта цэлая паэма!).



Пачынаецца страшэнная бойка, у якой прымаюць удзел і багі, падзяліўшыся на два варожыя лагеры. Ахіл, як бура, сее кругом страшэннае спусташэнне. Траянцы змушаны ўцякаць і хаваюцца ўсе за гарадскія сцены (канец XXI песні). Толькі Гектар, застаўшыся перад брамаю, стаў і стаяў «зблутаны доляю,— мойрай», жадаючы біцца з Ахілам. Але Ахіл не адразу ўгледзеў Гектара і дарма ганяўся за Феб-Апалонам, богам сонца, прыняўшы від траянскага героя Агенора. Калі Агенор паспеў ужо ўцячы ў горад, Апалон адкрывае сваё боскае аблічча, жартуючы з Ахілесам. Далей ідзе паядынак Ахілеса з Гектарам, смерць апошняга і галашэнне Прыяма, Гекубы і Андрамахі (XXII песня).

## «ІЛІЯДА» ГАМЕРА

### ПЕСНЯ I *

1. Гнеў, о багіня, пяі Ахілеса Пелейвага сына
згубны, што бед прычыніў ён ахейцам вялікіх
нямала,
волатаў, храбрых душ у Аідава царства нізрынуў
многа, а саміх жа іх на здабычу сабакам
і птушкам

---

* У сувязі з тым, што ўвесь Тарашкевічаў пераклад «Іліяды» не знойдзены, змяшчаем фрагменты, у тым ліку першай песні, якія па мастацкім узроўні моцна саступаюць апошнім прыжыццёвым публікацыям гэтага твора перакладчыкам *(уклад.)*.

розным ён кінуў дзярлівым (усе дзеля Зеўсавай волі)
з тое пары, як у звадзе з сабой разышліся ў злосці
войска Атрыд валадар з Ахілесам, да бога падобным.
Хто ж гэта ды і з багоў так давёў іх да звады гняўлівай?
Сын то Латоны і Зеўса,— бо з гневу ён злога да князя
пошасць благую паслаў там у стан, на пагібель народаў
дзеля таго, што Атрыд абясчэсціў жраца Апалона
Хрыза, калі той прыбыў з караблём быстраходным ахейскім,
выкупіць каб дачку, везучы там нязлічаны выкуп —
стужку ён меў у руках дальнястрэльнага лучніка Феба
на вярху булавы залатой і прасіў ён ахеян,
асабліва Атрыдаў дваіх, атаманам народам:
«О вы Атрыды й Ахейцы ўсе, пышналожныя мужы!
Хай жа вам богі дадуць на Алімпе прыбыцце, што маюць
горад Прыяма здабыць і вярнуцца шчасліва дахаты!
Мілую ж толькі дачку вы аддайце і выкуп прыміце,
Зевуса сына ўважаючы так, дальнястрэльнага бога».
Вось тут другія усе дый на тое згаджаліс ахейцы



чэсць аказаць каб жрацу і падаркі прыгожыя ўзяці;
толькі у сэрцы таго Агамемнан Атрыд не ўзлюбіўшы
Хрыза нягодна прагнаў ды йшчэ рэкнуў тут грознае слова:
«Ой ты стары! Сцеражыся мяне, каб не стрэнуць дзе блізка
пры караблёх тут глыбокіх застаўшысь ці зноў тут прышоўшы:
не абароніць тады булава, ні вянок цябе божы!
Дзеўчыны ж я не аддам, а перш старасць яе там надыдзе
воддаль ад хаты бацькоў у Аргосе, у нашым то доме,
кросны ткучы, а таксама са мной раздзяляючы ложа.
Ну дык ідзі, не дражні ты мяне, каб вярнуцца мог цэлы!»
Так ён казаў; і збаяўся стары і паслухаў то слова;
моўчкі уздоўж берагоў ён пайшоў вельмі шумнага мора.
Многа маліўся пасля той стары, адышоўшыся воддаль
валадару Апалону, касістай Латоны сынам што:
«Выслухай сёння мяне, о срэбналукі, што Хрызу бароніш,
Кіллу святую і над Тэнэдосам магутна пануеш,
божа смінтэйскі! Калі я сапраўды табе дзе святыню
мілую узбудаваў, ці не паліў табе тоўсты лапаткі
коз і быкоў, то малю цябе — споўні маё пажаданне:

хай жа за слёзы мае твае стрэлы адплацяць данайцам!»
Так малючыся казаў, тое ж выслухаў Феб дальнястрэльны
і нізышоў ён з вяршынаў Алімпу, узбураны ў сэрцы,
маючы лук за плячамі і сайдак, што кругом быў закрыты,
голасна стрэлы гулі на плячах тады ў гнеўнага бога,
як ён адтуль выходзіў, а йшоў жа, што цёмная ночка.
Ад караблёў потым сеўшы паводдаль, запускаў свае стрэлы.
Звон тут страшэнны паўстаў ад таго ды і срэбнага лука.
Мулаў адных пападаў напачатку і шпаркіх сабакаў.
После ж ударыў людзей, выпускаючы горкія стрэлы,
і на хаўтурных агнёх безупынна гарэлі іх целы.
Дзевяць на стан ужо дзён як лятаюць там божыя стрэлы,
а на дзесяты Ахіл заклікае народ ўвесь на веча.
Гэта ў душу улажыла яму белатварая Гера,—
жаль бо было ёй данайцаў, пабачыўшы, як яны мерлі.
Вось і на веча прыйшлі і, сабраўшысь, былі ўсе у зборы,
ўстаў быстраногі Ахіл і казаў ім такую прамову:
«Думаю я, о Атрыд, што ізноў нам па блуднай дарозе
трэба дахаты вяртацца, абы уцячы як ад смерці,
дзеля таго, што зараза з вайной тут зніштожыць ахейцаў;



толькі ж спытаймася варажбіта ці жраца дзе якога
хоць бы і знахара сноў (бо і сны тож ад Зеўса даны) —
хай жа ён скажа, за што разгневаўся Феб дальнастрэльны:
мо абяцанне якое забылі, а мо й гекатомбу,
можа быць, запаху жырнага коз і ягнят незагнаных жадаў бы
ён на ахвяру сабе, каб ад пошасці толькі нас збавіць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Покуль я тут жыву на зямлі ды і светлае сонейка богу
смела пры цесленых будзь караблёх, бо ніхто не падойме
цяжкай рукі на цябе, хоць бы ён Агаменмнанам зваўся;
гэта нічога, што ён найважнейшым за ўсіх прадстаўляецца!»
Той жа адважыўся тут і адказ беспамыльны выводзіць:
«Гневайца бог ані за абяцанку, ані за гекатомбу,
толькі за Хрыза, за тое, што яго Агамемнан зняважыў:
дзеўкі яму не аддаў і багаты ён выкуп адкінуў.
Вось чаму беды паслаў ды йшчэ слацьме Феб дальнястрэльны
і не адверне нягоднай заразы датуль ад данайцаў,
пакуль дачкі не аддадзём яснавокай да мілага бацькі
дарма без выкупу, ішчэ завязём гекатомбу святую

ў Хрызу і толькі тады з перапрашаным памірымся богам».
Гэтак сказаўшы, ён сеў; а за ім у чарод свой падняўся
волат Атрыд Агамемнан, шырока пануючы й моцна.
Злы быў, а сэрца яго дык зусім перапоўнілась гневам
і пачарнела кругом ды агнём яго пырскалі вочы;
злосна зірнуў на Калхаса найперш і вось так яму кажа:
«Злы варажбіт, ці сказаў ты калі мне што мілага сэрцу?
а заўсягды так прыемна табе варажыць толькі беды:
добрага слова ты мне не сказаў і не споўніў ніколі:
вось і цяпер ты на вечы гаворыш данайцам варожбы,
што гэта ўсё за мяне насылае няшчасце бог лучнік
дзеля таго, што бліскучых дароў я за Хрыза дзяўчыну
не захацеў дый прыняць: спадабалася мне тое вельмі
мець яе ў хаце сваёй, бо і за Клітамнестру мілейша,
жонку законную тую, і ёй не уступіць дзяўчына
станам, ані хараством або розумам, ці у рабоце;
але назад я яе аддаю, калі гэта так лепей:
лепш я хачу, каб народ быў здаровы, чым гінуць так меў бы.
Толькі ж падарак знайдзéце вы мне, каб адзін я з ахейцаў
не астаўся без дару, бо то ж і няхораша гэтак.



Бачыце хіба вы ўсе, што мой дар ад мяне уцякае.
После ж на гэта казаў Ахілес быстраногі і боскі:
«Слухай, праслаўны Атрыд, самы жадны з усіх да карысці!
Скуль табе дар могуць даць велікадушныя мужы ахейцы?
Каб дзе супольна дабро дай бадзялася кучай — не бачым.
То, што злупілі мы з тых гарадоў, то ўсё і падзялілі;
а непрыгожа назад, што ўзялі, каб аднеслі народы.
Толькі цяпер ты аддай на чэсць богу яе, мы ж, ахейцы.
Тры і чатыры разы надгародзім табе, калі Зеўс
дасць нам Трою ўзяць разбурыць, моцнасценны той горад».
Кажа яму у адказ вось так Агамемнан магутны:
«Як ты ні дзельны сабе і да бога падобны, Ахіле,
а не круці ты душой, бо на хітрыкі я не паддамся:
хіба ж ты хочаш адзін, каб дары толькі меці, а я дык
бедны сядзеў бы, дзяўчыну аддаўшы па твойму загаду.
Велікадушныя мужы ахейцы хай дар мне пачотны
й сэрцу спадобны дадуць ды такі, каб ён з тым быў бы роўны:
а калі ж мне не дадуць дабравольна, дык сам я пайшоўшы
дар той вазьму ад цябе ці Алякса, або Адысея
і павядуся сабе: ой бяда там, дзе я пакажуся!
Але на потым ізноў усё гэта пакінем абдумаць,
чорны ж цяпер карабель вось мы спусцім на боскае мора,

возьмем туды весляроў мы даволі, далей гекатомбу
для Апалона паставім,— пасля ж Хрызіду румяну
мы узвядзем на яго; хай адзін дый здрадлівых мужоў
правадыром будзе там ці Алякс, Адысей хоць бы боскі
Ідаменэй, альбо сам ты Пелід, ты з усіх найстрашнейшы,
каб ты ахвяры прынёс і ўпрасіў далястрэльнага бога».
Грозна зірнуў на яго й адказаў Ахілес быстраногі:
«Ах ты такі круцідух! дый куды ж твой сорам падзеўся?
Як жа цяпер тваіх слоў, а хоць хто дабравольна з ахейцаў
слухаціме, у паход каб ісці ці у бітву дзе цяжкую!
Я ж не прышоўшы сюды ля траянцаў кап'істых
з імі каб дзёрціся тут — яны ж мне анічога й нявінны:
ані валоў яны мне забралі, ні коней ніколі,
ані ў карміцельцы Фтыі маёй ураджайнай і людная
плён не зніштожылі мне; ну бо ведама, што паміж — намі
многа ёсць гораў цярністых і мораў тых шумных і бурных;
а за табою пайшлі, ты бессаромны так, як сабака,
ўсе мы на Трою, каб вы з Менелаем тут змылі знявагу:



толькі ж на гэта ў цябе ды малая увага і клопат!
Страшыш яшчэ, што ты сам адбярэш ад мяне мой падарак,
той, за які я найбольш назмагаўся — далі ж мне ахейцы.
Хіба ж дастаў я калі каб роўны падарак з табою,
як разбурым мы дзе ды траянскае моднае места?!
Бурнай і цяжкае бітвы найбольшую часць адмахаюць
рукі мае, а як толькі дзяльба калі тая праходзіць,
ты дар найбольшы бярэш,— я ж малы, хоць і мілы дастаўшы
да караблёў з ім іду, на біцьве змарнуўшы моцна...
Вось жа цяпер я у Фтыю пайду: ну бо, ведама, лепей
нам на крывых караблёх ды вярнуцца да хаты радзімай,
чымся без чэсці сядзець і табе тут запасіць багацце».
А на гэта яму адказаў атаман Агамемнан:
колькі сэрцу любя ты ідзі і прасіць я не буду
дзеля мяне каб астаўся ты тут, бо другіх буду мець я,
хто уважацьме мяне, а найбольш ды сам Зеўс, апякун мой
ты ж мне самы праціўны з усіх тут князёў багародных,
бо для цябе заўсягды мілы звады і спрэчкі і бойкі.
Што за другіх ты дужэйшы — то што? то ад бога ты маеш!
Дык з караблямі й сябрамі сваімі пайшоўшы дахаты,

над мірмідонамі там ты пануй — па табе ж не бядую
й злосці тваёй не баюся; цябе ж дык я вось чым пастрашу:
як Хрызаіду ў мяне адбірае бог Фебус Апалон,—
бо адашлю я яе на сваім караблі дый з сябрамі,
гэтак жа сама і я забяру Брызэіду румяну,
сам у палатку пайшоўшы, твой дар, каб ты ведаў бы добра,
колькі важнейшы я тут і другі каб баяўся таксама
звацца раўнёю тут мне ды у вочы йшчэ так настаўляцца».
Так ён сказаў, а Пеліду ў душы і зрабілася горка
ды у касматых грудзёх так надвойчы там білася сэрца:
выцягнуць востры булат, што вісеў ля ягонага боку
і, разагнаўшы усіх, у самым затапіць каб Атрыдзе,
ці устрымаці свой гнеў і душу абвуздаці.
Покуль вось гэта ў душы ды у сэрцы сваім разважае
з похвы жа цягнець вялікі свой меч, прылятае Афіна
з неба туды. А паслала яе белатварая Гера:
любячы разам дваіх, спагадала душою абодвым.
Стаўшы ззаду за ім, за чуб ясны скубанула Пеліда,
толькі яму паказаўшыся, болей ніхто ані бачыў.
Вельмі спужаўся Ахіл, адвярнуўся й адразу пазнаў ён
тую Паладу адзіну, як страшна вачыма глядзела.
Ён жа, прамовіўшы там, так ёй кажа крылатыя словы:



«Што ты прышла тут, дачка грамадзейнага Зеўса?
Хіба ты хочаш пабачыць пыху ды Атрыдава сына!
Праўду скажу я табе, а і думаю, скончыцца гэтак:
з гордасці лішняй Атрыд загубіцьме душу сваю борзда».
Так адказала ж багіня, яму, яснавока Афіна:
«З неба я з думкай прышла, калі толькі паслухаеш мяне ты».

## ПЕСНЯ XXII
## СМЕРЦЬ ГЕКТАРА

Так прыляцеўшы у горад, як тыя алені са страху,
і прысланіўшыся к сценам харошым, ваду папівалі,
смагу зганялі й сушыліся з поту. Тымчасам ахейцы
проста пад сцены ішлі ўжо шчыты да пляча прысланіўшы.
Гектара ж тамака зблытала доля нягодная мойра,
што перад скайскаю брамаю стаў і стаяў, як скаваны.
Тут да Ахіла прамовіў вось так Апалон далястрэльны:
«Што ты, Пелеевіч, гонішся гэтак заўзята за мною,
сам ты смяротны — за мной несмяротным; хіба не пазнаў ты,
хто я такі, і за богам пусціўся няспынна ў дагонку.

Ты і забыўся цяперака ўжо аб траянцах прагнаных,
што пахаваліся ў горад, а толькі за мною лятаеш;
але ж мяне не заб'еш ты, таму што я бог несмяротны».
І адказаў яму, цяжка ўздыхнуўшы, Ахіл быстраногі:
«Ну й ашукаў ты мяне, далястрэльны, з багоў найшкаднейшы:
вывеў аж во дзе у поле ад сцен, бо каб не, то йшчэ шмат хто
грыз бы зубамі зямельку хутчэй, чымся ў горад уцёк бы!
Славу вялікую ты ад мяне адабраў, а траянцаў
ўратаваў, без ніякай баязні пасля расплаціцца.
Ну, і задаў бы за гэта табе, каб мне сілы хапіла!»
Гэтак казаў ён і горда панёсся пад гораду сцены,
бодры, казаў бы наўзавадны * конь, што у гонных калёсах
лёгка да мэты ляціць, расцягнуўшыся ў лёце струною:
так і Ахіл паварачываў жвава каленкі і ногі.
Першы Прыям яго згледзеў сваімі вачмі, хоць старымі,
як ён па полі ляцеў, весь бліскучы, усё роўна як зорка
тая, што ў восені ўсходзіць і ярыцца блескам вялізным
высака з неба між зоркамі многімі ў цёмную ночку —
Псом Арыёна яе называюць з прадвечнага веку,

---

* Наўзавадны — запасны конь.



а хоць яна найярчэйшая, знакам нядобрым бывае,
многа варожыць няшчасця бо марнаму роду людскому —
так Ахіла ляцеўшага медзь на грудзях зіхацела.
Ўскрыкнуў старэнькі Прыям, ухапіўся рукамі за голаў,
к небу далоні падняў і, галосячы, дай жа прасіці
Гектара, мілага сына. А той, перад брамаю стаўшы,
з месца не рухаўся: так зажадалася біцца з Ахілам.
Выцягнуў рукі стары і прамовіў такімі славамі:
«Мілы мой, родны мой Гектар, пакінь, не чакай ты Ахіла
ў полі адзін без другіх, каб цябе не спаткала пагібель
з рук Ахілеса, бо ён за цябе шмат сільнейшы, страшэнны.
Ах каб багом неўмірушчым, як мне вось, ён гэтак і быў бы
мілы, то скора яго груганы і сабакі бы з'елі і
спала б мне з сэрца цяжкая бяда і згрызота:
колькі сыноў маладых і магутных ён мне абязвечыў,
пазабіваўшы ці на астравы запрадаўшы далёка.
Вось і цяпер Лікаона няма, ды няма й Палідора,
іх я не бачу вярнуўшыхся паміж траянцамі ўсімі,
мілых сыноў, што радзіла жанчына з жанчын Лаафея.
Але калі яны ў стане жывыя, то выкупіць зможам,
даўшы і медзі і золата, многа бо гэтага маем,
многа пасагу мне даў за дачкой стары Альт знамяніты;

ну, а калі ўжо памёршы й абое пашлі да Аіда,
гора і матцы і мне, што радзілі на смерць іх бяздольных.
Але народу траянскаму меншае гора — было б,
толькі каб ты не загінуў бы, здужаны сілай Ахіла.
Ну, дык сыночку ты мой, увайдзі за муры ўжо, бо мусіш
быць абаронцам траян і траянак, каб славы не даці
сыну Пелея ды мілай душы і жыцця не згубіці.
Ўрэшце падумай і злітуйся хоць нада мной над няшчасным
бацькам, якога змушае Зявес на парозе магілы
вынесці столькі згрызот і пабачыці гэтулькі гора:
як забіваюць сыноў і як цягнуць дачок у няволю,
апусташаюць каморы і дзетак маленькіх нявінных
вобзем кідаюць і б'юць, азвярэўшай у лютым змаганні,
бачыць, як цягнуць сыноў маіх дзікія воі ахеян.
Сам я апошні паду, і мяне на парозе сабакі
жадныя там разарвуць, калі нехта вастрэннаю меддзю
тне ці прапора мяне, з суставаў мне выжане духа:
тыя сабакі прыдзверныя, што пры бяседах карміў іх,
піць маю кроў яны будуць, а после, напіўшыся, лягуць
з сумнай душою у сенях. Прыгожа ляжаць маладому
нават забітаму вострaю меддзю ў баі-ваяванні:
хараша ўсё у яго, на што толькі вачмі не паглянеш;
але сівую калі галаву, бараду й срамаценне



ў мужа забітага злыя сабакі крамсаюць і бэсцяць,
то ўжо за гэтае г о р а й і ў марных людзей не бывае».
Гэтак стары гаварыў і, схапіўшы рукамі за голаў,
рваў валасы, але просьбамі Гектара не перайначыў.
Маці і тая таксама давай галасіць-прымаўляці,
грудзі яна расхінула рукою і, ўзяўшы адну з іх,
плачучы слёзна, казала такія крылатыя словы:
«Гектар, дзіцятка маё! ушануй ты хоць гэта, мей літасць
хоць нада мной, што грудзьмі ціхамірыла плач твой дзіцячы;
мілы сыночку, успомні ты гэта й гані Ахілеса
згэтуль, схаваўшыся ў горад, не йдзі на яго адзінокі,
бо як заб'е ён шалёны цябе, то не ўдасца й аплакаць
мілую родную краску на марах ні мне ані жонцы
дужа пасажнай: ад нас ад абодвух няшчасных далёка
пры караблях пры ахейскіх з'ядуць цябе злыя сабакі».
Гэтак абое яны прамаўлялі да мілага сына
й вельмі прасілі, а не перайначылі Гектара духа:
стойка стаяў і чакаў ён на бой Ахілеса страшнога.
Так, як дракон, што у горнай нары чалавека чакае,
зелля благога нажоршыся, з ярасцю й злосцю страшною,

ўеїўа ў логаве толькі й страшэнна ў бакі паглядае,—
гэтак і Гектар у злосці нястрымнай трымаўся на месцы:
шчыт абапёршы бліскучы аб выступ высокае вежы,
і, уздыхнуўшы, прамовіў сабе да душы да адважнай:
«Гора ж маё! каб схавацца цяпер мне за браму, за сцены,
першы тады Пулідам мяне лаяць і ганіць пачаў бы,
бо і казаў жа ён мне, каб траянцаў у горад увесці
ў тую праклятую ноч, як Ахіл ваяваці узняўся;
я не паслухаў тады, а было бы усім куды лепей.
Ну, а цяпер я шаленствам дурным загубіў увесь горад,
сорамна мне ад траянцаў і доўгападолых траянак,
каб не сказаў аба мне і найгоршы які грамадзянін:
«Гектар народ загубіў, на сваю спадзяваўшыся сілу!»
Гэтак і скажуць. Дык мне куды лепей паспрабаваць будзе
процістаяць і, Ахіла забіўшы, дахаты вярнуцца.
А калі не, то самому хоць слаўна памерці за горад,—
а калі б я, адлажыўшы свой шчыт з выпуклястаю бляхай
ўбок і цяжкі свой шалом, да сцяны прысланіўшы і піку,
сам падышоў да Ахіла Пелеіча, боскага воя,
і абяцаў бы яму і Алену і ўсе тыя скарбы,



дужа вялікія, што Аляксандра у лайбах глыбокіх
разам у Трою прывёз (вось праклятае звады пачатак!),
выдаць усё для Атрыдаў, а после для ўсіх для ахейцаў
тое ўсё выдаць багацце, што знойдзецца толькі у Трої?
Перадусім жа я ўзяў бы прысягу ад нашых старшыняў,
каб не хавалі нічога і ўсё аддалі для падзелу,
ўсе тыя скарбы, што горад багаты ў сабе заключае.
Ну, але што гэта выдумаў я у душы сваёй мілай?
Не, не пайду да Ахіла, бо літасці меціь ён не будзе
і не ўшануе мяне, а заб'е яшчэ голым, без зброі,
проста як нейкую бабу, калі сваю зброю пакіну.
Не да таго мне цяпер, каб пад дубам ці нейкай скалою
весці з ім гутаркі, так, як дзяўчына з хлапцом прыудалым
гутаркі весела, міла і ціха вядуць між сабою.
Лепей мы зойдземся тутака ў бой і адразу пабачым,
славу каму з нас дваіх Алімпіец-Зявес падаруе».
Стоячы, так разважаў, а Ахіл падлятаў ужо блізка,
грозны, як сам Эніялій з шаломам бліскучым у бітвах;
бацькаўскі ясень на правым плячы патрасаў ён страшэнна,
й медзь зіхацела наўкола, як яркая-яркая яснасць,

ці ад палкога агню, ці як быццам ад сонца усходу.
Гектара страх ахапіў, як убачыў: не ўстояў на месцы,
але давай уцякаць, за сабою пакінуўшы браму.
А Ахілес паляцеў уздагонку, з надзеяй на жвавыя ногі.
Там як у горах сакол, найшпарчэйшая з пёрыстых птушак,
лёгка і жвава пускаецца за галубком палахлівым,—
той уцякае у страсе, а гэты ўжо блізка над ім налятае,
з крыкам прарэзлівым часта кідаецца, хоча забіці,—
так і Ахіл уганяўся за Гектарам шпарка, а гэны
каля траянскіх муроў уцякаў з усіх ног, што меў сілы.
Міма таго кургана і смакоўніцы, ў ветры шумлівай,
воддаль усё ад муроў, па дарозе яжджонай ляцелі
аж да крыніц ды прыгожа бруістых, адкуль ручаінкі
дзве выцякаюць і йдуць у Скамандар глыбока вірысты.
Цёплай вадою бруіцца адна, і кругом безупынна
пара ідзе ад яе, быццам з вогнішча дым узнікае;
ну, а другая і летам студзёна, як град той зярністы,
ці усё роўна як снег, ці крысталы вады ільдзяныя.
Тамака сажалкі дзве бліз крыніцаў абедзве з камення,
дужа харошыя, хусце куды паласкаць прынасілі



жонкі і дочкі траянцаў, прыгожыя вельмі,—
тут паласкалі яны да вайны, да прыходу ахейцаў.
Вось жа сюдой праляцелі: адзін науцёкі, другі уздагонку.
Сільны і жвавы ўцякаў, здаганяў жа яго йшчэ сільнейшы
ды з усіх сіл. А заспорылі не за валоў на жаротву,
і не за скуру, звычайную плату людзям-шпаркалётам,
але ляцелі за Гектара воя душу, за любую.
Як на ігрышчах капытныя коні лятуць каля мэты
шпарка страшэнна, ляжыць бо вялікая дужа награда
дзеўчына альбо трыножнік (ігрышча ж у гонар памершым)—
тройчы вось так і яны абляцелі Прыямавы горад
ды з усіх сіл сваіх ног. На герояў багі ўсе глядзелі.
Бацька багоў і людзей тады першы ўзяў слова і кажа:
«Ну далібог! гэта ж бачу ўцякаючы мілага воя
каля траянскіх муроў. А шкада мне у сэрцы героя
Гектара, шмат бо паліў мне ён тучных быкоў і лапатак,
ці на узвышшы узгорыстай Іды ці часта таксама
ў горадзе дужа высокім. Цяпер жа Ахіл быстраногі
гоніць яго як мага каля места старога Прыяма.
Ну, памазгуйце вы добра, багі, й справядліва наважце,
ці ратаваці ад смерці нам Гектара, ці ўжо, можа,
сыну Пелея, Ахілу, пазволім уходзіць героя».

І адказала яму светлавока багіня Афіна:
«Што гэта кажаш, пяруністы бацька, Зявес Хмарагонны!
Ты чалавека смяротнага, што ўжо прысуджаны к смерці,
выбавіць хочаш ад смерці няшчаснай, людзям жа звычайнай?
Хочаш — рабі, але іншыя ўсе мы згадзіцца не можам!»
Ёй адказаў тады гэтак Зявес Хмарагонны:
«Ну, супакойся, дачушка мая, Трыгагенія! Ў думах
злосці не маю й хачу табе быць і ласкавым і мілым:
што табе розум дыктуе, рабі, калі хочаш, адразу».
Гэтак ахвоты паддаў без таго ўжо ахвотнай Афіне
й мігам яна паляцела з Алімпа высокага гораў.
Гектара ж гнаў, што мага, Ахілес быстраногі.
Як маладога аленя па горах высокіх сабака
гоніць, падняўшы з лагва цераз яры-яругі й даліны;
хоць і схаваецца бедны ў кустах ашалелы са страху,
чутка сабака сачыць і ляціць, аж пакуль не дагоніць,—
гэтак і Гектар схавацца не мог ад Пелеева сына.
Колькі разоў ён не прабаваў скочыць ад брамаў дарданскіх,
скочыць пад вежы муроў, будаваныя хораша й моцна,
пошыбам каб баранілі яго грамадзяне са сценаў,
колькі разоў Ахілес, папярэдзіўшы, зноў заварочваў



бегчы у поле, а сам безупынна трымаўся ад сценаў.
Так як у сне чалавек чалавека не можа здагнаці —
той надармо уцячы, а другі надагнаць налягае —
гэтак і тут: ані той не ўцячэ, ані той не дагоніць.
Ведама, Гектар ад смерці зусім уцякаці не мог бы,
каб не памогшы, апошні ўжо раз, Апалон далястрэльны,
зблізу яму паддаваўшы і сілы і жвавасці ў ногі.
Боскі Ахіл да народу свайго паматаў галавою,
не дазваляючы ў Гектара горкія стрэлы пускаці:
славы каб хто не забраўшы, а ён каб другім не явіўся.
Але ў чацвёрты ўжо раз, як да гэтых крыніц прыляцелі,
бацька Зявес рыхтаваў тады, ўзяўшы, вагу залатую:
перш узлажыў ён два лёсы пагібельнай смертухны-керы
лёс Ахілеса-героя і Гектара, слаўнага воя,
после падняў пасярэдзіне: Гектара лёс апусціўся,
ўніз да Аіда панікнуў, тады й Апалон яго кінуў.
Да Ахілеса ж затым падышла светлавока Афіна,
блізенька стала й казала такія крылатыя словы:
«Ну, спадзяюся, цяперака, боскі бліскучы Ахіле,
славу вялікую мы прынясём да ахейскіх да лайбаў:
здужаем Гектара, што у бітве быў такі ненасытны.
Але цяпер не ўцячэ, пападзецца у нашыя рукі,

хоць найшчырэй сабе будзе прасіць Апалон далястрэльны
і расцягнуўшыся перад Зявесам эгідадзяржаўным.
Ты затрымайся, крыху адпачні, а я Гектара-воя
пераканаю тым часам, каб спробаваў біцца з табою».
Гэтак сказала; а ён яе слухаў, і радасны вельмі
стаў, абапёрся на ясень свой меднаканечны.
Так і пакінула і паляцела да Гектара жыва,
ў постаці й з голасам брата яго Дэіфоба;
блізенька стала дый кажа такія крылатыя словы:
«Міленькі, страшна прыстаў да цябе Ахілес быстраногі,
гонячы так без канца каля слаўнага места Прыяма.
Але давай атрымаем і разам яму працістанем».
Ёй адказаў тады Гектар вялізны, з хвастатым шаломам:
«Ты мне і перш, Дэіфобе, мілейшы быў шмат за ўсіх іншых
родных братоў, што радзілі наш бацька Прыям і Гекуба,
але цяпер яшчэ больш паважаць і любіць цябе буду,
што ты адважыўся дзеля мяне, як бяду толькі ўгледзеў,
выйсці з-за сцен ды тады, калі ўсе пасцяшылі схавацца».
І адказала яму светлавока багіня Афіна:
«Міленькі, бацька старэнькі і маці шаноўная наша,



ногі абняўшы, прасілі застацца. Таксама й дружына
нашая ўся, бо у страсе страшэнным усе там у месце,
але я грызся у сэрцы сваім па табе немагчыма.
Ну, дык цяперака кінемся разам у бой мы, як — бура,
і шкадаваць сваіх пікаў не будзем: урэшце пабачым,
ці Ахілес нас заб'е, ці яго твая дужая піка».
Гэтак лісліва казала Афіна й вяла да Ахіла.
А калі блізка былі ўжо адзін да другога героі,
першы прамовіў з іх Гектар вялізны, з хвастатым шаломам:
«Ну, Ахілесе, ўцякаці больш ад цябе я не буду,
хоць тры разы абляцеў я наўкола Прыямава места
й працістаяць не паспеў. А цяпер наказала мне сэрца
стаць і схапіцца з табой: вазьму верх або сам ужо згіну.
Ўмовімся й возьмем багоў мы у сведкі — багі бо шчасліўцы
сведкі на ўсё найляпейшыя й добра прысягу пільнуюць:
цела твайго я не буду бясчэсціць, як дасць мне
Зеўс перамогу й дазволіць душу табе мілую вырваць;
толькі злуплю я з цябе, Ахілесе, харошую зброю,
труп жа ахейцам аддам; гэтаксама і ты — пакляніся!»
Грозна зірнуў на яго Ахілес спадылба ды і кажа:
«Не гарадзі ты мне, Гектар пракляты, аб нейкіх умовах!
Як між людзьмі і ільвамі клятвы не бывае ніколі,

як між ваўкамі й ягнятамі згоды ніколі не будзе,
бо заўсягды яны ліха жадаюць адзін для другога,
так паміж мной і табой ні любві, ні умоваў не будзе,
перш, чым адзін з нас паваленых чорнай крывёй не напоіць
непераможнага й жаднага бога-ваяку Арэя.
Выклікай храбрасць сваю, бо цяпер табе вельмі прыдасца
быць пікамётам удалым і дужа адважным ваякай.
Годзе, папаўся і не ўцячэш, бо Палада-Афіна
пікай паложыць маёй, і цяпер ты, нягоднік, заплаціш
мне за ўсе крыўды таварышаў, што перабіў іх немала».
Кажучы так, замахнууся і кінуў даўжэзную піку.
Гектар, пабачыўшы загадзя, здолеў з-пад пікі ўхіліцца:
ўперад падаўся, прысеўшы, дык піка над ім праляцела
Гектар і кажа тады да Ахіла, да слаўнага воя: Афіна,
й зноў падала Ахілесу так тайна, што Гектар не бачыў.
Гектар і кажа тады да Ахіла да слаўнага воя:
«Хібіў! Дарма, Ахілесе, хоць роўна з багамі хваліўся,
што ад Зевеса ты ведаеш долю маю нешчасліву.
Але ж ты так сабе толькі наплёў, не шкадуючы словаў,
каб запалохаць мяне, каб ад страху я страціў адвагу.



Не палячу я наўцёкі, не ўдарыш мне пікай у плечы,
хіба што проста мне грудзі прапораш, калі перамогу
бог дасць табе. Толькі й гэтай во пікі цяпер сцеражыся,
што пасылаю табе, каб у белае цела ўпілася.
Шмат жа лягчэйшай была бы вайна для траян-абаронцаў,
толькі цябе каб не стала, з цябе ж найвялікшая гібель».
Гэтак сказаў, замахнууся сваёй даўгаценнаю пікай
ў шчыт Ахілесу папаў, усярэдзіну — не прамахнууся.
Піку далёка адбіла шчытом. Замаркоціўся Гектар,
што надармо з сваіх рук толькі выпусціў медную піку,
стаў і стаіць, галаву апусціўшы, другой бо не меў ён.
Хоча паклікаць свайго белашчытнага брата Дэйфоба
вострую піку падаць, а таго анідзе не відаць бо.
Тутака Гектар адразу усё зразумеў і прамовіў:
«Гора ж мне беднаму! Клічуць мяне ўжо багі паміраці!
Думаў жа ж я , што пры мне Дэіфоб паявіўся адважны,
не — у мурах ён сядзіць, а мяне ашукала Афіна.
Блізка цяперака смерць ад мяне і ніяк не ўцяку я,
не уратуюся. Мілы калісьці быў я і Зявесу
і далястрэльнаму сыну Зявеса, мяне ратавалі
часта ад бедаў яны, а цяпер надышла злая доля.
Толькі ж калі прападаць, то не згіну нягодна, бясслаўна,

а дакажу я такое, што помніці будуць патомкі».
Гэтак гаворачы, выхапіў меч развастрэнны свой медны,
з левага боку вісеўшы, страшэнна вялізны, магутны,
і з усіх сіл ірвануўся, казаў бы арол паднябесны,
што цераз цёмныя хмары спадае у дол на раўніны,
каб ці слабое ягнё, ці пужлівага зайца задзерці,—
гэтак во рынуўся й Гектар, махаючы вострым булатам.
Кінуўся і Ахілес, і напоўніўся дух яго гневам,
гневам дзікім, засланіў свае грудзі шчытом размайстроўным,
дужа харошым, шалом жа чатыраграбенны ківаўся
на галаве і блішчэў, развяваліся з золата грывы,
што насадзіў іх Гефест пры чубе і прыгожа і густа;
вось, як вячэрняя зорка, што ярыцца й свеціць у змроку
найхарашэй, найярчэй за ўсе іншыя зорачкі ў небе,
гэтак блішчала і гэная вострая піка, якою
ў правай руцэ патрасаў Ахілес, замышляючы блага
Гектару й меціўся трапіць у самае кволае месца.
Цела героева ўсё закрывала харошая зброя,—
зброя, якую злупіў ён, забіўшы у поле Патрокла,—
тамака толькі, дзе шыю ключыцы з плячмі спалучаюць,
горла відаць было, там — для душы найхутчэйшая гібель.
Тутака пікай і трапіў якраз Ахілес наляцеўшы,



й проста скрозь белую шыю прайшло смерцяноснае жала.
А гарляка гастрыё тое меднае йшчэ не прабіла,
каб паміраючы мог бы сказаць колькі словаў апошніх.
Грымнуўся вобзем герой, і усклікнуў Ахіл быстраногі:
«Як жа ты, Гектар, забіўшы Патрокла, йшчэ мог спадзявацца
цэлым застацца й мяне не баяўся, хоць быў я далёка?
Эх ты, дурны! А вось я за цябе куды лепшы, імсціцель
друга свайго, заставаўся і доўга пры лайбах глыбокіх,
а падкасіў табе ногі. Цяпер груганы і сабакі
будуць цябе валачы, а яго ушануюць ахейцы».
Гектар жа ледзь толькі дыхаў і так адказаў Ахілесу:
«Ах, на душу і бацькоў такіх родных цябе заклінаю,
не аддавай ты сабакам мяне пры ахейскіх, пры лайбах!
Медзі і шчырага золата трэбуй, ну — колькі захочаш,
бацька і мілая маці дароў нададуць незлічоных,
толькі аддай маё цела назад, каб траянцы й траянкі
чэсць аддалі мне апошнюю і на агонь узлажылі».
Грозна Ахіл узглянуў на яго спадылба ды і кажа:
«Не абымай маіх ног ты, сабака, й не клянчы бацькамі!
Каб не было мне праціўна, то сам я, цябе парубаўшы,

еў бы жыўцом тваё мяса, за тое, што мне натварыў ты!
Абараніці тваю галаву ад сабак не ўдасца,
Не — анікому! Няхай сабе хто хоць і дзесяць і дваццаць
раз мне дароў прынясе, няхай столькі яшчэ абяцае,
золата хоць бы даваў мне Прыям, колькі сам ты заважыш,
то і тады не згаджуся. І так твая родная маці
плакаць не будзе па сыне на марах хаўтурных ляжачым,
параздзіраюць цябе без астатка сабакі і птушкі!»
І адказаў паміраючы Гектар з хвастатым шаломам:
«Знаючы добра цябе, то не трэба было і прасіцца,
бо у грудзях сваіх маеш жалезнае сэрца, Ахіле.
Але глядзі, каб табе я не стаўся прычынаю гнева
бога якога, як прыдзе той дзень, калі Феб Апалон і з Парысам,
хоць ты і дужы, загубіць цябе каля скайскае брамы».
Так гаварыўшага Гектара смерць абымала.
Хутка пакінула цела душа і зышла да Аіда,
свой праклінаючы лёс, пакідала бо сілу й юнацтва.
А да яго паміраўшага так Ахілес прамаўляе:
«Сам ты здыхай! А мяне то тады толькі смерць напаткае,
як зажадае Зявес і ўсе іншы багі неўмірушчы».
Кажучы гэтак, рвануў сваю медную піку ён з цела
й кінуў далёка, а з плеч акрываўлену зброю
хутка сцягнуў. Падляцелі іншыя воі-ахейцы



і дзівавалiся, гледзячы на хараство і на веліч
Гектара. І не пакінулі цэлага месца на целе,
пераглядаліся паміж сабою і так гаварылі:
«Ну вось цяпер, як пашчупаеш Гектара, шмат ён мякчэйшы
чым быў тады, як агнём пазапаліваў нашыя лайбы».
Так прамаўляючы, ранілі пікамі Гектара цела.
А калі зброю сцягнуў з яго боскі Ахіл быстраногі,
стаў між ахейцамі й кажа такія крылатыя словы:
«Мілыя другі, аргейскія ратнікі і ваяводы!
Што ж, як багі нам далі супакоіці воя такога,
зла прычыніўшага больш, як усе астальныя,
то ці не спробаваць збройна пайсці нам цяпер во на горад,
каб такім чынам спазнаць, адгадаці траянскія планы:
ці пасля Гектара смерці ўжо замак высокі пакінуць,
ці і без Гектара думаюць там удзяржацца і біцца.
Але на што мне падобныя думкі падказвае сэрца:
непахаваны ж ляжыць, неаплаканы прад караблямі
мілы Патрокл, а яго ж не пакіну ніколі, пакуль я
паміж жывымі хаджу, аж пакуль мяне носяць калені.
Хоць аб памершых не помняць, зышоўшы ў бяздонне Аіда,
я буду помніць і там наймілейшага друга.
Песню цяпер перамогі спявайце, ахейскія хлопцы!

Пойдзем да лайбаў глыбокіх, яго ж за сабою пацягнем.
Славу вялізную маем мы, боскага Гектара ўбіўшы,
воя, каторым траянцы хваліліся, проста як богам».
Кажучы гэтак, на Гектара выдумаў справу благую:
жылы узяў пракалоў на абедзвюх нагах яго стылу
з пят аж да костачкі, і рамяні пранізаўшы бычыны,
цела к вазу прывязаў, галаву ж валачыся пакінуў.
На калясніцу ўскочыў і, слаўную зброю падняўшы,
коней бічом сцебануў, а яны паляцелі ахвотна.
Хмараю пыл падымаўся над цягнутым целам.
І галава, так прыгожая перш, цяпер білася ў пыле,
чорнымі кудрамі след замятаючы, бацька Зявес бо
ворагам выдаў яе на наругу у роднай зямельцы.
Так галава зневажалася ў пыле. Пабачыла маці,
дай сабе рваць валасы і, багатую кінуўшы хустку
проч ад сябе, галасіла і плакала страшна па сыне.
Загаласіў мілы бацька Прыям, галасіла й дружына,
плакалі і галасілі у горадзе ўсе грамадзяне.
І выдавалася, быццам ахоплены ўсенькі пажарам
быў Іліён і агонь знiстажаў весь узгорысты горад.
Сілай трымаць прыхадзілася з гора шалеўшага бацьку:



так вырываўся ён з гораду выйсці ў дарданскую браму.
Ў пыле б'ючыся, стары упрашаў злітавацца
й гэтак казаў, называючы іменем кожнага мужа:
«Хоць і шкадуеце, другі, мяне, ды ўсё ж роўна пусціце
з горада выйсці, пайсці аднаму да ахейскіх, да лайбаў.
Гэнага жорсткага волата буду прасіць-умаляці:
можа, гады ён мае ушануе і жаль яму будзе
бацькі старога; бо то ж і яго чалавек спарадзіўшы,
бацька Пелей, што яго ўзгадаваў на пагібель для Троі
ўсей,— але мне прычыніў Ахілес найвялікшае гора:
столькі цвітучых сыноў бо маіх ён забіў, абязвечыў.
А не грызуся я столькі за ўсіх, што за гэтага сына
за аднаго: перажыць не змагу я так горкага гора,
гора па Гектары. Хоць на маіх ён руках паміраў бы!
Мы хоць паплакалі б, пагаласілі б над сынам:
маці бяздольна радзіўшая й сам я таксама няшчасны».
Гэтак гаворачы, плакаў, за ім жа усе грамадзяне.
А між траянак мацней за усіх галасіла Гекуба:
«Мілы сыночку! На што ж мне і жыці на горкае гора
после цябе! Усе дні і ўсе ночы ты быў пастаянна

славай у горадзе мне і надзеяй вялікаю Троі,
ўсіх — і траян і траянак, якія цябе, так, як бога,
ўсе сустрачалі, бо ты пакрываў іх вялізнаю славай,
будучы жыў, а цяпер са смяротнаю доляй сустрэўся».
Так галасіла, а жонка яшчэ аб няшчасці не чула,
верны вястун бо яшчэ не прыбыў расказаці ёй праўду,
што за варотамі муж яе ў полі забіты застаўся.
Хустку у цераме самым далёкім тады яна ткала:
хустка двайная чырвоная, ўся у пярэстыя кветкі.
Йшчэ загадала прыгожавалосым прыслужкам у доме,
каб пад трыножнік вялізны агонь падлажылі б, каб Гектар
ванну гарачую меў бы, вярнуўшыся з бою-змагання.
Бедная, так і не ведала, як жа далёка ад ванны
мужа змагла сінявока Афіна рукамі Ахіла.
Але пачула во крык, галашэнне і лямант на вежы.
Аж здрыганулася ўся, і чаўнок на зямлю пакаціўся.
Ўскочыла й кажа адразу да служак прыгожавалосых:
«Зараз абедзве за мною! Пабачым, там сталася нешта.
Крык паважанай свякрові чуваць, а ў грудзях маіх сэрца
б'ецца, казаў бы, што вырвецца вон; пада мною каленкі
як бы падбітыя. Блізкае гора ад дому Прыяма!
Каб мае вушы не чулі лепш гэтакай весткі! Баюся,
страшна, каб боскі Ахіл ды бясстрашнага Гектара-воя
ад гарадскіх не адрэзаў муроў, аднаго не пагнаў бы
ў поле і не загубіў бы ягонай няўстрымнай адвагі.
Гектар ніколі бо не застаецца ў натоўпе ваякаў,
першы наперад ідзе і ў геройстве не ўступіць нікому».
Кажучы так, як шалёная, з біўшымся сэрцам з трывогі
скочыла з цераму; разам за ёй жа ляцелі і служкі.
А як на вежу ўзышла й праляцела праз гушчу народа,
стала, кругом па мурох азірнулася й мужа пазнала,
як валаклі яго быстрыя коні бязлітасна ў полі
проч ад траянскіх муроў да глыбокіх, да лайбаў ахейскіх.
Ўгледзела — й цёмнаю ночкай закрыліся ясныя вочы,
ўпала яна дагары і адразу самлела.
Пала далёка з яе галавы і бліскучая повязь,
паў і вянок, і харошая сетка, сплятаныя стужкі,
й хутка цудоўная, дар залатой Афрадыты-багіні,
дар дараваны ў той дзень, калі браў яе Гектар-ваяка
з дому Гетыона, даўшы за жонку нязлічаны выкуп.
Каля яе, абступіўшы, стаялі залвіцы й нявесткі
і між сабою трымалі прыбітую жудасным горам.
А як прышла да сябе, й скалыхнуліся грудзі дыханнем,
так галасіла і плакала паміж траян Андрамаха:

«Горкае гора мне, Гектар! Для долі няшчаснай абое
мы нарадзіліся: ты у Прыямавым доме у Троі,
я ж там у Фівах пад Плакам, лілістай гарою
ў доме Гетыона, што гадаваў мяне бедную змалку,
сам ён смяротны, бяздольную. Лепей было б не радзіцца!
Ты ўжо адходзіш цяпер ад мяне у бяздонне к Аіду
і пакідаеш мяне у страшэнным у жалі, у горы
тут удавою ў пакоях. Яшчэ і сынок наш маленькі,
мы і яго нарадзілі на гора. Ні ты абаронай
сыну не будзеш, забіты, ні ён жа тваёю надзеяй.
Каб і застаўся жывы ад вайны многаслёзнай, ахейскай,
то заўсягды яго гора, і праца, і клопат чакаюць.
Межы суседзі яму зааруць, яго нівы захопяць.
Ў дзень бо сіроцтва свайго і прыяцеляў траціць сірота.
Ходзіць з апушчанай ён галавой, абціраючы слёзы.
А як падойдзе ў патрэбе к якому з дружыннікаў бацькі
і дакранецца плашча або нечыяй тунікі з просьбай,
сжаліцца іншы і крышачку чару прыхіліць малому,
так што ён губы памочыць, а смагі зусім не прагоніць;
іншы багаты, шчаслівы яго ад бяседы й прагоніць,
ўдарыць рукою ды йшчэ наругаціся словамі будзе:



«Вон убірайся! Не твой гэта бацька бяседуе з намі!»
Плачучы пойдзе да маці няшчаснай гаротны хлапчына.
Астыанакс, што калісь на каленях у мілага бацькі
еў толькі шпік і салодкае тучнае мяса авечак;
а калі спаць захацеў, замарыўшыся ў гульнях дзіцячых,
то засынаў у абдымках карміцелькі мілай салодка
ў мяккай пасцельцы, а сэрцам шчаслівы, цвітучы, як кветка.
Ну, а цяпер жа нацерпіцца гора, не маючы бацькі,
Астыанакс — Градаброн: так хлапца празывалі траянцы,
бо ты адзін бараніў у іх горад, муры і вароты.
Бедны! Цяпер ад радзімых далёка пры лайбах варожых
сточаць цябе чарвякі, як сабакі насыцяцца целам;
голага сточаць, калі у пакоях ляжыць ды не мала
тонкай харошай адзежы, рукамі жанчын панатканай.
Але ж цяпер загадаю я кінуць то ўсё ў вагонь у гаручы,
бо не патрэбна табе і ляжаці у ёй ты не будзеш,
хай жа згарыць тут на славу тваю між траян і траянак!»
Кажучы так, галасіла, а з ёй галасілі жанчыны.

*Пераклаў з грэцкае мовы*
*Браніслаў Тарашкевіч*

## КАМЕНТАРЫІ

### КУЛЬТУРНА-АСВЕТНЫЯ АРТЫКУЛЫ

**Не пакідайце сваёй мовы (С. 50)**

Друкуецца паводле часоп. «Раніца», 1914, № 1. С. 5—6.

**Ад рэдакцыі (С. 52)**

Прадмова да планаванага пецярбугскімі студэнтамі-беларусамі часоп. «Сябра».

Друкуецца паводле архіва ЦНБ АН ЛітССР, АРКіР, ф. 21, воп. 1, спр. 2202, арк. 11—13.

**За нашу і вашу свабоду (С. 53)**

Друкуецца паводле газ. «Наша Ніва», 1913, № 48.

Да водгуку прыкладзены ліст:

Мой ты даражэнькі дзядзька і родненькі браток.

Вось бач і я адазваўся з Парнасу.

Весела тут на гэтай боскай гары, б'ем сабе ў бубны ды ў цымбалы (а Вам жадаем біць па «цымбалах» там розных, а шмат іх тамака ў Вас і ўсюды).

Калі можаце ўсадзіць там у гэты номер апроч весткі аб вечарыне і маю маленечкую рэцэнзію — добра; калі не падходзе — не зазлуюся, ведама ж, з Парнасу, а ніякі там злуйка — парнасаўцы вясёлы. Калі што паправіце, таксама нічога (толькі не занадта). З вечарыны сёлета даход невялікі, каля 70 рублёў, хоць публікі было паўнюсенька. Стала надта дорага. На Каляды манімся зрабіць другую. Усім кланяюся і цалую, прыехаўшы на Каляды.

Бронька Тарашкевіч

напішыце можа: В. О. 9 лінія 58—34.

**Адам Гурыновіч (С. 54)**

Друкуецца паводле газ. «Беларускі звон», 1921, № 3.

**Беларуская школа і беларуская кніжка (С. 57)**

Друкуецца паводле газ. «Беларускі звон», 1921, № 1.



**Прадмова да «Беларускай граматыкі для школ» (С. 60)**

Друкуецца паводле кн.: Беларуская граматыка для школ. Выданне пятае, перапрацаванае і пашыранае. Вільня. 1929. С. 3—4.

**Дмух-Обст-Мураўёвы (С. 62)**

Друкуецца паводле газ. «Беларускі звон», 1921. № 9.

**Міцкевіч без пазалоты (С. 66)**

Друкуецца паводле газ. «Trybuna Radziecka», 1935. № 13.

### ПАЛІТЫЧНАЯ ПУБЛІЦЫСТЫКА. ВЫСТУПЛЕННІ Ў ПОЛЬСКІМ СОЙМЕ (1923—1926 гг.)

**Першы блін комам (С. 76)**

Паводле газ. «Беларуская ніва», 1925, № 7.

**Прамова на 10-м пасяджэнні Сойма 23 студзеня 1923 года падчас разважання над экспазэ Старшыні Савета Міністраў (С. 79)**

Друкуецца паводле «Беларускага календара на 1924 год». Вільня. С. 28—41.

*Экспазэ*, exposé *(франц.)* — кароткі выклад пытанняў бягучай палітыкі прэм'ер-міністрам або міністрам замежных спраў.

*Карфанты*, Войцех (1873—1939) — дэпутат Сойма Рэчы Паспалітай Польшчы 1922—1928 гг., прадстаўнік Нацыянальна-хрысціянскай партыі працы, публіцыст клерыкальнага напрамку.

*Солтык*, Стэфан (1880—?) — дэпутат Сойма, член Народнанацыянальнага саюза.

*Zarząd cywilny Ziem Wschodnich* — Цывільнае кіраўніцтва Усходніх зямель.

*Асмалоўскія і Івашкевічы* — польскія дзеячы перыяду 1917—1920 гг., выхадцы з Меншчыны, прадстаўнікі белапольскай адміністрацыі ў Менску ў час польска-савецкай вайны.

*Калі Беларусь змагалася з Расіяй* — аўтар мае на ўвазе акцыю беларускіх арганізацый і партый па абвяшчэнню краёвай улады, у тым ліку Усебеларускі кангрэс у снежні 1917 г.

*Шаптыцкі,* Станіслаў (1867—1950) — польскі генерал, начальнік генштаба Войска Польскага ў перыяд акупацыі Беларусі ў 1919—1920 гг., памешчык з Галіцыі. Беларускай дэлегацыі, якая прыйшла са скаргай на карныя экспедыцыі легіёнаў, грымнуўшы кулаком па стале, крыкнуў, што не пашкадуе спаліць усю Беларусь.

*Дашыньскі,* Ігнацы (1866—1936) — палітычны дзеяч, член Польскай партыі сацыялістычнай, заснавальнік Рабочай партыі (1890), пазней — сацыял-дэмакратычнай партыі Польшчы і Слёнска, публіцыст.

*Маршалак Сойма* — старшыня Сойма.

*Скульскі,* Леапольд (1878—1939) — польскі буржуазны палітычны дзеяч, прэм'ер-міністр (1919—1920), міністр унутраных спраў (1920—1921) Польшчы. Ідэолаг каланізацыі. Яму належыць заява, што праз пяцьдзесят гадоў у Польшчы беларуса нельга будзе знайсці і са свечкай.

*Гаката* — ужытковая назва (ад прозвішчаў заснавальнікаў: Гэнэмана, Кенемана і Тыдэмана) нямецкіх арганізацыяў шавіністычнага Усходняга таварыства, заснаванага ў Пазнані ў 1894 г. дзеля анямечвання польскага насельніцтва ў анексіраванай Прусіяй частцы Польшчы.

*Крэсы* (Kresy) — ускраіны. Афіцыйная назва ў даваеннай Польшчы Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, у якой выявілася імкненне ўлады ігнараваць іх этнічную сутнасць.

*Лютаслаўскі,* Казімеж (1880—1939) — дэпутат Сойма 1919—1922, 1922—1927 гг. ад Народна-дэмакратычнага саюза, ксёндз, публіцыст, старшыня канстытуцыйнай камісіі, аўтар шэрагу кніг, у тым ліку «Аб патрэбе філасофіі ў выхаванні грамадзяніна», «Моладзь і палітыка», «Вайна супраць хрысціянскай маральнасці» і інш.

*33 грамадзяніны* — маецца на ўвазе дэпартацыя ўладай г. зн. Сярэдняй Літвы 33-х беларускіх і літоўскіх культурных і палітычных дзеячаў з Вільні ў студзені 1922 г. напярэдадні плебісцыту адносна лёсу Вільні і Віленшчыны.

*Жалігоўскі,* Люцыян (1865—1947) — генерал Войска Польскага, які ў 1920 г. захапіў Вільню і частку Заходняй Беларусі і аб'явіў іх суверэннай тэрыторыяй пад назвай Сярэдняя Літва. Пазней гэтыя землі былі далучаны да «мацежы», да Польшчы. Паходзіў з Ашмяншчыны.



*Міністр Справядлівасці* — міністр юстыцыі.

*Звяровіч, Грынявіцкі, Роп* — каталіцкія біскупы, якіх у свой час праследавала царская ўлада.

*Элеўферы* — праваслаўны епіскап віленскі, якога праследвала польская ўлада ў 1920—1923 гг.

*Альшанскі,* Ігнацы (1883—1963) — дэпутат Сойма, ксёндз, выхадзец з Гродзеншчыны, прадстаўнік Нацыянальна-хрысціянскай партыі працы.

*Рудзіньскі,* Еўстафі (1885—?) — дэпутат Сойма, прадстаўнік Польскай народнай партыі «Вызваленне», працаўнік асветы.

*Вітас,* Вінцэнт (1874—1945) — палітычны дзеяч, кіраўнік сялянскай партыі «Пяст», неаднаразова ўзначальваў польскі ўрад да майскага перавароту Пілсудскага.

*Х'ена* — Хрысціянска-нацыянальнае палітычнае згуртаванне правага кірунку. Мела даволі моцныя пазіцыі ў Вільні.

*Гламбіньскі,* Станіслаў (1862—1943) — палітычны дзеяч, адзін з кіраўнікоў эндэкаў, эканаміст, прафесар Львоўскага ун-та. У 1923 г. міністр веравызнанняў і асветы, віцэ-прэм'ер у кабінеце Вітаса. У 1928—1935 гг. сенатар ад партыі эндэкаў.

*Грунбаўм,* Ісаак (1879—?) — адвакат, літаратар, адзін з лідэраў яўрэйскіх прадстаўнікоў у Сойме Рэчы Паспалітай Польшчы, старшыня яўрэйскай дэпутацкай фракцыі. У 1948 г. міністр унутраных спраў у першым урадзе Ізраіля.

*Дзедушыцкі,* Войцех (1848—1909) — польскі палітык, пісьменнік, філосаф. Жыў і працаваў у аўстрыйскай частцы (заборы) Польшчы.

*Гарусевіч,* Ян (1863—1929) — дэпутат Сойма ад Народна-нацыянальнага саюза (эндэкаў).

*«Пры табе стаімо і стаяць будзем, Найяснейшы Пане»* — маюцца на ўвазе вернападданіцкія адрасы на імя цара, падаваныя польскай шляхтай.

*Хацінькі,* Юзэф (1889—1954) — дэпутат Сойма, прадстаўнік Нацыянальна-хрысціянскай партыі працы, старшыня соймавага клуба гэтай партыі.

*Рэпатрыянты (лацін.)* — тут: жыхары Заходняй Беларусі, эвакуіраваныя ў 1915 г. у Расію ў сувязі з наступленнем кайзераўскіх войск і вернутыя ў 1921 г. па дамоўленасці Польшчы і Савецкай Расіі на бацькаўшчыну.

*Сікорскі,* Уладзіслаў (1881—1943) — генерал Войска Польскага, вядомы польскі палітычны дзеяч. У 1922—1923 гг. узначальваў урад Рэчы Паспалітай Польшчы.

**Прамова на 30-м пасяджэнні Сойма**
**23 сакавіка 1923 года**
**пры абмеркаванні справаздачы**
**аграрнай і бюджэтнай камісіі**
**аб прапанове пасла Брыля**
**ў справе крэдытаў для асаднікаў (С. 96)**

Паводле копіі стэнаграм пасяджэнняў Сойма Р. П. П. (1922—1927) *.

*Брыль,* Ян (1885—1945) — дэпутат двух кадэнцый Сойма, старшыня камісіі адбудовы краю і публічных работ, віцэ-старшыня соймавага клуба Польскай народнай партыі «Пяст».

*Кернік,* Уладзіслаў (1879—1971) — палітычны дзеяч, прадстаўнік Польскай народнай партыі «Пяст», адвакат па прафесіі. Член польскай дэлегацыі на перагаворах у Менску і Рызе, міністр ва ўрадзе Вітаса.

*Прэлімінарны мір* — папярэдняе пагадненне аб міры.

*Палякевіч,* Кароль (1893—1965) — дэпутат Сойма ад Польскай народнай партыі «Пяст», шэф штаба на мірнай дэлегацыі ў Рызе, віцэ-старшыня Саюза Польскіх легіянераў і член кіраўніцтва галоўнага Саюза стральцоў.

*Падгорскі,* Самуэль — прадстаўнік Украінскага дэпутацкага клуба ў Сойме, юрыст па прафесіі.

*Талька-Грынцэвіч,* Юльян (1850—1936) — антраполаг, этнограф, праф. Ягелонскага ун-та ў Кракаве з 1908 г., член Польскай акадэміі навук. У 1919 г. арганізаваў кафедру антрапалогіі ў Віленскім ун-це. Каля трохсот прац па антрапалогіі, этнаграфіі, археалогіі.

*Кажон,* Тадэвуш (1839—1918) — польскі гісторык, дырэктар бібліятэкі Красіньскіх у Варшаве, член ПАН. Займаўся гісторыяй Польшчы XVIII ст. Манаграфія «Касцюшка» апублікавана ў 1894 г.

*Ануш,* Антоні (1884—1935) — пасол на Устаноўчы Сойм РП і Сойм 1922—1927 гг., прадстаўнік Польскай народнай партыі «Пяст». Палітычны ссыльны часоў царызму. Аўтар кніг «З краіны дзікай, пустой і адкрытай», «Зерне і мякіна ў рабочым руху» і інш.

*Дэмбскі,* Ян (1880—1931) — пасол Сойма ў 1919—1922 і 1922—1927 гг., прадстаўнік партыі «Пяст», журналіст, рэдактар часоп. «Lubowiec».

*Дамброўскі,* Мар'ян (1878—1958) — дэпутат Сойма ад Польскай народнай партыі «Пяст», рэдактар і выдавец газ. «Kurjer codzienny», член саюза фабрыкантаў. Рэдагаваў газ. «Głos narodu».

*Міхаляк,* Валенты (1882—1933) — дэпутат Сойма ад Нацыянальнай рабочай партыі. Адзін з заснавальнікаў гэтай партыі, супрацоўнічаў у газ «Praca», «Sprawa robotnicza» і інш.

*Панятоўскі,* Юліуш (1886—1937) — дэпутат Сойма ад Польскай народнай партыі «Вызваленне», член ЦК гэтай партыі. У 1920—1921 міністр земляробства.

* Копіі стэнаграм захоўваюцца ў асабістым архіве Рыгора Шырмы. За ласкавы дазвол карыстацца імі ўкладальнік выказвае падзяку дачцэ гэтага славутага дзеяча нашай культуры — Алене Рыгораўне.



**Прамова на 40-м пасяджэнні Сойма**
**26 мая 1923 года**
**пры абмеркаванні закону**
**аб папярэднім праекце бюджэту**
**на перыяд ад 1 красавіка**
**да 30 чэрвеня 1923 года (С. 106)**

Паводле копіі стэнаграм пасяджэнняў Сойма Р. П. П. (1922—1927).

*Марачэўскі,* Анджэй (1870—1944) — палітычны дзеяч, прадстаўнік правага крыла ППС, адзін з кіраўнікоў ПСДП. Служыў у легіёнах. Быў міністрам ва ўрадзе Дашыньскага. Займаў прасанацыйныя пазіцыі.

**Прамова на 42-м пасяджэнні Сойма**
**2 чэрвеня 1923 года**
**падчас дэбатаў па экспазэ**
**Старшыні Савета Міністраў (С. 109)**

Паводле копіі стэнаграм пасяджэнняў Сойма Р. П. П. (1922—1927).

*«Пяст»* — Польская народная партыя «Пяст» заснавана ў 1914 г. у Галіцыі напачатку з серадпякоў і беззямельных сялян. У 1918 г. аб'ядналася з левымі сялянскімі партыямі б. Каралеўства. Заключэнне дагавора з правымі партыямі ў 1923 г., утварэнне вельмі негатыўна ацэненага ў народзе ўрада «Хена-Пяст» выклікала раскол у партыі.

*Баранаў,* Сяргей (1892—1937?) — пасол Сойма, член Беларускага пасольскага клуба, паводле партыйнай прыналежнасці сацыяліст-рэвалюцыянер, педагог, член Беларускай школьнай рады, кааператар. Засуджаны ў Беластоку ў 1923 г. за ўдзел у падрыхтоўцы паўстання, планаванага Бе-

ларускай партыяй сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Пасля звальнення з польскай турмы эміграваў у СССР.

*Якавюк*, Сымон (1881—1974) — пасол на Сойм, член БПК, па спецыяльнасці інжынер. Родам з Бельскага пав. на Беласточчыне. Абвінавачаны ва ўдзеле да падрыхтоўкі БПСР паўстання, уцёк у Коўна, дзе працаваў як беларускі культурны дзеяч. Дажываў век у Гродне.

**Прамова на 51-м пасяджэнні Сойма**
**26 чэрвеня 1923 года**
**пры абмеркаванні закону**
**аб амністыі (С. 113)**

Паводле копіі стэнаграм пасяджэнняў Сойма Р. П. П. (1922—1927).

**Прамова на 63-м пасяджэнні Сойма**
**3 жніўня 1923 года**
**падчас працягу абмеркавання**
**папярэдняга праекта бюджэту (С. 117)**

Паводле копіі стэнаграм пасяджэнняў сойма Р. П. П. (1922—1927).

*Дубановіч*, Эдвард (1881—1943) — палітычны дзеяч, публіцыст, прафесар юрыдычнага ф-та Львоўскага ун-та, дэпутат Сойма ад Хрысціянскага нацыянальнага клуба, старшыня клуба хадэкаў. Аўтар кніг «Становішча яўрэйскага насельніцтва ў часе выбараў у венскі парламент», «Выбарчая рэформа і руская праблема ў Галіцыі», «Выбарчы цэнз народнасцяў і яго юрыдычны і палітычны прагрэс» і інш.

*Каліноўскі*, Уладзімір (1889—1937?) — дэпутат Сойма, член БПК, мандат якога быў уневажнены ўладай. Скончыў юрыдычны ф-т Пецярбургскага ун-та, вучыўся ў археалагічным інстытуце. Эміграваў у СССР.

*Гдык*, Людвік (1876—1939) — пасол Сойма ад Нацыянальна-хрысціянскай партыі працы. Віцэ-старшыня клуба. Арганізатар хрысціянскіх прафесіянальных саюзаў.

*Сэйда*, Мар'ян (1879—1967) — палітычны дзеяч, публіцыст. У Сойме ад Народна-нацыянальнага саюза, віцэ-старшыня клуба эндэкаў. Рэдактар «Przeglądu Polskiego», аўтар кніжкі «Territoires polonais sous la domination prussienne» і шэрагу мемарыялаў для мірнай канферэнцыі ў Парыжы. Член замежнай камісіі ў Сойме.

*Студніцкі*, Уладзіслаў (1867—1953) — вядомы польскі публіцыст правага кірунку.



*Грыцкевіч*, Нікадзім (1891—?) — дэпутат Сойма ад Нацыянальна-хрысціянскай партыі працы, член многіх камісій Сойма, аграном па адукацыі. Родам з Сакольскага павета Беласточчыны.

**Прамова на 84-м пасяджэнні Сойма**
**5 снежня 1923 года**
**падчас справаздачы Камісіі Асветы**
**аб праследаваннях беларускіх школ (С. 124)**

Паводле копіі стэнаграм пасяджэнняў Сойма Р. П. П. (1922—1927).

*Рымар*, Станіслаў (1886—?) — палітычны дзеяч, публіцыст, дэпутат Сойма ад Народна-нацыянальнага саюза. Рэдактар «Ojczyzny», «Dziennika Polskiego», «Wieńca i pszczółki», аўтар брашур «Казімір Вялікі», «Пад Кальварыйскай гарой», «Гуго Калантай», «Аб асветнай працы сярод моладзі», «Аб паншчыне ў Польшчы», «Аб самадзейнасці Галіцыі», «Людоўцы, іх зямельная праграма», «Што такое эндэкі?» і інш.

**Прамова на 88-м пасяджэнні Сойма**
**14 снежня 1923 года**
**пры абмеркаванні закону**
**аб парцэляцыі і асадніцтве (С. 127)**

Паводле копіі стэнаграм пасяджэнняў Сойма Р. П. П. (1922—1927).

*Хаміньскі*, Людвік (1890—?) — палітычны дзеяч і публіцыст, пасол Сойма ад Польскай народнай партыі «Вызваленне», аўтар кніг «Сярэдняя Літва і Польшча», «Строй Літвы». Вядомы дэмакратычнымі перакананнямі.

**Прамова на 90-м пасяджэнні Сойма**
**21 снежня 1923 года**
**падчас працягу абмеркавання**
**заявы Старшыні Савета Міністраў (С. 135)**

Паводле копіі стэнаграм пасяджэнняў Сойма Р. П. П. (1922—1927).

*Грабскі*, Станіслаў (1871—1949) — палітычны дзеяч правага кірунку, адзін з лідэраў Народна-нацыянальнага саюза. Рэдагаваў «Słowo polskie», аўтар кніг «Ідэя каштоўнасці», «Грамадскія і гаспадарчыя ідэі ў Польшчы XVIII ст.», «Бальшавізм» і інш. Быў міністрам фінансаў, прэм'ер-міністрам.

**Прамова на 96-м пасяджэнні Сойма**
**24 лютага 1924 года**
**пры абмеркаванні законаў:**
**1) Аб гарадскоў гміне;**
**2) Палажэнне аб выбарах**
**у гарадскія гміны;**
**3) Аб сельскіх гмінах;**
**4) Аб выбарах у сельскія гміны;**
**5) Аб павятовых камунальных саюзах;**
**6) Аб выбарах у мясцовыя саюзы (С. 136)**

Паводле копіі стэнаграм пасяджэнняў Сойма Р. П. П. (1922—1927).

**Прамова на 103-м пасяджэнні Сойма**
**26 лютага 1924 года**
**пры абмеркаванні закону**
**аб наданні права ўласнасці**
**былым чыншавікам і арандатарам**
**ва ўсходніх ваяводствах (С. 139)**

Паводле копіі стэнаграм пасяджэнняў Сойма Р. П. П. (1922—1927).

**Прамова на 112-м пасяджэнні Сойма**
**19 сакавіка 1924 года**
**пры абмеркаванні прапановы**
**Народна-нацыянальнага саюза**
**і іншых клубаў аб гарантаванні**
**Польшчы доступу да мора (С. 142)**

Паводле копіі стэнаграм пасяджэнняў Сойма Р. П. П. (1922—1927).

*Строньскі*, Станіслаў (1882—1955) — дэпутат Сойма ад Хрысціянска-нацыянальнага клуба, прафесар раманістыкі, выдавец тыднёвіка «Rzecz Pospolita».

*Асоўскі*, Станіслаў (1886—?) — дэпутат Сойма ад Хрысціянска-нацыянальнай партыі земляробаў. Памешчык.

*Фалькоўскі*, Стэфан (1879—?) — дэпутат Сойма ад Народна-нацыянальнага саюза, аўтар брашуры «Польшча, а не немцы».



**Прамова на 117-м пасяджэнні Сойма**
**8 красавіка 1924 года**
**пры абмеркаванні прапановы**
**польскіх клубаў у справе**
**праследавання палякаў у Літве (С. 145)**

Паводле копіі стэнаграм пасяджэнняў Сойма Р. П. П. (1922—1927).

**Прамова на 129-м пасяджэнні Сойма**
**13 чэрвеня 1924 года**
**падчас дыскусіі над экспазэ**
**Старшыні Савета Міністраў (С. 148)**

Паводле кн.: Прамовы дэпутатаў Беларускага пасольскага клуба ў Польскім Сойме. Вільня, 1924. С. 3—25.

**Прамова на 146-м пасяджэнні Сойма**
**9 ліпеня 1924 г.**
**у справе законапраектаў**
**аб мовах (С. 154)**

Паводле кн.: Прамовы дэпутатаў Беларускага пасольскага клуба ў Польскім Сойме. С. 34—48.

*Тугут*, Аўгуст Станіслаў (1873—1941) — палітычны дзеяч, літаратар, старшыня соймавага клуба Польскай народнай партыі «Вызваленне», намеснік старшыні Лігі абароны правоў чалавека і грамадзяніна і Інстытута па вывучэнню спраў іншых нацыянальнасцяў у Польшчы. Аўтар кніг «Праваднік па краі», «З Расіяй ці супраць Расіі», «Якія ўрады патрэбны Польшчы», «Праблемы нацыянальнай еднасці» і інш.

*Польшча братоў Грабскіх* — выраз з іранічным падтэкстам. Тарашкевіч абыгрывае той факт, што браты Грабскія ўзначальвалі розныя міністэрствы. Станіслаў Грабскі — міністэрства асветы і савет міністраў, Войцех Грабскі — міністэрства фінансаў.

*Васілеўскі*, Леон (1870—1936) — палітык, блізкі да Пілсудскага, гісторык, аўтар шэрагу манаграфій, прысвечаных Літве і Беларусі, у якіх захоўваў бачную аб'ектыўнасць асвятлення праблем.

*Развадоўскі*, Ян Міхал (1867—1935) — мовазнавец, прафесар, даследаваў польскую, беларускую і літоўскую мовы, іх узаемакантакты, межы пашырэння.

*Утраквістычны* — двухмоўны, ад лацінскай «sub utraque specie» — прычашчоны да двух веравызнанняў. Двухмоўная утраквістычная школа з выкладаннем на дзвюх мовах, тут —

на польскай і беларускай. На практыцы палітыка двухмоўя выражалася ў дыскрымінацыі беларускай мовы, маральным траўміраванні дзяцей.

### Прамова на 166-м пасяджэнні Сойма 4 снежня 1924 года пры абмеркаванні бюджэту Міністэрства зямельных рэформаў (С. 165)

Паводле копіі стэнаграм пасяджэнняў Сойма Р. П. П. (1922—1927).

### Прамова на 178-м пасяджэнні Сойма 19 лютага 1925 года пры абмеркаванні навелы да закону аб правядзенні аграрнай рэформы (С. 168)

Паводле копіі стэнаграм пасяджэнняў Сойма Р. П. П. (1922—1927).

*Асецкі*, Станіслаў (1875—1967) — дэпутат Сойма ад Польскай народнай партыі «Пяст», дырэктар фабрыкі. Член прамыслова-гандлёвай, скарбова-бюджэтнай і замежнай камісій. Удзельнік падпольнага руху ў 1939—1945 гг.

### Прамова на 181-м пасяджэнні Сойма 27 лютага 1925 года пры абмеркаванні закону аб чужаземцах (С. 170)

Паводле копіі стэнаграм пасяджэнняў Сойма Р. П. П. (1922—1927).

*Пятроўскі*, Адам (1875—1937) — дэпутат Сойма ад Нацыянальна-хрысціянскай партыі працы. Заснавальнік палітычных і спеўных таварыстваў у Горным Слёнску. Публіцыст, аўтар кніг «Узнікненне і развіццё польскіх прафсаюзаў у прускім заборы», «50 дзён кіраўніцтва рады салдат і рабочых у Пазнані».

### Прамова на 185-м пасяджэнні Сойма 19 сакавіка 1925 года пры абмеркаванні закону аб дзяржаўнай граніцы (С. 175)

Паводле копіі стэнаграм пасяджэнняў Сойма Р. П. П. (1922—1927).

*Балін*, Станіслаў (1897—1937) — дэпутат Сойма ад Польскай народнай партыі «Вызваленне». Працаваў як кааператар. Адзін з заснавальнікаў рэвалюцыйна-дэмакратычнай



партыі «Незалежная сялянская партыя». Арыштаваны польскімі ўладамі ў 1927 г. Пасля турмы эміграваў у СССР.

### Прамова на 196-м пасяджэнні Сойма 25 сакавіка 1925 года пры абмеркаванні папярэдняга праекта бюджэту на 1925 год (С. 179)

Паводле копіі стэнаграм пасяджэнняў Сойма Р. П. П. (1922—1927).

*Міхальскі*, Ежы (1872—?) — пасол на Сойме ад Хрысціянска-нацыянальнага саюза, юрыст, прафесар Ягелонскага ун-та ў Кракаве, у 1921 г. міністр фінансаў.

*Васыньчук*, Павел (1885—1937) — прадстаўнік Украінскага клуба ў Сойме Рэчы Паспалітай, пазней у Сельробе. Эміграваў у СССР.

*Вечаркевіч і Багінскі* — польскія камуністы, якія сталі ахвярай паліцэйскага тэрору.

### Прамова на 192-м пасяджэнні Сойма 2 красавіка 1925 года пры абмеркаванні тэрміновай прапановы «Вызвалення» аб роспуску Сойма (С. 193)

Паводле копіі стэнаграм пасяджэнняў Сойма Р. П. П. (1922—1927).

*Нарутовіч*, Габрыель (1865—1922) — прэзідэнт Рэчы Паспалітай Польшчы, забіты фанатыкам-нацыяналістам у 1922 г. у Вільні. Успрымаўся рэакцыйнымі, шавіністычна настроенымі коламі як занадта дэмакратычны і недастаткова патрыятычны, здольны на ўступкі нацыянальным меншасцям. Па спецыяльнасці інжынер-гідратэхнік.

*Нацыянальная рабочая партыя* — існавала ў 1920—1937 гг., аб'ядноўвала правыя групоўкі рабочых, стаяла на пазіцыях класавай і нацыянальнай салідарнасці.

*Вахавяк*, Станіслаў (1890—1972) — дэпутат Сойма ад Нацыянальнай рабочай партыі, эканаміст, аўтар кніг «Палякі ў Надрэйне і ў Вестфаліі», «Тэорыя вартасці», «Лекцыі па эканоміцы», «Аб будучыні рамяства».

### Прамова на 203-м пасяджэнні Сойма 30 чэрвеня 1925 года падчас абмеркавання ўставу аб парцэляцыі і асадніцтве (С. 196)

Паводле кн.: Прамовы дэпутатаў соймавага клуба «Беларускай сялянска-работніцкай грамады». Вільня, 1926. С. 3—14.

*Чырвоны Ганібал* — іншасказанне, маецца на ўвазе Тухачэўскі М. М. (1893—1937) — савецкі военачальнік, палкаводзец. Камандаваў Заходнімі франтамі Чырвонай Арміі.

«Вызваленне» — Польская народная партыя «Вызваленне» — згодніцкая сялянская партыя, існавала ў 1915—1931 гг. Дзякуючы радыкальным лозунгам мела пэўны поспех і ўплыў на заходнебеларускіх землях. Была ў апазіцыі Пілсудскаму. У 1924 г. з яе вылучылася група паслоў на чале з С. Ваявудскім і ўтварыла Незалежную сялянскую партыю, у будучым саюзніцу БСР Грамады.

**Прамова на 237-м пасяджэнні Сойма**
**17 ліпеня 1925 года**
**пры трэцім чытанні ўставу**
**аб парцэляцыі і асадніцтве (С. 207)**

Паводле копіі стэнаграм пасяджэнняў Сойма С. П. П. (1922—1927).

**Прамова на 271-м пасяджэнні Сойма**
**12 лютага 1926 года**
**пры першым чытанні ўставу**
**аб натуральнай павіннасці**
**пры папраўцы дарог і мастоў сялянамі (С. 209)**

Паводле Бюлетэня соймавага клуба «Беларуская сялянска-работніцкая грамада». № 7 за 14 сакавіка 1926 г.

*Галавач*, Фелікс (1886—1972) — пасол Сойма ад Польскай народнай партыі «Вызваленне». Дэлегат ад беларусаў на Усерасійскай дзяржаўнай нарадзе Керанскага ў 1917 г. У 1924 г. выйшаў са кладу ПНП «Вызваленне», быў адным з арганізатараў Незалежнай сялянскай партыі. Адзін з самых дзейсных яе членаў. У 1927 г. арыштаваны. Па выхадзе з турмы грамадска-палітычнай дзейнасцю не займаўся, працаваў войтам у Міры. У 1939 г. арыштаваны, знаходзіўся ў паўночных і паўднёвых лагерах. У 1946 г. вярнуўся ў Польшчу.

**Прамова на 286-м пасяджэнні Сойма**
**28 красавіка 1926 года**
**падчас дыскусіі над папярэднім**
**праектам бюджэту**
**на май — чэрвень 1926 года (С. 210)**

Паводле Бюлетэня соймавага клуба «Беларуская сялянска-работніцкая грамада», № 10 за 6 мая 1926 г.



**Прамова на 288-м пасяджэнні Сойма**
**25 чэрвеня 1926 года**
**падчас другога чытання праекта**
**бюджэту на трэці квартал 1926 года (С. 220)**

Паводле кн.: Прамовы дэпутатаў соймавага клуба «Беларускай сялянска-работніцкай грамады». С. 3—16.

*Урад Х'ена-Пяста-ППС* — кааліцыйны ўрад, які склаўся адразу пасля майскага перавароту Пілсудскага. Меў правы накірунак.

*Паўлюкевіч*, Арсені — палітычны авантурыст, былы чарнасоценец, у 20-я гады дзейнічаў на заходнебеларускім грунце. Быў адным з заснавальнікаў Часовай беларускай рады (1924). Выдаваў газету «Грамадскі голас», а пазней «Беларускае слова»; радыкальны друк выкрываў «доктара Паўлюкевіча» як палітыка, залежнага ад дэфензівы.

*Мантэрус, Матэвуш* (1872—?) — пасол Сойма ад Народна-нацыянальнага саюза. Быў дэпутатам 1-й Думы, служыў у царскай гвардыі. Пісаў у газеты народнага напрамку.

**Прамова на 293-м пасяджэнні Сойма**
**17 ліпеня 1926 года**
**пры абмеркаванні праекта**
**змены Канстытуцыі (С. 232)**

Друкуецца паводле кн.: Прамовы дэпутатаў соймавага клуба «Беларускай сялянска-работніцкай грамады». С. 17—28.

*Урад Бартля* — Бартэль, Казімеж (1882—1941), пасол Сойма ад Польскай народнай партыі «Вызваленне», прафесар політэхнікі ў Львове. У 1919—1921 гг. міністр чыгункі. Артыкулы агульнага зместу ў розных выданнях, кніжкі па начартальнай геаметрыі. Заядлы пілсудчык. Узначаліў урад, паслухмяны Пілсудскаму, быў ценем маршалка. Тарашкевіч публічна назваў Бартля віцэ-дзядкем, віцэ-Пілсудскім.

*Серашэўскі*, Вацлаў (1858—1945) — пісьменнік, у маладосці звязаны з сацыялістычным рухам. Быў у ссылцы. Аўтар кніг: «Дванаццаць год у краіне якутаў», «На Далёкі ўсход» і інш. Пазней зблізіўся з Пілсудскім. Быў міністрам ва ўрадзе Дашыньскага.

**Прамова на 307-м пасяджэнні Сойма**
**26 лістапада 1926 года**
**пры абмеркаванні папярэдняга**
**праекта бюджэту на 1927—1928 гады (С. 242)**

Паводле копіі стэнаграм пасяджэнняў Сойма Р. П. П. (1922—1927).

*Сракоўскі*, Станіслаў (1872—1950) — географ і грамадскі дзеяч, аўтар многіх навуковых прац, аб'ектыўны ў асвятленні этнадэмаграфічнай сітуацыі ў даваеннай Польшчы.

*Працэс барона Біспінга* — сумнай памяці судовы працэс у Вільні, які апраўдаў барона-забойцу.

*Скрыпа*, Юзэф (1894—1937) — дэпутат Сойма ад Украінскага клуба, сацыял-дэмакрат, настаўнік па прафесіі. Эміграваў у СССР.

*Здзяхоўскі*, Ежы (1880—1975) — дэпутат Сойма ад Народна-нацыянальнага саюза, фабрыкант, старшыня аб'яднання лясных прамыслоўцаў у Варшаве, член арбітражнага трыбунала пры Міжнароднай гандлёвай палаце. З 1939 г. у эміграцыі.

**Апошняе слова ў Віленскім акруговым судзе над Грамадой (С. 254)**

Друкуецца паводле манаграфіі А. Бергман «Rzecz o Bronisławie Taraszkiewiczu». Warszawa, 1977. S. 157—164.

*Рагуля*, Васіль (1879—1959) — пасол Сойма (1922—1927), педагог па адукацыі. Пасля ўваходу Тарашкевіча ў Польска-беларускае таварыства замяніў апошняга на становішчы старшыні БПК. Пасля расколу ў Беларускім пасольскім клубе разам з Ф. Ярэмічам заснаваў Беларускі сялянскі саюз, аб'яднанне эсэраўскага тыпу. Аўтар кнігі ўспамінаў, выдадзенай за мяжой, дзе даецца даволі красамоўны малюнак абставін выбараў у Сойм 1922 г.

ПЕРАКЛАДЫ

**«Іліяда» Гамера (С. 264)**

Друкуецца паводле часоп. «Полымя рэвалюцыі», 1935, № 3. С. 67—68.

**«Іліяда» Гамера. Песня 1 (С. 269)**

Друкуецца паводле газ. «Беларускі звон», 1922, № 7, № 9.

**Песня XXII. Смерць Гектара (С. 279)**

Друкуецца паводле часоп. «Полымя рэвалюцыі», 1935, № 3. С. 69—78.



## ЗМЕСТ

**Тарашкевіч Б.**

Т 19 Выбранае: Крытыка, публіцыстыка, пераклады/Укладанне, уступ, камент. А. Ліса.— Мн.: Маст. літ., 1991.— 319 с., [1] л. партр.— (Спадчына).

ISBN 5-340-00498-8.

Тарашкевич Б. Избранное: Критика, публицистика, переводы.

Браніслаў Тарашкевіч вядомы сёння як аўтар першай граматыкі беларускай літаратурнай мовы, а таксама сваімі перакладамі несмяротных твораў Адама Міцкевіча і Гамера. Даваенная Заходняя Беларусь і шырэй — свет — ведалі яго як лідэра нацыянальна-вызваленчага руху, заснавальніка і кіраўніка статысячнай Беларускай сялянска-рабочай Грамады. Сярод творчай спадчыны Б. Тарашкевіча вялікае месца займае публіцыстыка. Яна нясе ў сабе непаўторны вобраз эпохі пошукаў і барацьбы за здзяйсненне высокіх ідэалаў народа. «Выбранае» ўключае публіцыстычныя выступленні Тарашкевіча ў Сойме Рэчы Паспалітай Польшчы, таксама мова- і літаратуразнаўчыя эцюды ранніх і апошніх год яго жыцця, фрагменты з «Іліяды» Гамера.

$Т \frac{4603020102-086}{М302(03)-91}$ 92—91 **ББК 83.3Бел7**

Литературно-художественное издание. **Тарашкевич** Бронислав Адамович. **Избранное.** Критика, публицистика, переводы. Составитель *Лис Арсений Сергеевич.*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура». На белорусском языке.

Літаратурна-мастацкае выданне. **Тарашкевіч** Браніслаў Адамавіч. **Выбранае.** Крытыка, публіцыстыка, пераклады. Укладальнік *Ліс Арсень Сяргеевіч.*

Рэдактар С. А. Шупа. Мастак А. М. Малышава. Мастацкі рэдактар А. І. Дрозд. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар К. А. Крукоўская.

ІБ № 3293

Здадзена ў набор 11.05.90. Падп. да друку 13.05.91. Фармат 70×100¹/₃₂. Папера друк. № 2. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 13,0+0,65 укл. Ум. фарб.-адб. 14,46. Ул.-выд. арк. 14,38. Тыраж 2850 экз. Зак. 391. Цана 1 р. 30 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.